УДК 947.6
ББК 63.3
Л 97

**Навуковы кансультант** ***Самахвалаў Дз. С.***, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры крыніцазнаўства гістарычнага факультэта БДУ

**Рэцэнзенты:**

**Бяляўскі А.В.,** кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры крыніцазнаўства гістарычнага факультэта БДУ;

**Казлова С.Л.,** кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі

*Рэкамендаваны да выдання кафедрай гуманітарных дысцыплін Мінскага інстытута кіравання*

**Лянцэвіч, В.М.**

**Л 97** Гісторыя Беларусі: вучэбна-метадычны комплекс / В.М. Лянцэвіч; 2-е выд., перапрац. – Мінск: Выд-ва МІК, 2011. – 256 с.

ISBN 978-985-490-732-1.

Вучэбна-метадычны комплекс дае магчымасць студэнтам дзённай і завочнай форм навучання авалодаць сістэмай ведаў аб асноўных этапах этнічнай гісторыі Беларусі, сацыяльна-палітычным, эканамічным, культурным і духоўным жыцці беларускага народа ў кантэксце гісторыі сусветнай цывілізацыі.

У выданне ўключаны практыкум, дзе даюцца заданні для семінарскіх (практычных) заняткаў і падрыхтоўкі да экзаменаў, па выкананні заданняў кіруемай самастойнай работы, тэсты і трэніровачныя заданні, кароткі тэрміналагічны слоўнік, а таксама навуковая і вучэбная літаратура па курсе, пытанні для падрыхтоўкі да выніковага іспыту.

Вучэбна-метадычны комплекс прызначаны для неспецыялізаваных факультэтаў ВНУ, карысны для ўсіх, хто вывучае гісторыю Беларусі.

**УДК 947.6**
**ББК 63.3**

**ISBN 978-985-490-732-1**



## ЗМЕСТ

## Прадмова

“Гісторыя – гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народа. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундамента, каб будынак быў моцны” – такімі злабадзённымі і сёння словамі пачынае сваю “Кароткую гісторыю Беларусі” дзеяч беларускага адраджэння пачатку XX ст. Вацлаў Ластоўскі. І сапраўды, без ведання сваёй гісторыі, сваіх каранёў, народ не мае будучыні.

Курс “Гісторыя Беларусі” ўведзены ў праграмы сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў у пачатку 90-х гг. мінулага стагоддзя, калі наша рэспубліка стала на шлях пабудовы суверэннай дзяржавы. Сёння вывучэнне студэнтамі гэтага курса займае важнае месца ў агульнай сістэме падрыхтоўкі сучаснага дыпламаванага спецыяліста. Гісторыя вывучае мінулае чалавецтва і накіравана на фарміраванне сістэмы ведаў, неабходных для адукаванага чалавека. Асаблівасць гісторыі вынікае з таго, што яе галоўнай мэтай з’яўляецца вывучэнне чалавечай паўсядзённасці як у прасторы, так і ў часе.

Гісторыя дапамагае даведацца пра мінулае сваёй радзімы, больш дакладна вызначыць яе месца сярод іншых краін і народаў. Нездарма старажытныя рымляне казалі: “Гісторыя – настаўніца жыцця”. Веданне гісторыі ва ўсе часы лічылася рысай добрага густу. Напрыклад, французскі кароль Генрых IV аднойчы заявіў: “Пра што можна размаўляць з чалавекам, калі той не ведае гісторыі?” Вядомы нямецкі рэфарматар М. Лютэр быў нават больш прамалінейны: “Цкаванне гісторыі ёсць адметная рыса татарскага і цыклапічнага варварства, д’ябальскае глупства!”. Словы дзвюх згаданых асоб не згубілі сваю актуальнасць і сёння. Вывучэнне гісторыі Беларусі садзейнічае фарміраванню больш глыбокага разумення сучаснай сацыяльна-палітычнай, эканамічнай і культурнай сітуацыі ў краіне. Да таго ж атрыманыя веды спатрэбяцца студэнтам пры вывучэнні спецыяльных, у тым ліку эканамічных і правазнаўчых, дысцыплін.

**Метадалогія гісторыі.** Гісторыя як навука мае асабістае кола крыніц, якія ўмоўна можна падзяліць на пісьмовыя, вусныя, археалагічныя, этнаграфічныя, лінгвістычныя, кіно-фона-фота-аўдыявіртуальныя дакументы і г. д. Яна абапіраецца на навуковую метадалогію. На сённяшні дзень прынята вылучаць наступныя метады:






Той ці іншы гісторык выбірае для сваёй працы тую метадалогію, якая адпавядае тэматыцы і праблематыцы даследавання, наяўнаму колу крыніц і, нарэшце, асабістым навуковым поглядам.

Сённяшняя беларуская гісторыя ў вывучэнні гістарычнага працэсу карыстаецца цывілізацыйным і фармацыйным падыходамі. Аптымальным падаецца разумнае іх спалучэнне, што і прадстаўлена ў дадзеным вучэбным выданні.

Галоўнай мэтай вучэбнай дысцыпліны ў вышэйшай установе з’яўляецца фарміраванне ў студэнтаў сістэмы ведаў аб асноўных этапах этнічнай гісторыі Беларусі, сацыяльна-палітычным, эканамічным, культурным жыцці беларускага народа ў кантэксце гісторыі сусветнай цывілізацыі. Новая метадалогія гісторыі зыходзіць з пазіцый неабходнасці ўсебаковага аналізу падзей і з’яў на базе рэчаісных дакументаў, прыняцця гістарычнага працэсу такім, які ён быў, неабходнасці вывучэння нацыянальнай гісторыі ў цеснай сувязі з гісторыяй сусветных цывілізацый. Таму ў дадзеным курсе лекцый аўтар імкнулася адлюстраваць комплексны падыход.

**Структура вучэбна-метадычнага комплекса.** Дадзены вучэбна-метадычны комплекс па гісторыі Беларусі мае складаную структуру і ўключае ў сябе наступныя блокі:

1) Праграма курса “Гісторыя Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый)” знаёміць са структурай курса ў ВНУ, вызначае мэту і задачы вывучэння дысцыпліны, утрымлівае праграму курса (назвы тэмаў і кароткі іх змест).

2) Кароткі курс лекцый ахоплівае асноўныя тэарэтычныя праблемы ўсяго курса; выкладанню кожнай тэмы папярэднічае спіс асноўнай літаратуры (артыкулы, манаграфіі, падборкі дакументаў) па дадзенай праблематыцы, вылучаюцца базавыя тэрміны і паняцці; заканчваецца кожная лекцыя кантрольнымі пытаннямі пераважна аналітычнага характару.

3) Практыкум, які прадстаўляе трэці блок вучэбна-метадычнага комплекса, складаецца з кароткага апісання спецыфікі падрыхтоўкі да практычных заняткаў па гісторыі, знаёміць з markознымі формамі практычных заняткаў. Для студэнтаў дзённага і завочнага (асобна) аддзяленняў вызначаны тэмы заняткаў з кароткімі метадычнымі парадамі і спісам вучэбнай літаратуры да кожнага з іх. Спіс рэкамендаванай літаратуры складаецца пераважна з літаратуры, шырока даступнай сённяшняму студэнту як на беларускай, так і на рускай мове. Асобна змешчаны раздзел кіруемай самастойнай работы, а таксама рэкамендацыі па такой пазааўдыторнай форме работы, як навукова-даследчыцкая работа студэнта. Таксама ў вучэбна-метадычным комплексе змяшчаюцца тэсты і трэніровачныя заданні па асноўных раздзелах курса гісторыі Беларусі, што абумоўлена шырокай распаўсюджанасцю практыкі тэсціравання ў сучаснай вышэйшай школе.

4) Важнай часткай выдання з’яўляецца кароткі тэрміналагічны слоўнік па базавых паняццях курса.

5) Спіс літаратуры па ўсім курсе ўтрымлівае навейшыя падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, а таксама энцыклапедыі і даведнікі па гісторыі Беларусі.

6) Завяршаецца выданне спісам кантрольных пытанняў па курсе гісторыі Беларусі.



# I. ПРАГРАМА КУРСА “ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ” (У КАНТЭКСЦЕ СУСВЕТНЫХ ЦЫВІЛІЗАЦЫЙ)

## 1.1. Мэта і задачы дысцыпліны, яе месца ў навучальным працэсе

### 1.1.1. Мэта курса

Мэта навучальнага курса – фарміраванне і развіццё сацыяльна-асобасных кампетэнцый студэнтаў, якія забяспечваюць іх самавызначэнне ў сістэме каштоўнасцей, выпрацаваных у працэсе гістарычнага развіцця беларускага народа і станаўлення суверэннай беларускай дзяржавы, і выхаванне на гэтай аснове пачуцця прыналежнасці да лёсу краіны і яе гісторыі.

### 1.1.2 Задачы вывучэння дысцыпліны:

- вывучэнне тэарэтычных асноў сацыяльна-гуманітарных дысцыплін;
- фарміраванне ўяўленняў аб сацыяльным, фізічным і духоўным развіцці чалавека;
- развіццё навыкаў аналізу духоўных і сацыякультурных, сацыяльна-палітычных і эканамічных працэсаў у часе;
- умацаванне адчування патрыятызму, грамадзянскасці, адказнасці перад грамадствам і дзяржавай;
- фарміраванне ўяўлення аб месцы і ролі Беларусі ў кантэксце сусветнай гісторыі.

У выніку вывучэння дысцыпліны студэнты **павінны ведаць**:

- асноўныя тэорыі грамадскага развіцця, фармацыйны, культуралагічны, цывілізацыйны і іншыя падыходы да разгляду гістарычнага працэсу;
- асноўныя гістарычныя факты, падзеі, даты і персаналіі;
- асноўныя этапы станаўлення і развіцця цывілізацыі на ўсходнеславянскіх землях;
- ролю айчыннай гісторыі ў цывілізацыйным працэсе;
- гістарычныя межы развіцця і формы існавання беларускай дзяржаўнасці ў розныя перыяды;
- асноўныя этапы эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця Беларусі ў кантэксце еўрапейскай і сусветнай гісторыі;
- супярэчлівыя працэсы гістарычнага развіцця;

- асноўныя тэндэнцыі развіцця Беларусі ў сучаснасці;

**набыць навыкі і якасці:**

- умець прымяняць фармацыйны і цывілізацыйны падыходы да вывучэння беларускай гісторыі;

- умець перадаваць і абгрунтоўваць сваю думку і весці дыялог па праблемах, якія тычацца каштоўнасных адносін да сусветнай і айчыннай гісторыі;

- умець характарызаваць умовы і вынікі фарміравання беларускага народа ў розныя гістарычныя перыяды, тлумачыць уплыў розных культурна-цывілізацыйных фактараў на развіццё Беларусі і ацэньваць асноўныя дасягненні ў развіцці матэрыяльнай і духоўнай культуры;

- палітычную талерантнасць і вопыт кансэнсусу на аснове гістарычных ведаў.

**1.1.3. Структура дысцыпліны**

Праграма навучальнага курса разлічана: для дзённай формы навучання – на 72 гадзіны, з іх 50 гадзін лекцый і 22 гадзіны – семінарскія заняткі. Для завочнай формы навучання – на 18 гадзін, з іх 10 гадзін лекцый і 8 – семінарскія заняткі; для скарочанай формы завочнага навучання – 4 гадзіны лекцый і 2 – семінарскія заняткі. Дысцыпліна вывучаецца ў першым (другім) семестры. Формай заліку з'яўляецца экзамен у першым (другім) семестры.

## 1.2 Змест дысцыпліны

### 1.2.1 Тэмы лекцый і іх змест

**1. УВОДЗІНЫ. ПРАДМЕТ І ЗАДАЧЫ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ**

Прадмет "Гісторыя Беларусі" (у кантэксце сусветных цывілізацый) і яго месца ў сістэме гуманітарных ведаў. Тэорыя і метадалогія гісторыі. Асноўныя падыходы: цывілізацыйны, фармацыйны, культуралагічны, комплексны. Цывілізацыі і іх тыпалогія. Асноўныя паняцці. Навучальная і навуковая літаратура па курсе. Гісторыя Беларусі: прадмет, мэта і задачы курса. Асноўныя крыніцы па гісторыі Беларусі. Перыядызацыя і найбольш важкія падзеі ў гісторыі Беларусі. Асноўныя падыходы да вывучэння гісторыі. Месца Беларусі ў сусветнай гісторыі і цывілізацыі. Асноўныя этапы беларускай гістарыяграфіі.

**2. ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНАЯ СПАДЧЫНА СТАРАЖЫТНАГА СВЕТУ, СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ І БЕЛАРУСЬ**

**2.1. Першабытнае грамадства на тэрыторыі Беларусі**

Асваенне чалавекам тэрыторыі Беларусі. Асноўныя прынцыпы перыядызацыі гісторыі першабытнага грамадства. Каменны век: палеаліт, мезаліт і неаліт. Развіццё вытворчых тэхналогій. Фінамоўныя плямёны на беларускіх землях. Век медзі і бронзы. Індаеўрапейскі перыяд (балты). Жалезны век. Этнагенез і рассяленне ўсходніх славян, іх месца ў сусветнай гісторыі. Славянскія саюзы плямён крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў.

**2.2. Першыя дзяржаўныя ўтварэнні на беларускіх землях (IX – першая палова XIII ст.)**

Развіццё феадальных адносін у Заходняй Еўропе і ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця беларускіх зямель у перыяд сярэднявечча. Фарміраванне феадальнага саслоўя. Фарміраванне залежнага насельніцтва: закупы, радовічы, халопы і ўдачы. Сялянская абшчына. Стан і развіццё гарадской гаспадаркі. Знешні і ўнутраны гандаль. Зараджэнне дзяржаўнасці. Сутнасць нарманскай тэорыі. Станаўленне раннефеадальных дзяржаўных утварэнняў усходніх славян на тэрыторыі Беларусі. Старажытнаруская дзяржава. Барацьба Полацкага княства за незалежнасць. Тураўскае і Смаленскае княствы ў складзе Кіеўскай Русі. Перыяд феадальнай раздробленасці. Барацьба з нямецкімі крыжакамі і мангола-татарскімі захопнікамі.

**2.3. Культура беларускіх зямель у IX–XIII стст.**

Дахрысціянская культура і вераванні жыхароў Беларусі. Прыняцце хрысціянства ў канцы X ст. Запазычанне духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў антычнай і хрысціянскай культур. Пісьменства і літаратура. Першыя асветнікі: Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч, Аўраамій Смаленскі. Пабытовая культура. Рамёствы. Дойлідства і мастацтва.

**2.4. Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага (другая палова XIII – першая палова XVI ст.)**

Асноўныя тэндэнцыі развіцця заходнееўрапейскай цывілізацыі ў сталым і познім сярэднявеччы. Перадумовы ўтварэння ВКЛ. Асноўныя канцэпцыі ўтварэння беларуска-літоўскай дзяржавы. Летапісная "Літва". Фарміраванне і пашырэнне межаў ВКЛ. Міндоўг. Роля ўсходнеславянскіх зямель у працэсе дзяржаўнага будаўніцтва ў ВКЛ. Формы, умовы і наступствы далучэння беларускіх зямель да ВКЛ. Крэўская унія. Барацьба паміж Вітаўтам і Ягайлам. Востраўскае пагадненне. Органы ўлады і кіравання ВКЛ. Тэрытарыяльна-адміністрацыйная рэформа 1565–1566 гг. Ваенная і судовая рэформы. Эвалюцыя ВКЛ ад адзінаўладдзя да саслоўна-прадстаўнічай манархіі. Асноўныя накірункі знешняй палітыкі ВКЛ. Грунвальдская бітва. Адносіны з Маскоўскай дзяржавай. Лівонская вайна.

**2.5. Сацыяльна-эканамічнае развіццё беларускіх зямель (другая палова XIII – першая палова XVI ст.)**

Феадальная ўласнасць і гаспадарка. Павіннасці і падаткі. Катэгорыі сялян. Асноўныя этапы запрыгоньвання сялян. Валочная памера. Гарады

Беларусі. Сацыяльны склад насельніцтва. Рамяство і гандаль. Цэхавыя арганізацыі і купецкія карпарацыі. Магдэбургскае права. Сацыяльна-палітычная барацьба ў беларускіх гарадах XIV–XVI стст.

**2.6. Культура Беларусі другой паловы XIII – першай паловы XVI ст.**

Культура Беларусі ў сусветным цывілізацыйным працэсе. Фарміраванне беларускай народнасці. Асноўныя канцэпцыі этнічнага паходжання беларусаў. Усходнеславянскі этнічны падмурак ВКЛ. Развіццё рэлігійна-царкоўных адносін і іх уплыў на развіццё беларускай культуры эпохі ВКЛ. Эпоха Адраджэння і яе дзеячы. Пачатак кнігадрукавання. Асаблівасці культуры беларускага Адраджэння. Ідэі і сутнасць Рэфармацыі і Контррэфармацыі, асаблівасці на беларускіх землях. Літаратура. Адукацыя. Архітэктура і мастацтва.

**3. ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНАЯ СПАДЧЫНА НОВАГА ЧАСУ І БЕЛАРУСЬ**

**3.1. Люблінская унія. ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай (другая палова XVI – канец XVIII ст.)**

Прычыны ўтварэння Рэчы Паспалітай. Унія 1569 г. Дзяржаўна-прававая сістэма Рэчы Паспалітай. Месца ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай. Дзейнасць Л. Сапегі. Статут 1588 г. Рэфармацыя і Контр-рэфармацыя ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. Унія 1596 г. у Бярэсці. Барацьба магнацкіх груповак у XVII – XVIII стст. Палітычны крызіс.

**3.2. Эканоміка і грамадства беларускіх зямель у другой палове XVI – канцы XVIII ст. Падзелы Рэчы Паспалітай.**

Афармленне саслоўнай сістэмы грамадства Рэчы Паспалітай. Шляхта і яе кардынальныя правы. Становішча сялянскага і мяшчанскага саслоўя. Паўстанне пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага. Руска-польская вайна 1654–1667 гг. Вялікая Паўночная вайна. Эканамічны заняпад. Сацыяльныя канфлікты, сялянскія паўстанні. Спробы аднаўлення эканамічнага жыцця ў другой палове XVII–XVIII ст. Рэформы С.А. Панятоўскага. Дысідэнты. Слуцкая, Торунская і Барская канфедэрацыі. “Кардынальныя правы”. Падзелы Рэчы Паспалітай. Канстытуцыі 1791 і 1793 гг. Паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі.

**3.3. Культура Беларусі другой паловы XVI – канца XVIII ст.**

Рэлігійная палітыка і ідэялогія Рэчы Паспалітай у другой палове XVI – канцы XVIII ст. Развіццё сацыяльна-прававой і грамадскай думкі на беларускіх землях у эпоху Рэчы Паспалітай. Еўрапейскае Асветніцтва. Спецыфіка беларускага Асветніцтва. Развіццё літаратуры і пісьменнасці. Полілінгвізм беларускай літаратуры. Рашэнне сойма 1696 г. аб змене актавай мовы ў ВКЛ. Архітэктура і мастацтва. Стылі



барока, ракако і класіцызм. Адукацыя. Тэатральнае мастацтва: батлейка, школьны, прыгонны тэатр. Музыка.

**3.4. Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – першая палова XIX ст.)**

Палітыка царскага ўрада пасля далучэння Беларусі. Вайна 1812 г. на беларускіх землях. Шляхецкая і агульнарасійская плынь у грамадска-палітычным жыцці на беларускіх землях. Таемныя палітычныя арганізацыі: філаматы і філарэты, дзекабрысты і інш. Паўстанне 1830–1831 гг. і яго вынікі для беларускіх зямель. Палітычная рэакцыя. Індустрыялізацыя і мадэрнізацыя Еўропы. Прамысловая рэвалюцыя. Крызіс прыгоннай гаспадаркі. Аграрная рэформа П. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы.

**3.5. Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.**

Адмена прыгоннага права і наступствы рэформы. Асаблівасці мадэрнізацы і развіцця капіталістычнай гаспадаркі. Адметныя рысы ліберальных рэформаў (ваеннай, судовай, земскай, гарадской, школьнай, цэнзурнай) 60–70-х гг XIX ст. на беларускіх землях. Сельская гаспадарка, прамысловасць Беларусі на пачатку XX ст. Эканамічныя крызісы. Сталыпінская аграрная рэформа.

**3.6. Асаблівасці сацыяльна-палітычнага развіцця Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.**

Расійскі шлях палітычнай мадэрнізацыі. Паўстанне 1863–1864 гг. на беларускіх землях і яго вынікі. Кастусь Каліноўскі. Заходнерусізм і палітыка стрымлівання. Народніцкія арганізацыі. Група “Гоман”. Контррэформы 80–90 гг. XIX ст. Рабочы рух. Нацыянальня, кансерватыўная, ліберальная і сацыялістычная ідэі развіцця грамадства. Арганізацыя агульнарасійскіх палітычных партый (РСДРП, ПСР, Бунд, інш.). Беларуская Сацыялістычная Грамада. Рэвалюцыя 1905–1907 гг. і яе вынікі для Беларусі. Выбары ў Дзярждуму.

**3.7. Развіццё беларускай культуры ва ўмовах царскай Расіі (канец XVIII – пачатак XX ст.)**

Культура першай паловы XIX ст. Зараджэнне і развіццё беларусазнаўства. Развіццё літаратуры. Стылявыя накірункі. А. Міцкевіч, Т. Зан, Я. Чачот. Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. Змены ў сістэме адукацыі. Віленскі універсітэт. Развіццё навуковых ведаў аб беларускім народзе. Асаблівасці фарміравання беларускай нацыі. Паскарэнне культурнага развіцця беларускага грамадства ў другой палове XIX – пачатку XX ст. Новая беларускамоўная літаратура. “Наша доля” і “Наша ніва”. Навука і адукацыя. Тэатр. Выяўленчае мастацтва і архітэктура.

## 4. САВЕЦКАЯ МАДЭЛЬ МАДЭРНІЗАЦЫІ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

**4.1. Беларусь у 1914–1918 гг.**

Першая сусветная вайна і яе наступствы для Беларусі. Лютаўская рэвалюцыя 1917 г. Змены ў сацыяльна-палітычным жыцці. Двоеўладдзе. Абвастрэнне сацыяльна-эканамічнага і палітычнага крызісу ў Расіі. Карнілаўскі мяцеж. Кастрычніцкі пераварот. Перамога бальшавікоў на Беларусі. Беларускі нацыянальны рух. Роспуск Першага Усебеларускага з'езда. Мяцеж польскіх легіёнаў В. Доўбар-Мусніцкага. Спробы арганізацыі нацыянальнай улады. Нямецкая інтэрвенцыя. БНР. Заканчэнне нямецкай акупацыі беларускіх зямель.

**4.2. БССР у міжваенны перыяд (1919–1939)**

Перадумовы абвяшчэння беларускай дзяржаўнасці. Абвяшчэнне ССРБ. Літбел. Савецка-польская вайна. Другое абвяшчэнне БССР. Рыжскі мірны дагавор. Развіццё эканомікі. БССР у 1920–1930 гг.: дзяржава, органы ўлады і кіравання. Утварэнне СССР. Узбуйненні тэрыторыі БССР 1924 і 1926 гг. Новая эканамічная палітыка на Беларусі. Беларусізацыя. Фарміраванне адміністрацыйна-каманднай сістэмы кіравання, таталітарызм. Дзяржаўны сацыялізм. Індустрыялізацыя. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Асноўныя рысы грамадска-палітычнага жыцця. Рэпрэсіі 1930-х гг. Развіццё культуры і асветы. Вынікі “культурнай рэвалюцыі” ў БССР.

**4.3. Заходняя Беларусь у складзе Польшчы (1921–1939)**

Вынікі Рыжскага міру. Тэрыторыя, насельніцтва, тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел і органы кіравання. Паланізацыя. Развіццё эканомікі. Парцэляцыя і камасацыя. Эканамічная, сацыяльная, рэлігійная і культурная палітыка польскіх улад на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Беларускія палітычныя партыі і арганізацыі. Нацыянальна-вызваленчая барацьба. Літаратура, асвета, друк. Выяўленчае мастацтва. Роля рэлігійных інстытутаў у духоўным жыцці насельніцтва.

**4.4. Беларусь у Другой сусветнай вайне (1939–1945)**

Прычыны і перадумовы вайны. Пакт Молатава-Рыбентропа. Падзел Польшчы ў 1939 г. Уваходжанне Заходняй Беларусі ў склад БССР. Падрыхтоўка СССР і БССР да вайны з Германіяй. План “Барбароса”. Пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Эвакуацыя. Баі летам 1941 г. Прычыны адступлення Чырвонай Арміі. Акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі. План “Ост”. Генацыд. Калабарацыянізм. Падпольная і партызанская барацьба. Армія Краёва на Беларусі. Два этапы вызвалення Беларусі. Беларуская наступальная аперацыя “Баграціён”. Заканчэнне вайны і яе вынікі для БССР.



**4.5. Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё БССР у пасляваенны перыяд (1945–1991)**

Пасляваеннае пераўладкаванне Еўропы. Арганізацыя Аб'яднаных нацый. Аднаўленне эканомікі. Стварэнне новых галін прамысловасці. Калектывізацыя Заходняй Беларусі. Палітычная “адліга”. БССР на міжнароднай арэне. “Халодная вайна”. Эканамічныя рэформы 1960–1970 гг. НТР і яе вынікі на Беларусі. Экалагічныя праблемы. Абвастрэнне эканамічнага і палітычнага крызісу ў другой палове 80-х гг. Крызіс савецкай сістэмы і планавай эканомікі. Палітыка перабудовы (1985–1991). Нацыянальна-культурнае адраджэнне. Абвяшчэнне суверэнітэту БССР (1990).

**4.6. Развіццё беларускай савецкай культуры ў 1945–1991 гг.**

Асноўныя праблемы развіцця беларускай савецкай культуры пасляваеннага перыяду. Уплыў дзяржаўнай камуністычнай ідэалогіі. Русіфікацыя. Развіццё сацыяльнай сферы і адукацыя. Навука і НТР. Літаратура. “Лейтэнанцкая проза”. Мастацтва і архітэктура. Кіно. Тэатр. Музыка.

## 5. СУВЕРЭННАЯ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ВА ЎМОВАХ ГЛАБАЛІЗАЦЫІ СУСВЕТНЫХ ПРАЦЭСАЎ

**5.1. Рэспубліка Беларусь – незалежная дзяржава. Культура Беларусі на сучасным этапе.**

Нарастанне крызісу савецкай сістэмы. Распад СССР і змена расстаноўкі сіл на міжнароднай арэне. Працэсы сусветнай інтэграцыі і глабалізацыі, рост еўрапейскага адзінства і адносіны да гэтых працэсаў Беларусі. Абвяшчэнне суверэнітэту (1990) і незалежнасці (1991). Утварэнне СНД. Праблемы дэмакратызацыі. Эканамічныя рэформы першай паловы 90-х гг. Перабудова знешніх зносінаў. Канстытуцыя 15.03.1994 г. Прэзідэнцкія выбары (1994, 2001, 2006 гг.). Вынікі рэспубліканскіх рэферэндумаў 1995 і 1996 гг. Беларусь на шляху пабудовы цывільнага грамадства. Складванне шматпартыйнасці. Фарміраванне ідэалогіі беларускай дзяржавы. Стварэнне Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Духоўнае і культурнае жыццё беларускага народа на мяжы XX–XXI стст. Нацыянальна-культурнае адраджэнне. Закон аб дзяржаўнай мове 1990 г. і яго ўплыў на грамадства. “Двухмоўе”. Рэформы адукацыі і сацыяльнай сферы. Месца рэлігіі ў духоўным адраджэнні. Роля навукі ў інфармацыйным грамадстве. Асаблівасці развіцця мастацтва, музыкі, кіно, тэлебачання. Поп-культура. Будаўніцтва новай культурнай прасторы.

## 6. ЗАКЛЮЧЭННЕ

Вынікі станаўлення і развіцця беларускай нацыі ў працэсе ўзаемадзеяння этнакультурных супольнасцей пад уплывам розных культурна-цывілізацыйных і геапалітычных фактараў. Перспектывы суверэннай Рэспублікі Беларусь у XXI ст.

### 1.2.2. Размеркаванне гадзін па тэмах і відах заняткаў

У Мінскім інстытуце кіравання прадугледжана наступная схема размеркавання аўдыторных гадзін па курсе гісторыі Беларусі:

*Табліца 1*

| Нумар раздзелу, тэмы, заняткаў | Назва раздзелу, тэмы, заняткаў; пералік вывучаемых пытанняў | Аб'ём аўдыторных гадзін | | | | | | Літаратура | Формы кантролю |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дзённае навучанне | | | | Завочнае навучанне | | | |
| | | Ауд. гадз. | | КСР | | | | | |
| | | лк | пз | лк | пз | лк | пз | | |
| 1. | УВОДЗІНЫ. ПРАДМЕТ І ЗАДАЧЫ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ (2/1 гадз.) | 2 | | | | 1* | | 6, с. 7-11. | |
| 2. | ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНАЯ СПАДЧЫНА СТАРАЖЫТНАГА СВЕТУ, СЯРЭДНІХ ВЯКОЎ І БЕЛАРУСЬ (24 /6гадз.) | **12** | **6** | **2** | **4** | **3** | **3** | | |
| 2.1 | **Першабытнае грамадства на тэрыторыі Беларусі** 1.Засяленне тэрыторыі Беларусі. 2. Перыядызацыя гісторыі першабытнага грамадства. 3.Індаеўрапейцы. Славянізацыя Беларусі. | 2 | | | | 1* | | 2; 44, с. 13 – 24; 49, с.5-16. | Выбарачнае апытанне на лекцыях |
| 2.2 | **Першыя дзяржаўныя ўтварэнні на беларускіх землях (IX – першая палова XIII ст.)** 1. Эканамічны стан бел. зямель. 2. Сацыяльная структура грамадства. 3. Першыя княствы. 4. Феадальная раздробленасць. 5. Барацьба з крыжакамі і мангола-татарамі. | 2 | 2 | 2 | | | 2 | 5, с. 30 – 43; 6, с. 25 – 44; 44, с. 25 – 48. | Калоквіум |



*Працяг табл. 1*

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2.3 | **Культура беларускіх зямель ў IX–XIII ст.** 1.Прыняцце хрысціянства. 2.Пісьменасць і літаратура. 3.Дойлідства і мастацтва. | 2 | 2 | | 2 | | | 37, с. 16 – 18; 43, с. 58 – 61, 91 – 103; 44, с. 48– 58. | Тэст |
| 2.4. | **Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага (другая палова XIII – першая палова XVI ст.)** 1.Утварэнне ВКЛ. 2.Дзяржаўна-палітычны лад. 3. Знешняя палітыка ВКЛ. 4. Росквіт ВКЛ. | 2 | | | | 2 | | 6, с.75-101; 35, с. 17-120; 21; 13. | Размова па пытаннях |
| 2.5. | **Сацыяльна-эканамічнае развіццё беларускіх зямель (другая палова XIII – першая палова XVI ст.)** 1. Развіццё сельскай гаспадаркі. Павіннасці і падаткі. 2. Аграрная рэформа 1557 г. 3. Гарады – цэнтры рамяства і гандлю. 4. Магдэбургскае права. | 2 | 2 | | | | | 2, с.102-142; 4, с. 70-73;10, с. 20-24; 15, с. 30-35; 17, 21. | Пісьмовая работа |
| 2.6 | **Культура беларускіх зямель другой паловы XIII – першай паловы XVI ст.** 1. Фарміраванне беларускай народнасці. 2. Развіццё мовы і літаратуры. Адукацыя. 3. Эпоха Адраджэння. 4. Рэфармацыя і Контррэфармацыя. 5. Дойлідства і выяўленчае мастацтва. | 2 | | | 2 | | 1 | 5, с. 73-74; 5, с. 24-27; 21; 10, 20, 39. | Рэферат |

*Працяг табл. 1*

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3. | ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНАЯ СПАДЧЫНА НОВАГА ЧАСУ І БЕЛАРУСЬ (22/5 гадз.) | **16** | **4** | | **2** | **4** | **1** | | |
| 3.1. | **Люблінская унія. ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай (другая палова XVI – канец XVIII ст.)**<br>1. Прычыны Люблінскай уніі.<br>2. ВКЛ у палітычнай сістэме РП.<br>3. Рэфармацыя і Контррэфармацыя. Брэсцкая царкоўная унія. | 4 | | | | 2* | | 5, с. 113-133; 6, с. 169–199; 12. с.28-38; 30; 48, 49. | Гутарка на лекцыі |
| 3.2 | **Эканоміка і грамадства беларускіх зямель у другой палове XVI – канцы XVIII ст. Падзелы РП.**<br>1. “Залатыя шляхецкія вольнасці”.<br>2. Рэч Паспалітая ў ерапейскіх канфліктах.<br>3. Крызіс і падзелы РП. | 2 | 2 | | | | | 6, с. 200-232; 18, с. 259-266. | Індывідуальнае апытанне на практычных занятках |
| 3.3 | **Культура Беларусі другой паловы XVI – канца XVIII ст.**<br>1. Развіццё літаратуры.<br>2. Беларускае Асветніцтва<br>3. Архітэктура і выяўленчае мастацтва.<br>4. Тэатральнае мастацтва. | 2 | | | | | 1 | 6, с. 233 - 256; 12, с. 39-43, 13, 20, 32. | |
| 3.4 | **Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – першая палова XIX ст.)**<br>1. Змены ў грамадстве.<br>2. Беларусь у вайне 1812 г.<br>3. Грамадска-палітычны рух першай палавіны XIX ст.<br>4. Вызваленчае паўстанне 1830–1831 гг.<br>5. Сацыяльна-эканамічныя працэсы першай палавіны XIX ст. | 2 | | | | 2 | | 6, с. 263-285; 12, с. 43-50. 54 | Праверка канспектаў лекцый у студэнтаў |



*Працяг табл. 1*

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3.5 | **Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.**<br>1.Аграрная рэформа 1861 г.<br>2. Буржуазныя рэформы 60-70-х гг.XIX ст.<br>3. Сталыпінская аграрная рэформа. | 2 | 1 | | | | | 6, с. 305-363. 54, | Правядзенне кантрольных работ на патоку |
| 3.6 | **Асаблівасці сацыяльна-палітычнага развіцця Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.**<br>1. Паўстанне 1863–1864 гг.<br>2. Сялянскі і рабочы рух у другой палавіне XIX – пачатку XX ст.<br>3. Буржуазная рэвалюцыя 1905–1907 гг. на Беларусі. | 2 | 1 | | | | | 12, с. 43–50; 17, с. 201-221. | |
| 3.7. | **Развіццё беларускай культуры ва ўмовах царскай Расіі (канец XVIII – пачатак XX ст.)**<br>1. Фарміраванне беларускай нацыі<br>2. Адукацыя і навуковае даследаванне Беларусі<br>3. Літаратура<br>4. Выяўленчае мастацтва і архітэктура | 2 | | | 2 | | | 6 , с.285-302; 12, с. 51-56; 17, с. 115-127, 248-263; 20 | |
| 4. | САВЕЦКАЯ МАДЭЛЬ МАДЭРНІЗАЦЫІ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ (20/5 гадз.) | **8** | **6** | **6** | | **2** | **3** | | |
| 4.1 | **Беларусь у 1914 – 1918 гг.**<br>1. Беларусь у Першай сусветнай вайне.<br>2. Лютаўская рэвалюцыя ў Беларусі.<br>3. Кастрычніцкі пераварот.<br>4. І Усебеларускі з’езд.<br>5. БНР. | 2 | 2 | | | 2 | | 17, с. 232-248, 264-338; 29; 40 | Апытанне на практычных занятках |

*Заканчэнне табл. 1*

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4.2 | **БССР у міжваенны перыяд (1919–1939)**<br>1. Першае абвяшчэнне БССР. Літбел.<br>2. Савецка-польская вайна і другое абвяшчэнне БССР.<br>3. Нэп.<br>4. Беларусізацыя.<br>5. Індустрыялізацыя і калектывізацыя. | 2 | | | | | 1* | 12, с. 64-68; 19, с. 77-213. | Выбарачнае апытанне на лекцыі |
| 4.3 | **Заходняя Беларусь у складзе Польшчы (1921–1939)**<br>1. Рыжскі мір.<br>2. Эканамічны і палітычны стан заходнебеларускіх зямель у складзе Польшчы.<br>3. Культура Заходняй Беларусі. | | | 2 | | | | 5, с. 359-366; 7, с. 196-215. | Тэст |
| 4.4 | **Беларусь у Другой сусветнай вайне (1939–1945)**<br>1. Перадумовы і пачатак Другой сусветнай вайны.<br>2. Далучэнне Зах. Беларусі да БССР.<br>3. Баі ў Беларусі летам 1941 г.<br>4. Акупацыйны рэжым.<br>5. Партызанскі і падпольны рух.<br>6. Вызваленне Беларусі. Заканчэнне вайны. | 2 | 2 | 2 | | | 1* | 2; 17, с. 498-42; 8, с. 50-65; 19, с. 265-323. 9; | Круглы стол |
| 4.5 | **Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё БССР у пасляваенны перыяд (1945–1991)**<br>1. Аднаўленне народнай гаспадаркі.<br>2. БССР на міжнароднай арэне.<br>3.БССР і палітычная “адліга”.<br>4. Эканамічныя рэформы 1960-70гг.; НТР.<br>5. БССР ва ўмовах палітыкі перабудовы. | 2 | | | | | 1 | 7, с. 280-401; 19, с. 108-158. 54. | Праверка канспекту лекцыі |
| 4.6 | **Развіццё беларускай савецкай культуры ў 1945–1991 гг.**<br>1. Культурнае аднаўленне БССР пасля вайны.<br>2. Культура ў 50–80-х гг. | | 2 | 2 | | | | 7, с.317-332; 12, с. 86–91; 25; 28 . 24; 20. | Пісьмовая кантрольная работа па тэмеў групе |
| 5 | СУВЕРЭННАЯ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ ВА ЎМОВАХ ГЛАБАЛІЗАЦЫІ СУСВЕТНЫХ ПРАЦЭСАЎ (2/1 гадз.) | **2** | | | | | **1** | | |
| 5.1 | **Рэспубліка Беларусь – незалежная дзяржава. Культура Беларусі на сучасным этапе.**<br>1. Абвяшчэнне незалежнасці.<br>2. Сацыльна-палітычныя змены першай пал. 90-х гг.<br>3. Прэзідэнцкі перыяд у Беларусі.<br>4. Беларусь і міжнародная супольнасць.<br>5. Культура на сучасным этапе. | 2 | | | | | 1 | 7, с. 370-456; 12, с. 9-99; 17, с. 574–589, 25; 28; 33; 52 | Рэфераты |
| 6. | ЗАКЛЮЧЭННЕ (2) | 2 | | | | | | | Выбарачнае апытанне на лекцыях |
| Усяго ў семестры | Дзённае навучанне | **42** | **16** | **8** | **6** | | | | |
| | Завочнае навучанне | | | | | **10** | **8** | | |
| ***Усяго па дысцыпліне аўдыторных*** | | ***72*** | | | | ***18*** | | | |

* Указаны тэмы лекцый і практычных заняткаў, прадугледжаныя таксама для скарочанай формы завочнага навучання (тз).

## II. КУРС ЛЕКЦЫЙ

### Першабытнае грамадства на тэрыторыі Беларусі

***Літаратура:***

1. Беларусы: гіст.-этнагр. аслед./ НАН Беларусі; рэдкал.: В.К. Бандарчык [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка – Бел. навука, 1995 – 2009. – Т. 9: Антрапалогія / Л.І. Цягака [і інш.]. – 2006. – 575 с.
2. Дук, Дз. Старажытныя славяне Полацкага гарадзішча / Дз. Дук // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – №7. – С. 21.
3. Егарэйчанка, А. Асноўныя заняткі плямёнаў Браслаўскага Паазер'я I тыс. да н.э. / А. Егарэйчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 8. – С. 39.
4. Загорульский, Э.М. Начало формирования населения Белоруссии (дославянский период) / Э.М. Загорульский. – Минск: РИВШиГО, 1996. – 46 с.
5. Калечыц, А.Г. Першыя людзі на зямлі Беларусі: дапаможнік / А.Г. Калечыц. – Мінск: Беларуская навука, 2007. – 93 с.
6. Лысенко, П.Ф. Дреговичи / П.Ф. Лысенко; под ред. В.В. Седова. – Минск: Навука і тэхніка, 1991. – 242 с.
7. Побаль, Л. Славяне – нашы продкі / Л. Побаль // Беларуская мінуўшчына. – 1993. – № 1.
8. Радзюль, Я. Язычніцтва. Народны каляндар і святкаванні (матэрыял для паглыбленага вывучэння гісторыі) / Я. Радзюль // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 11. – С. 73.
9. Салавей, Л. Пантэон багоў у міфалогіі беларусаў / Л. Салавей // Спадчына. – 1992. – № 3.
10. Седов, В.В. Избранные труды: Славяне. Древнерусская народность: историко-археологическое исследование / В.В. Седов. – М.: Знак, 2005. – 943 с.
11. Сувалаў, А. Вытокі этнагенезу беларусаў / А. Сувалаў // Беларуская мінуўшчына. – 1993. – № 3–4.
12. Третьяков, П.Н. Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге / П.Н. Третьяков. – М.;Л.: Наука, 1966. – 308 с.
13. Чарняўскі, М.М. Ілюстраваная гісторыя старадаўняй Беларусі. Першабытны перыяд / М.М. Чарняўскі. – Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2003. – 143 с.



14. Чарняўскі, М.М. Старажытныя шахцёры на Русі / М.М. Чарняўскі, В.Я. Кудрашоў, В.Л. Ліпніцкая; пад рэд. У.Ф. Ісаенкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1996. – 143 с.

***Вызначальныя паняцці****: антрапагенэз, сацыягенэз, каменны век, палеаліт, мезаліт, неаліт, энеаліт, жалезны век, археалагічная культура, праабшчына, сваяцкая абшчына, суседская абшчына, племя, прысвойваючая гаспадарка, вытворчая гаспадарка, асіміляцыя, этнагенэз, фіна-угры, індаеўрапейцы, балты, славяне, крывічы, дрыгавічы, радзімічы, паганства (язычніцтва), капішча.*

**Засяленне тэрыторыі Беларусі.** Прынята лічыць, што першае пранікненне чалавека на тэрыторыю Беларусі адбылося ў прамежку часу 100 – 40 тыс. гадоў назад. Такая недакладнасць у вызначэнні тэрміну тлумачыцца перш за ўсё тым, што ў старажытнасці беларускія землі былі заняты ледавіком. Ледавіковая эпоха пачалася каля 500 тыс. гадоў таму назад і скончылася толькі ў IX тысячагоддзі да н. э. Пры гэтым ледавік не знаходзіўся на адным месцы; ён рухаўся ў залежнасці ад змены клімату з поўначы на поўдзень і наадварот. У адносінах да Беларусі вучоныя вылучаюць наступныя найбольш моцныя зледзяненні: бярэзінскае (500 – 350 тыс. гадоў назад), дняпроўскае (300–110 тыс. гадоў назад) і паазерскае (90–83 тыс. гадоў назад)[1]. Археолагамі былі знойдзены прылады працы (востраканечнікі, скрэблы, рубілы) найстаражытнейшых людзей на поўдні Беларусі каля вёсак Клеявічы і Абідавічы; дацыруюцца яны перыядам каля 40 тыс. гадоў назад. Дакладна вядома, што на беларускія землі пранікае чалавек сучаснага фізічнага тыпу (каля 40–10 тыс. гадоў назад). Менавіта homo sapiens належаць стаянкі ля вёсак Юравічы (больш за 26 тыс. гадоў назад) і Бердыж (больш за 23 тыс. гадоў назад), што на Гомельшчыне.

**Перыядызацыя гісторыі першабытнага грамадства.** Паводле агульнагістарычнай перыядызацыі першабытнага ладу час фарміравання чалавека і грамадства прынята называць перыядам першабытнага чалавечага статку, альбо праабшчыны, які саступае месца сваяцкай абшчыне. Аднак шырэй ужываецца археалагічная перыядызацыя, паколькі найбольш выразным паказчыкам узроўню развіцця чалавечай дзейнасці лічацца матэрыялы, з якіх выраблялiся прылады працы. На гэтай пад-

[1] Перыядызацыя зледзяненняў даецца па найбольш распаўсюджанай у навучальнай літаратуры версіі, у прыватнасці: Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ БДУ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С.12-13; Ковкель, И.И., История Беларуси. С древнейших времен до нашего времени / И.И. Ковкель, Э.С. Ярмусик. – 2-е изд., доп. – Минск: "Аверсэв", 2002. – С.5.

ставе перыядызацыя гісторыі першабытнага грамадства выглядае наступным чынам: каменны век (да канца III – пач. II тыс. да н. э.), век медзі і бронзы (пач. II тыс. – VIII–VII стст. да н. э.) і жалезны век (VIII–VII стст. да н. э. – V ст. н. э.). У сваю чаргу каменны век падзяляюць на палеаліт (старажытнакаменны – да адступлення ледавіка), мезаліт (сярэднякаменны – IX – V тыс. да н. э.) і неаліт (V – пач. II тыс. да н.э.)[1]. Асноўнымі ў эпоху позняга палеаліту былі заняткі, якія адносяцца да прысвойваючай гаспадаркі. У гэты перыяд узнікае ранняя сваяцкая абшчына, з параўнальным размеркаваннем прадуктаў збіральніцтва, рыбалоўства і палявання. Паселішчы тагачасных людзей уяўлялі сабой часовыя стаянкі.

Толькі ў мезаліце тэрыторыя Беларусі была заселена поўнасцю. Першыя паселішчы з наземных і паўзямлянкавых жытлаў будаваліся ў асноўным на берагах рэк і азёр. У кожным жытле мясцілася адна сям'я. Жыхары аднаго паселішча складалі сваяцкую абшчыну, якая была часткай буйнейшага аб'яднання – племені. Людзі таго часу карысталіся лукам і стрэламі, нажамі з крамянёвых пласцін, з'явілася каменная сякера з драўлянай ручкай. На змену загонным спосабам палявання, аблавам прыйшлі індывідуальныя метады. Пачалі выкарыстоўвацца новыя прыстасаванні для рыбнай лоўлі (кручкі, сеткі). У мезаліце з'явілася першая свойская жывёла – сабака.

У неаліце пачалі актыўна выкарыстоўваць каменныя прылады працы, апрацаваныя новымі спосабамі – шліфоўкай, свідраваннем, піленнем. У гэты перыяд пачынаецца выраб ляпнога керамічнага посуду, з'яўляецца прадзенне і ткацтва, а таксама новыя віды заняткаў, якія прадстаўляюць вытворчыя формы гаспадаркі, – земляробства і жывёлагадоўля. Менавіта эпохай новага каменнага веку датуюцца ўнікальныя Краснасельскія крэмнездабыўныя шахты, што ў Ваўкавыскім раёне Гродзенскай вобласці.

Найбольш старажытныя назвы азёр, рэк і паселішчаў Беларусі сведчаць пра тое, што першымі людзьмі, чыё этнічнае паходжанне можна вызначыць дакладна, былі фінамоўныя плямёны. Але ў канцы III тыс. да н. э. яны былі выціснуты балтамі, з прыходам якіх на беларускіх землях пачаўся век медзі і бронзы. Медзь і волава, з якіх вырабляецца бронза, не здабываліся на Беларусі. Іх завозілі з-за мяжы, таму металічныя вырабы пакуль што заставаліся рэдкімі. У VIII–VII стст.

[1] Дацiроўка эпохі першабытнага грамадства даецца па найбольш грунтоўным комплексным навуковым выданні: Гісторыя Беларусі: у 6 т. / Рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Экаперспектыва, 2000. – Т.1: Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. – С. 334.



да н. э. людзі навучыліся выплаўляць жалеза з балотнай руды. Выкарыстанне жалезных прылад працы і зброі кардынальна змянілі чалавечы побыт. На змену сваяцкай абшчыне прыходзіць суседская. З удасканальваннем вытворчай гаспадаркі (пахатнае земляробства, новыя прылады працы) адзначаецца рост маёмаснай дыферэнцыяцыі, выдзяленне абшчыннай эліты. Войны і ваенныя набегі сталі звычайнай справай. Таму паселішчы пачалі ўмацоўвацца драўлянымі сценамі, пазней – землянымі валамі і шырокімі рвамі.

У VI ст. да н. э. ўпершыню з'яўляюцца пісьмовыя дадзеныя пра тагачасных жыхароў беларускіх зямель. Іх пакінуў старажытнагрэчаскі аўтар Герадот. Падчас працы над сваім творам "Гісторыя" ён наведаў краіну качавога народа скіфаў у Паўночным Прычарнамор'і, дзе збіраў звесткі аб барацьбе скіфаў з персідскім царом Дарыем. Разам з тым, ён пакінуў нататкі пра іншыя народы Усходняй Еўропы, у тым ліку пра неўраў, якія, на думку сучасных даследчыкаў, жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Герадот пісаў: "У неўраў звычаі скіфскія. За адно пакаленне да паходу Дарыя ім прыйшлося пакінуць сваю краіну з-за змеяў. Таму што не толькі іх асабістая зямля нарадзіла шмат змеяў, але яшчэ больш іх напала з пустыні знутры краіны. Вось чаму неўры былі вымушаны пакінуць сваю зямлю і пасяліцца сярод будзінаў. Гэтыя людзі, магчыма, чараўнікі. Бо скіфы і эліны, якія жывуць сярод апошніх, сцвярджаюць, што кожны неўр штогод на некалькі дзён ператвараецца ў ваўка, а потым зноў прымае чалавечае аблічча. Мяне гэтыя байкі, канешне, не могуць упэўніць; тым не менш пра тое кажуць і нават клятвенна сцвярджаюць гэта"[1].

Як бачым, звесткі Герадота выглядаюць загадкава і нават фантастычна. Аднак і ў іх можна знайсці рацыянальнае зерне. Яшчэ на пачатку XX ст. на Беларусі былі распаўсюджаны культ хатніх вужоў, казкі і легенды пра вогненных змеяў і пярэваратняў-ваўкалакаў. Такім чынам, мы можам прасачыць пэўную сувязь паміж культурай старажытных насельнікаў Беларусі і іх паслядоўнікаў.

**Засяленне тэрыторыі Беларусі славянамі.** Найбольш старажытныя пісьмовыя згадкі аб славянах (вендах) датуюцца I – II ст. н.э. У канцы V – пачатку VI ст., калі пачынаецца рассяленне славян з Вісла-Одэрскага міжрэчча, іншыя народы называюць іх антамі, склавенамі. На беларускія землі яны трапляюць з тэрыторыі Паўночнай Украіны ў VI – VII стст. н.э. Іх рассяленне стала вынікам апошняга этапу так званага "вялікага перасялення народаў". Прычынамі перасялення маглі

[1] Геродот. История / Пер. и примеч. Г.А. Стратановского. – М., 2001. С. 45.

быць перанаселенасць месцаў першаснага пасялення, а таксама ваенныя сутыкненні з іншымі плямёнамі і народамі. Да IX ст. славянскія плямёны занялі большую частку тэрыторыі Беларусі. Толькі на паўночным захадзе захаваліся балцкія плямёны літвы, латгалаў, яцвягаў і інш. Той факт, што многія знойдзеныя археолагамі балцкія паселішчы VI–VIII стст. былі спалены, сведчыць пра тое, што славяне прыйшлі на землі Беларусі як заваёўнікі.

У раёнах свайго рассялення славяне часткова выціснулі балтаў, часткова знішчылі, астатнія рэшткі былі асіміляваны. Адной з формаў асіміляцыі з'яўляліся шлюбы паміж славянамі-мужчынамі і захопленымі ў палон балцкімі жанчынамі. Менавіта жанчыны займаліся выхаваннем дзяцей і перадавалі ім у спадчыну рэшткі сваёй традыцыйнай культуры. Гэты працэс працягваўся даволі доўгі перыяд, асабліва на поўначы Беларусі. Такім чынам, балцкая культура таксама ўвайшла ў паўсядзённае жыццё мясцовых славян.

Славяне, падобна іх папярэднікам, жылі ў вялікіх сем'ях. Сем'і складалі сваяцкую абшчыну (род). Род распараджаўся зямлёй вакол паселішча і большасцю прыладаў працы. Абшчыны аб'ядноўваліся ў плямёны. Але меліся і значна большыя аб'яднанні – саюзы плямён. "Аповесць мінулых гадоў", першы летапісны звод усходніх славян, успамінае да дваццаці падобных аб'яднанняў на тэрыторыі Усходнееўрапейскай раўніны. З іх да тэрыторыі сучаснай Беларусі маюць адносіны саюзы плямён крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў. Крывічы (палачане) насялялі басейн Заходняй Дзвіны і верхняга Падняпроўя, радзімічы – Пасожжа, а дрыгавічы – Палессе і цэнтральную частку Беларусі. На базе гэтых племянных аб'яднанняў і ўтварыліся пазней першыя на беларускіх землях дзяржаўныя ўтварэнні, каторыя ў летапісах называюцца "княжэннямі".

Рэлігія славян гэтага перыяду ўяўляла сабой паганства (язычніцтва) – рэлігійныя вераванні, абрады і святы, выпрацаваныя на працягу стагоддзяў да з'яўлення монатэізму – веры ў адзінага Бога. Сярод багоў славянскага пантэона пераважалі звязаныя з земляробствам і жывёлагадоўляй Пярун, Дажджбог, Хорс, Вялес, Стрыбог, Цёця, Ярыла, Купала, Жыцень; увасабленні "культу продкаў" – Род і Рожаніца, а таксама шматлікія духі (вадзянік, дамавік, лесавік, багнік і г. д.). Важнае месца ў паселішчах усходніх славян займалі язычніцкія свяцілішчы – капішчы, у якіх праходзілі рэлігійныя абрады, памінальныя трызны, прыносіліся ахвяры (нават чалавечыя). Усе сферы чалавечага жыцця закранала язычніцкая магія. Пры пахаванні быў распаўсюджаны абрад трупаспальвання. Святы і абрады пераважна звязваліся з цыклам земляробчых работ.



***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Якую ролю ў рассяленні людзей на тэрыторыі Беларусі адыграў ледавіковы перыяд? 2. Па якіх прыкметах вучоныя праводзяць перыядызацыю першабытнай эпохі? 3. Якія змены ў грамадстве адбыліся з надыходам жалезнага веку? 4. Якія агульныя рысы мелі балцкія і славянскія перасяленцы? 5. Вызначце асаблівасці рэлігійных вераванняў усходніх славян.*

## Першыя дзяржаўныя ўтварэнні на беларускіх землях (IX – першая палова XIII ст.)

***Літаратура***

1. Быкаў, У. Эканамічныя прычыны феадальнай раздробленасці Старажытнай Русі / У. Быкаў // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 34–41.
2. Дзярновіч, С. Сувязі Полацка са Скандынавіяй у эпоху вікінгаў / С. Дзярновіч // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 38.
3. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. – 366 с.
4. Краўцэвіч, А. Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда / А. Краўцэвіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 44 с.
5. Крыванос, Х. З варагаў пайшлі суровыя мужы / Х. Крыванос // Беларуская мінуўшчына. – 1993. – № 2.
6. Лысенко, П.Ф. Туровская земля IX–XIII вв. / П.Ф. Лысенко. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 266 с.
7. Мяцельскі, А. Землі Беларусі і Смаленскае княства (IX–XIII стст.) / А. Мяцельскі // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 2. – 17–27.
8. Памяць: Мінск: гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі: у 4 кн. / Рэдкал. Г.К. Кісялёў [і інш.]; уклад. А.А. Ляўшэвіч, В.С. Семенякоў; рэд. Г.В. Штыхаў. – Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – 574 с.
9. Пічэта, У.І. Гісторыя Беларусі / У.І. Пічэта. – Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2005. – С. 41 – 103.
10. Повесть временных лет / Пер. Д.С. Лихачева. – Петрозаводск: Карелия, 1991. – 188 с.
11. Прохоров, А.А. Князь Тур: история легенды: сакрализация княжеской власти у славян / А.А. Прохоров. – Минск: БГУ, 2005. – 250 с.

12. Саверчанка, І.В. “Полацкі летапіс” – галоўная крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст. / І.В. Саверчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – №5. – С. 13–18.
13. Слово о полку Игореве / [Переложение] Е. Лукин. – М.: АСТ, 2007. – 110 с.
14. Тарасаў, С.В. Полацк IX–XVIII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С.В. Тарасаў. – 2-е выд.– Мінск: Беларуская навука, 2001. – 182 с.
15. Тарасаў, С.В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С.В. Тарасаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 67 с.
16. Темушев, С.Н. Княжеская власть и полюдье / С.Н. Темушев // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2001. – № 2. – С. 9.
17. Штыхаў, Г.В. Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі / Г.В. Штыхаў. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Права і эканоміка, 2002. – 89 с.

***Вызначальныя паняцці**: феадалізм, суседская абшчына (мір, грамада), князь, баяры, дружына, вотчына, памесце, халопы, закупы, радовічы, удачы, смерды, людзі пахожыя, людзі непахожыя, “чэлядзь нявольная”, палюддзе, павоз, веча, рада, пасаднік, тысяцкі, цівун, ключнік, падвойскі, дзядзінец, пасад, феадальная раздробленасць.*

**Эканамічны стан беларускіх зямель.** Прыход славян на беларускія землі супаў з пачаткам хуткага разлажэння родаплемянных адносін і фарміравання феадальнага ладу. Прычынамі таму былі ўсё больш імклівы падзел працы, хуткае развіццё эканамічных стасункаў, а таксама войны, якія ўзвысілі магчымасці правадыроў племені – князёў і вузкага кола набліжаных да іх вяароў – баяр і дружыннікаў. Сваяцкая абшчына паступова саступіла месца суседскай (мір, грамада і г. д.). Абшчыннае землекарыстанне з’яўлялася асноўнай прыкметай абшчыннага эканамічнага ўклада, які існаваў на ўсходнеславянскіх землях разам з рабаўладальніцкім і феадальным. Абшчына супольна карысталася зямлёй, лесам, вадаёмамі, лугам; сумесна збіралася даніна. Мясцовая знаць імкнулася захапіць абшчынныя ці пакуль незанятыя землі ў прыватную ўласнасць і абкладалі абшчыннікаў данінай, якая паступова перарастала ў феадальную рэнту. Прыватныя землі насілі назву вотчын. У X ст. ўзгадваюцца княскія вотчыны, у XI–XII стст. – баярскія і манастырскія. Працавалі на феадальных землях рабы (халопы) ці залежныя ад гаспадара сяляне – закупы, радовічы і ўдачы. Закупы сяліліся на землях феадала і атрымлівалі ад яго своеасаблівы крэдыт – купу. Звычайна яна магла складацца з розных прыладаў працы, хатняй жывёлы і г.д. Радовічы заключалі з маёмаснікам зямлі спецыяльны дагавор – рад. Пакуль закуп не выплочваў купу, а радовіч не адпрацоўваў рад, ён залежаў ад феадала. Удачы часова працавалі на гаспадара.

Большасць сялян-абшчыннікаў (смерды) пакуль захоўвалі асабістую свабоду, працавалі на абшчынных землях і плацілі раз у год князю даніну толькі прадуктамі сельскай і лясной гаспадаркі (палюддзе). Толькі ў XI–XII стст. гэтая надзвычай марудная форма эксплуатацыі пачала паступова выціскацца грашовымі выплатамі і данінай – прадуктамі вытворчасці.

Аснову тагачаснай эканомікі складала земляробства. Сяляне вырошчвалі жыта (яравое і азімае), пшаніцу, ячмень, проса, боб, гарох, лён, каноплі і іншыя культуры. У некаторых землях паша знаходзілася недалёка ад паселішчаў. Але таксама былі распаўсюджаны лясныя аблогі і высекі. Лядна-агнявое земляробства паступова саступае месца пашаннаму. Галоўнай ворнай прыладай з’яўляецца драўлянае рала з металічным наральнікам, якое павольна замяняецца драўлянай жа сахой.

У немалой ступені развіццю вытворчасці садзейнічаў гандаль. Праз тэрыторыю Беларусі па рэках Заходняя Дзвіна і Днепр ішоў буйны гандлёвы шлях са Скандынавіі ў Візантыю (“з вараг да грэкаў”), па рэках Сож і Прыпяць – з Каспія ў Заходнюю Еўропу. Гандляры карысталіся грошамі – арабскімі, пазней заходнееўрапейскімі срэбранымі манетамі і срэбранымі ці залатымі зліткамі – грыўнямі.

З Захаду на беларускія землі паступалі срэбра, металы і металічныя прылады працы, а таксама якасная зброя. З Усходу і Поўдню – ткані- ны, віно, соль, ювелірныя вырабы і г. д. З мясцовых зямель вывозіліся рабы, прадукты лясной гаспадаркі, асабліва пушніна, рамесныя вырабы.

Цэнтрамі рамяства і гандлю з’яўляліся гарады. Па летапісных звестках ужо ў IX ст. існаваў горад Полацк (862 г.), у X – Віцебск (947 г.), Тураў (980 г.) і Заслаўе (985 г.), у XI – Браслаў (1065 г.), Брэст (1017 г.), Друцк (1001 г.), Лагойск (1078 г.), Мінск (1067 г.) і г. д. Гарады мелі моцныя абарончыя збудаванні. У найбольш умацаванай частцы (дзядзінцы) жылі князь, баяры і дружыннікі. Вакол дзядзінца будаваўся пасад. Яго жыхарамі былі рамеснікі і гандляры. Гараджане, як і сяляне, аб’ядноўваліся ў абшчыны. Збор гараджан (веча) вырашаў самыя важкія пытанні. Так, Тураўскае веча выбірала епіскапа. Ад імя Полацкага веча падпісваліся міжнародныя дамовы. У 1151 г. па яго рашэнні з горада быў выгнаны князь Рагвалод і запрошаны мінскі князь Расціслаў. Але праз сем гадоў веча выгнала Расціслава і зноў запрасіла Рагвалода. У 1161 г., пасля паражэння ад мінскага князя Валадара, Рагвалод быў вымушаны збегчы ў Друцк, бо палачане былі настроены супраць няўдалага князя.

Гарадская гаспадарка яшчэ ў значнай ступені заставалася аграрнай. Недалёка ад гарадоў знаходзіліся палеткі і выпасы для жывёлы. Гараджане трымалі авечак, кароў, коз, свіней, гусей і г. д. Яны мелі сады і агароды.

**Сацыяльная структура беларускага грамадства.** Сацыяльная арганізацыя раннефеадальнага грамадства выглядала наступным чынам:




Аднак кантроль над гандлёвымі шляхамі працяглы час знаходзіўся ў руках іншаземцаў. Напрыклад, радзімічы да X ст. выплачвалі даніну прыкаспійскаму народу – хазарам.

**Першыя княствы на беларускіх землях.** У канцы IX ст. уладу на большасці ўсходнеславянскіх зямель захапіла скандынаўская дынастыя Рурыкавічаў (з 862 г.). Імі была заснавана феадальная дзяржава Русь з цэнтрам у Кіеве. Але асноўныя сацыяльна-палітычныя і эканамічныя перадумовы фарміравання дзяржаваў-княстваў скла́ліся тут задоўга да з'яўлення варагаў. Сярод першых беларускіх гарадоў, падначаленых Рурыкавічамі, узгадваецца Полацк, племянны цэнтр крывічоў-палачан. Але ў канцы X ст. тут ужо правіла свая княжацкая дынастыя скандынаўскага паходжання на чале з Рагвалодам, які меў саюзныя адносіны з кіеўскім князем. У 980 г. наўгародскі князь Уладзімір падчас паходу на Кіеў захапіў Полацк, забіў Рагвалода і яго сыноў, а дачку Рагнеду прымусова ўзяў сабе жонкай. Падначаліўшы сабе яшчэ Кіеў, Уладзімір распачаў рэформы, якія павінны былі цэнтралізаваць дзяржаву. Самай важнай з іх было прыняцце хрысціянства (988 г.).

Нягледзячы на спробы Уладзіміра і яго пераемнікаў аб'яднаць вакол Кіева ўсе рускія землі, мясцовыя князі вялі ўпартую барацьбу за незалежнасць. Ужо ўнук Уладзіміра і Рагнеды, полацкі князь Брачыслаў (1003 – 1044) адрозніваўся адносна незалежнай палітыкай. Каб спыніць з ім барацьбу, кіеўскі князь Яраслаў быў вымушаны падараваць Полацкаму



княству Віцебск і Усвят. Пры сыне Брачыслава Усяславе (1044 – 1101) гэтая барацьба дасягнула свайго апагею. У 1065 г. Усяслаў напаў на Пскоў, у 1066 г. захапіў і разрабаваў Ноўгарад. Імкнучыся спыніць Усяслава, кіеўскі князь і яго браты – Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад Яраславічы – стварылі ваенную кааліцыю. 3 сакавіка 1067 г. на рацэ Няміга яны разбілі войска палачан на чале з Усяславам Чарадзеем, разрабавалі і разбурылі Мінск. Усяслаў разам з сынамі патрапіў пад Оршай у палон. Але ў верасні 1068 г. падчас паўстання ў Кіеве ён быў вызвалены, некаторы час княжыў у Кіеве, а ў 1071 г. вярнуўся ў Полацк.

У 1129 г. кіеўскаму князю Мсціславу ўдалося захапіць полацкіх князёў і саслаць іх у Візантыю. Аднак пасля яго смерці яны вярнуліся на радзіму. Фармальнай прычынай падобнай ганаровай ссылкі была адмова князёў полацкай дынастыі ісці ў агульны паход супраць полаўцаў.

Адносна самастойную палітыку вяло і Смаленскае княства. Пры князю Расціславе (1125 – 1159) яно фактычна вылучылася з Кіеўскай дзяржавы. У значна большай залежнасці ад Кіева знаходзілася Тураўскае княства. Горад Тураў размяшчаўся ў басейне ракі Прыпяць і з'яўляўся племянным цэнтрам дрыгавічоў. Пад час славутага похода князя Уладзіміра з Ноўгарада на Кіеў ён трапіў у поўную залежнасць ад апошняга (980). Адметнай рысай палітычнага жыцця Тураўшчыны трэба адзначыць той факт, што на княжэнне тут прызначаліся сыны вялікіх князёў, якія мелі права на спадчыну кіеўскага стала. Разам з князем пэўныя выканаўчыя функцыі ў горадзе ажыццяўляе пасаднік, а тураўскае веча мае ўплыў на прызначэнне мясцовага епіскапа, у той час калі ў Полацк і іншыя гарады епіскап прызначаўся мітрапалітам кіеўскім. Адносную самастойнасць Тураўскае княства набывае толькі пад час княжання Юрыя Яраславіча (1158 – 1162).

У IX–XII стст. працягваўся рух славянскіх перасяленцаў у паўночна-заходнія раёны. У XI – пач. XII ст. ў Панямонні вылучыліся Гродзенскае, Ваўкавыскае і Навагрудскае княствы. У XII – пач. XIII ст. Полацкаму княству належалі балцкія землі ўздоўж Заходняй Дзвіны, на землях латгалаў – княствы Герцыке і Кукенойс. Іх насельніцтва было змешанае, часткова славянскае, часткова балцкае. Кіравалі Герцыке і Кукенойсам князі славянскага паходжання.

**Феадальная раздробленасць на землях Беларусі.** У XII ст. ў гісторыі старажытнай Русі пачаўся перыяд феадальнай раздробленасці – заканамерны працэс палітычнай дэцэнтралізацыі і эканамічнага ўмацавання феадальных уладанняў. На беларускіх землях гэты этап наступае пасля смерці Усяслава Брачыславіча (1101), калі Полаччына падзяляецца паміж яго нашчадкамі на шэсць удзелаў: Полацкі,

Віцебскі, Друцкі, Ізяслаўскі, Мінскі і Лагойскі. Сярод важнейшых прычын дадзенага працэсу варта адзначыць фарміраванне феадальнага землеўладання і аслабленне цэнтральнай княжацкай улады, перавага натуральнай гаспадаркі, адсутнасць трывалых эканамічных і камунікацыйных стасункаў паміж рэгіёнамі, рост гарадоў – новых палітычных, эканамічных і культурных цэнтраў асобных зямель, а таксама ўмацаванне ва ўдзелах сваіх княжацкіх дынастый. У другой палове XII ст., амаль адразу пасля вылучэння з Кіеўскай дзяржавы, распалася Тураўскае княства. У выніку на пачатку XIII ст. на беларускіх землях існавала больш за 20 незалежных дзяржаўных утварэнняў. Некаторыя з іх былі даволі моцныя. Так, у 60–70-я гг. XII ст. Полацкае і Віцебскае княствы трапілі ў залежнасць ад Смаленскага. Бярэсце і землі Панямоння залежалі ад галіцка-валынскага князя. Асабліва моцным становіцца княства Менскае на чале з князем Глебам Усяславічам (1101 – 1119), які вядзе ўпартую барацьбу за пашырэнне сваіх зямель з Кіевам.

Феадальная раздробленасць мела станоўчыя і адмоўныя бакі. Яна давала шырэйшыя магчымасці для сацыяльна-палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця асобных зямель. Улада мясцовага князя была больш аператыўнай. Ён быў вымушаны абапірацца на мясцовых баяр, раздаючы ім землі і прывілегіі, што, несумненна, спрыяла развіццю феадальных адносін. Але з разбурэннем цэнтралізаванай дзяржавы парушаліся сувязі між рэгіёнамі. Паміж удзельнымі князямі ўсё часцей успыхвалі ваенныя канфлікты. Да супрацьстаяння часта прыцягваліся іншаземцы. Вядома, што ўжо ў XI ст. ў дружыне полацкіх князёў служылі найміты са Скандынавіі. У XII ст. кіеўскія князі выкарыстоўвалі ў барацьбе з Полацкам цюркскіх качэўнікаў-полаўцаў, мінскія князі – літоўцаў. Такое становішча значна аслабіла палітычную моц беларускіх княстваў, і яны сталі ахвярай іншаземных захопнікаў.

**Барацьба беларускіх княстваў з іншаземнымі захопнікамі ў XIII ст.** З канца XII ст. нямецкія крыжакі пачалі планамерны захоп зямель Прыбалтыкі, частка якіх знаходзілася ў залежнасці ад Полацкага княства. У 1201 г. ў вусці Заходняй Дзвіны нямецкі біскуп Альберт заснаваў крэпасць Рыгу. У 1202 г. з дапамогай папы рымскага ім быў створаны ваенна-манаскі ордэн мечнікаў (Ордэн Братоў рыцарства Хрыстовага). З 1234 г. ў Прусіі пачаў дзейнічаць Тэўтонскі ордэн, рыцары якога пакінулі Святую Зямлю і шукалі сабе новае месца жыхарства. У 1237 г. ордэны аб’ядналі свае сілы. У гэтым саюзе галоўную ролю адыгрываў больш вядомы ў Еўропе Тэўтонскі ордэн. Але ордэн мечнікаў, які з гэтага часу зваўся Лівонскім (Інфлянцкім), таксама працягваў існаваць. Крыжакі ставілі перад сабой высакародную мэту – хрысціць Прыбалтыйскія землі па каталіцкім абрадзе. Іх войска было адносна невялікім, але даволі дысцыплінаваным. На самой справе галоўнай мэтай крыжакоў было падпарадкаванне новых зямель і мясцовага гандлю. Першапачаткова крыжакі не ішлі на адкрытыя канфлікты з Полаччынай і нават імкнуліся да супрацоўніцтва з князем Уладзімірам, таму што бачылі рэальную пагрозу для ўсталявання свайго панавання ў выпадку наладжвання супрацоўніцтва Полацкага княства з балцкімі плямёнамі.

У выніку ўпартай барацьбы з крыжакамі жыхары Кукенойса на чале з князем Вячкам пасля 1208 г. разбурылі свой горад і пакінулі яго. Сам князь перайшоў з дружынай на бок Ноўгарада і загінуў пры абароне крэпасці Юр’еў (Тарту). Пасля 1214 г. пад уладу рыжскага біскупа трапляе і Герцыке. Крыжакі ўрываліся на беларускія землі, сеючы смерць і спусташэнне. У 1203 і 1206 гг. полацкі князь Уладзімір рабіў паходы на крыжакоў, але яны былі няўдалыя. У выніку Полацк быў вымушаны ў 1210 г. падпісаць першы мірны дагавор з Рыгай. Праз шэсць гадоў (1216) Уладзімір здолеў стварыць моцную кааліцыю супраць рыцараў-мечнікаў. Але падчас падрыхтоўкі да паходу князь нечакана памёр. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ён быў атручаны крыжакамі.

У 1236 г. пад Шаўлямі нямецкія крыжакі пацярпелі моцнае паражэнне ад літоўскіх плямён. У 1237 г. яны былі разбіты пад Драгічынам валынскім князем Данілам. Вялікую ролю ў спыненні нямецкага наступу адыгралі бітвы 1242 г. на Чудскім возеры і 1260 г. на возеры Дурба. Аднак да поўнай перамогі было яшчэ вельмі далёка.

У другой палове 30-х гг. XII ст. многія землі Усходняй Еўропы сталі ахвярай мангола-татарскага нашэсця. У 1238 г. мангола-татары разрабавалі і спустошылі Смаленскае княства. У 1239 г. іх атрады спустошылі значную частку паўднёва-ўсходняй Беларусі. У 1240 г. флангавыя атрады на чале з ханамі Гуюнкам і Кайданам уварваліся ў паўднёвую Беларусь, захапілі і разрабавалі Мазыр, Тураў, Пінск, Бярэсце. Аднак спроба Кайдана прасунуцца далей на поўнач скончылася яго паражэннем у бітве каля мястэчка Крутагор’е (зараз Дзяржынск).

Пасля вяртання з Заходняй Еўропы ў 1242 г. правадыр мангола-татар Батухан (Батый) заснаваў у Паволжы дзяржаву Залатая Арда, якой выплачвалі даніну ўсходнія і паўднёвыя рускія землі. У 1275, 1277, 1287, 1315, 1325, 1338 і інш. гады залатаардынскія ханы рабілі паходы і на беларускія землі, але падпарадкаваць іх сабе не здолелі.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Як праходзіў працэс усталявання феадальных адносін на беларускіх землях? 2. Што сабою ўяўляла раннефеадальнае беларускае грамадства?*

*3. Чаму спробы цэнтралізацыі Русі выклікалі процідзеянне з боку мясцовых князёў? 4. Назавіце асноўныя прычыны феадальнай раздробленасці. 5. Як адбываўся працэс пранікнення нямецкіх крыжакоў на прыбалтыйскія землі? Чаму барацьба з крыжакамі доўгі час не мела поспехаў? 5. Якую пагрозу для беларускіх княстваў мела мангола-татарскае нашэсце?*

## Культура беларускіх зямель у IX – першай палове XIII ст.

***Літаратура***


1. Арлоў, У.А. Асветніца з роду Усяслава: Еўфрасіння Полацкая / У.А. Арлоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 53 с.
2. Арлоў, У. Еўфрасіння Полацкая / У. Арлоў. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. – 220 с.
3. Высоцкая, Н.Ф. Искусство Беларуси XII–XVIII вв. / Н.Ф. Высоцкая. – 3-е изд. – Минск, 2002. – 27 с.
4. Арлоў, У. Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Гісторыя крыжа святой Еўфрасінні Полацкай / У. Арлоў; навук. рэд. Г. Штыхаў. – Мінск: Асар, 1998. – 326 с.
5. Загарульскі Э. Пераадоленне язычніцтва падчас хрысціянізацыі заходніх зямель Русі / Э. Загарульскі // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 8. – С. 31.
6. Крук, Я. Сімволіка беларускай народнай культуры / Я. Крук. – 2-е выд. – Мінск: Беларусь, 2003. – 349 с.
7. Мельнікаў, А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі: Жыццё, спадчына, светапогляд / А.А. Мельнікаў; пад рэд. В.А. Чамярыцкага. – 2-е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 459 с.
8. Тарасаў, К. Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны / К. Тарасаў. – Мінск: Полымя, 1990. – 263 с.
9. Трусаў, А. Старонкі мураванай кнігі: манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму / А. Трусаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 191 с.


***Вызначальныя паняцці:*** *крышчэнне, хрысціянізацыя, двухвер’е, летапісанне, агіяграфія, кірылічная сістэма пісьма, скрыпторыі, пергамент, пісалы, манументальнае дойлідства, школа дойлідства, неф, апсіда, плінфа, мазаіка, крыжова-купальны храм, раманскі стыль, гатычны стыль.*



**Прыняцце хрысціянства на беларускіх землях.** Прыняцце хрысціянства стала адной з самых важкіх падзей культурнага жыцця беларускіх зямель у IX – пач. XIII ст. Першыя звесткі аб пранікненні на ўсходнеславянскія землі хрысціянскай веры па візантыйскім узоры адносяцца да IX ст. Лічыцца, што хрысціянкай была кіеўская княгіня Вольга. Ісландская “Сага аб хрышчэнні” ўзгадвае пра манастыр Іаана Прадцечы ў Полацку, заснаваны каталіцкім місіянерам Торвальдам-вандроўнікам у X ст. У канцы X ст. кіеўскі князь Уладзімір прыняў хрысціянскую веру па візантыйскім (праваслаўным) узоры (987 г.). Першай датай, што тычыцца прыняцця хрысціянства на землях Беларусі, лічыцца заснаванне Полацкай епархіі (каля 992 г.).

Па меркаванні шэрагу даследчыкаў, працэс распаўсюджання новай веры ў нашай краіне быў досыць мірны, але і больш працяглы (да XIII–XIV стст.), а адзінкавыя астраўкі паганства захаваліся да XIX – пач. XX ст.). Толькі аб Тураве ў сувязі з прыняццем хрысціянства згадваецца паданне аб чырвонай ад крыві Прыпяці і каменных крыжах, якія плылі па яе водах. Першыя хрысціянскія святары (у асноўным выхадцы са славянскай Балгарыі) выкарыстоўвалі паганскія святы і абрады для хутчэйшага распаўсюджання новай веры (Вялікдзень – Пасха, Сёмуха – Тройца, Купалле – свята Іаана Хрысціцеля (Ян, Іван Купала), збор жыта – Спас, Восеньскія Дзяды – ушанаванне Дзмітрыя Салунскага, Каляды – Нараджэнне Хрыстова). Суіснаванне на пэўнай тэрыторыі элементаў паганства і хрысціянства называецца двухвер’ем. На беларускіх землях хрысціянства пераважала сярод гарадскога насельніцтва, і значна больш марудна гэты працэс праходзіў на вёсцы.

**Пісьменнасць і літаратура.** Прыняцце хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях спрыяла ўмацаванню дзяржавы і ўлады, стала вялікім крокам наперад у эканамічным і культурным развіцці. Менавіта з пачаткам хрысціянізацыі на беларускіх землях пачынае распаўсюджвацца кірылічная сістэма пісьма. Аб распаўсюджванні пісьменнасці сярод розных катэгорый насельніцтва сведчаць знаходкі спецыяльных прыстасаванняў для пісьма – пісал (у Навагрудку, Мінску, Друцку), подпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава (канец X ст.), на цагліне Сафійскага сабора ў Полацку (XI ст.), на каменных прасліцах з Пінска, Друцка і Віцебска, “Рагвалодавым” і “Барысавых” камянях (XII ст.), берасцяных граматах (знойдзены ў Віцебску, Мсціслаўлі) і г. д. У некаторых гарадах існавалі спецыяльныя майстэрні па перапісванні кніг – скрыпторыі. Найстаражытнейшым помнікам пісьменнасці, якія дайшоў да нашага часу, з’яўляецца Тураўскае евангелле (XI ст.). Пісьмовыя помнікі першай паловы XIII ст. даюць падставу сцвярджаць,

што ўжо ў гэты перыяд пачынае фарміравацца пісьмовая старабеларуская мова (дагавор Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 г.).

У першай палове XI ст. на ўсходнеславянскіх землях пачалося летапісанне. Некаторыя падзеі, што адбыліся на Беларусі, згадваюцца ў "Аповесці мінулых гадоў" (пачатак XII ст.). В. Тацішчаў у сваіх працах згадвае Полацкі летапіс, страчаны ў XVIII ст. – помнік не толькі літаратуры, але і мастацтва XII ст. Звесткі аб полацкіх князях змешчаны ў "Слове пра паход Ігараў" (XII ст.).

Значная роля ў пашырэнні асветы і культуры на беларускіх землях належыць праваслаўным царкоўным дзеячам – Еўфрасінні Полацкай (1101(?) – 1167), Кірыле Тураўскаму (каля 1130 – каля 1182), Клíменту Смаляцічу ((?) – пасля 1164) і Аўраамію Смаленскаму (? – ?). Даволі поўная інфармацыя аб іх дзейнасці ўтрымліваецца ў агіяграфічнай (жыційнай) літаратуры, росквіт якой прыпадае на канец XII–XIII ст.

**Дойлідства.** Адным з вынікаў прыняцця хрысціянства стала з'яўленне на беларускіх землях манументальнага дойлідства. Грэчаскія майстры прынеслі ва Усходнюю Еўропу сістэму крыжова-купальнага храма, у аснову якой быў закладзены квадрат, падзелены чатырма слупамі так, што ў плане ён уяўляў сабой крыж. Найбольш слынным з мураваных збудаванняў на нашых землях стаў Сафійскі сабор у Полацку, пабудаваны пры Усяславе Чарадзеі (1044 – 1066). Храм быў узведзены з чырвонай цэглы, унутры аздоблены рознакаляровымі фрэскамі. Першапачаткова гэта быў пяцінефны сямікупальны будынак, які выконваў не толькі культавыя, але і грамадскія (скарбніца, бібліятэка, зала для прыёму паслоў) функцыі і з'яўляўся своеасаблівым сімвалам незалежнасці і сілы Полацкай зямлі.

З наступленнем феадальнай раздробленасці (XII ст.) памеры храмаў значна змяншаюцца. З'яўляюцца манастыры – цэлыя комплексы культавых збудаванняў. Паступова вырастаюць мясцовыя школы дойлідства. Найбольш знакамітая з якіх – полацкая. Для будынкаў, выкананых яе майстрамі, характэрны падоўжаны план, выступаючая толькі адна апсіда (дзве другія хаваюцца ў тоўшчы сцяны), аздабленне верхняй вонкавай часткі храма какошнікамі кілепадобнай формы, упрыгожванне фрэскамі, лаканізм архітэктурнай формы. Яркім узорам такога храма з'яўляецца царква Святога Спаса ў Полацку, пабудаваная, па паданні, за 30 тыдняў дойлідам-манахам Іаанам па заказе св. Еўфрасінні Полацкай. Полацкія майстры захавалі ў сваіх будынках муроўку са "схаваным радам", дзе рады плінфы перамешваюцца з радамі камянёў. Да полацкавіцебскай дойлідскай школы таксама адносяцца Дабравешчанская царква ў Віцебску, Барысаглебскі і Пятніцкі храмы ў Бельчыцах. Прыкладна ў гэты ж час на заходніх землях фарміруецца гродзенская школа, для помнікаў якой характэрны цагляная аднародная муроўка, вонкавое ўпрыгожванне сцен паліраванымі пліткамі і шліфаванымі камянямі, наяўнасць у канструкцыі сцен гаршкоў-галаснікоў, аздабленне падлогі рознакаляровай керамічнай пліткай. Усе гэтыя рэчы ўвасоблены ў Барысаглебскай (Каложскай) царкве (Гародня, канец XII ст.).



У XII ст. ў Полацку налічвалася каля дзесяці храмаў, сем – у Смаленску, тры ў Гародні, па аднаму – у Мінску, Віцебску, Навагрудку, Ваўкавыску, Тураве, Пінску. Мураванае дойлідства пашыралася і ў грамадскім будаўніцтве – знойдзены рэшткі будынкаў у Слуцку, Мінску, Мсціславе, княжацкага палаца ў Гародні.

У другой палове XIII ст. на межах беларускіх зямель будуюцца абарончыя вежы, з якіх да нашых дзён дайшоў толькі Камянецкі слуп, пабудаваны на беразе рэчкі Лясная дойлідам Алексай "со тоземцы". Для 30-метровай абарончай вежы характэрны гатычныя элементы (спічастыя праёмы, тынкаваныя нішы, пояс з пакладзеных "на вугал" цаглін). Гэты мастацкі стыль быў распаўсюджаны ў Заходняй Еўропе ў XII – XVI стст.

**Мастацтва.** З XI ст. пад візантыйскім і заходнееўрапейскім уплывам на Беларусі пачынае развівацца манументальны жывапіс (фрэскі, мазаіка), іканапіс, кніжная мініяцюра. Як і ў архітэктуры, у жывапісе назіраўся працэс фарміравання мясцовых лакальных школ. Мясцовыя майстры працавалі таксама з бурштынам, шклом, каляровымі металамі, апрацоўвалі камень і дрэва. Своеасаблівым сімвалам беларускіх зямель можна назваць створаны ў 1161 г. па заказе ігуменні Еўфрасінні полацкім майстрам Лазарам Богшам шасціканцовы крыж.

Што ж тычыцца іконапісання, то з нашай гісторыяй цесна звязаны абраз Адзігітрыі Полацкай (XII ст.), прысланы, па паданні, Еўфрасінні для аздаблення Багародзіцкага манастыра самім візантыйскім імператарам Мануілам Комнінам; ён з'яўляецца дакладнай копіяй абраза Адзігітрыі (грэч. Пуцяводнай) Эфесскай, створанай апосталам Лукой яшчэ пры жыцці Дзевы Марыі. Але, як мяркуюць сучасныя даследчыкі, ікона, што захоўваецца зараз у фондах Рускага музея ў Пецярбургу, можа быць таксама копіяй, створанай непасрэдна полацкімі майстрамі. Такім чынам, Адзігітрыю XII ст. можна лічыць пачынальніцай мастацкай іканапіснай традыцыі на беларускіх землях.

Беларуская культура IX–XIII стст. развівалася ў межах сусветных культурна-гістарычных тэндэнцый. Значны ўплыў на яе аказала прыняцце хрысціянства, якое стала штуршком у развіцці культурных працэсаў. У той жа час на гэтым этапе быў закладзены падмурак фарміравання беларускага этнасу і адметнай культуры нашага народа.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Якія помнікі матэрыяльнай культуры сведчаць аб тым, што пісьменнасць была шырока распаўсюджана сярод простага люду ў перыяд Кіеўскай Русі? 2. Якую ролю ў развіцці беларускай культуры X–XIII стст. адыграла прыняцце хрысціянства? 3. Калі на Беларусі з'явіліся мясцовыя школы дойлідства? Што паўплывала на гэты працэс? У чым іх адметнасць?*

## Беларускія землі ў складзе Вялікага княства Літоўскага (другая палова XIII – першая палова XVI ст.)

***Літаратура***


1. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. – Минск: Изд. центр БГУ, 2004. – 407 с.
2. Вялікае княства Літоўскае: Метадалогія і метады даследавання / Я. Бак [і інш.]; уклад. С. Каўн, С. Салей, Н. Сліж; рэд. С. Каўн. – СПб.: Неўскі прасцяг, 2003. – 138 с.
3. Дзмітрачкоў, П. Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага. Другая палова XIII – першая палова XVII ст.: вучэб. дапам. для студ. гіст. спецыяльнасцей ВНУ / П. Дзмітрачкоў. – Магілёў: МДУ імя А. Куляшова, 2003. – 311 с.
4. Дзмітрачкоў, П. Старажытнарускія дасягненні і традыцыі ў развіцці дзяржаўнасці і права на беларускіх землях у перыяд ВКЛ (другая палова XIII – першая палова XVI ст.) / П. Дзмітрачкоў // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 4. – С. 3.
5. Ермаловіч, М. Па слядах аднаго міфа / М. Ермаловіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 98 с.
6. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд / М. Ермаловіч. – Мінск: Выд. цэнтр "Бацькаўшчына", 1994. – 91 с.
7. Краўцэвіч, А. Міндаўг. Пачатак гаспадарства: нарыс / А. Краўцэвіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2005. – 163 с.
8. Краўцэвіч, А.К. Рыцары і дойліды Гародні / А.К. Краўцэвіч. – Гародня- Wroclaw: Гарадзенскі рух "За свабоду", 2009. – 104 с.
9. Краўцэвіч, А.К. Стварэнне ВКЛ / А.К. Краўцэвіч; навук. рэд. Г.В. Штыхаў. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 206 с.
10. Мікалаева, Л. Роля рэлігійнага фактару ў ажыццяўленні знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага ў канцы XV – пач. XVI ст. / Л.В. Мікалаева // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2008. – № 1. – С. 3-6.
11. Мікалаева, Л.В. Асноўныя напрамкі знешняй палітыкі Вялікага княства Літоўскага ў 10–20-х гадах XVI ст. / Л.В. Мікалаева // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2003. – № 1.
12. Насевіч, В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы / В. Насевіч. – Мінск: Полымя, 1996. – 160 с.
13. Пічэта, У.І. Гісторыя Беларусі / У.І. Пічэта. - Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2005. – С. 104 – 167.
14. Сагановіч, Г. Айчыну сваю баронячы: Канстанцін Астрожскі / Г. Сагановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 62 с.
15. Цішчанка, В. Вялікакняжацкая ўлада ў ВКЛ другой паловы XV – пачатку XVI ст. / В. Цішчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 44.
16. Чаропка, В. Уладары Вялікага Княства / В. Чаропка. – 2-е выд., папраўл. – Мінск: Беларусь, 2007. – 605 с.
17. Шираяев, Е. Русь Белая, Русь Черная и Литва в картах / Е. Ширяев. – Минск: Навука і тэхніка, 1991. – 119 с.


***Вызначальныя паняцці:*** *"Літва", вялікі князь, шляхта, магнаты, унія, прывілей, Судзебнік, паны-рада, сойм, ваяводства, анексы,канцлер, гетман, падскарбій, маршалак, харужы, стараста, кашталян, намеснік, гараднічы, цівун.*

**Утварэнне Вялікага княства Літоўскага. Фарміраванне тэрыторыі.** На працягу XI – XIII стст. сярод літоўскіх плямён ішоў паступовы працэс утварэння сваёй дзяржаўнасці. Ужо ў 1235 г. летапісы прыгадваюць "Літву Міндоўга", князя, якому ўдалося расправіцца з большасцю сапернікаў. Вялікую ролю ў фарміраванні ВКЛ адыгралі і славянскія землі Чорнай Русі (Наваградскае і Гродзенскае княствы). Па сведчанні гісторыкаў XVI ст. асаблівае значэнне ў гэты перыяд займаў горад Навагрудак, які адыгрываў ролю сталічнага цэнтра. Заходне-літоўскія землі (Жамойція) канчаткова ўвайшлі ў ВКЛ толькі на пачатку XV ст.

Утварэнне ВКЛ ішло ва ўмовах пастаяннай барацьбы з крыжакамі і, на першых парах, з Галіцка-Валынскім княствам, а таксама супрацьстаяння літоўскіх, жамойцкіх і яцвяжскіх князёў.

У 1250–1251 гг., каб спыніць умяшальніцтва крыжакоў, Міндоўг прыняў каталіцтва, а ў 1253 г. – і каралеўскую карону (пры блаславенні папы Інакенція IV). Але ў 1261 г. ён разарваў мір з Лівонскім ордэнам і адмовіўся ад каталіцкай веры. У 1263 г. князь-заснавальнік новай дзяржавы быў забіты літоўскімі змоўшчыкамі на чале з князямі Даўмонтам

і Транятам. Пасля яго смерці ў ВКЛ ішла ўпартая барацьба за ўладу. Толькі пры княжанні Віценя (каля 1295–1316 гг.) і Гедыміна (1316–1341) становішча стабілізавалася. Больш за тое, да ВКЛ далучыліся Полацкая, Віцебская, Мінская і Турава-Пінская землі. Прычынамі таму былі шлюбныя саюзы, а таксама жаданне князёў весці сумесную барацьбу з крыжакамі і татарамі. Такім чынам, шэраг беларускіх зямель былі далучаны да ВКЛ шляхам дагавораў і мелі шырокую аўтаномію. Пры далучэнні новых зямель вялікія князі абавязваліся "не рухаць старыны". У 1323 г. сталіцай ВКЛ стала Вільня, горад, які знаходзіўся на культурным памежжы балцкіх і славянскіх зямель.

У 1345 г. пасля выгнання старэйшага брата Яўнуты ўлада ў ВКЛ была падзелена паміж сынамі Гедыміна Альгердам і Кейстутам. Вялікім князем лічыўся Альгерд (1345–1377). У 1348 г. браты нанеслі паражэнне крыжакам на рацэ Стрэва. У 1355 г. ў склад ВКЛ увайшло Бранскае княства, а ў 1363 г. пасля бітвы з татарамі і кааліцыяй мясцовых князёў на рацэ Сінія Воды – амаль уся тэрыторыя сучаснай Украіны. Такім чынам, ВКЛ ператварылася ў адну з самых буйных дзяржаў Еўропы. Менавіта падчас кіравання братоў-Гедымінавічаў у склад ВКЛ увайшлі ўсе беларускія землі.

Пасля смерці Альгерда ўлада была перададзена аднаму з яго сыноў Ягайлу, які ў выніку вострых супярэчнасцей з Кейстутам (а пасля яго гвалтоўнай смерці ў 1382 г. – яго сынам Вітаўтам) і сваімі старэйшымі братамі на чале Андрэя Альгердавіча Полацкага падпісаў 14 жніўня 1385 г. ў Крэве унію (саюз) з Польскім каралеўствам. Па ўмовах уніі Ягайла мог ажаніцца на польскай каралеве і сам стаць каралём. Узамен ён павінен быў на вечныя часы далучыць ВКЛ да Польшчы, перадаць ёй частку спрэчных тэрыторый і разам з падданымі прыняць каталіцкую веру. 4 сакавіка 1386 г. Ягайла стаў польскім каралём. Аднак яго ўлада на землях ВКЛ не была трывалай. Зноў успыхнуў канфлікт з Вітаўтам. Апошні збег у Тэўтонскі ордэн, адкуль рабіў напады на ВКЛ. У 1392 г. Ягайла быў вымушаны падпісаць з ім Востраўскае пагадненне. Вітаўт абвяшчаўся вялікім князем, а Ягайла – найвышэйшым. Рэальная ўлада на землях ВКЛ знаходзілася ў руках Вітаўта. Такім чынам, ВКЛ захавала сваю незалежнасць.

**Росквіт ВКЛ.** Час праўлення Вітаўта (1392–1430) лічыцца росквітам ВКЛ. 15 ліпеня 1410 г. войскі ВКЛ і Польшчы ўшчэнт разбілі армію Тэўтонскага ордэна пад Грунвальдам. Вялікі князь актыўна ўмешваўся ў міжнародныя справы: заключаў дамовы з еўрапейскімі манархамі, змагаўся з татарамі і дапамагаў гусіцкім паўстанцам у Чэхіі. Аднак спроба Вітаўта падпарадкаваць сабе ўсходнія тэрыторыі скончылася паражэннем у бітве на рацэ Ворскле (1399) ад татар, пасля якой паміж Ягайлам і Вітаўтам была падпісана Віленска-Радамская унія (1401) і улада Вітаўта ў ВКЛ прызнавалася пажыццёвай. Няўдача чакала Вітаўта і ў барацьбе за каралеўскую карону. Пасля яго смерці ў ВКЛ зноў успыхнула грамадзянская вайна (1432–1436): за прастол змагаліся стрыечныя браты Свідрыгайла Альгердавіч (1430–1432) і Жыгімонт Кейстутавіч (1432–1440). Дзякуючы падтрымцы Польшчы, Жыгімонт перамог, але ў 1440 г. загінуў ад рук змоўшчыкаў.

**Дзяржаўна-палітычны лад ВКЛ.** У далейшым у сваёй палітыцы вялікія князі Казімір (1440–1492), Аляксандр (1492–1506), Жыгімонт Стары (1506–1548) і Жыгімонт Аўгуст (1548–1572) былі вымушаны арыентавацца на шляхецкае саслоўе. Яшчэ ў 1387 г. Ягайла выдаў агульназемскі прывілей, згодна якому феадалы, якія прымалі каталіцкую веру, атрымоўвалі тыя ж правы, што і польскія рыцары. Прывілеі 1413, 1432, 1434, 1447, 1492 і 1506 гг. значна пашыралі гэтыя правы. Цяпер яны распаўсюджваліся і на праваслаўную шляхту. Уся палітычная ўлада ВКЛ знаходзілася ў руках вялікага князя. Яму падпарадкоўваліся ўдзельныя князі, войска, ад яго імя выдаваліся дзяржаўныя акты, чыніўся суд, вялася знешняя палітыка.

Кіраваць дзяржавай вялікаму князю дапамагалі чыноўнікі – канцлер (фактычна кіраўнік урада), галоўнакамандуючы (гетман), скарбнік (падскарбій), зборшчык даніны (цівун), каменданты замкаў (гараднічыя), і г. д. Ніжэйшае звенне чыноўнага люду складалі дзяржаўцы (назіралі за дзяржаўнымі маёнткамі).

З ростам уплыву шляхецкага саслоўя значную ўладу, асабліва пасля 1501 г., набыў вальны сойм. Фактычна гэта быў своеасаблівы парламент. Аднак, у адрозненні ад іншых дзяржаў, у ім не прымалі ўдзел прадстаўнікі іншых саслоўяў. Выбары ў вальны сойм адбываліся падчас павятовых соймікаў, кожны з якіх дэлегіраваў на агульны з'езд па два паслы. Паслам уручаліся патрабаванні шляхты – наказы. Назад паслы прывозілі пастановы сойма – канстытуцыі.

Але галоўную ролю ў дзяржаве адыгрывалі буйныя феадалы – магнаты. Менавіта з іх складаўся ўрад ВКЛ – паны-рада. Многія вялікія князі з цягам часу станавіліся польскімі каралямі, таму паны-рада дзейнічалі ад іх імя самастойна. Тэрытарыяльна ВКЛ падзялялася на ваяводствы і меншыя адміністрацыйныя адзінкі – паветы і валасці; меліся таксама тэрыторыі са значна большай аўтаноміяй: удзельныя княствы, "землі прыслухаючыя" (анексы). Ніжэйшым кіруючым звяном былі кіраўнікі сельскіх сходаў – старцы. Агульны выгляд сістэма кіравання ў ВКЛ мела наступны:




У сярэдзіне XVI ст. у ВКЛ адбыліся тэрытарыяльна-адміністрацыйная, ваенная, судовая і заканадаўчая рэформы, якія спрыялі ўдасканаленню сістэмы кіравання. Змены ў заканадаўстве былі адлюстраваны ў Статутах ВКЛ 1529 і 1566 гг. У той час Статуты лічыліся аднымі з найлепш распрацаваных кодэксаў законаў у Еўропе.

Цэнтралізацыя дзяржавы выклікала незадаволенасць сярод удзельных князёў, абсалютная большасць якіх спавядала праваслаўе. Незадаволенасць вылілася ў пераход некаторых з іх на бок Маскоўскага княства, Кіеўскай змовы 1481 г. і паўстання князёў Глінскіх 1508 г. Апошняе ўспыхнула падчас вайны з Маскоўскай дзяржавай (1507–1508). Міхаіл Львовіч Глінскі, які ўзначальваў паўстанне, спавядаў каталіцтва, але звяртаўся за падтрымкай да праваслаўнага насельніцтва. У выніку яму прыйшлося перайсці на бок Масквы, дзе ён і памёр у 1534 г., кінуты ў турму роднай дачкой, вялікай княгіняй Аленай.

Такім чынам, беларускія землі склалі цэнтральную частку ВКЛ. Уключэнне Беларусі ў склад буйной дзяржавы ў сваю чаргу спрыяла яе цэнтралізацыі і далейшаму развіццю.



***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. У якіх умовах адбываўся працэс стварэння ВКЛ? 2. Якія наступствы мела Крэўская унія? 3. Як пашыраліся правы шляхты ў ВКЛ? 4. Якую ролю ў ВКЛ адыгрывалі буйныя феадалы-магнаты? 5. Што сабой уяўляў дзяржаўны апарат ВКЛ?*

## Сацыяльна-эканамічнае развіццё беларускіх зямель (другая палова XIII – першая палова XVI ст.)

***Літаратура***


1. Бушчык, Г.П. Прычыны, механізмы і вынікі аграрнай рэформы сярэдзіны XVI – першай паловы XVII ст. на Беларусі / Г.П. Бушчык// З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП “Экаперспектыва”, 1997. – С. 3–14.
2. Голубеў, В. Вялікая аграрная рэформа XVI ст. / В. Голубеў // Спадчына. – 1993 – № 4.
3. Уланов, В.Я. Волочная помера и устава и ее значение в истории литовско-русского государства / В. Уланов; Под ред. Е. Анищенко. – Минск, 2005.
4. Цітоў, А. Вольныя беларускія месты (самакіраванне ў нашых гарадох XIV–XVIII стст.) / А. Цітоў. – Мінск: БРФП ДР, 1996. – 36 с.
5. Цітоў, А. Гарадская геральдыка Беларусі / А. Цітоў. – Мінск: “Полымя”, 1989. – 207 с.
6. Цітоў, А. Менск – места майстроў. Рамесныя цэхі XVI–XVIII стст. / А. Цітоў. – Мінск: Беларусь, 2002. – 110 с.
7. Цітоў, А.К. Геральдыка Беларусі: ад пачаткаў – да канца XX ст. / А.К. Цітоў. – Мінск: Мінская фабрыка каляровага друку, 2007. – 123 с.


***Вызначальныя паняцці****: дзякла, мезлева, паншчына, чынш, “валочная памера”, мяшчане, магдэбургскае права, магістрат, войт, рада, лава, ратуша, бурмістр, мястэчка, гаспадарскія двары, рамесны цэх, майстар, падмайстар, вучань, промыслы, юрыдык, госці, перакупнік, прасол, партач, шэдэўр.*

**Развіццё сельскай гаспадаркі.** У другой палове XIII – першай палове XVI стст. працягвалася развіццё феадальных адносін. Асновай эканамічнага жыцця краіны заставалася сельская гаспадарка. У гэты час на Беларусі ўсё больш актыўна ўжывалася трохпольная сістэма севазвароту, удасканальваліся прылады працы, што, несумненна, спрыяла павышэнню ўраджайнасці. Вялікую ролю адыгрывалі жывёлагадоўля і лясная гаспадарка. Паэт першай паловы XVI ст. Мікола Гусоўскі называў лес сапраўдным скарбам. Тут здабывалі драўніну, смалу, дзёгаць, палявалі, займаліся бортніцтвам. Каля лесу пасвіліся статкі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што дзічына складала важную частку паўсядзённай ежы тагачасных жыхароў Беларусі. Нездарма ўлады імкнуліся зберагчы лес. Так, яшчэ вялікія князі Ягайла і Вітаўт надалі Белавежскай пушчы запаведны статус.

Вярхоўным уласнікам зямель лічыўся вялікі князь. У канцы XIV ст. з пашырэннем межаў дзяржавы і ліквідацыі буйных удзельных княстваў дзяржаўныя землі значна павялічыліся. Аднак у XV–XVI стст. вялікая колькасць зямель была перададзена феадалам за службу. Буйныя ўгоддзі атрымала таксама царква. Вялікі князь мог даць землі ў часовае карыстанне (“да волі і ласкі гаспадарскай”, “да жывата”), на вечнасць ці перадаць у залог. У 1528 г. магнатам належала 46,4 % зямельных уладанняў. Дробная шляхта карысталася зямлёй на правах лена: калі шляхціц адмаўляўся ад службы, ён губляў свой надзел. Статуты 1529 і 1566 гг. гарантавалі перадачу зямлі не толькі мужчынам, але і жанчынам.

Дзяржава і феадалы жылі за кошт эксплуатацыі сялян. Сялянскі двор (дым) з’яўляўся падаткавай адзінкай у ВКЛ. Дзяржаўныя ці прыватныя землі перадаваліся ў карыстанне сялянскай абшчыне. Яна ж размяркоўвала яе паміж дымамі. За карыстанне зямлёй сяляне выконвалі розныя абавязкі. Адным з іх была даніна прадуктамі земляробства, жывёлагадоўлі і лясной гаспадаркі (дзякла і мезлева). У XV–XVI стст. галоўнай формай эксплуатацыі стала паншчына. Яна складалася з працы сялян на панскім жніве, сенакосах, узворванні зямлі (гвалты, згоны, талокі), рамонту і будаўніцтва дарог і мастоў (шараваркі), перавозу грузаў (падводная павіннасць), працы ў лесе, рыбных ловах і г. д. У тых мясцовасцях, дзе шпаркімі тэмпамі развівалася грашовая гаспадарка, існаваў і грашовы падатак – чынш. Звычайна яго плацілі з адной гаспадаркі (дыма), але акрамя падымнага падатку існавалі і іншыя – рыбны (за лоў рыбы), гіберна і рэйтаршчына (на ўтрыманне войска феадала), угайны (за карыстанне ляснымі ўгоддзямі) і г. д.






Доўгі час сяляне падзяляліся на чэлядзь нявольную (фактычна рабоў), людзей пахожых (асабіста вольных) і непахожых (асабіста залежных ад уласніка зямлі). Большасць сялян належала да людзей пахожых. Аднак к XVI ст. амаль усе яны трапілі ў прыгон.

**Аграрная рэформа сярэдзіны XVI ст.** У XVI ст. з развіццём у Заходняй Еўропе рынкавых адносін і спецыялізацыі міжнароднага гандлю павялічыўся кошт збожжа. Вырошчванне жыта і пшаніцы ў больш развітых краінах не давала такіх вялікіх прыбыткаў, як, напрыклад, авечкагадоўля ці льнаводства. Да таго ж вырошчванне гэтых культур было надзвычай працаёмкае. Заходняя эканоміка патрабавала рабочых рук у іншых галінах дзейнасці – рамястве, пачатковай прамысловасці, здабычы карысных выкапняў і г.д. Таму купцы з Італіі, Англіі, Нідэрландаў і Паўночнай Германіі аддавалі перавагу збожжу з Усходняй Еўропы. Дзяржава, якой патрабаваліся фінансавыя сродкі для вядзення вайны, ды і самі феадалы ВКЛ імкнуліся скарыстаць дадзеную сітуацыю ў сваіх мэтах.

У 1557 г. па прапанове маці Жыгімонта II Аўгуста, вялікай княгіні Боны была праведзена аграрная рэформа – валочная памера. Усе землі, на якіх праходзіла памера, падзяляліся на роўныя надзелы – валокі (прыкладна 21,36 га). З трэцяй часткі валок складаўся фальварак – комплексная панская гаспадарка, прадукцыя якой была разлічана на рынак. Астатнія валокі перадаваліся дымам і падзяляліся на цяглыя і асадныя. Цяглыя сяляне павінны былі адпрацоўваць у фальварку паншчыну, асадныя ж у асноўным выплочвалі чынш. Былая чэлядзь нявольная атрымоўвала невялікія кавалкі зямлі (3 моргі) і ператваралася ў агароднікаў. У выніку рэформы на землях, дзе яна праводзілася, была ліквідавана сялянская абшчына. Сяляне станавіліся прыгоннымі.

Спачатку памера адбывалася на дзяржаўных землях, але імклівы рост прыбытковасці фальваркаў вымусіў царкву і феадалаў правесці яе і ў сваіх уладаннях. Толькі на ўсходзе і поўначы Беларусі, дзе ішла вайна, прыйшлося абмежавацца пераводам сялян на чынш. Сялянская абшчына ў гэтых землях захавалася. Канчаткова запрыгоньванне сялян завяршыў Статут 1588 г.

Прычынамі запрыгоньвання сялян на Беларусі былі: 1) пашырэнне феадальнага землекарыстання; 2) імкненне феадалаў павысіць прыбытковасць сваіх гаспадарак шляхам эксплуатацыі таннай рабочай сілы; 3) спецыялізацыя эканомікі ВКЛ у сусветным гандлі на вытворчасці працаёмкай зерневай прадукцыі.

**Гарады – цэнтры рамяства і гандлю.** Разам з сельскай гаспадаркай шпаркімі тэмпамі развіваліся рамяство і гандаль. Іх цэнтрамі сталі гарады і мястэчкі (паселішчы гарадскога тыпу). Падзяляліся гарадскія паселішчы на дзяржаўныя, прыватнаўласніцкія і царкоўныя. Самымі буйнымі з іх былі Вільня, Полацк, Магілёў, Смаленск, Мсціслаў, Віцебск, Слуцк, Бярэсце і інш. Так, Магілёў упершыню ўзгадваецца ў канцы XIV ст. Ужо ў XVI ст. ён займаў адно з першых месцаў па колькасці насельніцтва пасля Вільні. Сама сталіца ВКЛ уяўляла сабой буйную метраполію. Акрамя выхадцаў з беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель тут жылі немцы, яўрэі, палякі, венгры і інш. Сярод іншых гарадоў вылучаўся Полацк. Гэта быў важны гандлёвы цэнтр і порт на рацэ Заходняя Дзвіна.

Актыўнае развіццё рамяства прывяло да таго, што толькі ў металаапрацоўцы вылучылася больш за 20 спецыяльнасцей. Славіліся сваім майстэрствам беларускія ювеліры, ткачы, цесляры, будаўнікі, збройнікі. У іншыя краіны з ВКЛ вывозілі збожжа, прадукцыю лясной гаспадаркі, лён, пяньку, попел і інш. Значную ролю адыгрываў рээкспарт. Напрыклад, полацкія купцы куплялі больш таннае збожжа і воск у Ноўгарадзе і Маскве, каб з выгадай перапрадаць яго гандлярам з Рыгі. У ВКЛ увозілі металічныя вырабы, тканіны, соль, селядцоў, коней і г. д. Грашова-фінансавая сістэма ВКЛ была нават больш стабільнай, чым у суседзяў.

**Рамесныя цэхі.** Большасць гарадскіх жыхароў складалі беларусы (80 %), але жылі тут таксама яўрэі, татары, немцы, рускія, палякі, нават шатландцы. У XV – XVI стст. для абароны сваіх інтарэсаў рамеснікі і гандляры пачалі ствараць прафесійныя арганізацыі – старасты і цэхі. У іх уваходзілі майстры толькі адной спецыяльнасці і аднаго веравызнання. Яны выбіралі старасту ці цэхмайстра. Усе пытанні майстры вырашалі разам. У цэхі ўваходзілі таксама падмайстры (чаляднікі) і вучні, аднак



іх правы былі абмежаваныя. Цэхі мелі свае сімвалы, скарб, сцяг, барабан. Падчас гарадскіх парадаў іх чальцы маршыравалі разам, а падчас абароны горада складалі асобныя атрады. Цэхі дапамагалі ўдовам і сіротам, праводзілі сумесныя святы. Рамеснікі, якія не ўваходзілі ў цэх, зваліся партачамі. Звычайна гэта былі сяляне, што перабіраліся ў горад з вёскі. З імі чальцы цэхаў вялі бязлітасную барацьбу. Па ўзоры рамесніцкіх цэхаў купцы і гандляры стваралі гільдыі і брацтвы.

**Магдэбургскае права.** Імкнучыся пазбавіцца феадальнай залежнасці, жыхары гарадоў і мястэчак змагаліся за атрыманне магдэбургскага права (права на самакіраванне). Населеныя пункты, якія карысталіся такім правам, замест шматлікіх абавязкаў выплачвалі адзіны грашовы падатак, мелі сваё грамадзянства, герб і нават суд (лаву). Іх жыхары складалі асобнае саслоўе мяшчан. Мяшчане выбіралі раду ці магістрат, якія займаліся зборам падаткаў, судовымі справамі, сачылі за парадкам. Улада выбарных органаў абмяжоўвалася войтам, які прызначаўся вялікім князем або феадалам. Часам феадалы самі набывалі надзелы ў горадзе – юрыдыкі, на тэрыторыю якіх гарадское права не распаўсюджвалася. Першым горадам ВКЛ, які набывае магдэбургскае права, была Вільня (1387). У 1390 г. яно распаўсюдзілася на Брэст, у 1391 – на Гродна, у 1498 – на Полацк, у 1499 – на Мінск, у 1597 – на Віцебск і г.д.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Што сабой уяўляла сістэма землекарыстання ў ВКЛ?*

*2. Як змянілася становішча сялян у другой палове XIII – першай палове XVI стст.? 3. Назавіце асноўныя прычыны і наступствы правядзення валочнай памеры. 4. Якую ролю адыгрывалі гарады ў эканамічным жыцці ВКЛ? 5. Што такое магдэбургскае права? Як яно ўплывала на жыццё гарадскога насельніцтва?*

## Культура беларускіх зямель другой паловы XIII – першай паловы XVI ст.

***Літаратура***

1. Габрусь, Т.В. Саборы помняць ўсё: готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі / Т.В. Габрусь. – Мінск: Беларусь, 2007. – 165 с.

2. Гринблат, М. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории / М. Гринблат. – Минск: Наука и техника, 1968. – 278 с.

3. Жывапіс Беларусі XII - XVIII стагоддзяў: Фрэска, абраз, партрэт / Аўт. уступ. тэксту Н.Ф. Высоцкая. – Мінск: Беларусь, 1980. – 316 с.

4. Кушнярэвіч А. Храмы-кастэлі Вялікага княства Літоўскага / А.М. Кушнярэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – № 2. – С. 26–37.

5. Кушнярэвіч, А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст.: Гістарычнае і архітэктурна-археалагічнае даследаванне / А.М. Кушнярэвіч; навук. рэд. Г.В. Штыхаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 148 с.

6. Пилипенко, М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция / М.Ф. Пилипенко. – Минск: Беларусь, 1991. – 143 с.

7. Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока / І. Саверчанка. – Мінск: Тэхналогія, 1998. – 319 с.

8. Скарына, Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоўі, акафісты, пасхалія / Ф. Скарына; уступ. арт., падр. тэкстаў, камент., слоўн. А.Ф. Коршунава. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 206 с.

9. Ткачоў, М.А. Замкі і людзі / М.А. Ткачоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 184 с.

10. Франциск Скорина и его время: энцикл. справочник / Белорус. сов. энциклопедия; Редкол. И.П. Шамякин (гл. ред.) [и др.]. – Минск: БелСЭ, 1990. – 631 с.

11. Ходзін, С. Летапісанне на Беларусі / С. Ходзін // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – №2. – С. 81–94.

12. Юхо, Я. Гістарычныя карані назвы Беларусь / Я. Юхо // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 39.

***Вызначальныя паняцці:*** *этнас, этнічная самасвядомасць, этнічная тэрыторыя, "Белая Русь", народнасць, перакладная літаратура, Адраджэнне (Рэнесанс), гуманізм, рацыяналізм, антрапацэнтрызм, палігістэрыя, эклектыка, ратуша, панегірык, беларуская готыка, рэнесанс, парсуна, вітраж.*

**Фарміраванне беларускай народнасці.** Падчас уваходжання беларускіх зямель у склад ВКЛ паступова фарміруецца адзіная беларуская народнасць. Народнасцю называецца моўная, тэрытарыяльная, эканамічная і культурная супольнасць людзей, пераважна рабаўладальніцкай ці феадальнай эпохі, для якой характэрна сумеснае пражыванне на адпаведнай тэрыторыі, адноснае адзінства гаспадаркі, мовы, культуры, а таксама этнічная самасвядомасць.

Асновай беларускай народнасці сталі славянскія племянныя саюзы крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і часткова валынян, якія ў сваю



чаргу ўвабралі многія элементы культуры папярэдняга фінскага і балцкага насельніцтва. Прычым асіміляцыя балцкіх (асабліва літоўскіх) элементаў працягвалася да XIX ст. З утварэннем ВКЛ ўсе часткі будучага беларускага этнасу ўпершыню апынуліся ў межах адзінай дзяржавы, што спрыяла іх далейшай моўнай, культурнай, эканамічнай кансалідацыі, а таксама ўзнікненню агульнай самасвядомасці. Акрамя таго, важнымі фактарамі фарміравання беларускай народнасці стала кансалідацыя нешматлікіх катэгорый насельніцтва ў сацыяльныя групы з агульнымі правамі і абавязкамі (напрыклад, мяшчане), умацаванне эканамічных сувязей, развіццё ўнутранага рынку, працэс цэнтралізацыі ВКЛ, неабходнасць барацьбы са знешнім ворагам.

У XIV–XVI стст. на жыхароў сучаснай тэрыторыі Беларусі распаўсюджваліся назвы "ліцвіны" (пераважна жыхары Заходняй Беларусі і Усходняй Літвы) і "русіны" (жыхары Усходняй Беларусі і Смаленшчыны). Назва "Белая Русь" упершыню згадваецца ў XII ст., але толькі ў XIII ст. яна ўжываецца ў дачыненні да ўсходняй часткі Беларусі і Пскоўшчыны.

**Развіццё мовы і літаратуры.** Да сярэдзіны XVI ст. фарміруецца старабеларуская літаратурна-пісьмовая мова, якая істотна адрозніваецца ад старaславянскай сваімі арфаграфічнымі і нават лексічнымі рысамі. Пры Альгерду яна становіцца агульнадзяржаўнай (да 1696 г.), на ёй напісаны не толькі літаратурныя, але і найважнейшыя дзяржаўныя дакументы (Судзебнік 1468 г., першыя вайсковыя статуты (30-я гг. XVI ст.), Статуты ВКЛ (1529 г., 1566 г., 1588 г. і інш.). Гэта мова дзяржаўнага справаводства, а таксама зносін паміж рознымі этнічнымі групамі насельніцтва ВКЛ.

З XV–XVI стст. характэрнае для гутарковай беларускай мовы "дзэканне", "цэканне", "аканне", цвёрдае вымаўленне "р" пачынаюць пранікаць і ў афіцыйныя дакументы і ўплываць на фарміраванне беларускай літаратурнай мовы.

Станаўленне старабеларускай літаратуры непасрэдна звязана з этнічнымі працэсамі, што адбываліся ў ВКЛ. У XIII – XVI стст. значную ролю на беларускіх землях пачынае адыгрываць рукапісная кніга, пераважна царкоўнага характару (пергаментныя Аршанскае, Мсціслаўскае, Лаўрышаўскае, Жыровіцкае евангеллі). У беларускай літаратуры месца былін займае новы эпічны жанр – гістарычныя песні, прысвечаныя барацьбе насельніцтва з іншаземнымі захопнікамі. У XV ст. з'яўляецца новы жанр – перакладная літаратура як свецкага ("Александрыя", "Троя"), так і царкоўнага характару ("Аповесць пра трох каралёў", "Трыстан і Ізольда", "Аповесць пра Бову" і г. д.). Яе існаванне – яркае сведчанне

цесных культурных стасункаў ВКЛ з іншымі краінамі. XV ст. адзначаецца ростам бібліятэчнай справы: на беларускіх землях ствараюцца буйныя прыватныя і царкоўныя кнігасховішчы. Рукапісныя кнігі ў іх адзначаюцца адмысловым афармленнем.

Яркім прадстаўніком жанру царкоўнай аратарскай прозы на беларускіх землях стаў Рыгор Цамбалак, выбраны ў 1415 г. навагрудскім мітрапалітам. Значнае месца ў літаратуры XV – пачатку XVI ст. належыць летапіснаму жанру. Сярод беларуска-літоўскіх летапісаў агульнадзяржаўнага характару варта адзначыць “Летапісец вялікіх князёў Літоўскіх” (каля 1430 г.), “Беларуска-Літоўскі летапіс 1446 г.”, якія падтрымлівалі цэнтралізатарскую палітыку вялікіх князёў. Складанай часткай апошняга з’яўляецца “Пахвала Вітаўту” – яркі ўзор панегірычнай літаратуры свайго часу. Найбольш поўна асноўныя падзеі палітычнай гісторыі ВКЛ (як легендарныя, так і рэчаісныя) да пачатку XVI ст. выкладзены ў “Хроніцы Быхаўца”. У другой палове XVI ст. летапісны жанр саступае першынство іншым накірункам літаратуры.

**Эпоха Адраджэння на Беларусі.** У XIV–XV стст. у Заходняй Еўропе пачынае фарміравацца культура новага тыпу, дзе на першае месца выходзіць праблема зямнога прызначэння чалавека. Аснову гуманістычнай ідэалогіі складалі прынцыпы натуралізму, самастойнасці чалавека, абсалютнай духоўнай незалежнасці. Прадстаўнікі новай культуры называлі сваю эпоху Адраджэннем (Рэнесансам). У ВКЛ у канцы XV ст. таксама пачынаюць з’яўляцца тэндэнцыі новага тыпу культуры, жыцця і светапогляду. Яны былі падрыхтаваны больш высокім узроўнем эканамічнага жыцця, пашырэннем кантактаў з Заходняй Еўропай, палітычнай цэнтралізацыяй, дзяржаўна-прававой стабілізацыяй грамадства.

Аднак Адраджэнне на беларускіх землях мела і свае адметныя рысы. Перш за ўсё трэба адзначыць, што сацыяльнай апорай новай ідэалогіі было шляхецкае саслоўе, а не буржуазія, як у развітых краінах Еўропы; да таго ж у эканоміцы княства не сфарміраваліся раннекапіталістычныя адносіны. Распаўсюджванне рэнесансных ідэй замаруджвалася таксама моцным супрацьстаяннем з боку каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Не трэба таксама забывацца, што духоўная культура беларускай народнасці мастваралася ў межах рознанацыянальнай і рознаканфесійнай дзяржавы – ВКЛ, а потым Рэчы Паспалітай.

Самым славутым прадстаўніком беларускай культуры эпохі Адраджэння стаў пачынальнік усходнеславянскага кнігадрукавання доктар Францішак Скарына з Полацка (каля 1490 – каля 1551). Сапраўдны патрыёт, гуманіст, які бачыў выратаванне грамадства ў асвеце і маральным



удасканальванні людзей, у Бібліі Скарына бачыў перш за ўсё крыніцу свецкіх ведаў. Таму менавіта Святое пісанне ён перакладаў на родную мову. Скарына стаў заснавальнікам жанру прадмоў, у якіх выказваўся наватарскі погляд на розныя сферы жыцця. Усяго ў Празе і Вільні Скарына надрукаваў 42 кнігі Бібліі. Яго дзейнасць дала моцны штуршок кнігавыдавецкай справе на ўсходнеславянскіх землях.

Паэтам-гуманістам еўрапейскага маштабу можна назваць Міколу Гусоўскага (1470? – каля 1533). Сярод дзесятка вершаў і яго трох паэм асаблівае месца займае напісаная ў 1522 г. ў Рыме на лацінскай мове “Песня пра зубра”, у якой паэт уславіў родную прыроду, свабоднага чалавека і асудзіў войны.

**Дойлідства.** У рэчышчы культурна-гістарычных працэсаў, што адбываліся ў ВКЛ у XIV–XVI стст., развівалася беларускае дойлідства. Значны ўплыў на яго аказалі заходнееўрапейская каталіцкая і візантыйская праваслаўная традыцыі. Таму для гэтага перыяду характэрна эклектыка – спалучэнне розных стыляў. У сярэдзіне – другой палове XIV ст. значны ўплыў на архітэктуру аказала готыка. Гэты стыль характарызуецца ўзнёслымі формамі, ажурнымі вежамі, спецыяльнай канструкцыяй сцен, вітражамі, вузкімі стральчатымі парталамі, багатым знешнім і ўнутраным дэкорам. Сярод культавых збудаванняў гатычныя рысы найбольш яскрава праступаюць у Траецкім касцёле (в. Ішкаладзь, Баранавіцкі раён), у касцёле в. Усялюб Гродзенскай вобласці.

Вызначальнай асаблівасцю архітэктуры Беларусі ў гэты перыяд з’яўляўся яе абарончы характар. Будаваліся невялікія адна- і двухвежавыя замкі-кастэлі (у Лідзе, Крэве), а таксама шматвежавыя мураваныя замкі (у Навагрудку, Гародні, Міры). Да нашых часоў захаваліся інкастэляваныя цэрквы-крэпасці канца XV – пачатку XVI ст. ў Малым Мажэйкаве Лідскага і Сынкавічах Зэльвенскага раёнаў. Іх адметнай рысай з’яўляецца кампактнасць аб’ёму, высокі дах, вежы з байніцамі, дакладны ўнутраны падзел на культавую і фартыфікацыйную часткі. З прыходам на беларускія землі магдэбургскага права цэнтральныя плошчы гарадоў пачалі дапаўняць ратушы. Гатычны стыль гэтага перыяду спалучаўся з элементамі рэнесансу. Ужывалася тэхніка лускаватай і паласатай муроўкі.

**Выяўленчае мастацтва.** У XIV – XVI стст. у выяўленчым мастацтве ВКЛ асаблівую ролю адыгрывае іканапіс. Сярод найбольш распаўсюджаных – выявы Багародзіцы. Пачынае фарміравацца мясцовая школа жывапісу. Не ўдалося пакуль знайсці помнікаў манументальнага і партрэтнага жывапісу, але пісьмовыя крыніцы гэтага перыяду сведчаць аб высокім узроўні яго развіцця. З’яўлялася і скульптура, пераважна драўляная, якая амаль не захавалася да нашых дзён. У XV– XVI стст.

існавалі цэхі майстроў, што распісвалі храмы. У XVI ст. з'яўляецца свецкі жывапіс (партрэты-парсуны, пахавальны, сармацкі партрэты). Характэрная рыса беларускага арнаменту, якім аздабляліся рукапісныя кнігі, – спалучэнне расліннага, жывёльнага і фігурнага ўзораў.

Такім чынам, у XIV–XVI стст. даволі паспяхова ідзе працэс фарміравання нацыянальнай беларускай культуры, якая, абапіраючыся на ўласныя традыцыі, спалучала ў сабе галоўныя тэндэнцыі Захаду і Усходу.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Якія фактары садзейнічалі працэсу ўтварэння беларускай народнасці? 2. Як ішоў працэс фарміравання беларускай мовы? 3. Які перыяд атрымаў назву "залатога веку" беларускай культуры? Чаму? 4. Падкрэсліце вызначальныя рысы беларускага дойлідства эпохі ВКЛ.*

## Люблінская унія. Вялікае княства Літоўскае ў складзе Рэчы Паспалітай (другая палова XVI – канец XVIII ст.)

***Літаратура***


1. Галубовіч, В.У. Палітычная сістэма Вялікага княства Літоўскага ў 1588–1648 гг. / В.У. Галубовіч // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – № 3. – С. 26–33.
2. Дземідовіч, А.В. Узаемадачыненні Вялікага княства Літоўскага з Расійскай дзяржавай (першая трэць XVII ст.) / А.В. Дземідовіч // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2008. – № 3. – С. 3–7.
3. Лойка, П.А. Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI – першай трэці XVII ст. / П.А. Лойка. – Мінск: БДУ, 2002. – 98 с.
4. Мацук, А. Узмацненне канфлікту паміж магнацкімі родамі Сапегаў і Радзівілаў і канчатковае афармленне антырадзівілаўскай кааліцыі / А. Мацук // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 10. – С. 31.
5. Падалінскі, У. Шляхта ВКЛ і вальны сойм Рэчы Паспалітай 1570 года / У. Падалінскі // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 50.
6. Русаў, П. Шляхецкія звады ў XVI–XVII стст. / П. Русаў / Беларус. гіст. часоп. – 2004. – №3. – С. 48.
7. Саверчанка, І. Канцлер Вялікага Княства: Леў Сапега / І. Саверчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 63 с.




***Вызначальныя паняцці****: Рэч Паспалітая, сойм, сенат, пасольская ізба, статут, Галоўны Трыбунал ВКЛ, элекцыя, канфедэрацыя, рокаш, liberum veto, "nihil novi".*

**Люблінская унія.** З канца XV ст. ВКЛ было вымушана весці цяжкія войны супраць Маскоўскай дзяржавы, якая прэтэндавала на ўсходнія землі ВКЛ. У выніку войнаў 1492–1494, 1500–1503, 1507 – 1508, 1512–1522, 1534–1537 гг. ВКЛ страціла частку сваіх тэрыторый.

8 верасня 1514 г. каля Оршы войскі ВКЛ на чале гетмана К. Астрожскага ўшчэнт разбілі значна большыя па колькасці войскі Маскоўскай дзяржавы, але поўнасцю скарыстаць вынікі перамогі вялікі князь не здолеў. У 1558–1583 гг. адбылася яшчэ больш маштабная Лівонская вайна. У 1558 г. войскі цара Івана IV Грознага рушылі на Лівонію. Лівонскі ордэн і Рыжскае арцыбіскупства былі вымушаны звярнуцца за дапамогай да ВКЛ і прызнаць яго пратэктарат. У адказ у 1563 г. Іван IV захапіў Полацк. Войска ВКЛ, большая частка якога змагалася ў Лівоніі, апынулася ў цяжкім становішчы. Польшча не спяшалася з дапамогай, намагаючыся поўнай інкарпарацыі ВКЛ.

Ужо ў 1562–1563 гг. мясцовыя шляхецкія соймы звярталіся з патрабаваннем новай уніі з Польшчай. Аднак буйныя магнаты справядліва апасаліся за свае правы і высоўвалі праекты, не прымальныя для польскага боку. Тым не менш 10 студзеня 1569 г. ў Любліне (Польшча) пачаў працу агульны сойм ВКЛ і Кароны Польскай. Не задаволеная яго ходам дэлегацыя ВКЛ у лютым пакінула Люблін. Кароль быў вымушаны асобнымі актамі далучыць да Польшчы Падляшша і амаль усю тэрыторыю Украіны. Магчымасцей весці вайну яшчэ і з Польшчай у ВКЛ не было. Таму ўлетку 1569 г. дэлегацыя ВКЛ зноў наведала Люблін і падпісала дамову аб уніі.

Паводле дамовы 1 ліпеня 1569 г. стваралася федэратыўная дзяржава "абодвух народаў" – Рэч Паспалітая. На чале яе стаяў кароль (ён жа вялікі князь). Кароль выбіраўся пажыццёва шляхтай. Ён мог быць толькі каталікам. Ствараўся агульны вальны сойм, які складаўся з сената (туды ўваходзілі буйныя магнаты, каталіцкія іерархі і прадстаўнікі караля) і дзвюх пасольскіх ізбаў, у якія павятовыя соймікі накіроўвалі па два сваіх прадстаўнікі. Мяшчане, сяляне, праваслаўныя і пратэстанцкія святары прадстаўніцтва ў сойме не мелі. У астатнім абедзве дзяржавы захоўвалі суверэнітэт: асобныя ўрады, войскі, мытні, скарбы, манетныя сістэмы, дзяржаўныя мовы і г. д.

Ніжэй прыведзена схема сістэмы кіравання ў Рэчы Паспалітай:




Заключэнне Люблінскай уніі дазволіла ВКЛ атрымаць перамогу ў Лівонскай вайне. Рэч Паспалітая была больш моцным утварэннем, і суседнім дзяржавам прыходзілася з ёй лічыцца. Аднак страта значных тэрыторый, памяншэнне правоў некаталіцкага насельніцтва, умяшальніцтва польскага боку ў справы ВКЛ выклікалі незадаволенасць сярод шырокіх колаў Вялікага княства. Барацьбу супраць уніі ўзначаліў канцлер Леў Сапега (1557–1633). Дзякуючы яго намаганням, у 1582 г. пачаў дзейнічаць Трыбунал ВКЛ, які абмежаваў судовую ўладу караля на землях ВКЛ. Насуперак рашэнням Люблінскай уніі ў ВКЛ працягвалі збірацца асобныя з'езды мясцовай шляхты. З 1673 г. кожны трэці каронны сойм пачаў збірацца на тэрыторыі ВКЛ, у Гродне. У 1588 г. пачаў дзейнічаць новы Статут, дзе унія з Польшчай нават не ўзгадвалася, а межы ВКЛ абвяшчаліся недатыкальнымі. Польскай шляхце забаранялася набываць маёнткі і пасады ў ВКЛ. Разам з тым Статут 1588 г. скончыў кадыфікацыю законаў Вялікага княства Літоўскага.

**"Залатыя шляхецкія вольнасці".** Карыстаючыся сваім прывілеяваным становішчам, у другой палове XVI–XVIII ст. шляхта здолела значна пашырыць свае правы. Так званыя кардынальныя правы шляхты ўключалі ў сябе асабістую недатыкальнасць, неабмежаваную вотчынную ўладу, магчымасць удзелу ў выбранні караля (элекцыі) і працы сойму, вызвалялі ад большасці падаткаў. Гарантам "залатых вольнасцей" лічыўся сам кароль. Калі ён не выконваў сваіх абавязкаў, шляхта мела права ствараць ваенна-палітычныя саюзы – канфедэрацыі і абвяшчаць каралю вайну – рокаш. Асабліва неспрыяльным для дзяржаўнай сістэмы было права *liberum veto*, паводле якога ўсе рашэнні сойма павінны былі прымацца аднагалосна. У выніку многія соймы проста зрываліся.

Адным з галоўных вынікаў эканамічных, палітычных і рэлігійных пераўтварэнняў у Рэчы Паспалітай было фарміраванне саслоўнага грамадства. Саслоўямі называюць буйныя групы насельніцтва, якія паводле законаў або традыцый маюць пэўныя прывілегіі і абавязкі. Як і ў краінах Заходняй Еўропы, на беларускіх землях існаваў наступны падзел:




Як ужо казалася вышэй, шляхта лічылася пануючым саслоўем, якое валодала найбольш значнымі правамі. Нават самы бедны шляхціч па сваім статусе быў вышэйшым за багатага мешчаніна і тым больш селяніна. Саслоўі мяшчан і сялян лічыліся падданымі, аднак менавіта іх прадстаўнікі складалі абсалютна большую частку насельніцтва дзяржавы. Святарскае саслоўе не атрымала юрыдычнага афармлення, таму ў немалой ступені садзейнічала наяўнасць некалькіх канфесій. Прадстаўнікі рымска-каталіцкай царквы, як шляхта, так і святары, мелі ў Рэчы Паспалітай больш прывілегій, чым астатнія. Тым не менш, і каталіцкая, і праваслаўная цэрквы былі буйнымі феадаламі. Стан святарскага саслоўя фактычна набліжаўся да стану шляхецкага саслоўя. Усе прывілеяваныя саслоўі (у тым ліку мяшчане) мелі карпарацыйны характар. Прыналежнасць да іх рэгламентавалася шматлікімі нормамі і звычайна перадавалася па спадчыне ад бацькі да сына. З цягам часу кожнае саслоўе набывала асабістыя сацыяльныя і культурныя традыцыі. Пераход з аднаго саслоўя ў іншае быў магчымым, хаця на заканадаўчым узроўні ўсяляк абмяжоўваўся.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Назавіце асноўныя прычыны Люблінскай уніі паміж ВКЛ і Польшчай. 2. Што сабой уяўляла Рэч Паспалітая як дзяржава? 3. Чаму дамова аб Люблінскай уніі выклікала незадаволенасць магнатаў і некаталіцкай шляхты ВКЛ? 4. Як пашыраліся правы шляхты Рэчы Паспалітай?*

## Рэлігія і царква на беларускіх землях у XVI ст.

***Літаратура***

1. Блинова, Т.Б. Иезуиты в Беларуси. Роль иезуитов в организации образования и просвещения / Т.Б. Блинова. – Гродно: [ГрГУ], 2002. – 427 с.

2. Іванова, Л. Рэфармацыйны рух на Беларусі (другая палова XVI – першая палова XVII стст.) / Л.С. Іванова // Беларус. гіст. часоп. – 1997 – №2. – С. 54–72.

3. Іванова, Л.С. Рэфармацыя на Беларусі ў другой палове XVI – першай палове XVII стст. / Л.С. Іванова //Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 73 – 83.

4. Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады) / С.В. Марозава; пад навук. рэд. У.М. Конана. – Гродна: Гродз. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, 2001. – 352 с.

5. Падокшын, С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). 2-е выд. / С.А. Падокшын. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 111 с.

6. Подокшин, С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.) / С.А. Подокшин. – Минск: Наука и техника, 1970. – 224 с.

7. Саверчанка, І. Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі / І. Саверчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – 65 с.

8. Саверчанка, І. Брэсцкая царкоўная унія 1596 года: гістарычныя перадумовы і абставіны падпісання / І. Саверчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 12. – С. 23.

***Вызначальныя паняцці:*** *Рэфармацыя, пратэстантызм, лютэранства, кальвінізм, антытрынітарызм (арыянства), збор, Контррэфармацыя, езуіты, барока, уніяцтва, базыльяне.*



**Рэфармацыя на Беларусі.** XVI – XVII стст. сталі часам не толькі палітычных, але і сацыяльных і рэлігійных зменаў, якія ахапілі значныя колы грамадства не толькі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, але і іншых краін. У канцы XV – пачатку XVI ст. рымская каталіцкая царква ў Заходняй Еўропе ўступіла ў паласу працяглага крызісу, вынікам якога стаў другі вялікі раскол у хрысціянстве (першы адбыўся ў 1054 г. як афіцыйны падзел хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную) – Рэфармацыя. Ідэолагамі першай хвалі еўрапейскай Рэфармацыі сталі Марцін Лютэр, Жан Кальвін, Ульрых Цвінглі. Яны заклікалі веруючых да барацьбы са злоўжываннямі ў каталіцкай царкве, вяртання да ідэалаў першапачатковага хрысціянства. Гэты рух быў падтрыманы ў Еўропе найшырэйшымі коламі грамадства: ад збяднелых сялян да кіруючых колаў свецкай улады.

Моцны выбух на Захадзе не мог не аказаць пэўны ўплыў на рэлігійную сітуацыю ў ВКЛ. Афіцыйна пачаткам Рэфармацыі лічыцца заснаванне ў 1553 г. першай кальвінскай суполкі (збору) у Бярэсці. Лютэранства ў ВКЛ было распаўсюджана пераважна сярод гараджан іншаземнага паходжання, прычым значна раней: у 1535 г. упамінаецца аб заснаванні ў Слуцку з дазволу князя Юрыя Алелькавіча першага лютэранскага збору на беларускіх землях.

Шырокімі коламі насельніцтва на нашых землях быў падтрыманы кальвінізм. Ён вабіў людзей патрабаваннямі адмены царкоўных падаткаў і землеўладання, таннай царквой, суполкамі з самакіраваннем. Магнаты ў кальвінізме бачылі царкву, незалежную ад каталіцкай Польшчы і праваслаўнай Масковіі. Патронам кальвініскага руху на Беларусі стаў віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны (1515–1565). Ён ператварыў сваю рэзідэнцыю ў Нясвіжы ў цэнтр кальвінізму ў ВКЛ. Тут працавалі гімназія, друкарня, выдаваліся кнігі на старабеларускай і польскай мовах. Прыхільнікамі кальвінізму былі выдатныя дзеячы беларускай культуры Сымон Будны, Астафей Валовіч і Васіль Цяпінскі. Буйнейшымі цэнтрамі кальвінізму на беларускіх землях сталі Вільня, Брэст, Заслаўе, Навагрудак, Слуцк і іншыя гарады. Кальвіністы засноўвалі школы (у тым ліку для дзяўчынак), друкарні. Таленавітая моладзь на грошы мецэнатаў выязджала вучыцца ва універсітэты Заходняй Еўропы.

У 1562–1565 гг. на беларускіх землях з кальвінізму вылучаецца радыкальны накірунак – антытрынітарызм (арыянства), патронам якога стаў Ян Кішка. Яго прадстаўлялі дзве плыні: 1) радыкальная, плебейска-сялянская, прыхільнікі якой адмаўлялі многія хрысціянскія дагматы, выступалі супраць вярхоўнай улады і дзяржаўных устаноў, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту, за стварэнне бессаслоўнага грамадства; 2) памяркоўная, шляхецка-бюргерская. Арыянскія зборы не былі такімі

багатымі як кальвінісцкія, але і яны імкнуліся адчыняць школы і друкаваць кнігі. Найбольшага поспеху арыяне дасягнулі ў Навагрудскім і Брэсцкім ваяводствах. У Ашмянскім павеце, Заслаўі і Любчы былі заснаваны арыянскія друкарні. У арыянства перайшоў Сымон Будны. Гэты накірунак пратэстантызму вабіў многіх праваслаўных вернікаў. Акрамя таго, з'яўляліся блізкія да арыянства праваслаўныя ерасі. Так, у Полацку і Віцебску былі прыхільнікі збеглых з Расіі Феадосія Касога і папа Фамы.

Прывілей Жыгімонта II Аўгуста (1563) ураўноўваў пратэстантаў у правах з каталікамі. Акт Варшаўскай канфедэрацыі 1573 г. аб свабодзе веравызнання, тэкст якога ўвайшоў у Статут 1588 г., абвясціў рэлігійны мір у Рэчы Паспалітай. Але паступова з другой паловы XVI ст. колькасць пратэстантаў на беларускіх землях пачала змяншацца. Гэтаму спрыяла напужанасць многіх магнатаў узмацненнем антыфеадальных настрояў сярод простых вернікаў, а таксама супрацьдзеянне каталіцкай царквы, якая праводзіла палітыку контррэфармацыі.

**Контррэфармацыя на Беларусі.** Асноўную ролю ў контррэфармацыі на Беларусі, як і ва ўсёй Еўропе, адыгралі каталіцкія манаскія ордэны, асабліва ордэн езуітаў. У сваёй барацьбе з рэфармацыйнымі плынямі яго дзеячы галоўную ролю адводзілі ўсталяванню кантролю над навукай, літаратурай і мастацтвам, фарміраванню высокага ўзроўню адукацыі і выхаванню моладзі. У канцы 1569 г. па запрашэнні віленскага біскупа В. Пратасевіча езуіты з'явіліся ў Вільні. Манархі Рэчы Паспалітай, асабліва Стэфан Баторый (1576–1586), горача падтрымалі іх дзейнасць. У 1570 г. імі ў Вільні быў заснаваны калегіум,ператвораны ў 1579 г. ў акадэмію – першую вышэйшую навучальную ўстанову на тэрыторыі ВКЛ. Яе першым рэктарам стаў выдатны прамоўца і пісьменнік Пётр Скарга. Езуіцкая адукацыя адрознівалася высокім узроўнем, да таго ж яна была бясплатнай. Езуіцкі калегіум (а яны з цягам часу былі адкрыты ў Брэсце, Пінску, Наваградку, Гародні, Мінску, Віцебску, Слуцку, Магілёве і іншых гарадах; пры калегіумах працавалі друкарні і бібліятэкі) маглі наведваць дзеці, якія належалі да розных канфесій, але ў яго сценах яны рабіліся шчырымі прыхільнікамі каталіцызму. Езуіты кіравалі будаўніцтвам новых кляштароў і касцёлаў, займаліся дабрачыннасцю і аказвалі медыцынскую дапамогу насельніцтву (заснавалі першую на Беларусі аптэку ў Гародні). Свае красамоўныя пропаведзі яны часта прамаўлялі на беларускай мове, на ёй жа вялося выкладанне ў Полацкім калегіуме, перакладаліся свяшчэнныя кнігі. За пяць гадоў дзейнасці езуітаў толькі ў Вільні да каталіцызму вярнулася 6 тысяч чалавек.



**Уніяцтва.** Поспехі Рэфармацыі выклікалі заклапочанасць і сярод праваслаўных святароў. Але праваслаўная царква ВКЛ у той час знаходзілася ў заняпадзе. Таму дзеячы каталіцкага кліру, у першую чаргу П. Скарга і А. Пасевіна, выступілі за унію дзвюх хрысціянскіх цэркваў. На іх думку, гэта магло паспрыяць не толькі барацьбе з пратэстантамі, але і пашырэнню каталіцкага ўплыву ва ўсім свеце. Наогул, ідэі царкоўнай уніі ў Еўропе мелі даволі доўгую гісторыю: рабіліся неаднаразовыя захады да аднаўлення страчанага ў 1054 г. адзінства. У ВКЛ гэтаму ў немалой ступені садзейнічала геапалітычнае становішча паміж светам Захаду (Рым) і Усходу (Масква). Некалькі стагоддзяў на беларускіх землях суіснавалі праваслаўная і каталіцкая канфесіі, нярэдкай з'явай былі міжканфесійныя шлюбы. Прэстыж праваслаўнай царквы ў грамадстве ў гэты час падаў, што было звязана, з аднаго боку, з пракаталіцкай палітыкай вышэйшай улады, а з другога – з нізкім узроўнем адукацыі і маралі праваслаўнага духавенства. У 1589 г. была ўтворана незалежная ад Канстанцінопаля Маскоўская патрыярхія, якая хутка стала прэтэндаваць на ўладу над праваслаўным насельніцтвам ВКЛ, што магло пацягнуць за сабой і палітычную залежнасць ад Масквы. Многія праваслаўныя іерархі імкнуліся з дапамогай уніі атрымаць роўныя правы з вышэйшым каталіцкім духавенствам.

Ідэолагамі царкоўнай уніі з праваслаўнага боку сталі ўладзімірскі і брэсцкі епіскап Іпацій Пацей і брэсцкі епіскап Кірыла Тарлецкі. Унія была падпісана 8 кастрычніка 1596 г. на царкоўным саборы ў Брэсце кіеўскім мітрапалітам Міхаілам Рагозай. Па ўмовах пагаднення новая царква захоўвала праваслаўныя абрады, але было прынята каталіцкае веравучэнне, і на чале уніяцкай царквы стаў папа рымскі. Трэба асобна падкрэсліць, што на той час толькі ва уніяцкай царкве мовай набажэнства стала зразумелая простаму насельніцтву старабеларуская мова. Для ўмацавання пазіцый грэка-каталіцкай царквы ў 1617 г. на тэрыторыі ВКЛ быў створаны манаскі ордэн базыльян, які кіраваў школамі, друкарнямі і бібліятэкамі.

Прыняцце уніі выклікала незадаволенасць сярод значнай часткі праваслаўнага насельніцтва. Праціўнікі уніі правялі ў Брэсце антысабор і абвясцілі уніятам анафему. Многія магістраты адмаўляліся прымаць уніяцкіх святароў. Сваю незадаволенасць праваслаўныя дзеячы выкрывалі ў палемічнай літаратуры. Значную ролю ў развіцці культуры ў гэты час адыгрывалі таксама праваслаўныя брацтвы. Яны адкрывалі пачатковыя і сярэднія школы і друкарні (самая вядомая – братоў Мамонічаў у Вільні – выпусціла першыя кірылічныя прававыя выданні – "Трыбунал ВКЛ" (1586) і "Статут ВКЛ" (1588)). На працягу

XVI ст. брацтвы ўзніклі ва ўсіх буйных беларускіх гарадах. Для супрацьстаяння каталіцкай царкве 168 праваслаўных і пратэстанцкіх магнатаў у 1599 г. стварылі ў Вільні канфедэрацыю. У 1623 г. праваслаўныя вернікі Віцебска забілі апантанага прыхільніка уніі, полацкага арцыбіскупа Ясафата Кунцэвіча. Але на баку каталікоў і уніятаў стаялі ўлады Рэчы Паспалітай. На працягу XVII–XVIII стст. уніяцтва становіцца на Беларусі самым масавым веравызнаннем і ахоплівае да 80% сялянства, мяшчан, дробнай і сярэдняй шляхты. Увогуле ў канцы XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі склаўся наступны канфесійны малюнак:




Такім чынам, рэлігійны склад насельніцтва тагачасных беларускіх зямель быў надзвычай стракатым.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Якую ролю адыграла Рэфармацыя ў развіцці беларускага грамадства? 2. Назавіце спецыфічныя рысы Рэфармацыі на Беларусі. 3. Вызначце спосабы дзейнасці езуітаў у барацьбе з пратэстантызмам у ВКЛ. 4. Якія падзеі абумовілі заключэнне Брэсцкай царкоўнай уніі? 5. Прааналізуйце станоўчыя і адмоўныя бакі уніяцтва для беларускіх зямель.*



## Эканоміка і грамадства беларускіх зямель у другой палове XVI – канцы XVIII ст. Падзелы Рэчы Паспалітай

***Літаратура***

1. Аніпяркоў, В.В. Утварэнне і механізм дзеяння інстытутаў Таргавіцкай канфедэрацыі на беларускіх землях ВКЛ / В.В. Аніпяркоў // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2009. – № 3. – С. 12 – 17.

2. Голубеў, В. Крыніцы па гісторыі сельскай абшчыны ў Беларусі ў XVI–XVIII стст. / В. Голубеў // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 10. – С. 24.

3. Голубеў, В. Сельская грамада ў Беларусі XVI–XVIII стст. / В. Голубеў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 10. – С. 8.

4. Гужалоўскі, А. Войска ВКЛ: апошнія старонкі гісторыі / А. Гужалоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 1. – С. 48–52.

5. Казакоў, Л. Узнікненне і развіццё фальваркаў у шляхецкіх уладаннях у ВКЛ (другая палова XVI – першая палова XVII ст.) / Л. Казакоў // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – № 4. – С. 22–30.

6. Мялешка, В. І ўзняўся люд просты: Да 300-годдзя з дня нараджэння Васіля Вашчылы – кіраўніка Крыч. паўстання 1740–1744 г. / В. Мялешка, П. Лойка. – Мінск: Беларусь, 1992. – 80 с.

7. Поляк, Н. Дысідэнцкае пытанне на беларускіх землях у кантэксце міжнародных адносін у 1660–1768 гг. / Н. Поляк // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 2. – С.30 – 35.

8. Сагановіч, Г. Невядомая вайна: 1654–1667. / Г. Сагановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 144 с.

9. Ткачоў, М. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. / М. Ткачоў // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 83–90.

10. Філатава, А.М. Паўстанне 1794 г. на Беларусі і Літве / А.М. Філатава // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 83–91.

11. Юхо, Я. “Нарадзіўся я ліцьвінам...”: Тадэвуш Касцюшка / Я. Юхо, У. Емяльянчык. – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – 68 с.

***Вызначальныя паняцці:*** *гарадскія і сялянскія паўстанні, казакі, рэспубліканты, дысідэнты, Канстытуцыя, “Паланецкі ўніверсал”, касінеры.*

**Рэч Паспалітая ў еўрапейскіх канфліктах XVII–XVIII стст.** Канец XVI – першая палова XVII ст. лічыцца росквітам Рэчы Паспалітай. У 1605 г. польскае і літоўска-беларускае войска на чале з гетманам Я.К. Хадкевічам ушчэнт разбіла шведаў у Лівоніі.

У 1609–1618 гг. Рэч Паспалітая вяла вайну з Расіяй. У 1610 г. яе войскі ўвайшлі ў Маскву. Каралевіч Уладзіслаў быў выбраны маскоўскімі баярамі на царскі прастол (ад тытула цара ён адмовіўся толькі ў 1634 г.). Да ВКЛ былі далучаны значныя тэрыторыі. Аднак насуперак чаканням феадалаў Рэчы Паспалітай унія з Расіяй не была заключана.

Разам з тым, усё большую напружанасць выклікалі незадаволенасць сялян феадальнай эксплуатацыяй, паўстанні ў гарадах і імкненне ўкраінскага казацтва набыць самастойнасць. Так, 15 ліпеня 1606 г. жыхары Магілёва звергді старую гарадскую раду і выбралі новы магістрат. Большасць яго членаў былі беднякамі, некаторыя нават не ўмелі пісаць і не ведалі заканадаўства. Кіраўнік новага магістрата Ходка Багданавіч нават не меў гарадскога грамадзянства. У 1608 г. ўлады ўрэгулявалі адносіны паміж старым і новым кіраўніцтвам. Але выступленні працягваліся да 1610 г. У 1615 г. мяшчане Мазыра паўсталі супраць старасты, які жадаў пазбавіць горад магдэбургскага права. Мяшчане ўзброіліся мушкетамі і ўзялі замак старасты ў аблогу. У горад было забаронена ўязджаць шляхце.

Першае сур'ёзнае сутыкненне з казакамі адбылося ў 1594 – 1596 гг., калі частка казакоў на чале з Севярынам Налівайкам падняла паўстанне на Украіне. Атрад Севярына Налівайкі некаторы час дзейнічаў і на тэрыторыі Беларусі. Ім былі захоплены такія буйныя гарады, як Слуцк і Магілёў. У 1648 – 1651 гг. успыхнула так званая казацка-сялянская вайна. Запарожскі гетман Багдан Хмяльніцкі заключыў дамову з крымскім ханам і пачаў ваенныя дзеянні супраць польскіх войск; асноўнай яго мэтай было абвяшчэнне незалежнай казацкай дзяржавы. Улетку 1648 г. казацкія атрады (загоны) пранікл на поўдзень Беларусі. Казакоў падтрымалі многія сяляне і гараджане. Паўстанцы рабавалі панскія маёнткі, жорстка распраўляліся з каталікамі і яўрэямі. Імі былі захоплены Гомель, Лоеў, Мазыр, Бабруйск, Пінск і іншыя гарады. Такім чынам, на Беларусі казацка-сялянская вайна набыла антыфеадальны характар. Але ў канцы 1648 – 1649 гг. паўстанцы былі выціснуты войскамі гетмана Я. Радзівіла. У 1651 г. Я. Радзівіл атрымаў перамогу над казакамі ў Лоеўскай бітве і захапіў Кіеў.

У 1654 г. на баку казакоў выступіла Расія. У руска-польскай вайне 1654 – 1667 гг. ваенныя дзеянні адбываліся на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Акрамя расійскіх войск тут дзейнічалі казацкія атрады. Цар Аляксей Міхайлавіч імкнуўся схіліць на свой бок праваслаўнае насельніцтва, таму ў граматах да яго абяцаў не чыніць гвалту. Шляхце і гарадам гарантаваліся іх правы. Ужо 31 ліпеня 1665 г. царская армія захапіла Вільню. У вулічных баях загінула дзесяць тысяч гараджан. У вёсках расійскія войскі забіралі харч і коней. Сялян прымушалі прадаваць хлеб па нізкіх цэнах, да таго ж расплачваліся меднай манетай. Мужчын забіралі ў армію. З захопленых гарадоў вывозіліся палонныя (асабліва рамеснікі), друкарскае абсталяванне, кнігі, золата і срэбра. Разам з тым большасць жыхароў Беларусі аказвала супраціўленне захопнікам. Так і не былі захоплены Слуцк, Стары Быхаў і інш. Ва ўжо занятых гарадах і мястэчках успыхвалі паўстанні. Сяляне беглі ў лясы і нападалі на атрады непрыяцеля.

Польшча не магла аказаць ВКЛ дапамогі, бо вяла ваенныя дзеянні на Украіне. Акрамя таго, ішла вайна са Швецыяй. Шведскія войскі захапілі большую частку краіны. 20 кастрычніка 1655 г. гетман ВКЛ Радзівіл падпісаў Кейданскую унію, паводле якой шведскі кароль станавіўся гаспадаром ВКЛ. Унія стала прычынай для вайны паміж Швецыяй і Расіяй (1655 – 1660). Сутычку паміж праціўнікамі выкарысталі войскі Польшчы і ВКЛ і перайшлі ў наступленне. К вясне 1660 г. шведы пакінулі межы ВКЛ. Кейданская унія перастала дзейнічаць. Нарэшце ў 1667 г. ў мястэчку Андрусава было падпісана перамір'е з Расіяй.

У выніку вайны Рэч Паспалітая страціла Смаленскія землі і Левабярэжную Украіну разам з Кіевам. Насельніцтва Беларусі скарацілася больш чым напалову, большасць гарадоў была спустошана і разбурана, у заняпадзе апынуліся рамяство і гандаль. Сітуацыю ўскладняў недахоп сродкаў для фінансавання арміі. Бяздумныя грашовыя рэформы толькі пагоршылі эканамічнае становішча.

У ВКЛ пачалася барацьба паміж магнацкімі групоўкамі за ўладу. У 1700 г. процістаянне перарасло ў адкрытае сутыкненне – бітву пад Алькенікамі паміж войскам уплывовай магнацкай сям'і Сапегаў і апазіцыйнай шляхтай – рэспубліканцамі.

У 1700 – 1721 гг. Рэч Паспалітая ўступіла ў Паўночную вайну на баку Расіі і Даніі супраць Швецыі. Але ваенныя дзеянні праходзілі для яе няўдала. На тэрыторыі Беларусі актыўна дзейнічалі расійская і шведская арміі. У 1708 г. ў бітве ля вёскі Лясная цар Пётр І знішчыў буйны шведскі корпус генерала А. Левенгаўпта. Працягваліся сутыкненні паміж магнацкімі групоўкамі. У вайне Беларусь зноў панесла цяжкія чалавечыя і эканамічныя страты. Пасля заканчэння вайны Рэч Паспалітая апынулася ў стане поўнай залежнасці ад магутных суседзяў – Аўстрыі, Прусіі і Расіі. Соймы пастаянна зрываліся, што выклікала крызіс дзяржаўнага кіраўніцтва. У 1735 і 1764 гг. часткі расійскай арміі гвалтоўна ўрываліся на паўднёвы ўсход Беларусі. Расія і Прусія ў 1720 г. заключылі таемнае пагадненне аб гарантаванні нязменнасці палітычнай сітуацыі ў Рэчы Паспалітай.

**Крызіс у Рэчы Паспалітай.** Пагаршэнне эканамічнага стану выклікала сялянскія хваляванні. Самае моцнае з іх адбылося ў 1740–1744 гг. у Крычаўскім старостве. Мясцовыя сяляне выступілі супраць адміністрацыі і арандатараў, якія, імкнучыся хутка ўзбагаціцца, няшчадна эксплуатавалі сялян. Адзін з кіраўнікоў паўстання, Васіль Вашчыла, называў сябе патомкам гетмана Багдана Хмяльніцкага. Паўстанцы спрабавалі дамовіцца з уладальнікам зямлі Г. Радзівілам. У 1743 г. яны рашыліся на адкрытае ўзброенае выступленне. Сяляне нападалі на шляхецкія маёнткі, дамы купцоў і ліхвяроў, палілі судовыя і даўгавыя кнігі. Іх падтрымлівалі бяднейшыя гараджане. Але ў 1744 г. войскі Г. Радзівіла разбілі паўстанцаў. Захопленыя ў палон сяляне былі жорстка пакараны. Пасля задушэння паўстання Г. Радзівіл пайшоў на некаторыя саступкі. Але поўнасцю задаволіць патрабаванні сялян ён не жадаў.

У 1764 г. каралём Рэчы Паспалітай быў выбраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які лічыўся стаўленікам суседніх дзяржаў. Вакол караля аб'ядналіся магнаты і шляхта, якія марылі аб адраджэнні Рэчы Паспалітай. Улады пачалі паступовыя эканамічныя рэформы: адчыняліся дзяржаўныя і прыватныя мануфактуры, будаваліся каналы, арганізоўваліся кірмашы, падтрымліваўся міжнародны гандаль. Соймы працавалі ў рэжыме канфедэрацыі, калі права *liberum veto* не дзейнічала. Але ў 1767 г. ўнутрыпалітычная сітуацыя зноў пагоршылася. Дзякуючы падтрымцы Расіі і Прусіі, дысідэнты (пратэстанцкая і праваслаўная шляхта) стварылі Слуцкую і Торуньскую канфедэрацыі, якія запатрабавалі параўнання сваіх правоў з каталікамі. Пад націскам Расіі вальны сойм у 1768 г. прыняў рашэнне аб ураўнаванні правоў дысідэнтаў. У адказ каталіцкая шляхта стварыла Барскую канфедэрацыю, якая пачала рокаш.

**Падзелы Рэчы Паспалітай.** Паўстанне канфедэратаў было падаўлена толькі ў 1771 г. расійскімі войскамі. 5 жніўня 1772 г. Расія, Прусія і Аўстрыя падпісалі канвенцыю аб першым падзеле Рэчы Паспалітай, па якой Расіі перадаваліся ўсходняя і паўночная часткі Беларусі.

Урад С.А. Панятоўскага працягваў рэформы па паляпшэнні становішча Рэчы Паспалітай. Была створана Адукацыйная камісія (1773). Чатырохгадовы сойм (1788–1791) прыняў Канстытуцыю 3 мая 1791 г., першую ў Еўропе і другую ў свеце пасля ЗША. Канстытуцыя ліквідавала падзел Рэчы Паспалітай на ВКЛ і Каралеўства Польскае, захавала шляхецкія правы, улада караля перадавалася па спадчыне. Разам з тым палепшылася становішча мяшчан, гарады маглі мець сваё прадстаўніцтва ў сойме, адмянялася права *liberum veto*, дзяржава абяцала клапаціцца пра прыгонных сялян, магнацкія войскі ўваходзілі ў склад агульнай арміі.



Прыняцце Канстытуцыі было сустрэта ў суседніх дзяржавах з прахалодай. Расійская імператрыца Кацярына II лічыла гэты акт асабліва небяспечным. Пры падтрымцы Расіі ў 1792 г. была створана Таргавіцкая канфедэрацыя, якая разам з расійскімі войскамі выступіла супраць Канстытуцыі. 23 студзеня 1793 г. паміж Расіяй і Прусіяй была падпісана канвенцыя аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. У склад Расіі ўвайшла цэнтральная Беларусь і Правабярэжная Украіна. Канстытуцыя 1791 г. была адменена. Апошні сойм Рэчы Паспалітай ў Гродне (17 чэрвеня – 23 верасня 1793 г.) прыняў новую Канстытуцыю, якая захавала унітарны характар дзяржавы і ўзнавіла практыку выбарнасці караля.

24 сакавіка 1794 г. ў Польшчы пачалося патрыятычнае паўстанне, якое ўзначаліў генерал Тадэвуш Касцюшка. У красавіку паўстанне перакінулася на ВКЛ. Тут яго ўзначальваў радыкальна настроены палкоўнік Якуб Ясінскі. Паўстанцы стварылі рэвалюцыйны ўрад. Прынятым імі ў маі Паланецкі універсал фактычна адмяняў прыгоннае права. Сяляне, расплаціўшыся з панамі за даўгі, станавіліся вольнымі. У ВКЛ тэрмінова былі ўведзены расійскія войскі на чале з А. Суворавым. Перамога расійскіх войск над паўстанцамі ў баі пад Мацяёвіцамі 10 кастрычніка 1794 г. фактычна вырашыла далейшы лёс паўстання. Спрэчкі паміж паўстанцамі і аб'ектыўная немагчымасць адначасова змагацца з Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй прывялі да паражэння паўстання. У кастрычніку 1795 г. адбыўся апошні, трэці падзел Рэчы Паспалітай – яна канчаткова была падзелена паміж суседнімі дзяржавамі. У склад Расіі перайшла заходняя частка Беларусі, акрамя Беластоцкага рэгіёна, які ўвайшоў у склад Прусіі і ў 1807 г. быў перададзены Расіі Напалеонам Банапартам.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. У якіх міжнародных канфліктах удзельнічала Рэч Паспалітая ў XVII – XVIII стст.? Якія наступствы для Беларусі мелі войны з Расіяй і Швецыяй? 3. Назавіце асноўныя прыкметы крызісу Рэчы Паспалітай у другой палове XVII–XVIII стст. 4. Чаму ўрад С.А. Панятоўскага пачаў рэформы з эканамічных пераўтварэнняў? 5. Як змяняўся дзяржаўны і палітычны лад Рэчы Паспалітай з прыняццем Канстытуцыі 1791 г.? 6. Назавіце прычыны паражэння паўстання 1794 г.*

## Культура Беларусі другой паловы XVI – канца XVIII ст.

***Літаратура***


1. Бельскі, А.М. Вялікае мастацтва артылерыі: Казімір Семяновіч / А.М. Бельскі, М.А. Ткачоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 52 с.
2. Болатава, Ю. Стараабраднікі Беларускага Падзвіння і Падняпроўя: гісторыя і сучаснасць / Ю. Болатава // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 9. – С. 10.
3. Габрусь, Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т.В. Габрусь. – Мінск: Ураджай, 2001. – 286 с.
4. Гардзееў, Ю. Да пытання развіцця беларускай мовы ў XVIII ст. / Ю. Гардзееў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 11. – С. 3.
5. Грыцкевіч В.П. Адысея наваградскай лекаркі: Саламея Русецкая / В.П. Грыцкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990 – 53 с.
6. Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў: Альбом / Склад. Высоцкая Н.Ф. – Мінск: Беларусь, 1998. – 232 с.
7. Короткая, Т.П. Старообрядчество в Белоруссии / Т.П.Короткая, Е.С. Прокошина, А.А. Чудникова; под ред. А.С. Майхровича. – Минск: Навука і тэхніка, 1992. – 115 с.
8. Лазука, Б.А. Беларускае барока: гісторыка-тэарэтычныя праблемы стылю / Б.А. Лазука. – Мінск: Беларусь, 2001. – 144 с.
9. Мальдзіс, А. Як жылі нашы продкі ў XVIII ст. / А. Мальдзіс. – Мінск: Лімарыус, 2001. – 383 с.
10. Падокшын, С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (філасофска-гістарычны аналіз) / С.А. Падокшын. – 2-е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 111 с.
11. Прокошина, Е.С. Казимир Лыщинский / Е.С. Прокошина, В.Ф. Шалькевич. – Минск: Беларусь, 1986. – 93 с.
12. Тарэлка, М. “Адкуль пайшлі ідалы”: помнік рэлігійна-палемічнай літаратуры з рукапіснай спадчыны татараў Вялікага княства Літоўскага / М. Тарэлка, І. Сынкова. – Мінск: Тэхналогія, 2009. – 425 с.
13. Хурсан, Т. Рассяленне і заняткі стараабраднікаў на тэрыторыі Усходняй Беларусі / Т. Хурсан // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 9. – С. 18.


***Вызначальныя паняцці:*** *Адукацыйная камісія, дыярыуш, батлейка, школьны тэатр, інтэрмедыя, прыгонны тэатр, барока, парсуна, сармацкі партрэт, парадны партрэт, арыенталізм, сарматызм, Асветніцтва, класіцызм.*

Значны ўплыў на культурныя тэндэнцыі на Беларусі 1569–1795 гг. аказалі рэлігійныя працэсы (Рэфармацыя і Контррэфармацыя, царкоўная унія), пазнейшы эканамічны заняпад і палітычны крызіс. Пасля падпісання Люблінскай уніі (1569) уплыў Польшчы на беларускую культуру становіцца ўсё больш значны. Беларуская мова паступова выцясняецца, а ў 1696 г. сойм прымае пастанову аб ужыванні ў дзяржаўным справаводстве выключна польскай мовы.

У пачатку XVIII ст. былі зачынены амаль усе брацкія школы і друкарні. У кнігавыданні пачала пераважаць лацінка. Асноўным носьбітам беларускай мовы застаўся народ. Пашыралася паланізацыя і акаталічванне краю.

**Развіццё літаратуры.** У беларускай літаратуры таго перыяду летапісны жанр саступае месца новым напрамкам: публіцыстыцы, палітычнай сатыры, паэзіі, гісторыка-мемуарнай літаратуры. Пад уплывам рэфармацыі і контррэфармацыі з’яўляюцца публіцыстычныя творы С. Буднага, В. Цяпінскага, П. Скаргі, І. Пацея, М. Сматрыцкага, Л. Карповіча, братоў Зізаніяў. Адметнымі ўзорамі мемуарнай літаратуры становяцца дыярыушы – свецкія дзённікі. Прыкладам можа служыць “Дзённік” наваградскага падсудка Федара Еўлашоўскага (1546–1616), “Дыярыуш” А. Філіповіча (1597? – 1648), якія ярка апісваюць скандальныя і трагічныя падзеі гісторыі Бацькаўшчыны. У другой палове XVII–XVIII стст. мемуарыстыка становіцца шматмоўнай. Вялікую цікавасць выклікаюць уласныя ўспаміны аб шматлікіх падарожжах наваградскай лекаркі Саламеі Пільштыновай (Русецкай). Да ранняй эпісталярнай спадчыны адносяцца “Допісы” аршанскага старасты Філона Кміты-Чарнабыльскага (1530–1587), у якіх аўтар піша аб пагранічным жыцці, аб планах Івана IV у адносінах да ВКЛ.

Таленавіты вучоны і публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч М. Сматрыцкі (1577–1633) больш вядомы сваім сучаснікам як пісьменнік-палеміст, аўтар шматлікіх твораў, сярод якіх вылучаецца “Фрынас” (1610), дзе пісьменнік выступае супраць акаталічвання і прыняцця царкоўнай уніі. За выданне гэтага твора быў прыгавораны да турэмнага зняволення другі пісьменнік-публіцыст, педагог, царкоўны дзеяч, адметны прадстаўнік аратарскай прозы Лявонцій Карповіч (1580–1620).

З канца XVI ст. ў еўрапейскай літаратуры і мастацтве вылучаецца стыль барока, які бярэ сабе на ўзбраенне каталіцкая царква ў барацьбе з рэфармацыйнымі плынямі. Ён характарызуецца кантраснасцю, параднасцю, рухавасцю формы, апеляцыяй да пачуццяў, супярэчлівасцю, метафарычнасцю. У літаратуры гэта праяўляецца ў з’яўленні “высокай” паэзіі, адметным прадстаўніком якой становіцца паэт і драматург, кнігавыдавец, асветнік і грамадскі дзеяч Сімеон Полацкі (1629–1680).

Найбольш значнымі яго творамі сталі зборнікі паэтычных твораў “Вертаград мнагацветны” і “Рыфмалагіён”.

Новай для беларускай паэзіі стала палітычная сатыра (“Прамова Мялешкі”, “Ліст да Абуховіча”), якая высвятляла заганы тагачаснасга грамадства. Разам са стылем барока на беларускіх землях распаўсюджваецца арыенталізм – культурная плыня, накіраваная на запазычанне і пераапрацоўку элементаў усходняй культуры.

У 1776 – 1783 гг. на тэрыторыі Беларусі выходзіць першае перыядычнае выданне – “Газета Гродзеньская”.

**Тэатральнае мастацтва.** Значную ролю ў культурным жыцці грамадства ў гэты час стаў адыгрываць тэатр. Адным з першых на Беларусі стала батлейка – народны лялечны тэатр, вядомы яшчэ з XVI ст. Яе рэпертуар складаўся з дзвюх частак – кананічнай і свецкай. Прадстаўленне гэтага своеасаблівага “тэатра аднаго акцёра” складалася з песень, танцаў, дыялогаў і маналогаў. У XVII ст. з развіццём школьнай адукацыі і драматургіі асобую ролю набывае школьны тэатр. У ім ставіліся п’есы як рэлігійнага і гістарычнага зместу, так і інтэрмедыі – кароценькія п’ескі на беларускай ці польскай мове, пантамімы, танцы, што выконваліся паміж дзеямі спектакля. Вядомы 24 дэкламацыі С. Полацкага, напісаныя ім для тэатраў брацкіх школ. Галоўным героем інтэрмедый стаў разумны і дасціпны беларускі селянін. У 1787 г. на змену традыцыйнай школьнай інтэрмедыі прыходзяць першыя драмы, напісаныя на беларускай народнай мове – “Камедыя” К. Марашэўскага, “Лекар міжволі” М. Цяцерскага.

У XVIII ст. адметнай з’явай культуры становіцца прыгонны тэатр, трупа якога складалася пераважна з залежных сялян. Рэпертуар першага з іх – Нясвіжскага – складаўся першапачаткова з

16 п’ес і оперных лібрэта Уршулі Францішкі Радзівіл. У другой палове XVIII ст. з’яўляюцца прыватныя тэатры ў Слоніме, Гародні, Шклове, Ружанах і інш. Пры іх утрымліваліся музычныя капэлы, аркестры. Для падрыхтоўкі артыстаў оперы і балета ствараліся балетныя школы (у Слоніме, Слуцку). На сто год раней, чым на Захадзе, на Беларусі пачалі скарыстоўваць у афармленні спектаклей павільёны. У 70-я гг. XVIII ст. працаваў “плавучы тэатр” на Агінскім канале. Беларускія акторы складалі аснову труп сталічных, у тым ліку Варшаўскага, тэатраў.

**Архітэктура.** У другой палове XVI ст. барочны стыль пачынае ўсталёўвацца ў беларускай архітэктуры. Першым творам гэтага стылю стаў нясвіжскі касцёл езуітаў (архітэктар – італьянец Я.М. Бернардоні (1554–1593)), прататыпам якога стаў рымскі храм Іль Джэзу. Увогуле, стыль барока ў беларускай архітэктуры меў некалькі этапаў свайго развіцця.



1-ы этап – ранні – канец XVI – першая палова XVII ст. – характарызуецца пошукам формаў, стратай абарончых функцый; паступовым пераходам замкавага дойлідства ў палацазамкавае. У культавым дойлідстве фарміруецца базілікальны тып храма з бязвежавым, а пазней з двухвежавым фасадам (касцёлы езуітаў у Гародні, дамініканцаў у Стоўбцах).

2-гі этап – сталы – другая палова XVII ст. –1730-я гады: стабілізацыя 2-вежавай базілікі, павелічэнне колькасці ярусаў вежаў, пластычная насычанасць фасадаў (Мікалаеўская царква ў Магілёве). Распаўсюджваецца палацавасядзібнае будаўніцтва (комплексы ў Нясвіжы, Слоніме, Гародні, Воўчыне). Для іх характэрна П-падобная кампазіцыя з анфіладай, парадным дваром, багатым дэкорам і фасадаў і інтэ’ераў.

3-ці этап –позні – у культавай архітэктуры – “віленскае барока” (1730-я – 80-я гг.). Важную ролю ў развіцці гэтага адметнага для нашых зямель напрамку адыграла дзейнасць Я.К. Глаўбіца. Стыль вызначаецца пластычнасцю аб’ёмаў, маляўнічасцю сілуэта, стромкімі шмат’яруснымі ажурнымі вежамі, фігурнымі франтонамі, багаццем архітэктурнага дэкору (уніяцкі Сафійскі сабор у Полацку, Спаская царква ў Магілёве, ратуша ў Віцебску).

У культавым драўляным дойлідстве фарміруюцца адметныя традыцыі на Палессі і паўночным усходзе. Палессе прадстаўлена 2 групамі храмаў, – яруснай кампазіцыі з 2-3- шатровымі вярхамі і асіметрычнымі падоўжанай кампазіцыі з вежай на галоўным фасадзе. Паўночна-ўсходняя традыцыя характарызуецца высокімі зрубамі, завершанымі 2-схільнымі дахамі ці шатрамі.

**Выяўленчае мастацтва.** Выяўленчае мастацтва адчула на сабе ўплыў заходнееўрапейскіх і візантыйскіх тэндэнцый, але ўсё ж характарызавалася захаваннем нацыянальных традыцый, выпрацоўкай асабістых прынцыпаў. У выніку сінтэзу розных напрамкаў фарміруецца асабістая іканапісная школа (канчаткова – у XVIII ст.), прадстаўленая адметнымі магілёўскай, палескай, полацка-віцебскай, гарадзенскай, слуцка-мінскай плынямі. Для беларускага іканапісу характэрна спалучэнне сімвалізму выяўленчай мовы з вострахарактарным тыпажом, дакладнасць перадачы дэталяў. У XVII ст. з’яўляецца спроба перадачы прасторы, натуральных прапорцый, свецкае ўбранне асобных персанажаў (“Нараджэнне Багародзіцы” Пятра Яўсеевіча з Галынца). Значны ўплыў на развіццё беларускага іканапісу аказала уніяцтва. У дэкоры абразоў ужываўся раслінны арнамент фону, залачэнне, серабрэнне і часам аздабленне эмалямі; адчуваецца ўплыў рэнесансу і барока (“Ушэсце Хрыста” са Случчыны).

Манументальны жывапіс таксама характарызуецца значным уплывам народных традыцый: пры роспісах храмаў выкарыстоўваўся мясцовы пейзаж, разнастайная палітра колераў, простанародныя персанажы (роспісы Богаяўленскага манастыра і Мікалаеўскай царквы ў Магілёве). У XVII ст., з распаўсюджваннем у жывапісе барока, для храмавых роспісаў становяцца характэрнымі багаты ўзор, дынамізм кампазіцыі, прасторавасць, характарнасць і канкрэтнасць персанажаў (“Варвара пакутніца” з Лунінца, “Святая сям’я” з Гарадзеншчыны). Манументальны жывапіс не стаў традыцыйным для замкавай архітэктуры; праўда, некаторыя княжацкія палацы ўпрыгожваліся фрэскамі.

Папулярным відам станкавага жывапісу становіцца партрэт – “сармацкі” (Кшыштафа Весялоўскага, Грызельды Сапегі, Януша Радзівіла), “парадны” (М.К. Агінскага), трунны (Аляксандра Пацея). Стылістычныя прыёмы партрэтнага жывапісу характарызуюцца скаванасцю позы, дакладнай перадачай дэталяў адзення і ўпрыгожванняў. Ствараліся радавыя галерэі (Тызенгаўза у Паставах, Тышкевічаў, Радзівілаў).

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі характарызуецца з’яўленнем вытворчасці мастацкага шкла (першыя мануфактуры – у Налібаках і Урэччы), рэльефнай паліхромнай кафлі (у Маскве ёю былі аздоблены Пакроўскі сабор у Ізмайлаве, цэнтральны палац і царква ў Крамлі і інш.), слуцкіх паясоў. Своеасаблівым вынаходніцтвам беларускіх майстроў стала “беларуская рэзь” – манументальная дэкаратыўна-ажурная разьба на дрэве, якой аздабляліся храмы і палацы ў Маскоўскай дзяржаве XVII ст. (іканастас Новадзявочага манастыра) – пышны раслінна-жывёльны арнамент з чалавечымі фігуркамі, пазалотай. Дарэчы, у Маскве выхадцы з Беларусі паклалі пачатак т. зв. стылю “нарышкінскага” барока.

**Беларускае Асветніцтва.** З апошняй чвэрці XVIII ст. на беларускіх землях пачынаюць распаўсюджвацца ідэі Асветніцтва – антыфеадальнай буржуазнай ідэялогіі перыяду станаўлення капіталістычных адносін. Яна сцвярджала прыярытэт асветы, навукі і розуму ў жыцці грамадства, асобы і дзяржавы. Асаблівымі рысамі беларускага Асветніцтва можна назваць адсутнасць рашучага рэвалюцыйнага і матэрыялістычнага характару, арыентацыю на вырашэнне сялянскага пытання; носьбітамі ідэй асветніцтва сталі дваранства і духавенства. Беларуская літаратура ў гэты час развіваецца марудна; для яе характэрны полілінгвістычны характар.

У Еўропе яшчэ з канца XVII ст. пачынаецца працэс секулярызацыі жыцця, што вылілася, перш за ўсё, у пераходзе школьнай адукацыі з-пад кантролю царквы пад апеку дзяржавы. У 1773 г. ў Рэчы Паспалітай быў ліквідаваны ордэн езуітаў. Гэта супала з пачаткам рэформы ў сферы адукацыі – стварэннем Адукацыйнай камісіі. Яна імкнулася ўсталяваць поўны кантроль над усёй сістэмай асветы ў краіне. Прадугледжваўся свецкі характар, шматпрадметнасць і 3-ступенчатасць сістэмы адукацыі: (прыходскія акруговыя і падакруговыя школы Галоўная школа ВКЛ (былая Віленская езуіцкая акадэмія)). Але запланаванае Адукацыйнай камісіяй не было праведзена ў жыццё, гэтаму супрацьстаяла каталіцкае духавенства, феадалы і рэаліі часу – падзелы Рэчы Паспалітай. Ідэі Асветніцтва паўплывалі на творчасць філосафа К. Лышчынскага (1634? – 1689), які напісаў трактат “Аб неіснаванні бога”, Г. Каніскага (1717 – 1795), І. Капіевіча. Да прац, што ўтрымлівалі ідэі свецкага развіцця навук, адносяцца работы філосафаў К. Нарбута і Б. Дабшэвіча, матэматыка і астранома М. Пачобута-Адляніцкага, гісторыка А. Нарушэвіча. Ідэі французскіх асветнікаў прапагандавалі прыдворныя тэатры.

Становішча культуры беларускіх зямель у складзе Рэчы Паспалітай было вельмі няпростым. Адыходзіць у нябыт “залаты век”, узмацняецца польскі ўплыў. Носьбітамі сапраўды беларускай мовы, культуры, традыцый становяцца сяляне і гарадскія нізы.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. У якіх умовах развівалася культура ў час уваходжання беларускіх зямель у склад Рэчы Паспалітай? 2. Якімі асаблівасцямі адзначаецца барока на Беларусі? 3. Што спрыяла ўсталяванню Асветніцтва? 4. Якія фактары замаруджвалі працэс развіцця беларускай нацыянальнай культуры ў XVII–XVIII стст.?*

## Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – першая палова XIX ст.)

***Літаратура***

1. Гарбачова, В. Вынікі і наступствы паўстання 1830–1831 гг. / В. Гарбачова // Беларус. гіст. часоп. – 1999. – № 4. – С. 80–83.

2. Гарбачова, В.В. Паўстанне 1830–1831 гадоў на Беларусі / В.В. Гарбачова. – Мінск: БДУ, 2001. – 184 с.

3. Марозаў, С. “Патрыёты Айчыны”, або “Племя сарматаў” у Віленскім універсітэце ў 1827–1828 гг. / С. Марозаў // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 6. – С. 19.

4. Сосна, У.А. Рэфармаванне дзяржаўнай вёскі на Беларусі ў канцы XVIII – 60-х гг. XIX ст. / У.А. Сосна // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1997. – С. 15–34.

5. Тарле, Е.В. Наполеон / Е.В. Тарле. – М.: АСТ, 2008. – 413 с.

6. Філатава, А. Стан беларуска-літоўскага грамадства ў час вайны 1812 г. / А. Філатава // Французская рэвалюцыя і лёсы свету. – Мн., 1992.

7. Швед, В.В. Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.): бібліягр. слоўн. / В.В. Швед. – Гродна: Гродз. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, 2007. – 275 с.

9. Швед, В.В. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863) / В.В. Швед; навук. рэд. П.І. Брыгадзін. – Гродна: Гродз. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, 2001. – 415 с.

***Вызначальныя паняцці:*** *губерня, генерал-губернатарства, мяжа яўрэйскай аселасці, таемныя таварыствы, філаматы, філарэты, русіфікацыя, люстрацыя маёнткаў, мануфактура, фабрыка.*

**Змены ў стане беларускага грамадства.** Далучэнне Беларусі да Расіі не ўнесла істотных змен у характар сацыяльных адносін. "Даравальная грамата дваранству" (1785) ураўноўвала беларускую шляхту ў правах з расійскім дваранствам. На Беларусі працягваў дзейнічаць Статут 1588 г. Не забаранялася каталіцкая і уніяцкая царква. У афіцыйным справаводстве ўжывалася польская мова. Пачатак XIX ст. нават лічыцца пікам паланізацыі беларускіх зямель.

Разам з тым большасць гарадоў і мястэчак страцілі права самакіравання. Жыхары шэрагу мястэчак увогуле былі пазбаўлены правоў гараджан (у адпаведнасці з "Даравальнай граматай гарадам" 1785 г.) і прыраўноўваліся да сялян. Пагоршылася становішча прыгонных сялян: цяпер яны маглі прадавацца ўласнікам без зямлі і адлучацца ад сям'і. У газетах Санкт-Пецярбурга беларускія памешчыкі часта размяшчалі аб'явы аб продажы сялян. Павялічылася і эксплуатацыя сялянскай працы. Так, у 1785 г. па загадзе князя Р. Пацёмкіна ў Крычаўскім старостве пачалі працаваць некалькі мануфактур і суднаверф, якія мелі надзвычай важнае значэнне для пабудовы расійскага Чарнаморскага флоту. Для працы на мануфактурах і суднаверфі былі сагнаны сотні сялян. Жанчыны староства былі абавязаны здаваць па 6 пудоў пражы ў год для вытворчасці канатаў і парусіны.

Кацярына II і яе сын Павел I выдавалі акты, якія павінны былі палегчыць становішча сялян, аднак яны не выконваліся памешчыкамі.



Дзяржаўныя маёнткі актыўна перадаваліся ў рукі расійскіх дваран. Астатнія здаваліся ў арэнду. У 1794 г. была ўведзена мяжа яўрэйскай аседласці.

Уся тэрыторыя Беларусі, у адпаведнасці з адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам усёй Расіі, была падзелена на губерні і паветы (уезды). Для кантролю палітычнай сітуацыі ствараліся генерал-губернатарствы (1802) з цэнтрамі ў Мінску (Беларускае) і Вільні (Літоўскае). У 1803 г. быў адчынены Віленскі універсітэт. Дазвалялася адкрыццё школ для сялян, але навучаць іх пісьменнасці забаранялася.

Нягледзячы на значныя саступкі, шляхта Беларусі імкнулася да адраджэння ВКЛ. З гэтай мэтай група дзяржаўных дзеячаў на чале М.К. Агінскага ў 1811 – 1812 гг. падала цару спецыяльны праект. Але зацверджаны ён не быў.

**Беларусь у вайне 1812 г.** 24 чэрвеня 1812 г. 600-тысячная армія Напалеона, у склад якой уваходзіла 100 тысяч палякаў, перайшла мяжы Расіі і на працягу аднаго месяца заняла большую частку тэрыторыі Беларусі. Расійскія войскі арганізавана адступалі, наносячы непрыяцелю цяжкія паражэнні. Пад Смаленскам расійскія арміі аб'ядналіся. Спадзяванне Напалеона разбіць іх па адной не спраўдзілася.

Многія шляхціцы і гараджане сустракалі напалеонаўскія войскі як вызваліцеляў. 1 ліпеня 1812 г. ў Вільні Напалеон стварыў асобны ўрад ВКЛ ("Камісія ВКЛ"). У яго армію ўступіла каля 20 тысяч добраахвотнікаў. Сярод сялян распаўсюдзіліся чуткі, быццам бы французы адменяць прыгоннае права. Яны адмаўляліся выконваць павіннасці, беглі ў лясы, палілі панскія маёнткі, супраціўляліся напалеонаўскім харчовым атрадам. Напалеону ўдалося захапіць Маскву, але восенню 1812 г. ён пачаў адступленне. Баі зноў перамясціліся на Беларусь. Пры пераправе праз раку Бярэзіна ля вёскі Студзёнка французкі імператар згубіў амаль палову сваёй арміі. 5 снежня Напалеон пакінуў лагер у Смаргоні і збег у Парыж. 13 снежня толькі 1600 салдат яго арміі здолелі пакінуць Расію. Вайна нанесла Беларусі вялікія чалавечыя і эканамічныя страты. Толькі ў Мінскай губерні загінула больш за 50 тысяч чалавек. У Віцебскай губерні не засталося ніводнага каня. Увогуле, ваенная кампанія 1812 г. скараціла колькасць насельніцтва на Беларусі амаль на чвэрць.

**Грамадска-палітычны рух першай паловы XIX ст.** Пасля вайны 1812 г. рух супраць царызму не зменшыўся. Гэта асабліва адлюстравалася ў дзейнасці таемных дэмакратычных таварыстваў філаматаў, "прамяністых" і філарэтаў, якія існавалі ў 1817 – 1823 гг. і ставілі сва-

ёй галоўнай мэтай адраджэнне Рэчы Паспалітай. Першыя крокі сваёй грамадскай дзейнасці рабілі тут А. Міцкевіч,

Я. Чачот, Т. Зан, інш. На Беларусі таксама вялі працу і дзекабрысцкія арганізацыі, якія рыхтавалі паўстанне супраць цара. У Мінску распрацоўваўся адзін з першых варыянтаў Канстытуцыі М.М. Мураўёва (1821–1822). У Літоўскім асобным корпусе дзейнічала “Таварыства ваенных сяброў” на чале М. Рукевіча і капітана К. Ігельстрома (1825–1826).

**Вызваленчае паўстанне 1830–1831 гг.** У 1830 г. ў Польшчы пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне. Хутка яно перакінулася і на землі былога ВКЛ. На Віленшчыне падрыхтоўку да паўстання вёў таемны “акадэмічны саюз”. Большасць паўстанцаў мела шляхецкае паходжанне. У чэрвені паўстанцы пацярпелі паражэнне ад расійскай арміі і адступілі ў Польшчу. Хутка расійскія войскі занялі Варшаву. Імкнучыся прадухіліць паўстанні ў далейшым, царскі ўрад зачыніў Віленскі універсітэт (1832). У 1831 на ўсходзе і ў 1840 г. на захадзе Беларусі спынялася дзейнасць Статута 1588 г. Па ўказе 1831 г. шляхціцы, якія не былі здольныя даказаць шляхецкае паходжанне, пазбаўляліся дваранскіх правоў (палітыка “разбору шляхты”). Маёнткі ўдзельнікаў паўстання канфіскоўваліся. Полацкі царкоўны сабор 1839 г. прыняў рашэнне аб далучэнні уніяцкай царквы да праваслаўнай. Акрамя таго, у афіцыйным звароце была забаронена польская мова (з 1836 г. яе забаранілі выкладаць як прадмет у школах); шляхта траціла права насіць нацыянальную вопратку. Польскія чыноўнікі звальняліся са сваіх пасад, а ўсім дзяржаўным установам і пасадам надаваліся рускія назвы.

Але рэпрэсіі не спынілі барацьбы. У 1830–1840 гг. на Беларусі працягвалі дзейнічаць таемныя арганізацыі: “Дэмакратычнае таварыства” Ф. Савіча, “Саюз свабодных братоў”, арганізацыя Г. Брынко і Н. Навіцкага ў Гродзенскай губерні. Даследчыкі лічаць, што таемных таварыстваў магло быць на самой справе значна болей. Пра іх дзейнасць мы ведаем толькі ў тых выпадках, калі яны раскрываліся жандармерыяй.

**Сацыяльна-эканамічныя працэсы першай паловы XIX ст.** У першай палове XIX ст. пачаўся крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы. Далучэнне да Расійскай імперыі некалькі палепшыла агульны эканамічны стан беларускага насельніцтва. Расійскі рынак паглынаў значную колькасць прадукцыі, якая выраблялася на беларускіх землях. На поўначы Беларусі хутка развіваліся льнаводства і бульбаводства. На захадзе і ў цэнтральных раёнах – авечкагадоўля. Вельмі прыбытковай справай была вытворчасць спірту і гарэлкі. Яны ўжываліся на месцы. Значная колькасць спірту і гарэлкі экспартавалася за мяжу.



Аднак большасць зямель (70 %) належала памешчыкам.

У карыстанні сялян знаходзілася толькі 27 % зямельнага фонду. Каб зрабіць свае маёнткі больш прыбытковымі, памешчыкі ўзмацнялі эксплуатацыю прыгонных. Акрамя паншчыны і высокага аброку сяляне неслі шмат іншых павіннасцей. Люстрацыя і рэформа кіравання дзяржаўнымі маёнткамі, якія былі праведзены міністрам дзяржаўнай маёмасці П.Д. Кісялёвым (1837–1841), крыху палепшылі становішча дзяржаўных сялян. Але іх колькасць на Беларусі была невялікай. Большасць прыгонных сялян залежала ад памешчыкаў.

З канца XVIII ст. у краінах Заходняй Еўропы пачаўся прамысловы пераварот. Ручная вытворчасць хутка выціскалася машыннай. У першую чаргу пераварот закрануў галіну прамысловасці, але змены адбыліся і ў сельскай гаспадарцы. У выніку капіталістычныя прадпрыемствы Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі і Германіі пачалі выпускаць больш якасную і танную прадукцыю, што абумовіла хуткае развіццё эканомікі гэтых краін. Машынная вытворчасць патрабавала вольнанаёмнай і дастаткова адукаванай працы. На Беларусі таксама ўзнікла машынная вытворчасць. Так, ў другой палове 1820-х гг. на прадпрыемствах у мястэчках Косава і Хомск выкарыстоўваліся паравыя рухавікі. Аднак існаванне прыгоннага права не спрыяла хуткаму развіццю прамысловасці і новых тэхналогій, бо памешчыкі як асноўныя ўтрымальнікі капіталаў аддавалі перавагу эксплуатацыі практычна дармавой сялянскай працы. Ужо ў 1840 – 1850-я гг. многія памешчыкі былі вымушаны звяртацца да крэдытных устаноў за пазыкай, закладваючы зямлю і нават сялян. Так, у 1857 г. ў Магілёўскай губерні было закладзена 70 % дваранскай маёмасці. Далёка не заўсёды атрыманыя ў пазыку грошы выкарыстоўваліся для развіцця гаспадаркі. Жорсткае заканадаўства абмяжоўвала і эканамічную актыўнасць яўрэйскага насельніцтва, якое складала значную частку жыхароў гарадоў. Тэхнічнае і эканамічнае адставанне Расійскай імперыі асабліва выразна праявілася падчас Крымскай вайны, таму ў другой палове 1850-х гг. урад пачаў падрыхтоўку да рэформ.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Якія змены адбыліся пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі? 2. Ахарактарызуйце становішча Беларусі падчас вайны 1812 г. 3. Вылучыце асноўныя формы нацыянальна-вызваленчай барацьбы на Беларусі ў першай палове XIX ст. 4. Назавіце асноўныя прыкметы крызісу сістэмы феадальных адносін.*

## Сацыяльна-палітычнае і эканамічнае становішча Беларусі ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

***Літаратура***

1. Арлоў, У.А. Прысуд выканаў невядомы: Ігнат Грынявіцкі / У.А. Арлоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 52 с.
2. Башмакоў, А. Параўнальны аналіз развіцця мануфактурнай і фабрычна-заводскай вытворчасці ў Беларусі (1861–1914) / А. Башмакоў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 11. – С. 11–17.
3. Бейлькин, Х.Ю. Аграрный кризис конца XIX века и структурная реконструкция сельского хозяйства Беларуси / Х.Ю. Бейлькин. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 188 с.
4. Гісторыя Беларусі перыяду капіталізму: вучэб. дапам.: у 5 ч. / Склад. А.П. Жытко [і інш.]. – Мінск: БДПУ, 2005 – 2009. – Ч. 4:: Буржуазныя рэформы ў другой палове XIX – пачатку XX ст. – 2009. – 165 с.
5. Дзелянкоўскі, М. Зямля і воля / М. Дзелянкоўскі // Беларуская мінуўшчына. – 1993. – № 2.
6. Калиновский, К. Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. – Минск: Беларусь, 1988. – 208 с.
7. Лаўрыновіч, Дз. Акцябрысты ў Беларусі / Дз. Лаўрыновіч // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 2. – С. 11.
8. Панюціч, В. Рэформы дзяржаўных сялян Беларусі (канец 50-х – 70-я гг. XIX ст.) / В. Панюціч // Беларус. гіст. часоп. – 1996. – №3.
9. Савіцкі, Э.М. Матэрыяльныя ўмовы жыцця насельніцтва Беларусі ў пач. XX ст. / Э.М. Савіцкі // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1997. – С. 57–69.
10. Сасім, А.М. Асаблівасці правядзення рэформы 1861 г. на Беларусі / А.М. Сасім // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1997. – С. 35–56.
11. Сташкевіч, М. Перадумовы і працэс стварэння палітычных партый на Беларусі (канец XIX ст. – люты 1917 г.) / М. Сташкевіч // Беларус. гіст. часоп. – 1999. – № 3-4.
12. Чаропка, В. Рыцар свабоды. Валерый Урублеўскі / В. Чаропка // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 5–6.

***Вызначальныя паняцці:*** *Агульнае палажэнне, Мясцовыя палажэнні, інвентары, міравы пасрэднік, часоваабавязанае становішча, выкупныя плацяжы, устаўныя граматы, ЛПК, ЦНК, "Дырэкторыя", "разбор шляхты", народнікі, "Гоман", марксізм, палітычныя партыі, буржуазная рэвалюцыя, Дзяржаўная дума, хутар, адруб.*

**Аграрная рэформа 1861 г. на Беларусі.** 20 лістапада 1857 г. на імя віленскага генерал-губернатара У.І. Назімава быў накіраваны царскі рэскрыпт, які дазваляў ствараць дваранскія камітэты і агульную камісію ў Вільні для распрацоўкі праекта адмены прыгоннага права. Аднак большасць памешчыкаў выступіла супраць вызвалення сялян з зямлёй. Таму Аляксандрам II была створана спецыяльная Рэдакцыйная камісія. Распрацаваны ёю Маніфест аб адмене прыгоннага права і шэраг спецыяльных палажэнняў былі выдадзены 19 лютага 1861 г. Рэформа тычылася толькі памешчыцкай вёскі. Сяляне атрымлівалі асабістую свабоду і права распараджацца сваёй маёмасцю. Ва ўласнасці памешчыкаў заставаліся ўсе землі, але ў пастаяннае карыстанне сялян пераходзілі іх сядзібы і палявыя надзелы, за што сяляне на працягу 9 гадоў павінны былі знаходзіцца ў стане часоваабавязаных – адпрацоўваць паншчыну і выплачваць аброк. За гэты час сяляне і памешчык павінны былі з дапамогай міравога пасрэдніка (ён выбіраўся з ліку дваран) дамовіцца аб памерах сялянскіх надзелаў (звычайна яны змяншаліся) і выкупных плацяжоў за зямлю, якія былі ў некалькі разоў вышэйшыя за рынкавыя цэны, бо разлічваліся з сумы гадавога аброку. Вынікам падобнай работы станавілася складанне і падпісанне сялянамі ўстаўных грамат, якія вызначалі пастаянныя зямельныя адносіны памешчыкаў і сялян.

Вызначэнне плошчы палявога надзела, прызначанага для выкупу, на беларускіх землях праходзіла на аснове двух мясцовых палажэнняў. У заходняй частцы Беларусі, дзе існавала падворнае землекарыстанне, сяляне атрымалі права на выкуп свайго дарэформеннага надзелу; ва ўсходняй жа Беларусі існавала абшчыннае землекарыстанне, і тут быў адзначаны мінімальны – 1,3 – 2,8 дзесяцін і максімальны – 4,5 – 5 дзесяцін на адну рэвізскую душу – памер палявога надзела. Сяляне адразу выплачвалі памешчыку толькі 20–25 % ад выкупнога плацяжу. Астатняе памешчыку выплачвала дзяржава каштоўнымі паперамі. Але праз 49 гадоў селянін павінен быў аддаць запазычанасць дзяржаве з улікам 6 % гадавых.

Вынікам рэформы была не толькі ліквідацыя прыгоннага ладу, але і паскарэнне развіцця капіталістычных адносін. Многія памешчыкі былі вымушаны інтэнсіфікаваць сваю гаспадарку, астатнія не вытрымлівалі канкурэнцыі і перапрадавалі свае землі чыноўнікам, гараджанам і сялянам. Але большасць сялян таксама пазбаўлялася зямлі ў выніку хуткага росту насельніцтва. На пачатку XX ст. толькі 8 – 10 % сялянскіх га-

спадарак былі заможнымі, а 60 % – бядняцкімі. Бедныя сяляне шукалі працы ў памешчыкаў, а таксама на гарадскіх прадпрыемствах, часта за межамі Беларусі.

**Паўстанне 1863 г. на Беларусі.** Адмена прыгоннага права супала з актывізацыяй новай хвалі рэвалюцыйнага руху на землях былой Рэчы Паспалітай. Рэвалюцыянеры падзяляліся на “белых” і “чырвоных”. Большасць “белых” паходзіла з памешчыцкіх колаў. “Чырвоная” плынь была значна больш стракатай па паходжанні. Калі “белыя” ставілі перад сабой мэту – толькі адраджэнне былой дзяржавы, то “чырвоныя” – яшчэ і вырашэнне эканамічных і сацыяльных пытанняў. Летам 1862 г. прадстаўнікі “левых” для падрыхтоўкі паўстання стварылі ў Вільні Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК). На чале яго з кастрычніка 1862 г. стаў выдатны дзеяч беларускага дэмакратычнага руху Канстанцін Каліноўскі. Ён выступаў за разгортванне сялянскай рэвалюцыі. Шляхта, на яго думку, з’яўлялася “прагніўшай і разбэшчанай кастай”. Разам з В. Урублеўскім і Ф. Ражанскім у 1862 – 1863 гг. К. Каліноўскі выдаваў першую нелегальную газету на беларускай мове “Мужыцкая праўда”.

У студзені 1863 г. ў Польшчы пачалося паўстанне. 1 лютага 1863 г. ЛПК таксама звярнуўся да насельніцтва з адозвай браць у рукі зброю. Тады ж быў створаны Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі, які ўзяў на сябе функцыі цэнтра кіраўніцтва паўстаннем. У паўстанні прымала актыўны ўдзел шляхта, некалькі ў меншай ступені – сяляне. Ваенныя дзеянні паўстанцаў нагадвалі партызанскія акцыі – адкрыта ўступаць у бітву з расійскімі войскамі большасць не рашалася. 24 красавіка 1863 г. атрад Л. Звяждоўскага захапіў павятовы цэнтр Горкі. У гэтым чыне яму дапамагалі студэнты мясцовага земляробчага інстытута.

Аднак спрэчкі паміж “белымі” і “чырвонымі”, дрэнная падрыхтоўка і рэпрэсіі царскага ўрада прывялі да паражэння паўстання.

22 сакавіка 1864 г. захоплены ў палон К. Каліноўскі быў пакараны смерцю. Віленскі генерал-губернатар М. Мураўёў, які атрымаў ад цара неабмежаваныя паўнамоцтвы, жорстка распраўляўся з паўстанцамі. 128 з іх былі пакараны смерцю, 800 – адпраўлены на катаргу, больш за 12 тысяч – высланы з Беларусі. Памешчыкі і сяляне-каталікі абмяжоўваліся ў сваіх правах. Быў зачынены Гора-Горацкі земляробчы інстытут, апошняя вышэйшая навучальная ўстанова на Беларусі. Фактычна была забаронена і беларуская мова. Разам з тым беларускія сяляне былі вызвалены ад стану часоваабавязаных (1863). Беззямельныя сяляне атрымлівалі невялікія надзелы. У 1867 г. на абавязковы выкуп былі пераведзены дзяржаўныя сяляне.



**Палітычныя і эканамічныя працэсы другой паловы XIX – пачатку XX ст.** Пасля падаўлення паўстання царызм таксама правёў некаторыя ліберальныя рэформы: земскую (1864), судовую (1864), гарадскую (1870–1875), ваенную (1874), школьную (1864) і цэнзурную (1865). Аднак на Беларусі з-за недаверу царскага ўрада да мясцовага насельніцтва гэтыя рэформы ў поўным аб’ёме прайшлі толькі на пачатку XX ст. Гэта тычыцца, у прыватнасці, земскай рэформы (адбылася ў 1911 г.).

Рэформы 1860 – 1870-х гг. спрыялі развіццю таварнай вытворчасці. З 1880-х гг. сельская гаспадарка Беларусі паступова пераходзіць ад пераважнага вырошчвання зерневых культур да спецыялізацыі ў малочнай жывёлагадоўлі, ільнаводстве і бульбаводстве. У прамысловасці назіраецца пераход ад мануфактурнай да фабрычнай вытворчасці. Яе канцэнтрацыя абумовіла стварэнне акцыянерных таварыстваў. З Беларусі вывозіліся лес, запалкі, тканіны, абутак, кафля, гарбарныя вырабы і інш. Значную ролю пачалі адыгрываць банкі. Асабліва хутка ішло будаўніцтва чыгункі: у 1870 г. працягласць чыгуначных ліній складала 302 км., у 1902 г. – 2752 км., 1914 г. – 3900 км. Але з-за канкурэнцыі з суседнімі буйнымі прамысловымі рэгіёнамі Расійскай імперыі прамысловасць на Беларусі ўвогуле развівалася марудна.

У другой палове XIX ст. ў палітычны рух актыўна ўключыліся спачатку прадстаўнікі трэцяга саслоўя – разначынцы, а на пачатку XX ст. – і рабочыя. Асаблівай папулярнасцю карысталіся рэвалюцыйныя ідэі, накіраваныя на радыкальныя змены ў грамадстве.

З 1860-х гг. сярод інтэлігенцыі Беларусі пачалі распаўсюджвацца народніцкія ідэі. У 1880-я гг. ў розных гарадах дзейнічалі народніцкія гурткі, падпарадкаваныя расійскім арганізацыям “Чорны перадзел” і “Народная воля”. У 1882 г. ў Вільні была створана “Арганізацыя “Народнай волі” ў Паўночна-Заходнім краі”. Многія прадстаўнікі народніцтва на Беларусі шчыра цікавіліся жыццём народа, удзельнічалі ў палітычнай і асветніцкай рабоце. У асноўным, яны арыентаваліся на сялянскія масы і бачылі ў сялянскіх абшчынах праобраз будучага сацыялістычнага грамадства. У 1880-я гг. ў Пецярбургу дзейнічала беларуская народніцкая група “Гоман”, якая выдавала нелегальны часопіс на беларускай мове. У 1881 г. адзін з арганізатараў “Гоману”, І. Грынявіцкі, разам з рускімі рэвалюцыянерамі здзейсніў замах на Аляксандра II. Бомба, кінутая ім, аказалася для цара смяротнай. Сам І. Грынявіцкі таксама загінуў.

У 1896 г. прадстаўнікі польскай, беларускай і часткова літоўскай інтэлігенцыі стварылі першыя марксісцкія партыі – Літоўскую сацыялдэмакратычную партыю і Рабочы Саюз Літвы.

У 1902 г. ў Пецярбургу на базе маладзёвых асветніцкіх гурткоў была створана Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. У 1903 г. яна змяніла назву на Беларускую Сацыялістычную Грамаду (БСГ). Стваральнікамі і актыўнымі дзеячамі БСГ сталі браты І. і А. Луцкевічы, К. Кастравіцкі, В. Іваноўскі, А. Пашкевіч, А. Бурбіс і інш.

Актыўна дзейнічалі і яўрэйскія арганізацыі. У 1897 г. прадстаўнікі яўрэйскіх марксісцкіх колаў аб'ядналіся ва Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі (Бунд). У 1898 г. пры падтрымцы ЦК Бунда ў Мінску адбыўся першы з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП).

**Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1905–1907 гг. на Беларусі.** Працэс стварэння палітычных партый значна паскорыўся падчас буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі 1905–1907 гг. Асноўныя падзеі рэвалюцыі адбываліся па-за межамі Беларусі, аднак і тут праходзілі мітынгі, забастоўкі і сялянкія выступленні. 17 кастрычніка 1905 г. Мікалай ІІ падпісаў маніфест, згодна якому ў Расіі былі дазволены асноўныя грамадзянскія свабоды, а таксама заканадаўчы орган – Дзяржаўная дума. 18 кастрычніка па загадзе губернатара П.Р Курлова ў Мінску была расстраляна мірная дэманстрацыя гараджан. Сутычкі з паліцыяй і армейскімі часцямі адбыліся і ў іншых гарадах.

У 1905–1906 гг. на падставе маніфеста былі створаны Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі, суполкі агульнарасійскіх буржуазных партый кадэтаў, акцябрыстаў і інш. Актывізавалі сваю дзейнасць суполкі РСДРП, Бунда і іншых сацыялістычных партый. У 1906 г. прыхільнікі БСГ пачалі выдаваць першыя легальныя беларускамоўныя газеты "Наша доля" (14.09.1906 – 14.12.1906) і "Наша ніва" (23.11.1906 – 20.08.1915). Пачалі дзейнічаць прафсаюзныя аб'яднанні. Царскія ўлады актыўна падтрымлівалі стварэнне рэакцыйных крайне правых арганізацый, накшталт Саюза Рускага Народа і Рускага Акраіннага Саюза, прадстаўнікі якіх спавядалі вялікадзяржаўны шавінізм і арыентаваліся на манархію. 9 ліпеня 1906 г. ўладамі была распушчана І Дума, а 3 чэрвеня 1907 г. і ІІ Дума. Новае выбарчае заканадаўства павінна было садзейнічаць выбранню прыхільнікаў царскага самаўладдзя. Такім чынам, рэвалюцыя скончылася паражэннем. Але яна паказала, што сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа залежаць ад яго згуртаванасці і свядомасці.

**Сталыпінская аграрная рэформа на Беларусі.** Каб стрымаць сялянскі рух, урад на чале з П.А. Сталыпіным распачаў у 1906 г. новую аграрную рэформу. Яе сутнасцю было разбурэнне сялянскай абшчыны і паскарэнне капіталістычнага развіцця вёскі. Сялянам дазвалялася выходзіць з абшчыны разам са сваім надзелам, ствараць вотрубы і хутары (з 1911 г. выхад стаў абавязковым). Уласнікі хутароў і вотрубаў маглі атрымаць ад Пазямельнага банка пазыкі для набыцця новай зямлі.

Урад П.А. Сталыпіна таксама стымуляваў перасяленне сялянскіх сем'яў у Сібір, на Далёкі Усход, Паўночны Каўказ і г. д. Найхутчэй рэформа адбывалася на захадзе і ў цэнтральнай Беларусі, дзе абшчыннае землекарыстанне было ў большасці ліквідавана яшчэ ў XVI ст. На ўсходзе і поўначы Беларусі да 1916 г. з абшчын выйшла 63 % сялянскіх двароў. У 1904 – 1914 гг. Беларусь пакінула 356 тыс. перасяленцаў. Разам са станоўчымі рысамі, Сталыпінская рэформа мела і адмоўныя: павелічэнне кошту зямлі і колькасці бядняцкіх гаспадарак. 10,9 % перасяленцаў страцілі на новых землях сваю маёмасць і былі вымушаны вярнуцца на радзіму жабракамі.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Да якіх сацыяльна-эканамічных і палітычных змен прывяла рэформа 1861 г.? 2. Чаму паўстанне 1863 г. на Беларусі пацярпела паражэнне? 3. Якія змены ў палітычным руху адбыліся ў канцы XIX – пачатку XX ст.? 4. Ахарактарызуйце падзеі рэвалюцыі 1905 – 1907 гг. на Беларусі. 5. Якія прычыны і наступствы мела Сталыпінская аграрная рэформа?*

## Развіццё беларускай культуры ва ўмовах царскай Расіі (канец XVIII – пачатак XX ст.)

***Літаратура***

1. Астрога, В. Адносіны царызму да настаўніцтва Беларусі (другая палова XIX – пачатак XX ст.) / В. Астрога // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 8. – С. 28–34.

2. Багдановіч, М. Беларускае адраджэнне / М. Багдановіч; прадм. У.М. Лазоўскага. – Мінск: Універсітэцкае, 1994. – 31 с.

3. Гаранін, Л. Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя / Л. Гаранін. – Мінск: Беларуская навука, 1996. – 176 с.

4. Грыгор'ева, В.В. Канфесіі на Беларусі (канец XVIII–XX ст.) / В.В. Грыгор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі, А.М. Філатава; Навук. рэд. У.І. Навіцкі. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1998. – 340 с.

5. Гулак, А. Ідэі заходнерусізму ў “Гісторыі беларускага краю” Пятра Бяссонава / А. Гулак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 4. – С. 34.
6. Гусак, А.А. Практычная механіка і “мёртвыя душы” / А.А. Гусак. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 54 с.
7. Дабравольскі, В.А. Да ісціны – найпрацейшым шляхам: Васіль Ермакоў / В.А. Дабравольскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 60 с.
8. Процька, Т. Даследчык таямніцаў святла: Аляксандр Садоўскі / Т. Процька. – Мінск: “Навука і тэхніка, 1994. – 63 с.
9. Снапкоўская, С. Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. / С. Снапкоўская. – Мінск: Нац. інстытут адукацыі, 1998. – 191 с.
10. Унучак, А. “Наша ніва” і ідэйнае выхаванне беларускай інтэлігенцыі / А. Унучак // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 4. – С. 16.
11. Філякоў, У.Г. Шляхі развіцця беларускай культуры у пачатку XX ст. / У.Г. Філякоў // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 110 – 117.
12. Цьвікевіч, А. “Западно-руссизм”: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.: фотакопіі: у 2 ч./ А. Цьвікевіч. – Мінск: Белдзяржвыд, 1929.
13. Чаропка, В. Творчы геній Напалеона Орды / В. Чаропка // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 2. – С. 48–55.
14. Чаропка, В. Іван Хруцкі: адкрыццё мастака (да 200-годдзя з дня нараджэння) / В. Чаропка // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – №.1. – С. 3–14.

***Вызначальныя паняцці****: нацыя, русіфікацыя, заходнерусізм, этнаграфія, рамантызм, крытычны рэалізм, неастылі, псеўдарускі стыль, мадэрн, эклектыка.*

Пасля далучэння беларускіх зямель царскія ўлады, імкнучыся інтэграваць у сваю дзяржаўную структуру новыя тэрыторыі, праводзілі адпаведную палітыку. Значны ўплыў на развіццё беларускай культуры ў гэты час аказвае спачатку пераважна польская, а пазней, асабліва ў 1860-х гг. – руская культура, назіраецца цесная сувязь з культурамі ўкраінскага, літоўскага, яўрэйскага і іншых народаў. Культура беларускіх зямель сутыкаецца з жорсткім прыгнётам з боку царскай улады, якая імкнецца даказаць, што Беларусь з’яўляецца заходняй часткай Расійскай імперыі, а яе насельніцтва не мае сваёй этнічнай асаблівасці (ідэалогія “заходнерусізму”).

**Фарміраванне беларускай нацыі.** Тым не менш менавіта ў гэты час беларускі этнас фарміруецца як нацыя. Нацыяй называецца ўстойлівая этнасацыяльная супольнасць людзей, якая, у адрозненне ад народнасці, характарызуецца не толькі агульнымі тэрыторыяй, мовай, культурай, але таксама цеснымі эканамічнымі, сацыяльна-палітычнымі і культурнымі сувязямі паміж рэгіёнамі, больш высокім узроўнем этнічнай самасвядомасці. Фарміраванне беларускай нацыі ішло ва ўмовах развіцця капіталістычных адносін і ўнутранага рынку, росту гарадоў і гарадскога насельніцтва. Паступова фарміруюцца новыя класы наёмных рабочых (шматнацыянальны) і буржуазіі (пераважна небеларускага паходжання). У канцы XIX ст. 90 % этнічных беларусаў пражывала ў сельскай мясцовасці; працэс кансалідацыі таксама стрымлівала слабасць нацыянальнай буржуазіі. З пачатку XIX ст. ўсе тэрыторыі з пераважнай доляй пражывання беларускага насельніцтва ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі. Тое, што беларусы не мелі сваёй дзяржаўнасці, а таксама ідэалагічная палітыка непрызнання адметнасці беларускага народа, перашкоды ва ўжыванні беларускай мовы замаруджвалі этнаўтваральныя працэсы. Канчатковае замацаванне тэрміну “Беларусь”, “беларусы” за ўсёй этнічнай тэрыторыяй Беларусі адбываецца ў другой палове XIX ст. ў сувязі з развіццём беларусазнаўства, якое садзейнічала ўмацаванню нацыянальнай самасвядомасці. Але на пачатку XX ст. працэс фарміравання беларускай нацыі яшчэ не быў завершаны.

**Адукацыя.** На пачатку XIX ст. на Беларусі, як і ў іншых землях імперыі, адбылася адукацыйная рэформа. Была сфарміравана шматступенчатая сістэма адукацыі: пачатковыя школы – прыходскія вучылішчы – павятовыя вучылішчы – гімназіі – Віленскі універсітэт (1803 – 1832), адчынены на месцы Галоўнай школы ВКЛ. У 1812 – 1820 гг. працавала Полацкая акадэмія. Але царскі ўказ 1827 г. абмяжоўваў магчымасць атрымання вышэйшай і сярэдняй адукацыі для прадстаўнікоў непрывілеяваных саслоўяў. Навучанне вялося толькі на польскай і рускай мовах. Пасля задушэння паўстання 1830–1831 гг. па ініцыятыве ўрада пачаўся актыўны працэс русіфікацыі. Ён быў накіраваны не толькі супраць ужывання польскай, але і беларускай мовы. Драматычныя падзеі 1863–1864 гг. вымусілі ўлады дзейнічаць яшчэ больш жорстка. Пісьмовая беларуская мова апынулася пад забаронай. Былі зачынены Гора-Горацкі земляробчы інстытут (1848–1864) і шэраг сярэдніх навучальных устаноў. Многія мясцовыя настаўнікі высылаліся з Беларусі. На іх месца накіроўваліся выхадцы з цэнтральных расійскіх губерняў. Узмацніўся кантроль праваслаўнай царквы над адукацыяй.

Падчас новай рэформы 1864 г. школьная адукацыя пераводзіцца пад кіраўніцтва Міністэрства народнай асветы. Пачатковую адукацыю

на вёсцы вядуць пачатковыя і народныя вучылішчы (пераўтвораныя ў 1884 г. ў царкоўнапрыходскія і школы граматы), у горадзе – гарадскія вучылішчы. Сярэднюю адукацыю за даволі высокую плату давалі класічныя і рэальныя гімназіі і прагімназіі, жаночыя 7-класныя гімназіі. Да пачатку XX ст. сетка навучальных устаноў пашыраецца, але ўзровень адукацыі застаецца нізкім.

У другой палове XIX ст. хуткімі тэмпамі развіваецца прафесійная адукацыя. На Беларусі з'яўляюцца навучальныя ўстановы, якія даюць спецыяльную адукацыю ў галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, медыцыны, педагогікі і інш. Спецыфічнай рысай прафесійнай адукацыі на Беларусі з'яўляецца высокая вага яўрэйскіх навучальных устаноў, што звязана з усталяваннем на нашых землях у канцы XVIII ст. т. зв. "мяжы яўрэйскай аселасці".

**Навуковае даследаванне Беларусі.** У XIX ст. пачынаецца навуковае даследаванне Беларусі. Ужо ў працах К. Калайдовіча ўтрымліваюцца звесткі аб самабытнасці беларускай мовы. Гэты тэзіс падмацаваны працамі славяназнаўца, этнографа, археолага, фалькларыста З. Даленгі-Хадакоўскага (1784 – 1825). Мінулае Літвы і Беларусі вывучалі Яўстафій і Канстанцін Тышкевічы, Т. Нарбут. У навуковых экспедыцыях беларускіх вучоных А. Дамбавецкага, Е. Раманава, П. Шэйна і інш. збіраецца этнаграфічны матэрыял, які сведчыць аб самастойнасці беларускага этнасу. Адметнай рысай пачатку XX ст. стала з'яўленне культурна-асветніцкіх навуковых устаноў і таварыстваў. У 1900 – 1914 гг. на Беларусі іх дзейнічала 54. У 1910 г. быў створаны Паўночна-Заходні аддзел Рускага геаграфічнага таварыства ў Вільні, які надрукаваў 12 прац па этнаграфіі і археалогіі беларускіх зямель.

У вывучэнні Беларусі вялікі ўнёсак заснавальніка беларускага мовазнаўства Я. Карскага (1860–1931). Яго трохтомная праца "Беларусы", сапраўдная энцыклапедыя беларусазнаўства, упершыню абгрунтавала нацыянальную самабытнасць беларусаў як асобнага славянскага народа. Для гісторыі Беларусі нямала зрабілі М. Доўнар–Запольскі, М. Нікіфароўскі, А. Семянтоўскі. А. Сапуноў і інш. Даследаванні Беларусі выклікалі немалую цікавасць у культурным свеце і садзейнічалі фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці.

**Літаратура** Беларусі XIX – пачатку XX ст. развівалася ў рэчышчы агульнаеўрапейскіх працэсаў. На пачатку XIX ст. тут з'яўляюцца стылі рамантызму, для якога характэрна арыентацыя на голас пачуццяў (творы А. Міцкевіча, Я. Чачота, Я. Баршчэўскага, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча), і сентыменталізму з яго ўвагай да ніжэйшых слаёў грамадства, з культам маральных і духоўных каштоўнасцей як асноўнага



прынцыпу жыцця (элементы прасочваюцца ў вершах Я. Чачота). Сярод выдатных пісьменнікаў пачатку XIX ст. трэба вылучыць Адама Міцкевіча (1798 – 1855), аўтара рамантычных вершаў і паэм ("Пан Тадэвуш", "Гражына", "Дзяды", "Мешка, князь Навагрудка" і інш.). Акрамя літаратурнай ён актыўна займаўся палітычнай і навуковай дзейнасцю, працаваў у Лазанскім універсітэце (Швейцарыя) і Калеж-дэ-Франс (Францыя).

Большасць літаратурных твораў першай паловы XIX ст. пісалася на польскай мове. З пачатку XIX ст. пачынаецца новы этап у гісторыі беларускай літаратурнай мовы, аснову якой складаў фальклор. Збіралі і перапрацоўвалі вусную народную творчасць Т. Зан, В. Рэут, А. Грот-Спасоўскі (ён жа – А. Спасоўскі-Грот) і інш. Па-беларуску пісалі П. Багрым, Я. Чачот, І. Легатовіч. Але пераважная большасць беларускамоўных твораў насіла ананімны характар. Так, толькі ў нашы часы ўстаноўлена верагоднае аўтарства паэм "Энеіда навыварат" (В. Равінскі) і "Тарас на Парнасе" (К. Вераніцын). У 40-я гг. з'яўляецца друкаваная беларуская літаратура: п'еса "Сялянка" В. Дуніна-Марцінкевіча, творы А. Рыпінскага, Я. Баршчэўскага; новыя літаратурныя жанры – апавяданне, балада, лірычны верш. Публіцыстыка стала папулярным жанрам у 60-х гг. XIX ст. Яе ўзор – першая беларускамоўная газета "Мужыцкая праўда" К. Каліноўскага, дзе па-майстэрску выкарыстоўваецца форма народнай гутаркі.

Стыль крытычнага рэалізму, што пачынае фарміравацца ў другой палове XIX ст., прадстаўлены ў Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча, Я. Лучыны. Іх творы дэманструюць абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці. Дастойнымі іх пераемнікамі ў пачатку XX ст. становяцца Я. Купала, Я. Колас, А. Пашкевіч (Цётка), М. Багдановіч, Ц. Гартны, З. Бядуля, К. Буйло. Галоўная задача іх твораў – сцвердзіць у свядомасці народа перакананне ў яго самабытнасці, заклікаць да барацьбы з самадзяржаўем, да сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення народа.

Пачатак XX ст. атрымаў назву "нашаніўскага адраджэння", што звязана са з'яўленнем першых легальных беларускамоўных газет "Наша доля" (1906) і "Наша ніва" (1906 – 1915). Апошняя адыграла вялікую ролю ў адраджэнні беларускай мовы і культуры народа. Сацыяльнай базай выдання, якое выходзіла тыражом у 4,5 тыс. экз., быў працоўны народ, асабліва сялянства. На старонках "Нашай нівы" ўздымаліся тэмы Беларусі і лёсу яе жыхароў. У працы выдання важную ролю адыгралі дзеячы нацыянальнага адраджэння – браты І. і А. Луцкевічы, Я. Купала, Я. Колас, Я. Лёсік, В. Ластоўскі, М. Гарэцкі, А. Гарун і інш. Пры газеце выдаваўся штогадовы "Беларускі каляндар" і часопісы "Саха" і "Лучынка", кнігі (за 10 гадоў выдадзена больш за 80 найменняў).

**Беларускі тэатр.** Новыя тэндэнцыі ў гісторыі беларускага тэатра прасочваюцца ў першай палове XIX ст., калі В. Дунін-Марцінкевіч у сваім маёнтку Люцынка стварае беларускі тэатр прафесійнага тыпу, які стаў асновай нацыянальнага прафесійнага тэатра.

9 лютага 1852 г. тут была пастаўлена першая беларуская опера "Сельская ідылія" (музыка С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага, лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча). Але пасля падзей 1863 – 1864 гг. дзейнасць тэатра амаль спынілася. Заснавальнікам новага нацыянальнага прафесійнага тэатра многа пазней стаў Ігнат Буйніцкі. Створаная ім "Першая беларуская трупа" ў 1910 г. стала адметным нацыянальным калектывам, у якім выступалі хор, драматычныя і танцавальныя групы. Своеасаблівым пераемнікам тэатра стала "Першае таварыства беларускай драмы і камедыі" (з 1917 г.).

**Выяўленчае мастацтва.** У выяўленчым мастацтве першай паловы XIX ст. больш ярка праступае свецкі характар. Яно развіваецца пад уплывам рамантызму і класіцызму (накірунак еўрапейскай мастацкай культуры XVIII – пачатку XIX ст., больш дэмакратычны, чым элітарнае барока, вызначаецца ўрачыстасцю і манументальнасцю). Адным з цэнтраў развіцця беларускага жывапісу, скульптуры і графікі стаў Віленскі універсітэт. Першыя яго выкладчыкі – Ф. Смуглевіч і Я. Рустэм – былі добра знаёмы з заходнееўрапейскім мастацтвам. Пасля закрыцця Віленскага універсітэта (1832) вышэйшую мастацкую адукацыю стала магчыма набыць у расійскіх акадэміях. Гэтыя акалічнасці адбіліся на беларускай школе выяўленчага мастацтва, дзе фарміруюцца адметныя жанры – гістарычны (Ф. Смуглевіч, Я. Сухадольскі, Я. Дамель), партрэтны (І. Аляшкевіч, В. Ваньковіч), бытавы (У. Бычкоўскі, К. Русецкі, Ю. Карчэўскі), пейзаж (В. Дмахоўскі), нацюрморт (І. Хруцкі), батальны (Я. Сухадольскі). У другой палове XIX ст. ў беларускім жывапісе ўсё больш яскрава праступаюць рэалістычныя тэндэнцыі. У Пецярбургу складваецца своеасаблівая беларуская мастацкая школа. У жанравай разнастайнасці жывапісу вызначаюцца пейзажы А. Гараўскага, гістарычныя палотны К. Альхімовіча, І. Трутнёва, бытавыя і партрэтныя работы Н. Сілівановіча.

У пачатку XX ст. з'яўляецца шэраг прыватных мастацкіх школ, сярод якіх вылучаецца віцебская школа Ю. Пэна, з якой выйшлі К. Малевіч і М. Шагал. Найбольш распаўсюджаным жанрам становіцца пейзаж (В. Бялыніцкі-Біруля, Ст. Жукоўскі, Ф. Рушчыц). Бытавы жанр набывае вострую сацыяльную афарбоўку (Ю. Пэн, Я. Кругер, Л. Альпяровіч).

Першым прафесійным скульптарам на Беларусі лічыцца К. Ельскі (1782–1867). Ён стварыў сапраўдную галерэю (больш за 50) партрэтаў



знакамітых асоб Беларусі, працаваў над аздабленнем культавых і грамадскіх будынкаў. Але ўвогуле беларуская скульптура развіваецца ў гэты час даволі слаба. Класіцызм яшчэ доўга не можа выцесніць у драўлянай і манументальна-дэкаратыўнай скульптуры барока і ракако. Вызначаецца высокі прафесіяналізм Я. Астроўскага, Р. Слізеня. У стылі мадэрн працавалі В. Бубноўскі, А. Краснапольскі, Я. Тышынскі і інш.

**Архітэктура.** У беларускай архітэктуры першай паловы XIX ст. пануе класіцызм з яго кампактнасцю аб'ёмаў, правільнымі геаметрычнымі планамі, прастатой дэкору фасадаў. На Беларусі працуюць архітэктары М. Львоў, Я. Гуцэвіч. Яркімі прыкладамі гэтага перыяду з'яўляецца палацава-паркавы ансамбль Румянцавых у Гомелі, комплекс у Снове. Ствараюцца праекты перапланіроўкі гарадоў, якія прадугледжваюць руйнаванне абарончых сцен, адводзяць зоны для пражывання розных сацыяльных груп. З'яўляюцца будынкі павятовых і губернскіх праўленняў, судоў і інш. У культавай архітэктуры абмяжоўваецца будаўніцтва касцёлаў, хутка перапыняецца ўзвядзенне уніяцкіх храмаў, а з ім траціцца самабытнасць беларускай архітэктуры. Некаторыя праваслаўныя храмы будуюцца ў псеўдарускім стылі (т. зв. "мураўёўкі").

Росквіт новага архітэктурнага накірунку – "гістарызму" (электызму) прыпадае на другую палову XIX ст. Ён вызначаецца спалучэннем розных т. зв. неастыляў – раманскага, готыкі, барока, класіцызму, псеўдавізантыйскага і інш. (палац у г. Косава Івацэвіцкага раёна, касцёл св. Сымона і Алены ў Мінску, мужчынская гімназія ў Гомелі і інш.). Пашыраецца выкарыстанне ў будаўніцтве новых матэрыялаў – чыгуну, жалезабетону, цэменту, фабрычнай дахоўкі. З'яўляюцца новыя тыпы будынкаў – чыгуначныя вакзалы, 3–4-павярховыя даходныя дамы.

На мяжы XIX – XX стст. на глебе эклектыцызму ўзнікае новы мастацкі стыль – мадэрн. Яму ўласціва ўжыванне новых матэрыялаў і прынцыпаў будаўніцтва, а таксама багаты ляпны дэкор, асіметрыя дзвярных і аконных праёмаў, арнаментыка з ужываннем элементаў антычнага і народнага мастацтва, готыкі (даходны дом у Мінску, пазямельнасялянскі банк у Гродне). У гэтым стылі працавалі С. Шабунеўскі, В. Марконі, А. Краснапольскі.

Беларуская культура ў XIX – пачатку XX стст. зрабіла значны крок наперад у сваім развіцці. Паланізацыя, русіфікацыя, фальсіфікацыя мінуўшчыны, рэпрэсіі супраць нацыянальна свядомых дзеячаў навукі і культуры прыпынілі працэс развіцця беларускага этнасу. Сапраўдным адраджэннем стаў пачатак XX ст., калі на пэўны час з'явіўся шанс на адраджэнне беларускай дзяржаўнасці.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Што характэрна для форм развіцця беларускай нацыянальнай культуры XIX ст.? 2. На якой мове вялося выкладанне ў беларускіх навучальных установах у першай палове XIX ст.? У другой палове XIX ст.? 3. У сувязі з чым літаратура другой паловы XIX ст. заставалася пераважна ананімнай і рукапіснай? 4. Якія жанры характэрны для беларускага жывапісу XIX ст.?*

## Беларусь у 1914–1918 гг.

***Літаратура***

1. Коршук, В.К. Государственность Беларуси: Проблемы формирования в программах политических партий / В.К. Коршук, Р.П. Платонов, И.Ф. Романовский, Е.Г. Богданович. – Минск: БГУ, 1999. – 188 с.

2. Запруднік, Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях / Я. Запруднік. – Мінск: ВЦ “Бацькаўшчына”, 1996. – 264 с.

3. Іванова, В. Першая сусветная вайна ў дакументах беларускіх архіваў / В. Іванова // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 1. – С. 77.

4. Игнатенко, И.М Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии / И.М. Игнатенко. – Минск: Навука і тэхніка, 1992. – 254 с.

5. Ігнаценка, І. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі: Асаблівасці і вынікі / І. Ігнаценка. – Мінск: БелНДІДАС, 1995. – 270 с.

6. Касцюк, М. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі / М. Касцюк. – Мінск: ВП “Экаперспектыва”, 2000. – 307 с.

7. Круталевич, В.А. История Беларуси: становление национальной державности (1917–1922 гг.) / В.А. Круталевич. – 2-е изд., доп. – Минск: Право и экономика, 2003. – 585 с.

8. Луцкевіч, А.І. За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый / А.І. Луцкевіч; пасляcл. А.М. Сідаровіча. – Мінск: БелСЭ, 1991. – 64 с.

9. Ляхоўскі, У. Адукацыйная палітыка германскіх улад на акупіраванай тэрыторыі Беларусі (1915–1918 гг.) / У. Ляхоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 12. – С. 31.

10. Марцуль, Г.С. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі. Нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва. Іншаземная інтэрвенцыя (1917–1920 гг.). Ч.1-2 / Г.С. Марцуль, Ж.А. Канцавая. – Мінск, 1995.



11. Протько, Т.С. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.) / Т.С. Протько. – Минск: Тесей, 2002. – 687 с.

12. Рудовіч, С. Час выбару: праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе / С. Рудовіч. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 200 с.

13. Усебеларускі з’езд 1917 года: сведчанне сучасніка / Прадмова і публікацыя В. Скалабана // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 62–69.

14. Юхо, Я. Беларускія ўрады 1918–1921 гг. і іх паўнамоцтвы / Я. Юхо // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 4. – С. 63–68.

***Вызначальныя паняцці****: сусветная вайна, двоеўладдзе, саветы, Часовы грамадскі камітэт парадку, Камітэт выратавання рэвалюцыі і радзімы, СНК, Аблвыкамзах, Заходняя вобласць, Вялікая Беларуская Рада, Народны сакратарыят Беларусі, Белнацкам, БНР, ССРБ, Літбел.*

**Беларусь напачатку першай сусветнай вайны**. 1 жніўня 1914 г. пачалася першая сусветная вайна. Яе пачатак быў звязаны з абвастрэннем супярэчнасцей паміж буйнейшымі дзяржавамі свету. Кожная з іх выношвала альбо захопніцкія планы, альбо імкнулася ўтрымаць раней далучаныя тэрыторыі. Да 1914 г. сфармаваліся два буйныя ваеннапалітычныя блокі – Антанта (Расія, Англія, Францыя, Японія) і Траісты саюз (Германія, Аўстра-Венгрыя, Італія). Летам 1914 г. адносіны паміж двума блокамі абвастрыліся.

15 ліпеня Аўстра-Венгрыя абвясціла вайну Сербіі, краіне, з якой Расія мела вельмі цесныя адносіны. У Расіі пачалася мабілізацыя. Дазнаўшыся пра гэта, Германія абвясціла ёй вайну. На працягу тыдня ў вайну ўступілі ўсе ўплывовыя краіны Еўропы. У 1915 г. Італія выйшла з Траістага саюза і перайшла на бок Антанты. Але Германія і Аўстра-Венгрыя знайшлі новага ўплывовага саюзніка – Асманскую Порту. Усяго ў першай сусветнай вайне ўдзельнічалі 33 дзяржавы з насельніцтвам 1,5 мільярда чалавек. З’яўленне новых відаў зброі (кулямётаў, аэрапланаў, хуткастрэльных гармат і г. д.) вымушалі сучаснікаў лічыць, што ваенныя дзеянні хутка скончацца. На самой справе вайна працягвалася да восені 1918 г. Расія аказалася не падрыхтаванай да такіх маштабных ваенных дзеянняў.

З пачатку вайны ва ўсіх беларускіх губернях уводзілася ваеннае становішча. У 1914 г. расійскія войскі нанеслі сур’ёзныя паражэнні праціўніку ў Галіцыі і Прусіі. Але слабасць расійскай арміі падштурхнула нямецкае кіраўніцтва перагледзець ваенныя планы і распачаць у 1915 г. наступленне супраць Расіі. У верасні – кастрычніку 1915 г. значная частка беларускіх земель была занята нямецкімі войскамі. Пасля

ўдалага контрнаступлення рускіх фронт усталяваўся на лініі Дзвінск – Паставы – Смаргонь – Баранавічы – Пінск. На неакупаваных землях Беларусі сабралася вялікая колькасць бежанцаў, дыслацыраваліся армейскія часці. Вайна спрыяла толькі прадпрымальнікам, чые прадпрыемствы працавалі на армію. Прыняцце "сухога закону" падарвала вінакурную прамысловасць. Сотні тысяч жыхароў былі ўзяты ў армію, іншыя масава ўдзельнічалі ў абарончых работах; праводзіліся рэквізіцыі. У выніку сельская гаспадарка была падарвана, у гарадах адзначаўся недахоп харчавання. Цяжкае было становішча салдат: хранічна не хапала зброі, харчу і адзення. У выніку незадавальненне распаўсюджвалася і сярод грамадзянскіх асоб, і сярод ваенных. Так, у кастрычніку 1916 г. адбылося паўстанне на размеркавальным пункце ў Гомелі, у якім удзельнічала звыш 4000 салдат. Гэта дазволіла сацыялістычным партыям з поспехам весці прапаганду ў гарадах і ваенных часцях.

На акупаваных тэрыторыях падчас ваенных дзеянняў былі разбураны многія вёскі і гарады, частка насельніцтва загінула ці была вымушана пакінуць свае сядзібы. Акупанты праводзілі двайстую палітыку. З аднаго боку, яны абвясцілі беларускую мову афіцыйнай, дазволілі адчыняць беларускія школы і газеты. Дзейнічалі такія грамадска-палітычныя аб'яднанні, як Беларускі народны камітэт (1915 – 1918) і Цэнтральны савет беларускіх грамадскіх арганізацый (з 1916 г.). Беларускія дзеячы выступалі на міжнародных канферэнцыях у Стакгольме і Лазане. Аднак ніякіх захадаў да абвяшчэння незалежнасці ці аўтаноміі Беларусі нямецкае кіраўніцтва акупаваных зямель не рабіла. Праводзіліся масавыя рэквізіцыі. У Германію вывозіліся жывёла, зерне, лес і прамысловае абсталяванне.

**Лютаўская рэвалюцыя на Беларусі.** 23 лютага 1917 г. ў Расіі пачалася другая буржуазная рэвалюцыя. 28 лютага Часовы камітэт Дзярждумы абвясціў аб пераходзе да яго ўсёй улады ў краіне. 2 сакавіка з гэтым рашэннем пагадзіўся Петраградскі Савет, які ўяўляў сабой орган кіраўніцтва паўстаннем рабочых і сялян. 2 сакавіка Мікалай II адрокся ад прастолу. Расія была абвешчана рэспублікай. Уводзіліся асноўныя грамадзянскія свабоды. Да склікання агульнага Устаноўчага сходу Расіяй кіраваў Часовы ўрад.

Да Беларусі весткі аб перамозе рэвалюцыі дайшлі 1 сакавіка і былі сустрэты насельніцтвам з вялікім энтузіязмам. 2 сакавіка рабочыя Мінска занялі асноўныя прадпрыемствы горада, арыштавалі каменданта і камандуючага фронтам. Была раззброена паліцыя. 4 сакавіка сфарміраваліся атрады добраахвотнай міліцыі на чале з бальшавіком М.В. Фрунзе. У той жа дзень узнік і Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў ствараліся ў іншых гарадах Беларусі. Акрамя таго, дзейнічалі падначаленыя Часоваму ўраду грамадзянскія камітэты (у Мінску – Часовы грамадскі камітэт парадку). Такім чынам, пасля рэвалюцыі склалася сітуацыя двоеўладдзя.

25 сакавіка 1917 г. на з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый быў абраны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), які павінен быў вырашыць пытанне аб статусе Беларусі ў складзе Расіі. Гэту задачу БНК вырашыць не здолеў. На II з'ездзе ён быў пераўтвораны ў Цэнтральную раду. Але і яна не здолела канчаткова аб'яднаць нацыянальныя арганізацыі Беларусі. Таму ў кастрычніку на яе аснове была створана Вялікая беларуская рада. Праходзілі таксама з'езды сялянскіх дэпутатаў, быў праведзены I з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў арміі і тылу Заходняга фронту.

Часовы ўрад адмаўляўся вырашаць злабадзённыя праблемы грамадства да склікання Устаноўчага сходу – сяляне не атрымалі зямлю, не была скончана вайна, пагоршылася эканамічная сітуацыя. Пасля няўдалага наступлення расійскай арміі на Паўднёва-Заходнім і Заходнім франтах 4 ліпеня ў Петраградзе адбылася антываенная дэманстрацыя, арганізаваная бальшавікамі з мэтай захапіць уладу. Яна была скарыстана Часовым урадам у якасці зачэпкі для ліквідацыі стану двоеўладдзя ў краіне: пачаліся арышты бальшавікоў, кіраўніцтва ў саветах рабочых і салдацкіх дэпутатаў перайшло да меншавікоў і эсэраў, якія ў асноўным падтрымлівалі ўрадавую палітыку. Часовы ўрад узначаліў эсэр А. Керанскі. Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя скончылася.

Беларускія нацыянальныя партыі ў сваёй большасці прытрымліваліся сацыялістычнай арыентацыі, таму не маглі прапанаваць насельніцтву сацыяльныя і эканамічныя лозунгі, адрозныя ад іншых партый. У выніку вайны многія палітычныя дзеячы апынуліся ў Петраградзе, Маскве і Украіне. Яны вялі актыўную дзейнасць сярод беларускіх салдат і бежанцаў, але не маглі аказаць непасрэдны ўплыў на сітуацыю ў самой Беларусі. Спробы перагавораў з Часовым урадам скончыліся безвынікова. Некаторыя палітыкі спадзяваліся сфарміраваць беларускія часткі на Румынскім фронце і перакінуць іх у Беларусь, каб размаўляць з уладамі ўжо з пазіцыі сілы. Але ўвосень 1917 г. сітуацыя рэзка змянілася.

**Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі.** У жніўні 1917 г. Вярхоўным галоўнакамандуючым Л. Карнілавым быў арганізаваны мяцеж з мэтай перадачы ўсёй улады ў краіне вышэйшым армейскім чынам (іх падтрымлівала буйная буржуазія і многія дваране). Бальшавікі прынялі актыўны ўдзел у арганізацыі разгрому мяцяжу, што істотна

ўмацавала іх пазіцыі ў краіне. Яны шырока распаўсюджвалі лозунгі аб заканчэнні вайны, аб перадачы памешчыцкіх і дзяржаўных зямель сялянам. Гэтыя ідэі асабліва шчыра падтрымлівалі салдаты. Менавіта на іх рабілася асноўная стаўка пры падрыхтоўцы сацыялістычнай рэвалюцыі. Кастрычніцкія рэвалюцыйныя падзеі пачаліся ў ноч з 24 на 25 кастрычніка 1917 г. Улада да бальшавікоў перайшла амаль без супраціўлення. На большай частцы тэрыторыі Расіі ўсталяваўся жорсткі рэпрэсіўны рэжым, тэрор якога ў адносінах да насельніцтва ў тысячы разоў пераўзыходзіў тэрор эпохі Імперыі. На ІІ Усерасійскім з'ездзе Саветаў быў створаны новы ўрад – Савет Народных Камісараў (СНК), які ўзначаліў У.І. Ленін.

Калі весткі пра рэвалюцыю дайшлі да Мінска, мясцовы Савет, пераважна бальшавіцкі, узяў пад кантроль турму, вакзал, пошту, тэлеграф. Але Вялікая беларуская рада, меншавікі, эсэры і Бунд рашуча выступілі супраць пераходу ўлады ў рукі бальшавікоў.

27 кастрычніка яны пры дапамозе Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандавання (Магілёў) і штаба Заходняга фронту (Мінск) стварылі Камітэт выратавання рэвалюцыі і радзімы і запатрабавалі перадаць яму ўладу ў горадзе. Савет быў вымушаны пагадзіцца. Але 2 лістапада ў Мінск увайшлі рэвалюцыйныя ваенныя часці, і Савет вярнуў свае паўнамоцтвы. У ноч з 18 на 19 лістапада бальшавікі захапілі Магілёў і ліквідавалі Стаўку Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. На ўсёй не акупіраванай немцамі тэрыторыі Беларусі была ўсталявана бальшавіцкая ўлада. З 26 лістапада пачаў дзейнічаць новы орган улады – Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах) пад старшынствам М. Рагазінскага, а потым А. Мяснікова. Надзвычайная выканаўчая ўлада перайшла да Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту (старшыня – К. Ландар). Кіруючыя органы адзначаліся перавагай ваенных і поўнай адсутнасцю беларусаў па паходжанні.

**Першы Усебеларускі з'езд.** Спробу выправіць становішча зрабіў створаны пры выканкаме Усерасійскага з'езда сялянскіх дэпутатаў Беларускі абласны камітэт (БАК). Яму, сумесна з ВБР, удалося арганізаваць прадстаўнічы з'езд беларускіх арганізацый самага шырокага спектра ў снежні 1917 г. (1872 дэлегаты). СНК Заходняй вобласці і фронту ўважліва сачыў за правядзеннем з'езда, таму, калі стала вядома, што яго дэлегаты імкнуцца стварыць альтэрнатыўныя нацыянальныя органы ўлады, заклікаюць да рэспубліканска-дэмакратычнай формы кіравання, СНК разагнаў з'езд і арыштаваў найбольш актыўных яго ўдзельнікаў. Арганізатары з'езда, якіх пакінулі на свабодзе, стварылі



праз месяц Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда (старшыня – І. Серада), які і павінен быў узначаліць барацьбу за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці.

**Утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.** У студзені – лютым 1918 г. пачаў ваенныя дзеянні польскі корпус Ю. Доўбар-Мусніцкага. Ім былі захоплены Бабруйск, Мінск, Рагачоў і Жлобін. З двух апошніх палякі хутка былі выгнаны, але ім на змену прыйшла больш сур'ёзная небяспека: 16 лютага пачалі чарговае наступленне нямецкія войскі. Ужо да пачатку сакавіка 1918 г. фронт знаходзіўся на лініі Орша – Магілёў – Гомель.

3 сакавіка 1918 г. ў Брэст-Літоўску было заключана перамір'е паміж Савецкай Расіяй і Германіяй, – вымушаная мера савецкага ўрада. Паводле пагаднення, Германія атрымала ўжо занятую яе войскамі Прыбалтыку, значную частку Украіны, Беларусі і РСФСР. Акупаваная частка ўсходняй Беларусі пасля заканчэння ваенных дзеянняў павінна была перайсці ў склад РСФСР, заходняя перадавалася Германіі і Аўстра-Венгрыі. Неакупіраванай засталася толькі невялікая частка з шасці паветаў і некалькіх валасцей. Беларусь не лічылася самастойным нацыянальным рэгіёнам і нават не мела свайго наймення.

Скарыстаўшы наступленне нямецкіх войск, 19 лютага беларускія арганізацыі сумесна з эсэрамі і яўрэйскімі партыямі стварылі беларускі ўрад (Народны сакратарыят Беларусі) пад кіраўніцтвам Я. Варонкі. Паводле Першай Устаўной граматы (21.02.1918) абвяшчалася, што "… беларускі народ павінен ажыццявіць сваё неад'емнае права на самавызначэнне". Гаварылася пра неабходнасць "найхутчэйшага склікання ўсебеларускага ўстаноўчага сходу". Але немцы не збіраліся лічыцца з інтарэсамі беларусаў. 9 сакавіка выканкам Рады Усебеларускага з'езда прымае Другую Устаўную грамату, у якой была абвешчана Беларуская народная рэспубліка (БНР), дэклараваўся шэраг дэмакратычных свабод. 18 сакавіка выканкам ператвараецца ў Раду БНР. 25 сакавіка з'яўляецца Трэцяя Устаўная грамата, дзе былі абвешчаны незалежнасць БНР і заклік да перагляду ўмоў Брэсцкага міру. Нямецкі ўрад не адрэагаваў на звароты Рады; са складу беларускага ўрада выйшла частка эсэраў, меншавікоў і бундаўцаў, не згодных з фактам незалежнасці Беларусі ад Расіі.

11 лістапада 1918 г. Германія капітулявала перад Антантай і пачала вывад сваіх войскаў з акупаваных усходніх тэрыторый.

У гэтых умовах Савецкая Расія дэнансавала Брэсцкія пагадненні. Савецкія войскі пачалі займаць акупіраваныя тэрыторыі. Частка Рады БНР на чале Антона Луцкевіча пераехала ў Гродна, дзе былі сфарміраваны першыя нацыянальныя ўзброеныя сілы. Беларускія

палітычныя дзеячы спрабавалі дамовіцца з урадам Літоўскай рэспублікі аб стварэнні адзінай дзяржавы. У складзе ўрада Літвы з'явілася міністэрства беларускіх спраў, аднак здзейсніць гэты праект да канца не мелася магчымасці – Літоўская рэспубліка сама з цяжкасцю абараняла свае інтарэсы. Да сярэдзіны лютага 1919 г. большасць беларускіх зямель аказалася пад кантролем савецкіх уладаў.

Асноўныя падзеі першай сусветнай вайны выкладзены ў наступнай табліцы:

*Табліца 2*

| | |
|---|---|
| **19 ліпеня (1 жніўня) 1914 г.** | Пачатак першай сусветнай вайны |
| **Жнівень-кастрычнік 1915 г.** | Акупацыя тэрыторыі Беларусі да лініі Дзвінск – Паставы – Баранавічы – Пінск |
| **Сакавік 1916 г.** | Наступальная аперацыя расійскіх войскаў у раёне в. Нарач |
| **27 лютага 1917 г.** | Перамога Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Петраградзе |
| **17 красавіка 1917 г.** | Фарміраванне франтавога камітэта Заходняга Фронту |
| **25–30 жніўня 1917 г.** | Карнілаўскі мяцеж |
| **15–18 верасня 1917 г.** | Утварэнне Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РСДРП(б) |
| **25 кастрычніка 1917 г.** | Паўстанне пад кіраўніцтвам бальшавікоў. Звяржэнне Часовага урада |
| **26 лістапада 1917 г.** | Утварэнне Аблвыкамзаху і СНК Заходняй вобласці і фронту |
| **14–18 снежня 1917 г.** | Першы Усебеларускі з'езд у Мінску |
| **12 студзеня–люты 1918 г.** | Антысавецкае паўстанне корпуса Ю. Доўбар-Мусніцкага |
| **21 лютага 1918 г.** | Акупацыя г. Мінска германскімі войскамі |
| **3 сакавіка 1918 г.** | Брэст-Літоўскі мірны дагавор |
| **9 сакавіка 1918 г.** | Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі |
| **25 сакавіка 1918 г.** | Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі |
| **Лістапад–снежань 1918 г.** | Вызваленне тэрыторыі Беларусі ад нямецкай акупацыі |



***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Назавіце асноўныя этапы першай сусветнай вайны на Беларусі. 2. Якія падзеі адбываліся на Беларусі пасля Лютаўскай буржуазнай рэвалюцыі 1917 г.? 3. Як адрэагавала беларускае насельніцтва на падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе?*

## БССР у міжваенны перыяд (1919–1939)

***Літаратура***


1. Адамушка, У.І. Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі / У.І. Адамушка. – Мінск: Беларусь, 1994. – 156 с.
2. Адамушка, У.І. Пасля крутога павароту: ідэолага-палітычная барацьба ў Беларусі. 1932–1936 гг.: дакументы, матэрыялы, аналіз / Аўт.-склад. У.І. Адамушка [і інш.]. – Мінск: БелНДІДАС, 2008. – 494 с.
3. Брыгадзін, П. Рада БНР пасля Рыжскага дагавора 1921 г., ці канец нацыянальнага рамантызму / П. Брыгадзін, Р. Ладысеў // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 1.
4. Бяспалая, М. Эканамічнае развіццё беларускай вёскі (20-я гг. XX ст.) / М. Бяспалая // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 1.
5. Индустриализация Белорусской ССР (1926–1941 гг.): сборник документов и материалов / Сост. Л.С. Васильева. – Минск: Беларусь, 1975. – 467 с.
6. Касцюк, М. Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі: узаемаадносіны з суседзямі на пачатковым этапе існавання / М. Касцюк // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 1. – С. 10.
7. Малыхіна, Л. Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Літвы і Беларусі: асноўныя праблемы гістарыяграфіі / Л. Малыхіна // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 4.
8. Міхнюк, У. "Але без торгу і без слоў мы аддаем сваіх герояў" / У. Міхнюк // Беларуская мінуўшчына. –1993. – № 1.
9. Міхнюк У. Першае абвяшчэнне ССРБ: умовы, прычыны, значэнне / У. Міхнюк // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 3. – С. 3.
10. Мяснікоў, А. Нацдэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка / А. Мяснікоў. – Мінск: Беларусь, 1993. – 110 с.
11. Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925–1928 гг.): Отражение времени в архив-

ных документах / Авт.-сост.: Р.П. Платонов и др.; под ред. Р.П. Платонова. – Минск: БелНИИДАД, 2001. – 312 с.

12. Першая МТС на Беларусі / Падр. Л. Целеш // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – № 1. – С. 62–64.

13. Ходзін, С.М. Беларуская вёска: ад дэкрэта аб зямлі да суцэльнай калектывізацыі / С.М. Ходзін // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 117–128.

14. Слуцкі збройны чын 1920 г. ў дакументах і ўспамінах / Уклад. А. Гесь, У. Ляхоўскі, У. Міхнюк; прадмова У. Ляхоўскага. – Мінск: Медысонт, 2006. – 399 с.

15. Хоміч, С. Асноўныя этапы фарміравання тэрыторыі БССР (1918–1926 гг.) / С. Хоміч // Беларускі гістарычны агляд. Т. 7, сш. 2 (13), 2000.

16. Янушкевіч, Я. Неадменны сакратар Адраджэння / Я. Янушкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 68 с.

***Вызначальныя паняцці:*** *палітыка "ваеннага камунізму", харчразвёрстка, "Рудабельская рэспубліка", "Слуцкі збройны чын", нэп, харчпадатак, чырвонец, беларусізацыя, індустрыялізацыя, калектывізацыя, дзяржаўны сацыялізм, палітычныя рэпрэсіі, нацдэмы.*

**Першае абвяшчэнне БССР.** На вызваленых землях стваралiся органы савецкай улады. Яшчэ ў студзені 1918 г. пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей РСФСР быў створаны Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам) пад кіраўніцтвам А. Чарвякова. Ён заахвочваў савецкія ўлады да вырашэння пытання беларускай дзяржаўнасці на савецкай аснове. Супраць гэтай ініцыятывы выступіў Аблвыкамзах, які ўвогуле не лічыў беларусаў асобным народам і не бачыў патрэбы ў вырашэнні нацыянальнага пытання. У снежні 1918 г. было выбрана Цэнтральнае бюро беларускіх камуністычных арганізацый (Дз. Жылуновіч). Белнацкаму і Цэнтральнаму бюро было даручана падрыхтаваць Маніфест аб беларускім урадзе. 30 снежня адбыўся Першы з'езд Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі, на якім было абмеркавана пытанне аб складзе Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі. 1 студзеня 1919 г. было абвешчана стварэнне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ). Але 16 студзеня ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб перадачы Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай губерняў у склад РСФСР, а Мінскай і Гродзенскай губерням было дырэктыўна прапанавана стварыць сумесную дзяржаву з Літоўскай Савецкай Рэспублікай. 27 лютага 1919 г. на



аб'яднаным пасяджэнні ЦВК ССРБ і ЛССР было прынята рашэнне аб утварэнні Літбел.

**Савецка-польская вайна.** У лістападзе 1918 г. падчас адступлення нямецкіх войск была створана незалежная польская дзяржава, якая абапіралася на ідэю адраджэння Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Па сутнасці гэта азначала вайну з Савецкай Расіяй, да якой польскае кіраўніцтва пры фінансавай падтрымцы буйнейшых заходніх краін было падрыхтавана. У снежні 1918 г. Польшча перайшла ў наступленне на беларускія і ўкраінскія землі. Да сакавіка 1919 г. польскія войскі акупіравалі шэраг беларускіх гарадоў. Урад Літбел, які праводзіў жорсткую палітыку ваеннага камунізму (харчразвёрстка, палітычныя рэпрэсіі, адмова ад перадачы зямлі непа-срэдна сялянам), не здолеў арганізаваць абарону. У жніўні 1919 г. быў захоплены Мінск. Восенню фронт усталяваўся на р. Беразіна.

На занятых тэрыторыях польскія акупанты праводзілі надзвычай жорсткую палітыку. Толькі ў некаторых кіраўнікоў БНР захаваліся ілюзіі адносна прызнання незалежнасці беларускай дзяржавы. Рада БНР раскалолася па пытанні супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. Да арганізаваных камуністамі і эсэрамі партызанскіх атрадаў пачалі далучацца прадстаўнікі іншых палітычных сіл. Распачатае вясной 1920 г. наступленне палякаў дазволіла ім захапіць шэраг беларускіх і ўкраінскіх гарадоў. Летам Чырвоная Армія пачала контрнаступленне, і да жніўня 1920 г. ўся тэрыторыя Беларусі была занята савецкімі войскамі. У гэтых умовах Савецкая Расія была вымушана пачаць супрацоўніцтва з буржуазным урадам Літвы. Пра Літбел размовы больш не ішло. 31 ліпеня 1920 г. ў Мінску была прынята дэкларацыя, якая абвяшчала незалежнасць Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь. У жніўні 1920 г. польская армія здолела перайсці ў наступленне пад Варшавай і зноў заняць значную частку Беларусі. 12 кастрычніка 1920 г. ў Рызе быў падпісаны дагавор з Польшчай аб перамір'і.

Падпісанне перамір'я не спыніла ваенных дзеянняў. Пры падтрымцы польскага боку ў лістападзе на тэрыторыю Беларусі ўвайшлі атрады пад кіраўніцтвам С. Булак-Балаховіча, які абвясціў сябе начальнікам Беларускай дзяржавы. Але пасля захопу Мазыра, Петрыкава, Калінкавіч гэтыя злучэнні былі разбіты. У лістападзе – снежні 1920 г. адбылося ўзброенае выступленне на Случчыне (Слуцкі збройны чын), удзельнікі якога выступалі за беларускую дзяржаўнасць.

18 сакавіка 1921 г. паміж Савецкай Расіяй, Украінай і Польшчай быў падпісаны Рыжскі мірны дагавор, паводле якога Польшча атрымала заходнюю частку Беларусі з больш чым 4-мільённым насельніцтвам.

Усходняя частка Беларусі апынулася ў складзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Другое абвяшчэнне БССР.** Аднаўленне БССР адбылося 31 ліпеня 1920 г. Другі Усебеларускі з'езд Саветаў 1920 г. прыняў дадаткі да Канстытуцыі 1919 г., вызначыў вышэйшыя органы ўлады ў краіне. Вышэйшым кіруючым органам быў з'езд Саветаў, а паміж з'ездамі – Цэнтральны Выканаўчы Камітэт ССРБ, выканаўчым органам – Савет Народных Камісараў ССРБ. Старшынёй ЦВК і СНК ССРБ быў абраны А.Р. Чарвякоў.

18 сакавіка 1921 года быў падпісаны Рыжскі мірны дагавор, згодна з якім тэрыторыя Беларусі плошчай больш за 100 тыс. кв. км і з насельніцтвам звыш 4 млн. чалавек адышла да Польшчы. Тэрыторыя БССР вызначалася 6 паветамі былой Мінскай губерні з насельніцтвам 1634 тыс. чалавек. Самая ўплывовая і шматлікая партыя беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў адмовілася падпісаць Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці ССРБ, бо яна не адпавядала яе палітычнай праграме. ЦК БПСР патрабаваў склікаць Усебеларускі працоўны кангрэс, сфарміраваць кааліцыйны ўрад з прадстаўнікоў камуністаў і партый нацыянальнай дэмакратыі, утварыць беларускае войска, аднавіць БССР у этнаграфічных межах пражывання беларусаў, абвясціць беларускую мову дзяржаўнай. Бальшавікі адхілілі гэтыя патрабаванні. БПСР абвясціла сябе палітычнай апазіцыяй. ЦК партыі бальшавікоў, замацоўваючы сваю манаполію на ўладу, выкарыстоўвала супраць апазіцыі не толькі ідэалагічную барацьбу, а таксама і рэпрэсіўныя меры. У лютым 1921 г. Надзвычайнай камісіяй Беларусі было арыштавана 860 членаў БПСР. Усе яны былі інтэрніраваны ў Заходнюю Беларусь.

30 снежня 1922 г. БССР разам з РСФСР, УССР і ЗСФСР падпісала дамову аб стварэнні СССР. У Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР ад БССР увайшло 7 чалавек. А.Р. Чарвякоў стаў адным са старшынь Прэзідыума ЦВК СССР.

У пачатку 20-х гг. БССР мела цэлы шэраг нацыянальных праблем, якія павінна была вырашыць палітыка беларусізацыі. Пленум ЦБ КП(б)Б у чэрвені 1923 г. вызначыў практычныя мерапрыемствы па правядзенні гэтай палітыкі ў жыццё. Адным з асноўных яе накірункаў было тэрытарыяльнае самавызначэнне беларускага народа: у 1924 г., а затым у 1926 г. да БССР былі далучаны паветы Віцебскай, Гомельскай і часткова Смаленскай губерняў, большую частку насельніцтва якіх складалі беларусы. У выніку двух узбуйненняў тэрыторыя БССР склала 125 950 кв. км з насельніцтвам каля 5 млн. чалавек. Палітыцы нацыянальнага адраджэння Беларусі спрыяла палітычная амністыя (1923) тых беларускіх дзеячаў, якія пагаджаліся супрацоўнічаць з савецкай уладай. З замежжа ў БССР пераехалі многія ўдзельнікі беларускага нацыянальнага руху.



**Новая эканамічная палітыка.** Пасля заканчэння савецка-польскай вайны БССР апынулася ў цяжкім эканамічным становішчы: назіраліся моцны спад прамысловай вытворчасці, інфляцыя. Сяляне пакутавалі ад харчразвёрсткі, у гарадах большасць прадуктаў размяркоўвалася па картках. Таму ў 1921 – 1928 гг. у БССР, як і ў іншых савецкіх рэспубліках, праводзілася новая эканамічная палітыка (нэп), мэтай якой было аднаўленне разбуранай войнамі і рэвалюцыямі эканомікі. Нэп складалася з шэрагу наступных рэформ, сутнасць якіх выкладзена ў табл. 3:

*Табліца 3*

| | |
|---|---|
| **Аграрная** | Канчатковае пераразмеркаванне памешчыцкай зямлі, пераход ад харчразвёрсткі да харчпадатку (1921) |
| **Прамысловая** | Падтрымка дробных уласнікаў, арандатараў і канцэсіянераў, пераход буйных прадпрыемстваў да самаакупнасці, пераход да здзельнай аплаты працы (1923), ліквідацыя главкаў, стварэнне трэстаў і сіндыкатаў. |
| **Банкаўская** | Аднаўленне Дзяржбанка, стварэнне акцыянерных і камерцыйных банкаў (1921), адмена абмежаванняў на захоўванне банкамі грашовых сум прыватных асоб і арганізацый, гарантыя тайны ўкладанняў. |
| **Фінансавая** | Увядзенне саўзнакаў і забяспечанага золатам чырвонца (1922–1924). |
| **Гандлёвая** | Дзяржаўная манапалізацыя знешняга і дазвол пры-ватнага і кааператыўнага гандлю на ўнутраным рынку. |

Новая эканамічная палітыка была накіравана на фарміраванне высокай прадукцыйнасці працы, дэцэнтралізацыю і лібералізацыю эканомікі. Арганізацыя працы пачала будавацца на прынцыпах матэрыяльнага стымулявання. Была адноўлена грашовая аплата працы, уведзены тарыфы зарплаты, ліквідавана ўраўнілаўка пры аплаце працы.

У верасні 1922 г. быў прыняты закон "Аб працоўным землекарыстанні", які дазваляў наёмную працу. Наркамзем БССР Дз.Ф. Прышчэпаў (1925 – 1929) арыентаваўся на стварэнне хутарскіх і вотрубных, разам з падтрымкай калектыўных гаспадарак. Для развіцця эканомікі рэспублікі важнае значэнне мелі павышэнне прадукцыйнасці працы сялян і рабочых, пераадоленне інфляцыі і выкарыстанне рынку ў якасці галоўнага эканамічнага рэгулятару.

У выніку нэпа да 1926–1927 гг. валавы ўнутраны прадукт БССР перасягнуў узровень 1913 г. Павысіўся і сярэдні ўзровень жыцця. Калі ў 1913 г. сярэдні гараджанін спажываў 29 кг мяса ў год, то ў 1926 г. – больш за 41 кг. Аднак меўся і адваротны бок рынкавых пераўтварэнняў. Зноў з'явіліся бедныя і багатыя. Гарады пакутавалі ад беспрацоўя. Трэба таксама заўважыць, што бальшавіцкія ўлады разглядалі нэп толькі як часовы адыход ад палітыкі дзяржаўнага сацыялізму, таму нельга сказаць, што гэты працэс меў трывалы падмурак.

**Беларусізацыя.** Лібералізацыя эканомікі суправаджалася адпаведнымі мерапрыемствамі ў галіне нацыянальнай беларускай культуры і адукацыі, якія атрымалі назву беларусізацыі (1924 – 1929). Тэарэтычную аснову палітыка атрымала ў дзейнасці першага кіраўніка Інстытута беларускай культуры (Інбелкульта) У.М. Ігнатоўскага. Складалася яна з шэрагу мерапрыемстваў, сярод якіх вызначаецца ўвядзенне беларускай мовы як мовы справаводства ва ўсіх партыйных, савецкіх установах і арміі, перавод на беларускую мову выкладання ва ўсіх школах і ВНУ, вывучэнне беларускай гісторыі і культуры, стварэнне кафедраў беларусазнаўства ва ўсіх ВНУ краіны, арганізацыя дзейнасці беларускіх выдавецтваў. Асобным накірункам беларусізацыі становіцца працэс каранізацыі мясцовых органаў улады і кіравання.

Разам з палітыкай беларусізацыі ў 20-я гг. праводзілася барацьба з непісьменнасцю. У пачатку 30-х гг. колькасць непісьменных сярод дарослага насельніцтва скарацілася да мінімуму. Адчыняліся новыя школы. У 1929 – 1930 гг. ў савецкай краіне была ўведзена ўсеагульная пачатковая адукацыя. Прычым дзеці розных нацыянальнасцей мелі магчымасць вучыцца на роднай мове. Для нацыянальных школ рыхтаваліся спецыяльныя педагагічныя кадры. Да 1928 г. ўжо каля 80 % школ праводзіла выкладанне на беларускай мове. У 1921 г. пачаў сваю працу Беларускі дзяржаўны універсітэт, у 1922 г. – Інстытут беларускай культуры (з 1929 г. – Акадэмія навук БССР). Былі таксама створаны політэхнічны, сельскагаспадарчы інстытуты (у 1925 г. быў аб'яднаны з інстытутам у Горках у сельскагаспадарчую акадэмію) і ветэрынарны інстытут у Віцебску. Усяго ў БССР у гэты перыяд працавала сорак навукова-даследчых устаноў.

**Індустрыялізацыя і калектывізацыя.** Але галоўнай мэтай савецкай краіны была падрыхтоўка сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэтаму павінна была адпавядаць і эканамічная палітыка. Нэп, з аднаго боку, вырашыла пытанне аднаўлення разбуранай гаспадаркі, але яе метады не падыходзілі для далейшага кроку – стварэння ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі буйной машыннай вытворчасці. У 1928 г. цэнтральныя савецкія ўлады распачалі пераход да планавай эканомікі. З гэтай мэтай 1 кастрычніка 1928 г. пачаў дзейнічаць першы пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі. Быў абвешчаны курс на паскораную індустрыялізацыю і калектывізацыю. Ад рынкавых метадаў забеспячэння эканомікі ўрад перайшоў да цэнтралізаванага размеркавання і дырэктыўных загадаў. Дзяржава манапалізавала сродкі вытворчасці. Ствараўся вялізны бюракратычны апарат. Толькі за дзве першыя пяцігодкі (1928 – 1932; 1933 – 1937) у БССР было пабудавана 1700 новых прадпрыемстваў, галоўным чынам у сферы харчовай і лёгкай прамысловасці. Каб знайсці сродкі, улады рэспублікі замарожвалі зарплату рабочых, скарачалі выдаткі на сацыяльную сферу. Да 1935 г. дзейнічала карткавая сістэма забеспячэння. Заніжаліся на сельскагаспадарчыя і, наадварот, непамерна завышаліся цэны на прамысловыя тавары. Але асноўнай крыніцай паступлення сродкаў для індустрыялізацыі стала стварэнне на вёсцы калектыўных сялянскіх гаспадарак. Узровень жыцця насельніцтва на пачатку 30-х гг. значна пагоршыўся. Энтузіязм працоўных падаграваўся масавай прапагандай. Шырока выкарыстоўваліся неэканамічныя формы прымусу. Незадаволеныя арыштоўваліся.

Летам 1929 г. былі абвешчаны суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя заможнай часткі сялян-кулакоў як класа, забараняліся арэнда зямлі і найманне рабочых. Большую частку сялянства прымусова вымушалі ўступаць у калгасы. Ствараліся новыя саўгасы і машынна-трактарныя станцыі (МТС). Большая частка прадукцыі, выробленай калгаснікамі, забіралася дзяржавай. Аднаасобнікі абкладаліся вялікімі падаткамі. У выніку знізіліся паказчыкі развіцця сельскай гаспадаркі, у 1933 г. ў некаторых раёнах БССР пачаўся голад. Сяляне актыўна выступалі супраць гвалту з боку ўладаў.

У 1929 – 1930 гг. яны ў вялікай колькасці забівалі жывёлу, каб не перадаваць яе ў калгасы (калі ў 1928 г. ў БССР налічвалася 2189,2 тысяч галоў буйной рагатай жывёлы, то ў 1933 г. – толькі 1354,7 тысяч галоў). Яшчэ адной формай пратэсту становяцца сялянскія выступленні (толькі за першыя чатыры месяцы 1930 г. іх было адзначана больш за 500).

Пасля выступлення Сталіна ў прэсе з крытыкай перагібаў пры ажыццяўленні калектывізацыі і прыняцця партыйнай пастановы “Аб барацьбе са скрыўленнем партыйнай лініі ў калгасным руху” ў 1930 і 1932 гг. назіраўся масавы выхад сялян з калгасаў. Але ўлады адказвалі рэпрэсіямі. Раскулачванню падвяргаліся не толькі кулакі, але часам і сераднякі. Толькі па пастанове 1932 г. аб недатыкальнасці маёмасці калгасаў у БССР больш за 10 тыс. чалавек было абвешчана “ворагамі

народа”. У 1935 г. было калектывізавана ўжо 85,6 % сялянскіх двароў, а ў 1939 г. – 90 %. Ліквідаваліся хутарскія гаспадаркі. Сялян з 1938 г. вывозілі на малаасвоеныя землі.

**Грамадска-палітычнае жыццё і культура ў 30-я гады.**

У канцы 1920-х гг. пачаўся курс на згортванне беларусізацыі. Канстытуцыя 1927 г., прынятая VIII з’ездам Саветаў, захавала самаўладдзе Саветаў. Канстытуцыя 1937 г. вызначала вышэйшым органам улады Вярхоўны Савет. Усталяванне ў СССР дыктатуры Сталіна прывяло да масавых чыстак партыйных арганізацый ад “ворагаў народа” і палітычных рэпрэсій. Толькі па справе 1930 г. аб неіснуючым “Саюзе вызвалення Беларусі” было арыштавана 108 чалавек, у тым ліку В. Ластоўскі, Дз. Прышчэпаў, А. Смоліч, М. Гарэцкі і інш. Унутраны тэрор не аслабляўся да смерці Сталіна ў 1953 г. Яго ахвярамі сталі многія палітычныя і культурныя дзеячы, вучоныя, артысты, пісьменнікі, святары і нават простыя людзі – каля 600 тыс. грамадзян Беларусі. Але большую частку рэпрэсіраваных складалі сяляне.

З поспехам развівалася тэатральнае і музычнае мастацтва. Працаваў Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр (з 1926 г. – БДТ-1), мастацкім кіраўніком якога з 1921 г. з’яўляўся Я. Міровіч, першы заслужаны артыст БССР (1928). З 1920 г. дзейнічае трупа У. Галубка (БДТ-3). У 1926 г. ў Віцебску адчыніўся БДТ-2. У Гомелі і Магілёве з’явіліся сімфанічныя аркестры. У 1926 г. ў Ленінградзе быў зняты першы беларускі фільм “Лясная быль” Ю. Тарыча. У 1928 г. там жа пачала працаваць студыя мастацкіх фільмаў “Савецкая Беларусь”.

Актыўна праходзіла і літаратурнае жыццё. У 20-я гг. існавала некалькі буйных літаратурных аб’яднанняў: “Маладняк” (М. Лынькоў, М. Чарот, П. Трус, П. Галавач і інш.), з якога ў 1926 – 1927 гг. адлучыліся “Узвышша” (А. Бабарэка, П. Глебка, З. Бядуля, М. Лужанін, К. Крапіва і інш.) і “Полымя” (Я. Колас, Я. Купала, М. Зарэцкі, Ц. Гартны, М. Чарот і інш.). У 1928 г. “Маладняк” ператварыўся ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП).

Фарсіраваная індустрыялізацыя 30-х гг. і патрэба ў кадрах вымусіла ўрад яшчэ больш уважліва ставіцца да адукацыі. У гэты час былі адчынены кансерваторыя (1932), філармонія (1937), тэатр оперы і балета (1933). У 1934 г. І з’езд пісьменнікаў Беларусі арганізацыйна аформіў стварэнне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аднак сталінскія рэпрэсіі, якія закранулі амаль усіх дзеячаў культуры (арыштоўваліся нават Я. Купала і Я. Колас) не садзейнічалі імкліваму развіццю літаратуры, навукі і мастацтва.



***Кантрольныя пытанні па тэме*:**

*1. З якой мэтай былі створаны БССР і Літбел? 2. Чаму не атрымалі поспеху спробы стварэння незалежнай беларускай дзяржавы ў 1917–1921 гг.? 3. Як змянілася тэрыторыя БССР у 1921 – 1939 гг.? 4. Што сабой уяўляла новая эканамічная палітыка? Якія адметныя рысы яна мела на Беларусі? 5. Што сабой уяўляла палітыка беларусізацыі? 6. Што такое індустрыялізацыя і калектывізацыя? Вызначце іх асноўныя этапы і асаблівасці. 7. Якія змены адбываліся ў культурным жыцці БССР у 1929 – 1930-я гг.? Як гэта суадносілася з палітычнымі і эканамічнымі працэсамі?*

## Заходняя Беларусь у складзе Польшчы (1921–1939)

***Літаратура***

1. Вабішчэвіч, А. Беларускае навуковае таварыства ў Вільні (1918–1939 гг.) / А. Вабішчэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 6. – С. 35.
2. Вабішчэвіч, А. Даследаванне нацыянальнай палітыкі польскага рэжыму “санацыі” / А. Вабішчэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 3. – С. 73.
3. Вабішчэвіч, А. Нацыянальная школа ў Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.) / А. Вабішчэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 2. – С. 38–46.
4. Загідулін, А. Нацыянальная палітыка ў адносінах да беларусаў у ІІ Рэчы Паспалітай (1921–1939 гг.) / А. Загідулін // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 10. – С. 31.
5. Ладысеў, У. Беларускае пытанне ў Другой Рэчы Паспалітай. Уз’яднанне Заходняй Беларусі з БССР / У. Ладысеў // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 9. – С. 3.
6. Ладысеў, У.Ф. Некаторыя актуальныя пытанні метадалогіі і тэорыі нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі / У.Ф. Ладысеў // Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і падыходы): Матэрыялы Усебеларус. канф. гісторыкаў: У 2 ч. Ч.1. – Мінск: Універсітэцкае, 1994. – С. 176–182.
7. Мазец, В. Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі / В. Мазец // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 11. – С. 76.
8. Мілеўскі, Я.Е. Заходняя Беларусь: да пытання тэрыторыі і насельніцтва / Я.Е. Мілеўскі // Беларус. гіст. часоп. – 1998. – № 3.

9. Полуян, И.В. Западная Белоруссия в период экономического кризиса 1929–1933 гг. / И.В. Полуян. – Минск: Навука і тэхніка, 1991. – 205 с.

10. Сляшыньскі, В. Грамадска-палітычнае становішча на паўночна-ўсходніх землях ІІ Рэчы Паспалітай (Заходняя Беларусь) з 1 па 17 верасня 1939 г. / В. Сляшыньскі // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 11. – С. 13.

11. Шунейка, Я. Фантастычныя вандроўкі Язэпа Драздовіча / Я. Шунейка, В. Архіпава // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 11. – С. 25.

***Вызначальныя паняцці:*** *"Белапольшча", санацыя, асаднікі, камасацыя, парцэляцыя, сервітуты, паланізацыя, пацыфікацыя, БСРГ, КПЗБ, КСМЗБ, БПСР, "Беларускі пасольскі клуб", ТБШ.*

**Стан заходнебеларускіх зямель у складзе Польшчы.**

У выніку падпісання Рыжскага мірнага дагавора паміж Польшчай і Савецкай Расіяй (18.03.1921) заходнія беларускія тэрыторыі плошчай 98 815 кв. км з насельніцтвам звыш 3 мільёнаў чалавек (з іх беларусаў больш за 50 %) сталі часткай "другой Рэчы Паспалітай". Яны былі падзелены на чатыры ваяводствы (Віленскае, Беластоцкае, Наваградскае і Палескае), 29 паветаў і гміны. Палякі называлі гэтыя тэрыторыі "крэсы ўсходнія", "паўночна-ўсходнія землі Польшчы", "Белапольшча", што падкрэслівала пазіцыю непрызнання беларускіх зямель як асобнай не толькі тэрытарыяльна-палітычнай, але і этнічнай адзінкі.

У эканамічным плане Заходняя Беларусь была аграрным рэгіёнам. У сельскай гаспадарцы гэтага краю было занята звыш 80 % насельніцтва. Многія сяляне пакутавалі ад мала- ці беззямелля. Звыш 50 % пашы належала памешчыкам. У 20-х гг. польскі ўрад праводзіць на далучаных землях шэраг аграрных рэформ: парцэляцыю – продаж памешчыкамі праз банк часткі сваіх зямель па фіксаваных цэнах; камасацыю – аб'яднанне ў адзіны надзел дробных сялянскіх палосак і высяленне сямей на хутары; пераход сервітутаў – сумесных для карыстання памешчыкаў і сялян зямель (сенажаць, лес, месца для рыбнай лоўлі і інш.) – да прыватных уласнікаў. У выніку комплексных мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы ўмацавалася становішча заможных і сярэдніх сялян, паскорыўся працэс сацыяльнага расслаення на вёсцы, актывізавалася канцэнтрацыя сельгасвытворчасці. У 1926 г. быў прыняты закон, па якім польскія афіцэры і унтэрафіцэры (асаднікі) маглі набываць на далучаных да Польшчы землях за невялікія грошы надзелы плошчай ад 15 да 45 гектараў. Яны мелі права насіць зброю і карыстацца ёй па сваім жаданні. Гэтай мерай польскі ўрад імкнуўся стварыць сабе сацыяльную апору на вёсцы.



Прамысловасць Заходняй Беларусі насіла пераважна дробны характар (каля 80 % прадпрыемстваў) з найбольшым развіццём харчовай і дрэваапрацоўчай галін. У адносінах да рабочых прымянялася пашыраная сістэма штрафаў, не развівалася сацыяльнае заканадаўства (рабочы дзень дасягаў 12–14 гадзін, не было шпітальных кас і інш.). Сярэдняя заработная плата рабочага на заходнебеларускіх прадпрыемствах складала каля 68 % ад заработнай платы рабочага ў Цэнтральнай Польшчы. Значна абвастрыў стан працоўных эканамічны крызіс 1929–1933 гг., у выніку 46 % рабочых засталіся без працы. Адным з вынікаў непамернай эксплуатацыі народа і цяжкага сацыяльна-эканамічнага стану стаў масавы выезд за мяжу: за 1921–1939 гг. краіну пакінулі каля 120–150 тысяч чалавек; выхадцы з Беларусі пераязджалі ў Канаду, ЗША, краіны Заходняй Еўропы і Лацінскай Амерыкі.

Яшчэ адным паказчыкам цяжкага становішча стала нацыянальна-рэлігійная палітыка польскага ўрада, якая мела мэтай непрызнанне і далейшае знішчэнне беларускай нацыі. Зачыняліся навучальныя ўстановы з беларускай мовай навучання, мясцовыя настаўнікі замяняліся польскімі, скарачалася колькасць беларускіх бібліятэк, клубаў, хат-чытальняў, выдавецтваў, а значыцца і выданняў (з 23 беларускіх газет і часопісаў у 1927 г. праз пяць год засталося толькі 8). Беларускую мову забаранялася ўжываць у дзяржаўных установах. Няведанне польскай мовы прызнавалася непісьменнасцю і вяло да пазбаўлення выбарчых правоў. Зачыняліся ці ператвараліся ў каталіцкія праваслаўныя храмы.

**Нацыянальна-вызваленчы рух.** На тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічала 19 турмаў і канцэнтрацыйны лагер у Бярозе-Картузскай. Рэжым санацыі Ю. Пілсудскага (1926–1939) узмацніў сацыяльны, нацыянальны і рэлігійны прыгнёт, што выклікала актывізацыю нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. У першай палове 20-х гг. пераважалі ўзброеныя выступленні партызанскага характару. У паўночна-заходнім рэгіёне дзейнічалі беларускія эсэры; яны вызначалі патрабаванні самавызначэння беларускіх зямель і спынення ўрадавых рэпрэсій. З 1923 г. ў заходнебеларускім рэгіёне пачынае дзейнічаць камуністычная партыя (КПЗБ), якая разам з заходнеўкраінскай, з'яўлялася часткай кампартыі Польшчы (КПП). У 1924 г. з'явіўся Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі (першы сакратар – В. Харужая). З'яўленне новай палітычнай сілы – КПЗБ – спрыяла пашырэнню партызанскага руху. Але актывізацыя ўзброеных выступленняў паўплывала на ўвядзенне асаднага становішча і далейшае згортванне партызанскай барацьбы.

У сярэдзіне 20-х гг. на палітычную сцэну выходзіць яшчэ некалькі сіл, сярод якіх вызначаецца Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ). За два гады яе існавання (1925–1927) яна ператварылася ў самую масавую палітычную арганізацыю сялян Еўропы. Яе праграмныя мэты: самавызначэнне Заходняй Беларусі, аб'яднанне ўсіх беларускіх зямель, сялянска-рабочы ўрад, ліквідацыя асадніцтва, дэмакратыя, свабода, нацыянальная роўнасць і навучанне на роднай мове. На пазіцыях нацыянальнага вызвалення беларускага народа стаялі некаторыя іншыя партыі і арганізацыі.

Яшчэ ў 1922 г. ў польскім сейме пачала сваю працу фракцыя "Беларускі пасольскі клуб", якую стварылі 11 лідэраў розных палітычных сіл Заходняй Беларусі. Яе галоўнай мэтай было адстойванне інтарэсаў беларускага насельніцтва праз парламенцкую дзейнасць. У 1927 г., напярэдадні выбараў у сейм была створана беларуская дэпутацкая фракцыя "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых" (І. Гаўрылік і інш.).

Увогуле сярэдзіна 20-х – пачатак 30-х гг. характарызаваліся імкненнем да спалучэння легальных і рэвалюцыйных формаў барацьбы. На выбарах 1928 г. толькі за дэпутатаў ад КПЗБ было аддадзена 26 % галасоў. У першай палове 30-х гг. значна зніжаецца колькасць выступленняў з нацыянальна-вызваленчымі лозунгамі. Прычына таму – эканамічны крызіс, які пацягнуў за сабой значнае пагаршэнне стану жыцця працоўных. У рабочым руху адзначаецца паступовы рост забастовачнай барацьбы з перавагай стачак эканамічнага характару. З 1931 г. пачынаецца рост сялянскіх выступленняў; адбываецца ўзброенае паўстанне сялян Кобрынскага павета (08.1933) і найбуйнейшае паўстанне нарачанскіх рыбакоў, у якім удзельнічала каля 5 тыс. чал. (1935 – 1939).

Другая палова 30-х гг. стала цяжкім часам для рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У Еўропе шырылася фашысцкая пагроза. У 1935 г. быў створаны адзіны антыфашысцкі фронт. Гэта садзейнічала рэвалюцыйнаму ўздыму 1936 – 1937 гг., які змяніўся спадам. Жорсткая рэпрэсіўная палітыка польскіх улад прыводзіла да шматлікіх арыштаў лідэраў палітычных арганізацый (арыштавана больш за 30 тысяч чалавек) і забароны іх дзейнасці. У 1938 г. Камінтэрнам была распушчана КПП і яе адгалінаванне – КПЗБ.

**Развіццё заходнебеларускай культуры.** Зместам нацыянальна-культурнай палітыкі польскіх улад на заходнебеларускіх землях была прымусовая паланізацыя і асіміляцыя мясцовага насельніцтва. Супраць гэтага выступіла Таварыства беларускай школы. Яно



дзейнічала на працягу 1921 – 1937 гг. У розны час яго ўзначальвалі Б. Тарашкевіч, І. Дварчанін, Р. Шырма і інш. Яго сябры выступалі за беларускую школу, рыхтавалі новыя падручнікі, стваралі чытальні, гурткі самаадукацыі. У канцы 20-х гг. пад націскам грамадскасці было адчынена 18 беларускіх школ. Ідэйным кіраўніком ТБШ стаў вучоны-філолаг, літаратар, аўтар "Беларускай граматыкі для школ" (1918) Браніслаў Тарашкевіч. Сапраўднымі асяродкамі беларускай мовы і культуры становяцца Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (1926 – 1936), беларускія гімназіі ў Вільні (1914 – 1944), Навагрудку, Нясвіжы, Радашковічах, Клецку, Будславе (зачынены ў канцы 20-х – пачатку 30-х гг.). У віленскіх выдавецтвах выходзяць "Хрэстаматыя беларускай літаратуры XI век – 1905 год" М. Гарэцкага (1922), "Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 г.)" І. Дварчаніна (1927), падручнікі для беларускіх школ С. Рак-Міхайлоўскага, С. Паўлоўскага, беларускамоўныя часопісы і газеты ("Маланка", "Шлях моладзі", "Летапіс ТБШ" ("Беларускі летапіс"), "Беларуская крыніца" і інш.). У 1921 г. на базе прыватнай калекцыі беларускага археолага і этнографа І. Луцкевіча па ініцыятыве Беларускага навуковага таварыства (1918–1939) быў заснаваны Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей. У навуковай і культурна-асветніцкай рабоце актыўна ўдзельнічалі В. Ластоўскі, А. Станкевіч, Б. Тарашкевіч, браты Луцкевічы і інш.

У час, калі ў БССР пачаўся працэс згортвання палітыкі беларусізацыі, супрацьстаянне прымусовай паланізацыі ў Заходняй Беларусі садзейнічала актывізацыі і аб'яднанню беларускай інтэлігенцыі. Нацыянальны фактар вызначаўся як галоўны ў сацыяльна-палітычнай барацьбе. У канцы 20-х – 30-я гг. палітыка польскага ўрада канчаткова павярнулася да ліквідацыі беларускіх нацыянальных асяродкаў (выдавецтваў і выданняў, культурна-асветніцкіх арганізацый).

Для заходнебеларускай літаратуры характэрна перавага паэтычнага жанру, які адзначаецца эмацыянальнай рэакцыяй на падзеі, актыўнай грамадзянскай пазіцыяй аўтараў (М. Танк, В. Таўлай, М. Засім), а таксама рамантызмам і лірызмам (Н. Арсеннева, К. Сваяк, У. Жылка і інш.). Выяўленчае мастацтва адметна касмічнымі, гістарычнымі і сімволіка-алегарычнымі карцінамі Я. Драздовіча ("Дух зла" і інш.), бытавымі палотнамі М. Сеўрука і П. Сергіевіча, партрэтам і пейзажам (Г. Семашкевіч), карыкатурамі Я. Горыда. Сур'ёзную працу па збіранні і прапагандзе беларускага фальклору праводзілі Р. Шырма, Г. Цітовіч. Утвараліся хоры (адзін з самых папулярных – хор Беларускага саюза студэнтаў у Вільні), рэпертуар якіх складаўся пераважна з беларускіх песень. Значны ўнёсак у музычную культуру зроблены кампазітарамі

К. Галкоўскім, Л. Раеўскім, оперным спеваком і выканаўцам народных беларускіх песень М. Забэйда-Суміцкім.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Дайце характарыстыку эканамічнага стану Заходняй Беларусі ў 20 – 30 гг. XX ст. 2. Вызначце асноўныя этапы нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Якія формы барацьбы адзначалі кожны з іх? 3. З якімі цяжкасцямі сутыкнулася заходнебеларуская культура ў 1921–1939 гг.?*

## Беларусь у другой сусветнай вайне (1939–1945)

***Літаратура***

1. Беларусь в первые месяцы Великой Отечественной войны (22 июня – август 1941 г.): документы и материалы / Сост. В.И. Адамушко [и др.]. – Минск: НА РБ, 2006. – 456 с.

2. Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: масавыя забойствы нацыстаў / Гіст. майстэрня ў Мінску [і інш.]; рэдкал. Э.Р. Іофе [і інш.]. – Мінск: Гіст. майстэрня ў Мінску, 2005. – 305 с.

3. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: дзень за днём. Ілюстраваная храналогія / Уклад. і аўтар тэксту Я.В. Малашэвіч, фота У.А. Багданава і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 231 с.

4. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства / Навук. рэд. Я.С. Паўлаў, А.М. Літвін. – Мінск: Беларуская навука, 1999. – 251 с.

5. Бязлепкін, Я. Германскі акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі (1941–1944 гг.) у англамоўнай гістарыяграфіі ЗША і Вялікабрытаніі / Я. Бязлепкін // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 12. – С. 32.

6. Бяспанскі, С. Наступальныя аперацыі Чырвонай Арміі ў Беларусі (восень 1943 – вясна 1944 г.) / С. Бяспанскі // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 1. – С. 24.

7. Варанкова, І. Апошнія месяцы нацысцкіх акупантаў у Мінску / І. Варанкова // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 25.

8. Іофе, Э. Колькі ж яўрэяў загінула на беларускай зямлі ў 1941–1945 гг. / Э. Іофе // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 49–52.

9. Каваленя, А.А. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. 1941–1944 гг. Вытокі, структура, дзейнасць / А.А. Каваленя. – Мінск: БДПУ імя М. Танка, 1999. – 235 с.

10. Казлова, С. Аграрная палітыка германскіх акупантаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1941–1944 гг. / С. Казлова // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 12. – С. 14.

11. Кнатько, Г.Д. Белорусские остарбайтеры: историко-аналитическое исследование / Г.Д. Кнатько, В.И. Адамушко и др. – Минск: [НА РБ], 2001. – 335 с.

12. Коршук, В.К. О партизанском движении в Беларуси (свидетельствуют трофейные немецкие документы) / В.К. Коршук // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2005. – № 2. – С. 13.

13. Лемяшонак, У. Беларуская наступальная аперацыя ў ацэнцы нямецкіх генералаў і афіцэраў / У. Лемяшонак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 7. – С. 18.

14. Літвін, А. Армія Краёва на Беларусі / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 1;4.

15. Літвін, А. Вызваленне Беларусі і выкарыстанне партызанскага фактару (восень 1943 – вясна 1944 г.) / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 4. – С. 3.

16. Літвін, А. Акупацыя Беларусі (1941–1944). Пытанні супраціву і калабарацыі / А. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – 288 с.

17. Люк, М. “Паляванне дазваляецца”: барацьба з партызанамі ў “генеральным камісарыяце Беларутэнія” / М. Люк, М. Рыхтар // Беларускі гістарычны агляд. Т. 7, сш. 2 (13), 2000.

18. Лютко, С. Баявыя дзеянні на цэнтральным участку Заходняга фронту летам 1941 г. / С. Лютко // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 3. – С. 18.

19. Мінскае антыфашысцкае падполле / Я.І. Бараноўскі [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1995. – 254 с.

20. Новікаў, С. Абарона Магілёва (20–26 ліпеня 1941 г.) у святле новых дакументальных крыніц / С. Новікаў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 7. – С. 44.

21. Новікаў, С. Польская Армія Краёва: гісторыя і міфы / С. Новікаў // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 1. – С. 66.

22. Павлов, Я.С. Советско-германские договоры 1939–1941 годов: трагедия тайных сделок / Я.С. Павлов. – Минск: БелНИИДАД, 1996. – 99 с.

23. Паўлоўскі, А. Разгром фашызму. Урокі Вялікай Айчыннай вайны / А. Паўлоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 5. – С. 10.

24. Платонов, Р.П. Белоруссия, 1941-й: известное и неизвестное. По док. Нац. архива РБ. – Минск: БелНИИДАД, 2000. – 209 с.

25. Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии 1941–1944. / Сост. З.И. Белуга, Н.И. Каминский, А.Л. Манаенков и др. – Минск: ГИ БССР, 1963. – 436 с.

26. Сямашка, Я. Армія Краёва на Беларусі / Я. Сямашка. – Мінск: Беларус. выд-ва “Хата”, 1994. – 269 с.
27. Тимохович, И.В. Битва за Белоруссию. 1941–1944. / И.В. Тимохович. – Минск: Беларусь, 1994. – 253 с.
28. Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Ю. Туронак; пер з польск. В. Ждановіч; камент. А.М. Літвіна. – Мінск: Беларусь, 1993. – 236 с.
29. Шарапа, А. Да пытання аб людскіх стратах у другой сусветнай вайне / А. Шарапа, А. Гардзейчык // Беларус. гіст. часоп. – 1996. – № 2.
30. Шомадзі, В. Вызваленне Беларусі (18 верасня 1943 – 28 ліпеня 1944 г.) / В. Шомадзі // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 5. – С. 3.

***Вызначальныя паняцці:*** *таталітарызм, фашызм, “Барбароса”, “бліц крыг”, акупацыйны рэжым, “Ост”, “новы парадак”, генацыд, гета, Халакост, лагер смерці, тэрор, калабаранты, остарбайтары, Армія Краёва, партызанская і падпольная барацьба, “рэйкавая вайна”, партызанскія зоны, партызанскія рэйды, карныя аперацыі, “Баграціён”, “мінскі кацёл”, дэпартацыя.*

**Перадумовы і пачатак другой сусветнай вайны.** Другая сусветная вайна была самай шырокамаштабнай ваеннай кампаніяй у сусветнай гісторыі. У ёй прыняла ўдзел 61 дзяржава; ваенныя дзеянні вяліся на тэрыторыі 40 краін. Асноўнай прычынай вайны стала незадавальненне Германіі і яе саюзнікаў (Італіі, Японіі) вынікамі першай сусветнай вайны, імкненне іх пераразмеркаваць сферы ўплыву ў свеце. У гэтых краінах да ўлады прыйшлі фашысцкія партыі. Асабліва жорсткі таталітарны рэжым усталяваўся ў Германіі. Нацыянал-сацыялістычная рабочая партыя Германіі на чале з А. Гітлерам праводзіла палітыку мілітарызацыі. Нацыянал-сацыялісты сцвярджалі, што немцы як прадстаўнікі “чыстай арыйскай расы” павінны панаваць у свеце. Іншыя народы павінны быць германізаваны, ператвораны ў рабоў ці цалкам знішчаны.

Тактыка мацнейшых дзяржаў (ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі) па накіраванні агрэсіі фашысцкай Германіі супраць СССР толькі актывізавала рост яе ваенна-стратэгічнага патэнцыялу. Не знайшла падтрымкі ў вышэйшых заходнееўрапейскіх колах і прапанова СССР аб стварэнні сістэмы калектыўнай бяспекі супраць фашызму. Перагаворы ваенных дэлегацый СССР, Англіі і Францыі аб каардынацыі дзеянняў супраць германскай агрэсіі, якія праводзіліся вясной – летам 1939 г. не прывялі да пагаднення. 23 жніўня 1939 г. паміж СССР і Германіяй быў падпісаны дагавор аб ненападзе, па сакрэтным пратаколе якога краіны падзялялі сферы ўплыву ў Еўропе. Гэты дакумент часова заспакоіў Гітлера ў тым, што Савецкі Саюз не будзе прадпрымаць актыўных дзеянняў супраць Германіі, калі тая распачне новую ваенную кампанію.

1 верасня 1939 г., Германія напала на Польшчу. Пачалася другая сусветная вайна. Францыя і Вялікабрытанія аб’явілі Германіі вайну, прытрымліваючыся свайго абяцання дапамагчы Польшчы, калі яна будзе ўцягнута ў ваенны канфлікт. Савецка-германскі пакт 23 жніўня 1939 г. аб ненападзе з сакрэтным дадатковым пратаколам, які вызначыў падзел еўрапейскіх краін на сферы ўплыву паміж СССР і фашысцкай Германіяй, падрыхтаваў умовы для ўключэння заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх зямель у склад СССР. Акрамя гэтага, СССР адзначае сферай сваіх інтарэсаў Латвію, Эстонію, Фінляндыю і Бесарабію. Пасля пачатку другой сусветнай вайны і заняцця нямецкімі войскамі ўласна польскай тэрыторыі (15 верасня 1939 г. захоплены Беласток) Савецкі ўрад аддае загад войскам Беларускага (камандуючы М.П. Кавалёў) і Украінскага франтоў аб пачатку вызваленчага паходу на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны (17.09.1939). Польскі ўрад не мог сябе лічыць у стане вайны з СССР, таму галоўнакамандуючы польскай арміі Э. Рыдз-Смігал загадвае не ўступаць ва ўзброеныя сутычкі з савецкімі войскамі. Гэта, а таксама пяціразовая перавага сіл Чырвонай Арміі садзейнічалі таму, што ваенных дзеянняў паміж савецкімі і польскімі часцямі амаль не было.

**Далучэнне Заходняй Беларусі да БССР**. Ужо 22 верасня 1939 г. камбрыг Крывашэін і генерал Гудэрыян прымалі сумесны ваенны парад у Брэсце. Да 25 верасня заходнебеларускія землі былі поўнасцю заняты савецкімі войскамі, а 28 верасня падпісаны дагавор аб сяброўстве і мяжы паміж СССР і Германіяй, па якім часткі Варшаўскага і Люблінскага ваяводстваў перайшлі пад уплыў Германіі, а Літва – СССР. Хутка рашэннем Савецкага ўрада да Літвы былі далучаны Вільня і Віленскае ваяводства (10.10.1939).

Большасць насельніцтва ўспрыняла паход Чырвонай Арміі з радасцю. У гарадах утвараліся часовыя ўпраўленні, а ў вёсках сялянскія камітэты, якія разглядалі гаспадарчыя, адміністрацыйныя, культурна-асветніцкія пытанні. 28 – 30 кастрычніка 1939 г. Народны сход Заходняй Беларусі абвясціў усталяванне савецкай улады, нацыяналізацыю банкаў і буйной прамысловасці, канфіскацыю памешчыцкіх зямель. Было прынята рашэнне прасіць Савецкі ўрад аб далучэнні Заходняй Беларусі да БССР. Далучаная да Савецкай Беларусі тэрыторыя падзялілася на 5 абласцей і 101 раён. Утвараліся новыя органы ўлады, на дзейнасць якіх значны ўплыў аказвалі партыйныя і камсамольскія работнікі,

працоўныя, прысланыя з СССР. Не ведаючы мясцовай спецыфікі, звычаяў, мовы, многія з іх выклікалі недавер і расчараванне мясцовага насельніцтва. Нацыяналізаваліся не толькі буйныя, але і дробныя прадпрыемствы. Праходзіла рэканструкцыя і будоўля новых заводаў і фабрык, павялічылася колькасць рабочых месцаў. Адкрываліся нацыянальныя школы, бясплатныя бальніцы і медыцынскія пункты.

Адмоўную ролю адыграла рэпрэсіўная палітыка сталінскага ўрада, у выніку якой на чэрвень 1941 г. ў Сібір, Казахстан і іншыя рэгіёны СССР было дэпартавана больш за 120 тысяч асаднікаў, заможных сялян, бежанцаў. На працягу другой паловы 30-х гг. былі арыштаваны і загінулі ў турмах кіраўнікі і дзеячы беларускага нацыянальнага руху М. Гарэцкі, Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, І. Дварчанін і інш. Былі разгромлены падпольныя арганізацыі прапольскага накірунку.

І ўсё ж аб'яднанне заходнебеларускіх зямель з БССР мела вельмі вялікае значэнне: пасля доўгага перапынку амаль усе тэрыторыі з пераважнай большасцю беларускага насельніцтва мелі адзіныя межы; гэта спрыяльна адбілася на развіцці беларускай нацыі. Значныя змены адбыліся ў сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці заходніх абласцей БССР.

**Пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Баі на тэрыторыі Беларусі.** Між тым Германія падпарадкоўвала сабе краіны Еўропы і рыхтавала моцны ўдар супраць СССР, які з'яўляўся сур'ёзнай перашкодай планам аб сусветным панаванні. У снежні 1940 г. быў гатовы план "Барбароса" – распрацоўка "бліц крыга", – маланкавай (за 3 – 4 месяцы) вайны з СССР. У маі 1941 г. быў зацверджаны "ОСТ" – план каланізацыі і знішчэння савецкіх народаў. Германія сур'ёзна рыхтавалася да вайны. Гэтага не магло не ўсведамляць савецкае кіраўніцтва. Але менавіта непадрыхтаванасць Чырвонай Арміі да вайны амаль усе даследчыкі лічаць асноўнай прычынай ашаламляльных перамог нацысцкай арміі ў першыя месяцы вайны.

22 чэрвеня 1941 г. пачалася Вялікая Айчынная вайна – вызваленчая барацьба савецкіх народаў супраць Германіі і яе саюзнікаў. Першы ўдар нямецкай групы армій "Цэнтр" (камандуючы генерал-фельдмаршал Ф. фон Бок) быў нанесены па часцях Заходняй асобай ваеннай акругі (камандуючы генерал арміі Дз. Паўлаў), якая размяшчалася пераважна на тэрыторыі Беларусі. Ужо 28 чэрвеня 1941 г. быў захоплены Мінск, а да канца жніўня 1941 г. ўся тэрыторыя Беларусі была занята нямецкімі войскамі. Асабліва жорсткае супраціўленне варожаму націску было аказана злучэннямі Заходняга фронту пад Гродна (23.06.1941); амаль месяц ішлі абарончыя баі ў Брэсцкай крэпасці



(22.06. – 20.07.1941); пад Мінскам стойка змагаліся байцы 100-й дывізіі (генерал-маёр І.М. Русіянаў); цяжкія страты неслі абаронцы Магілёва (3 – 26.07.1941) ля вёскі Буйнічы; пад Оршай немцы ўпершыню зведалі ўдар батарэі рэактыўных установак капітана І. Флёрава (14.07.1941); на працягу дваццаці дзён ішла абарона Гомеля (да 19.08.1941). Каб спраўдзіць ваенна-гістарычныя пралікі, якія дапусціла вышэйшае ваенна-палітычнае кіраўніцтва СССР, у здрадзе інтарэсам Радзімы, у развале ўпраўлення войскамі былі абвінавачаны і расстраляны Дз. Паўлаў і іншыя военачальнікі акругі – усяго 12 чалавек. Нечаканасць вераломнага нападу Германіі, аб чым было абвешчана сродкамі масавай інфармацыі ў першыя ж гадзіны вайны, была хутчэй прапагандысцкім крокам, накіраваным на насельніцтва: вайна не была нечаканасцю ні для кіраўніцтва краіны, ні для жыхароў, асабліва прыгранічных раёнаў. На самай справе адной з важнейшых прычын паражэнняў савецкіх войск у пачатку вайны можна лічыць адсутнасць сур'ёзна прадуманай абарончай (а не наступальнай!) дактрыны, падрыхтаванай глыбокай абароны, а таксама перавагу ваеннага і эканамічнага патэнцыялу Германіі. Галоўны ўдар Сталін чакаў на Кіеўскім напрамку. Позна былі складзены і даведзены да ведама планы дзеянняў акругоў. Не былі прыведзены ў баявую гатоўнасць многія часці Заходняй асобай ваеннай акругі (частка войскаў аставалася ў летніх лагерах, некаторыя арміі знаходзіліся ў стане пераўзбраення і перафарміравання); назіраўся невысокі ўзровень баявой падрыхтоўкі салдат; невялікая колькасць новых узораў танкаў і самалётаў. Яшчэ не завяршылася інжынернае пераабсталяванне новай заходняй мяжы, якую атрымаў СССР пасля восеньскага (1939) паходу на Польшчу. Умацаваныя раёны, якія вельмі актыўна будаваліся з вясны 1941 г., амаль не былі забяспечаны абсталяваннем і зброяй. Слабой аказалася зенітная абарона.

За перадваенныя гады было рэпрэсіравана звыш 40 тысяч афіцэраў і генералаў арміі. Нестабільны аказаўся маральна-палітычны стан сялянства (асноўны кантынгент арміі), незадаволенага прымусовай калектывізацыяй. Масавае знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі абуджала абурэнне савецкім рэжымам. Да таго ж, аператыўная канфігурацыя часцей 10-й арміі ЗахАВА на беластоцкім выступе паграджала хуткім акружэннем войскаў з боку Гродна і Брэста. Гэтыя, а таксама многія іншыя прычыны паўплывалі на тое, што ў першыя месяцы вайны Чырвоная Армія не змагла даць рэальнага адпору гітлераўцам.

Пад Беластокам і Мінскам Чырвоная Армія страціла звыш 3,3 тыс. танкаў, 738 самалётаў (528 з іх не паспелі падняцца ў паветра); людскія страты склалі звыш 330 тысяч чалавек.

Ужо на другі дзень вайны з’явілася дырэктыва аб арганізацыі ўзброеных добраахвотных атрадаў для аховы ад падрыўных дзеянняў ворага; на Беларусі дзейнічала 78 знішчальных батальёнаў, групы самааховы ў вёсках. За лета 1941 г. з тэрыторыі БССР было вывезена на Усход 99 фабрык і заводаў, электрастанцый, звыш 58 тысяч адзінак сельскагаспадарчай тэхнікі, 1,5 мільёна чалавек. У той жа час вялізныя ваенныя склады трапілі ў рукі ворага.

**Акупацыйны рэжым.** Па распрацаваным нацыстамі плане “ОСТ”, які тычыўся Усходняй Еўропы, павінна было быць знішчана і выслана 75 % беларускага насельніцтва, а астатніх планавалася анямечыць і выкарыстоўваць для абслугоўвання нямецкага грамадства, якое павінна было засяліць новыя тэрыторыі. На захопленай тэрыторыі ўсталёўваўся “новы парадак” – сістэма палітычных, ваенных, эканамічных мер, накіраваных на знішчэнне дзяржаўнага ладу і грамадства. Уся ўлада на акупіраванай тэрыторыі належала нямецкай ваеннай і цывільнай адміністрацыі, якая абапіралася на атрады СС, СД, СА, гестапа, крымінальную і ахоўную паліцыю. На захопленай тэрыторыі БССР пражывала каля 9 мільёнаў чалавек. Для масавага знішчэння “непаўнацэннага” (з пункту гледжання акупантаў) насельніцтва будаваліся спецыяльныя месцы прымусовага ўтрымання: на Беларусі налічвалася каля 300 лагераў смерці. Найбуйнейшы – у Малым Трасцянцы – займаў трэцяе месца па колькасці загубленых пасля Асвенціма і Майданака (звыш 200 тыс. чал.). Пад прымусовае пражыванне людзей па расавых, прафесійных, рэлігійных і іншых прыкметах адводзіліся цэлыя гарадскія кварталы – гета. На тэрыторыі нашай рэспублікі дзейнічала толькі 155 гета для яўрэйскага насельніцтва, – ва ўсіх гарадах і мястэчках, дзе пражывалі яўрэі. Акрамя гэтага, татальнаму знішчэнню на ўсёй тэрыторыі СССР падлягалі цыгане, гомасексуалісты, псіхічна хворыя людзі і г. д. Супраць партызан і мірных жыхароў Беларусі было арганізавана, па няпоўных дадзеных, звыш 120 буйных карных экспедыцый, падчас якіх было спалена разам з жыхарамі 628 вёсак.

У ідэалагічным плане акупанты імкнуліся падзяліць насельніцтва і супрацьпаставіць адно аднаму. Чацвёртая частка нашай тэрыторыі ўвайшла ў склад генеральнай акругі “Беларусь”, якая ўключалася ў склад рэйхскамісарыята “Остланд”. Палессе адышло да рэйхскамісарыята “Украіна”, частка Брэсцкай і Беластоцкай абласцей – да Усходняй Прусіі, паўночна-заходнія раёны Віленскай вобласці – да генеральнай акругі “Літва”, Усходняя частка Беларусі ўвайшла ў зону тылу групы армій “Цэнтр”.



Спачатку нямецкія ўлады імкнуліся захаваць калгасны лад для больш пільнага кантролю і ўліку сельгаспрадукцыі. Але пасля бітвы пад Масквой зямля была пераддзена абшчынным гаспадаркам; у 1943 годзе сяляне атрымалі зямлю ў часовае карыстанне. На акупіраванай тэрыторыі працавалі навучальныя ўстановы: семінарыі, гімназіі і прагімназіі (у Вільні і інш.). Прамысловыя прадпрыемствы працавалі на патрэбы Трэцяга рэйха. Частка прадукцыі, а таксама неэвакуіраваныя прадпрыемствы, музейныя каштоўнасці, буйная рагатая жывёла і прадукты харчавання, людзі вывозіліся ў Германію (на прымусовыя работы было вывезена каля 380 тыс. чал.).

Пэўную ролю ў нямецкай акупацыйнай палітыцы адыгралі калабарацыяністы – асобы, палітычныя партыі, грамадскія рухі і арганізацыі, якія супрацоўнічалі з захопнікамі. Праўда, беларускі калабарацыянізм не адыгрываў істотнай ролі ва ўмацаванні пазіцый акупацыйных улад. Найбольшае развіццё гэтая з’ява атрымала ў генеральнай акрузе “Беларусь”, дзе праводзіліся мерапрыемствы па асабістай ініцыятыве генеральнага камісара Вільгельма Кубэ. Апора была ім знойдзена ў беларускіх нацыянальных дзеячах, расчараваных сталінскім рэжымам, якія імкнуліся пры супрацоўніцтве з немцамі адрадзіць беларускую дзяржаўнасць. Для беларусізацыі розных бакоў жыцця грамадства ў 1941 г. была ўтворана Беларуская Народная Самапомач (БНС) на чале з І. Ермачэнкам. У снежні 1943 г. абвясцілі аб утварэнні мясцовага “ўрада”, – Беларускай цэнтральнай рады (БЦР, Р. Астроўскі), якая займалася пераважна справамі адукацыі і культуры, сацыяльнага забеспячэння мясцовага насельніцтва. Дзейнічалі і іншыя арганізацыі, накшталт Саюза Беларускай Моладзі (М. Ганько, Н. Абрамава).

Нямецкія ўлады імкнуліся таксама стварыць узброеныя фарміраванні з прадстаўнікоў розных народаў, у тым ліку з беларусаў. У 1942 – 1943 гг. на нашай тэрыторыі дзейнічалі нешматлікія атрады Беларускай самааховы (БСА), але большасць ваенных супрацоўнікаў завозілася з-за межаў Беларусі – з Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі. Не стаў паспяховым і праект утварэння Беларускай краёвай абароны (БКА). Амаль паўсюдна на Беларусі распаўсюджвалася толькі цывільнае супрацоўніцтва, калі прадстаўнікі мясцовага насельніцтва ажыццяўлялі ўладу на акупіраванай тэрыторыі. Існавалі і паліцэйскія фарміраванні, якія аказвалі актыўную дапамогу акупантам. Але нельга забывацца на тое, што многія з іх рабілі гэта прымусова. Па прыблізных падліках, на Беларусі рознымі формамі супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі было ахоплена каля 80–100 тысяч чалавек. Увогуле калабарацыянізм у га-

ды Вялікай Айчыннай вайны – з’ява вельмі неадназначная і патрабуе грунтоўнага, глыбокага, шматбаковага вывучэння.

**Партызанскі і падпольны рух.** Нават пасля адыходу часцей Чырвонай Арміі з Беларусі тут працягвалася антыфашысцкая барацьба. Дырэктывы ЦК КП(б)Б ад 30 чэрвеня 1941 г. і 1 ліпеня 1941 г. паставілі задачу ўтварэння на ўсёй тэрыторыі рэспублікі сеткі падпольных груп і партызанскіх атрадаў, якія б вялі пастаянную барацьбу з ворагам. Атрады беларускіх падпольшчыкаў налічвалі каля 70 тыс. чалавек. Асабліва моцным было мінскае партыйнае і камсамольскае падполле, узначаленае І.К. Кавалёвым і С.К. Ляшчэняй. У 1944 г. Мінскі падпольны гаркам КП(б)Б узначальваў 120 арганізацый і груп, якія займаліся разведвальнай, дыверсійнай, прапагандысцкай, нават тэрарыстычнай (забойства В. Кубэ) дзейнасцю. На жаль, пасля вызвалення Мінска каля 300 членаў падполля былі арыштаваны і абвінавачаны ў супрацоўніцтве з немцамі. Сярод вядомых дзеячаў беларускага падполля варта прыгадаць І.П. Казінца, І.К. Кабушкіна, К.С. Заслонава, В.С. Амельянюка, В.З. Харужую, Е. Зянькову.

Вядучай формай усенароднай барацьбы на Беларусі стаў партызанскі рух. Першы партызанскі атрад пад кіраўніцтвам Ц. Бумажкова і Ф. Паўлоўскага пачаў дзейнічаць на Палессі ўжо ў чэрвені 1941 г. Усяго на працягу 1941 г. з’явілася звыш 99 атрадаў і груп. Для каардынацыі дзеянняў партызанскіх атрадаў 30.05.1942 г. быў створаны Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР, кіраўнік – П.К. Панамарэнка). Для тэрыторыі Беларусі з падобнай мэтай пачаў сваю работу Беларускі штаб партызанскага руху (2.10.1942 – 14.11.1944 гг., кіраўнік П.З. Калінін). Таленавітымі арганізатарамі і камандзірамі паказалі сябе М.П. Шмыроў, П.М. Машэраў, В.І. Казлоў, В.З. Корж. За гады вайны баявыя дзеянні на Беларусі вялі 1255 партызанскіх атрадаў агульнай колькасцю 374 тыс. чал., некаторыя з іх аб’ядноўваліся ў брыгады (213). Абсалютную большасць партызан складала мясцовае насельніцтва. К канцу 1943 г. каля 60 % тэрыторыі рэспублікі з’яўляліся партызанскімі зонамі – тэрыторыямі, якія часткова ці поўнасцю кантраляваліся партызанамі. Найбуйнейшыя з іх: Барысава-Бягомльская, Полацка-Лепельская, Суражская, Івянецка-Налібоцкая.

Для парушэння чыгуначных перавозак гітлераўцаў, пашкоджання тэхнікі, знішчэння жывой сілы партызаны арганізавалі сапраўдную “рэйкавую вайну”, у якой можна вызначыць наступныя этапы: 1) 3 жніўня – 19 верасня 1943 г. – у падтрымку контрнаступлення пад Курскам; 2)верасень – лістапад 1943 г. (“Канцэрт”) – для садзейнічання прасоўвання часцей Чырвоноай Арміі на тэрыторыю Беларусі; 3) з 19 чэрвеня 1944 г. –



напярэдадні беларускай наступальнай аперацыі. Дзеянні партызан мелі і зваротны бок: так, у чэрвені 1944 г. у зоне дзеяння 1-га Прыбалтыйскага фронту было падарвана больш за 80% чыгуначных шляхоў, што сур’ёзна ўскладніла наступальны тэмп савецкіх войск.

Адной з асаблівасцей развіцця антыфашысцкай барацьбы ў заходніх раёнах Беларусі было існаванне на гэтай тэрыторыі падпольных груп Лонданскага эміграцыйнага ўрада Польшчы. У 1942 г. на тэрыторыі рэспублікі пачалі дзейнічаць атрады Арміі Краёвай (АК), стварыўшы тут Наваградскую, Палескую, Валынскую і Віленскую акругі. Пасля разрыву адносін паміж СССР і польскім эміграцыйным урадам у красавіку 1943 г. абвастрылася канфрантацыя АК з савецкімі партызанскімі атрадамі. Часткі АК імкнуліся перашкодзіць усталяванню савецкай улады на вызваленых тэрыторыях (восень 1943 г. – аперацыя “Бура” і захоп заходняй часткі Украіны, Беларусі і Віленшчыны падчас адступлення нямецкіх войск); але многія атрады супрацоўнічалі з Чырвонай Арміяй. Пасля няўдалай спробы ўзняць паўстанне ў Варшаве (жнівень 1944 г.) хутка АК была распушчана эмігранцкім урадам. Акрамя таго, на тэрыторыі Палесся ваенныя дзеянні супраць гітлераўцаў вялі ўкраінскія нацыяналістычныя ўзброеныя фарміраванні. Увогуле актывізацыя дзейнасці партызанаў на заходніх тэрыторыях Беларусі адзначаецца к зіме 1943 – 44 гг., калі для садзейнічання пашырэнню тут партызанскага руху адпраўляюцца шматлікія рэйды з іншых рэгіёнаў. Увогуле у партызанскіх атрадах тут налічвалася не болей за 37 тысяч чалавек.

**Вызваленне Беларусі. Заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны**. Пасля перамогі пад Курскам у ходзе бітвы за Днепр Чырвоная Армія падышла да ўсходняй мяжы Беларусі. 23 верасня 1943 г. быў вызвалены першы раённы цэнтр – Камарын. За час асенне-зімовага наступлення поўнасцю або часткова сталі савецкімі 36 раёнаў і абласныя цэнтры Гомель і Мазыр. Такім чынам, адбыўся першы этап вызвалення Беларусі.

Завяршальным крокам на шляху поўнага выгнання нямецкіх войск з тэрыторыі БССР стала Беларуская наступальная аперацыя “Баграціён” (23.06.– 29.08.1944). У ёй прынялі ўдзел войскі 1-га (кам. маршал К.К. Ракасоўскі), 2-га (кам. генерал арміі Г.Ф. Захараў),

3-га (кам. генерал арміі І.Д. Чарняхоўскі) Беларускіх і 1-га Прыбалтыйскага (кам. генерал арміі І.Х. Баграмян) франтоў, 1-я армія Войска Польскага, Дняпроўская ваенная флатылія і мясцовыя партызанскія злучэнні. Лінія фронту цягнулася на 500 км. Каардынацыю дзеянняў ажыццяўлялі маршалы Г.К. Жукаў і А.М. Васілеўскі. На першым эта-

не аперацыі (23.06 – 4.07.1944) было завершана акружэнне Мінскай групіроўкі (“мінскі кацёл”) і вызвалена сталіца Беларусі (3.07.1944). У выніку 2-га этапа (5.07. – 29.08.1944) савецкія войскі падышлі да заходняй мяжы СССР. Беларусь была вызвалена поўнасцю. Апошнім беларускім горадам, вызваленым ад немцаў, стаў Брэст (28.07.1944).

8 мая 1945 г. ў Карлсхорсце быў падпісаны Германіяй акт аб капітуляцыі. Завяршальнай аперацыяй Вялікай Айчыннай вайны стала Пражская наступальная аперацыя (6 – 11.05.1945).

Фіналам другой сусветнай вайны лічыцца прызнанне паражэння апошнім нямецкім саюзнікам – Японіяй (2.09.1945).

Вайна прынесла незлічоныя страты беларускаму народу.

Па прыблізных падліках загінула каля 2,7 мільёнаў жыхароў рэспублікі. Агульныя страты (у цэнах 1941 г.) склалі 75 мільярдаў рублёў: эканоміка БССР была адкінута да ўзроўню 1928 г. Спалена 9,2 тыс. вёсак, вывезена 90 % станкоў і тэхнічнага абсталявання, 96 % энергетычных магутнасцей. Пасяўныя плошчы скараціліся на 43 %. Некалькі сотнь тысяч чалавек пакінулі краіну як палітычныя эмігранты. Перамога стала магчымай толькі дзякуючы самаахвярнай дзейнасці савецкіх грамадзян на франтах і ў тыле ворага.

У 1945 г. Беларусь страціла частку сваёй тэрыторыі: да Польшчы адышла частка Беластоцкай вобласці, а да Літвы – 5 раёнаў Віцебскай і Вілейскай абласцей.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Як праходзіў працэс далучэння Заходняй Беларусі да БССР? У чым значэнне гэтай падзеі? 2. Назавіце асноўныя прычыны паражэння Чырвонай Арміі ў першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны. 3. Што такое “новы парадак”? У чым яго сутнасць? 4. Прааналізуйце з’яву калабарацыянізму на Беларусі. 5. Пералічыце формы партызанскай і падпольнай барацьбы. 6. Адзначце асноўныя падзеі апошняга перыяду Вялікай Айчыннай вайны.*

## Сацыяльна-эканамічнае і палітычнае развіццё БССР у пасляваенны перыяд (1945–1991)

***Літаратура***

1. Абрамов, И.М. Циклы в развитии экономики СССР / И.М. Абрамов. – Минск: Навука і тэхніка, 1990. – 157 с.



2. Антонович, С.В. Петр Машеров: Жизнь. Судьба. Память / С. Антонович. – Минск: Юнацтва, 1998. – 349 с.

3. Галубовіч, В.І. Перадумовы, сутнасць і гістарычныя ўрокі гаспадарчай рэформы 1965 г. / В.И. Галубовіч // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: вуч.-метад. зб. Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП “Экаперспектыва”, 1997. – С. 85–102.

4. Гузіцкі, Ю.Л. Грашовая рэформа 1947 г., яе перадумовы і вынікі / Ю.Л. Гузіцкі // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-метад. зб. Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП “Экаперспектыва”, – С. 70–84.

5. Елізараў, С. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел Беларускай ССР у 1954–1964 гг. / С. Елізараў // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 3. – С. 17.

6. Елізараў, С. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел БССР у 1965–1991 гг. / С. Елізараў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 5. – С. 11.

7. Снапковский, В.Е. Белорусская ССР в ООН (1945–1985 гг.) / В.Е. Снапковский. – Минск: Навука и тэхніка, 1985. – 104 с.

8. Снапкоўскі, У.Е. Знешнепалітычная дзейнасць Беларусі, 1944–1953 гг. / У.Е. Снапкоўскі. – Мінск: Беларуская навука, 1997. – 205 с.

9. Социально-экономические преобразования в Белорусской ССР за годы Советской власти / под ред. акад. Ф.С. Мартинкевича. – Минск: “Наука и техника”, 1970. – 528 с.

***Вызначальныя паняцці:*** *палітычная “адліга”, рэабілітацыя, сямігодка, саўнаргас, НТР, гасразлік, “застой”, дысідэнты, перабудова, галоснасць, дэмакратызацыя, лібералізацыя.*

**Аднаўленне і развіццё народнай гаспадаркі БССР у пасляваенны перыяд.** Амаль адразу пасля вызвалення Беларусі ў 1944 г. пачалося аднаўленне эканомікі БССР. У вызваленую Беларусь з іншых рэспублік СССР былі накіраваны тысячы трактароў і аўтамашын, дзесяткі тысяч галоў жывёлы. Толькі ў 1944 г. саюзнае кіраўніцтва выдаткавала на патрэбы эканомікі Беларусі 1200 млн. рублёў, было перададзена 7 тыс. станкоў і іншага абсталявання. Дапамога мела надзвычай важны для жыхароў Беларусі характар. Аднак, не трэба забываць, што летам 1941 г. многія прадпрыемствы таксама вывозіліся з тэрыторыі БССР на ўсход. У сельскай гаспадарцы адбывалася аднаўленне калгасаў. На захадзе рэспублікі, дзе ў 1939–1941 гг. былі зроблены толькі першыя крокі ў накірунку калектывізацыі, улады абмяжоўвалі магчымасці прыватнага землекарыстання.

У сакавіку 1946 г. СНК БССРператварыўся ў Савет Міністраў. У верасні таго ж года быў зацверджаны план чацвёртай пяцігодкі. Дзякуючы гераічным намаганням рабочых і калгаснікаў, да канца 1950 г. аб'ём валавай прадукцыі на 15 % пераўзышоў адпаведны паказчык 1940 г. У 1947 г. адмянялася карткавая сістэма размеркавання прадуктаў, адбылася грашовая рэформа. У немалой ступені гэта тлумачыцца энтузіязмам і ахвярнай працай простых людзей, імкненнем зноў наладзіць мірнае жыццё. Аднак савецкія ўлады працягвалі кіравацца адміністрацыйнымі метадамі. У сельскага насельніцтва адбіралася самае неабходнае. Значна выраслі падаткі. У чэрвені 1948 г. была прынята пастанова, якая дазваляла высылаць у аддаленыя раёны СССР тых, хто не жадаў адпрацоўваць амаль бясплатныя працадні. У першую пасляваенную пяцігодку змянілася сама структура эканомікі Беларусі. Больш увагі надавалася цяжкай і энергетычнай прамысловасці. Былі пабудаваны новыя прадпрыемствы: аўтамабільны, трактарны, гіпсавы заводы, камвольны камбінат у Мінску, завод дарожных машын у Жодзіне, дываноў – у Віцебску і г. д. Аднак было аднаўлена менш за 75 % жыллёвага фонду, марудна развіваліся лёгкая прамысловасць і вытворчасць спажывецкіх тавараў.

Перамогу ў другой сусветнай вайне сталінскі рэжым скарыстаў для падняцця асабістага аўтарытэту, але размовы аб лібералізацыі грамадскага жыцця не ішло. Пачаліся новыя масавыя арышты, расстрэлы, высылкі ў савецкія канцэнтрацыйныя лагеры. Любы чалавек, які трапіў на акупіраваную тэрыторыю ў ваенны час, быў пад сумненнем. Ужо ў 1947 г. па сцэнарыі 30-х гг. былі праведзены новыя сфабрыкаваныя працэсы супраць "нацыяналістычных" беларускіх арганізацый. У 1949 – 1950 гг. праводзілася масавая калектывізацыя ў заходніх абласцях Беларусі, якая суправаджалася "раскулачваннем", рэпрэсіямі і высылкамі. Вёска, як і раней, разглядалася ў якасці донара індустрыялізацыі. У выніку па ўсіх важных паказчыках у сельскагаспадарчай вытворчасці ў 1950 г. ўзровень 1940 г. не быў дасягнуты.

**БССР на міжнароднай арэне ў пасляваенны перыяд.**

У 1944 г. БССР атрымала права знешніх зносін (такое права сярод савецкіх рэспублік мелі толькі Беларусь і Украіна). У 1945 г. яна стала адной з дзяржаў-заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ААН), у 1946 г. – Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у 1947 г. уступіла ў Сусветны паштовы саюз, у 1954 – Міжнародную арганізацыю працы і ЮНЕСКА, у 1970 г. – Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці. У канцы 1950-х – пач. 80-х гг. былі адкрыты пастаянныя прадстаўніцтвы БССР пры міжнародных арганізацыях у Нью-Йорку, Жэневе і Вене. БССР заключыла мірныя дагаворы з Германскай дэмакратычнай рэспублікай, Румыніяй, Балгарыяй, Фінляндыяй і Італіяй. У 1963 г. рэспубліка стала ўдзельніцай Дагавора аб забароне выпрабаванняў ядзернай зброі ў атмасферы, касмічнай прасторы і пад вадой. Праводзіліся выставы беларускай прадукцыі ў іншых краінах. Рос міжнародны гандаль і турызм. Міжнародная дзейнасць БССР істотна абмяжоўвалася палітыкай саюзнага кіраўніцтва, аднак яна спрыяла росту аўтарытэту рэспублікі ў свеце.

**БССР і палітычная "адліга".** У сакавіку 1953 г. памёр І.В. Сталін. У лютым 1956 г. на ХХ з'ездзе КПСС быў асуджаны культ яго асобы. Гэта азначала сур'ёзную дэмакратызацыю грамадскага жыцця. Была праведзена частковая рэабілітацыя ахвяр палітычных рэпрэсій (да 1962 г. у БССР было рэабілітавана каля

30 тыс. чалавек, у тым ліку – В. Кнорын, А. Чарвякоў, В. Шаранговіч і інш.). Рэспубліканскія ўлады атрымалі больш самастойнасці ў вырашэнні сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем. Ужо ў 1953 г. былі прыняты першыя рашэнні, якія садзейнічалі развіццю вёскі. Паляпшалася матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне калгасаў і саўгасаў, былі павялічаны закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, памяншаліся падаткі з сялян. У 1958 г. тэхніка машынна-трактарных станцый была прададзена калгасам, каб павялічыць ступень іх самастойнасці. Былі скарочаны прывілегіі партыйнай наменклатуры. У 1956 г. першым сакратаром ЦК КПБ стаў

К. Мазураў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, даволі актыўны і прынцыповы кіраўнік. Аднак ён знаходзіўся пад моцным уплывам цэнтральных уладаў.

Кіраўніцтва СССР на чале Першага сакратара КПСС М. Хрушчова (1954 – 1964) не мела комплекснай мэтанакіраванай праграмы рэформ. Развіццё сельскай гаспадаркі адбывалася экстэнсіўнымі метадамі. У другой палове 1950–1960-х гг. многія беларускія юнакі і дзяўчаты актыўна ўдзельнічалі ў асваенні цалінных зямель Паўднёвага Урала, Паволжа, Сібіры і Казахстана. На Беларусі таксама пачалася актыўная меліярацыя, якая часцей за ўсё мела адмоўныя экалагічныя наступствы. Павялічылася колькасць жывёлы, але прадукцыйнасць жывёлагадоўлі заставалася нізкай. Развіццю сельскай гаспадаркі не садзейнічала дрэннае матэрыяльнае стымуляванне, абмежаванні прысядзібных надзелаў, незацікаўленнасць калгаснікаў у выніках працы. Нягледзячы на хуткія тэмпы росту і развіцця новых важных галін прамысловасці (хімічнай, нафтаперапрацоўчай, здабычы калійнай солі і г. д.), электрыфікацыю і газіфікацыю, прамысловасць апынулася ў ня-

простай сітуацыі. Савецкая эканамічная мадэль не была падрыхтавана да выкліку пачаўшайся навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Дрэнна развіваліся сфера паслуг, будаўніцтва жыллёвага фонду, нарастаў дэфіцыт. Спроба ўвесці тэрытарыяльную сістэму кіравання замест міністэрскай (1957) выклікала крызіс у планаванні і ва ўнутрысаюзных гандлёвых адносінах. Першая палова 60-х гадоў адзначаецца відавочным пагаршэннем эканамічнай сітуацыі, якая выражалася ў нізкім узроўні прыросту прадукцыйнасці працы, зніжэнні капіталааддачы, рознічнага тавараабарота, рэнтабельнасці прадпрыемстваў, і у выніку – даходаў насельніцтва. У 1961 г. новая праграма КПСС мела намер пабудаваць камунізм у СССР да 1980 г. З гэтага моманту партыйнае кіраўніцтва афіцыйна атрымала права адміністрацыйнага кантролю. На працягу 1960–1970 гг. усе беларускамоўныя школы пераводзіліся на рускую мову навучання.

**Будаўніцтва ў БССР "развітога сацыялізму".** У 1964 г. Першы сакратар ЦК Кампартыі М. Хрушчоў быў вызвалены ад займаемай пасады, кіраваць партыяй і краінай быў пастаўлены Л. Брэжнеў. У 1965 г. на Беларусі кампартыю ўзначаліў П. Машэраў. На сакавіцкім 1965 г. пленуме ЦК КПСС былі прапанаваны тэрміновыя меры дапамогі калгасам і саўгасам: змена сістэмы нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі (цвёрды пяцігадовы план для кожнай гаспадаркі, раёна, вобласці, рэспублікі); істотнае (у 1,5 – 2 разы) павышэнне закупачных цэн на сельгаспрадукцыю, адмена абмежаванняў на ўтрыманне хатняй жывёлы ў асабістых гаспадарках; пастаўка сельскагаспадарчай тэхнікі ў вёску; увядзенне элементаў гаспадарчага разліку. Канчаткова былі ліквідаваны апошнія прыкметы савецкага прыгоннага права для калгаснікаў – як і ўсе іншыя грамадзяне краіны, яны атрымалі пашпарты, права на пенсію, на гарантаваную аплату працы.

У верасні 1965 г. чарговы пленум ЦК КПСС прыняў рашэнні аб зменах у прамысловасці. Замест створанай у 1957 г. тэрытарыяльнай сістэмы кіравання была зноў уведзена галіновая пад кіраўніцтвам асобных міністэрстваў. Удасканальвалася сістэма планавання: асноўным паказчыкам работы прадпрыемства станавіўся аб'ём рэалізаванай прадукцыі, што звярнула ўвагу на якасць выпускаемых тавараў. Пашыралася гаспадарчая самастойнасць прадпрыемстваў на аснове гасразліку (прадпрыемствы атрымалі магчымасць свабодна распараджацца часткай прыбытку, а значыць будаваць жыллё, дзіцячыя садкі, санаторыі для сваіх супрацоўнікаў, што павялічвала стымуляванне працы), былі прыняты меры па барацьбе з безгаспадарчасцю, па лепшым выкарыстанні рэсурсаў.



Пяцігодка 1966 – 1970 гг. была настолькі паспяховай, што потым атрымала назву "залатой". У БССР аб'ём вытворчасці прадукцыі прамысловасці ўзрос на 79%, сельскай гаспадаркі – на 45%. Дзякуючы нізкім коштам на паліва і з'яўленню новых прадпрыемстваў, у 70-я гг. ВНП БССР перасягаў адпаведныя паказчыкі большасці рэспублік Савецкага Саюза, а таксама Аўстрыі, Венгрыі і Балгарыі. Нягледзячы на гэта, узровень аплаты працы заставаўся даволі нізкім. Пры агульным росце ўзроўню жыцця насельніцтва павялічвалася колькасць дэфіцытных тавараў, паколькі пры планавай эканоміцы немагчыма прадказаць рэальную патрэбу ў асобных відах прадукцыі. Хранічнай праблемай заставалася нізкая якасць тавараў, іх небагаты асартымент. Планавая сістэма кіравання савецкай эканомікай не прымала нязвыклыя для сябе метады кіравання, а нарастанне канфрантацыі з заходнімі краінамі выдзвінула на першае месца праблему ўмацавання абараназдольнасці краіны. У краіне пачаўся перыяд застою. Узмацніўся пераслед інакшдумаючых (дысідэнтаў). Аднак канцлагеры цяпер замяняліся на турмы і псіхіятрычныя шпіталі.

**БССР ва ўмовах палітыкі перабудовы.** У красавіку 1985 г. на пост Генеральнага сакратара ЦК КПСС быў абраны М.С. Гарбачоў. Ён хутка абвясціў курс рэформаў, якія атрымалі назву "перабудова". Пачала распрацоўвацца праграма комплексных зменаў па вывадзе краіны з доўгага эканамічнага крызісу. Ставілася на мэце паскарэнне тэмпаў росту савецкай эканомікі, укараненне дасягненняў НТР і інтэнсіфікацыя вытворчасці, узвышэнне ролі творчай самастойнасці асобы. У адрозненне, напрыклад, ад Кітая, у якім рэфармавалася галоўным чынам эканамічная сфера, перабудова ў СССР была накіравана на маштабныя змены адразу ва ўсіх сферах, уключаючы дэмакратызацыю грамадства. Асобнымі мерапрыемствамі перабудовы стала палітыка галоснасці, гасразліку, адраджэння прыватнай ініцыятывы ў рамках кааператыўнага руху. Палітыка галоснасці прадугледжвала паступовае адмаўленне ад кантролю КПСС за ідэалагічнымі працэсамі ў грамадстве. Цэнзура над публікацыямі была зменшана, дазволены сходы для абмеркавання палітычных працэсаў. Акрамя кантралюемых камуністычнай партыяй і ўрадам грамадскіх арганізацый сталі ўзнікаць самастойныя дыскусійныя клубы і нефармальныя аб'яднанні, у якіх можна было праявіць асабістую грамадскую ініцыятыву.

Першай тэмай для шырокага абмеркавання ў прэсе сталі культ асобы Сталіна і палітычныя рэпрэсіі 30 – пач. 50-х гг. Выкрыццё культу асобы Сталіна ў найвышэйшых партыйных органах сярэдзіны 50-х гг. мела адносна абмежаваны характар. Зараз жа грамадства атрымлівала

ўсё больш інфармацыі пра жахі канцэнтрацыйных лагераў, пра рэпрэсіі супраць мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей. Важную ролю адыгрывалі літаратурныя і публіцыстычныя творы, у якіх паказваліся скалечаныя рэжымам лёсы. Узнавіліся працэсы рэабілітацыі бязвінна рэпрэсіраваных. Але яшчэ не дазвалялася рэзка крытыкаваць сучасную палітыку партыі.

Гаспадарчы разлік (пераход прадпрыемстваў да самастойнага разліку затрат, прыбытку і аб'ёмаў прадукцыі) пачаў рэалізоўвацца з 1987 г. Але ва ўмовах штучна сфарміраваных цэн, не адпавядаўшых рэчаіснасці, гэта мерапрыемства не дало чаканага выніку. Адсутнічалі спецыялісты, здольныя эфектыўна выкарыстоўваць новыя магчымасці – менеджэры і маркетолагі. Іх у той час яшчэ нават не рыхтавалі. На прадпрыемствах для павышэння кантролю над якасцю прадукцыі ўводзілася дзяржаўная прыёмка (дзяржпрыёмка). Гэта мерапрыемства мела значны пазітыўны эфект, бо супрацоўнікі дзяржпрыёмкі не залежалі ад кіраўніцтва прадпрыемстваў.

У 1988 г. гасразлік на прадпрыемствах быў дапоўнены рэспубліканскім гаспадарчым разлікам. Фактычна гэта азначала павелічэнне эканамічнай самастойнасці рэспублік, у тым ліку БССР. Лічылася, што на месцах лепш бачна, як больш эфектыўна развіваць эканоміку без працяглых узгадненняў з цэнтрам. Але рэспубліканскі гасразлік прывёў да росту мясніцкіх настрояў з боку рэспубліканскіх чыноўнікаў.

Дазвол прыватнай эканамічнай ініцыятывы таксама не прынёс доўгачаканага плёну. Меркавалася, што кааператывы дапамогуць дзяржаве забяспечыць насельніцтва дэфіцытнымі відамі прадукцыі, выпуск якой дзяржава не змагла самастойна арганізаваць. Але кааператары здолелі гэта зрабіць толькі часткова. Большасць з іх займалася пасрэдніцкімі аперацыямі ці працавала ў сферах паслуг і гандлю.

Страшэнныя экалагічныя і эканамічныя наступствы для ўсёй тэрыторыі Беларусі мела аварыя на чацвёртым энергаблоку Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі (ЧАЭС), якая адбылася 26 красавіка 1986 г. На тэрыторыю Беларусі прыпала 70 % радыеактыўнага забруджвання. Асабліва ў цяжкім становішчы апынулася насельніцтва паўднёвага ўсходу БССР – усяго 2 100 000 чалавек. З абароту было выведзена 20 % сельгасугоддзяў і 14 % ляснога фонду. Толькі 4 мая 1986 г. было прынята рашэнне аб высяленні жыхароў 30-кіламетровай зоны вакол ЧАЭС. Вынікі катастрофы ўсяляк замоўчваліся. Насельніцтва не атрымоўвала аператыўнай інфармацыі. У 1989 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў праграму доўгатэрміновых дзеянняў па ліквідацыі наступстваў аварыі, разлічаную да 1995 г. Аднак цалкам яна так і не была выканана.



У 1988–1989 гг. ліквідацыя былых аўтарытарных механізмаў запалохвання і кантролю прывяла да таго, што ў рамках палітыкі галоснасці дэмакратычна настроеныя грамадзяне пачалі крытыкаваць сістэму кіраўніцтва партыі над выбарнымі органамі ўлады. Нарасталі нацыянальныя працэсы ў рэспубліках, з'явілася палітычная і нацыянальная апазіцыя, якая пачала заклікаць да выхаду з СССР. Кіраўніцтва асобных рэспублік прыслухоўвалася да гэтых заклікаў, наладжвала кантакты з апазіцыянерамі, збірала рэсурсы, неабходныя для набыцця самастойнасці.

У БССР працэс дэмакратызацыі грамадства ішоў значна больш марудна, чым у іншых рэспубліках. Тым не менш, тут таксама ўзнікалі апазіцыйныя арганізацыі – маладзёвыя нацыянальныя аб'яднанні "Талака", "Тутэйшыя", "Паходня" і г. д. 24–25 чэрвеня 1989 г. ў Вільнюсе адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне" (БНФ). Калі падчас першага сходу размова ішла галоўным чынам аб падтрымцы палітыкі перабудовы і галоснасці, дык на канферэнцыі БНФ 30 чэрвеня – 1 ліпеня 1990 г. ўжо адкрыта абвяшчалася аб немагчымасці дасягнення суверэнітэту і дэмакратыі ў складзе СССР.

У сакавіку – красавіку 1990 г. ў БССР адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет рэспублікі, а таксама ў мясцовыя саветы. Упершыню за многія дзесяцігоддзі яны праходзілі на альтэрнатыўнай аснове. 10 лютага 1990 г. на Усебеларускім дэмакратычным форуме быў створаны Беларускі дэмакратычны блок, які аб'ядноўваў прадстаўнікоў дэмакратычна арыентаваных арганізацый. У выніку ў зноў выбраным Вярхоўным Савеце з'явіліся апазіцыйныя фракцыі БНФ і "Дэмакратычны клуб". Вярхоўны Савет БССР узначаліў М. Дземянцей, яго намеснікам быў абраны С. Шушкевіч. Старшынёй Савета Міністраў БССР стаў В. Кебіч.

27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. У тых умовах гэта было хутчэй толькі пажаданнем. Аднак мела надзвычай важныя наступствы.

Між тым унутрыэканамічная і палітычная сітуацыя ў СССР значна пагоршылася. Пачаліся міжнацыянальныя сутыкненні. Фактычна ішла грамадзянская вайна паміж Арменіяй і Азербайджанам. Незалежнасць сваёй рэспублікі абвясціў парламент Літвы. Вясной 1991 г. антысавецкія мітынгі прайшлі і на Беларусі. М. Гарбачоў рабіў непаслядоўныя крокі ў вырашэнні канфліктаў. Так, выкарыстанне ваенных часцей супраць мірнага насельніцтва для вырашэння праблемы апазіцыйных настрояў не дало станоўчых вынікаў. Аўтарытэт саюзнага кіраўніцтва моцна аслаб. З цяжкасцю ішлі перагаворы з кіраўніцтвам рэспублік аб заключэнні новага саюзнага дагавора. Канчатковы лёс Савецкага Саюза вырашыў

дзяржаўны пераварот у жніўні 1991 г. ў Маскве, які паказаў поўную бяздзейнасць цэнтральных уладаў.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Якія працэсы былі характэрны для Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе? 2. Як развівалася сельская гаспадарка і прамысловасць БССР у 1953–1965 гг.? 3. Якія важныя змены ў народнай гаспадарцы адбываюцца ў 1965 –1985 гг.? 4. Якія мэты ставілі перад сабой арганізатары перабудовы? Якія мерапрыемствы па перабудове савецкага грамадства вы можаце назваць? 5. Як адбываўся працэс дэмакратызацыі беларускага грамадства?*

## Развіццё беларускай савецкай культуры ў 1945–1991 гг.

***Літаратура***


1. Барыс, С. Адраджэнне рэлігійнага жыцця ў Беларусі ў 1988–2003 гг. / С. Барыс // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 16.
2. Дробов, Л.Н. Живопись Советской Белоруссии (1917–1975 гг.) / Л.Н. Дробов. – Минск: Вышэйшая школа, 1979. – 302 с.
3. Карзенка, Г.В. Фарміраванне кадраў навукі Беларусі (сярэдзіна 50-х – 80-я гг.) / Г.В. Карзенка // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 190–194.
4. Кашталян, І. Становішча інтэлігенцыі БССР у 1944–1953 гг. (па матэрыялах Асобага сектара ЦК КП(б)Б) / І. Кашталян // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 7. – С. 28.
5. Кіпель, В. Беларусы ў ЗША / В. Кіпель. – Мінск: Беларусь, 1993. – 348 с.
6. Кушнер, В. Рыцар сумлення і свабоды. Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч / В. Кушнер // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 11. – С. 3.
7. Навіцкі, У. Асаблівасці культурнага жыцця на Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 96–102.
8. Навіцкі, У. Супярэчлівасць культурнага жыцця Беларусі ў сярэдзіне 50-х – пач. 80-х гг. / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 2.
9. Наука Беларуси в ХХ столетии / НАН Беларуси; редкол.: Н.А. Борисевич [и др.]. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 1006 с.





10. Чэбан, І. Мікалай Шчакаціхін: каля вытокаў беларускага мастацтвазнаўства / І. Чэбан // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 1–2.
11. Шычко, А. Эвалюцыя тэматыкі беларускага эстампа ў 1980-я гг. (на прыкладзе работ А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага і В. Шаранговіча) / А. Шычко // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 4. – С. 24.


***Вызначальныя паняцці****: ідэалагізацыя, фундаментальная навука, сацыялістычны рэалізм, тыпізацыя, манументалізм.*

**Культурнае аднаўленне БССР у пасляваенны перыяд.** За гады другой сусветнай вайны была знішчана амаль уся матэрыяльна-тэхнічная база ўстаноў навукі і культуры, не прыйшлі з вайны многія адукаваныя і прафесійна падрыхтаваныя людзі. У такіх умовах адразу пасля вызвалення пачынаецца культурнае аднаўленне БССР.

Але першыя пасляваенныя гады адзначыліся новай хваляй шырокамаштабных рэпрэсій на Беларусі, звязаных з дзейнасцю паплечніка Берыі Л. Цанавы. На 25 год лагероў была асуджана Ларыса Геніюш. Зноў арыштаваны пісьменнікі А. Александровіч, Б. Мікуліч, А. Пальчэўскі, С. Грахоўскі, С. Шушкевіч, А. Звонак і інш. У аснову кампаніі супраць інтэлігенцыі была пакладзена пастанова ЦК ВКП(б) “Аб часопісах “Звязда” і “Ленінград” (1946) і інш. Для актывізацыі барацьбы з “нацыяналізмам” і “касмапалітызмам” у БССР на пасаду першага сакратара ЦК КП(б)Б быў прысланы М. Гусараў. Крытыкаваліся як асобныя творцы (М. Танк, К. Буйло), так і цэлыя выданні. У скажэнні жыцця беларускай вёскі быў абвінавачаны і зняты з пасады рэдактар часопіса “Маладосць” аўтар аповесці “Дабрасельцы” А. Кулакоўскі. Наступленне накіроўвалася і на дзеячаў беларускай навукі. Ад яго пацярпелі прэзідэнт АН БССР А. Жэбрак (1947), славуты генетык, які не падтрымліваў лысенкаўскія метады ў біялогіі; наркам асветы П. Саевіч (1951), абвінавачаны ў “югаслаўскім шпіянажы”. Ішоў працэс ідэалагізацыі ўсіх сфер жыцця. Рэальную ўладу ўтрымлівалі партыйныя камітэты. Узмацняліся русіфікатарскія тэндэнцыі ў палітыцы цэнтральных органаў улады, гэтаму спрыяла дзейнасць на Беларусі прысланых з Масквы партыйных і савецкіх работнікаў (асабліва пасля дыскусіі па мовазнаўстве ў 1950 г.).

Але, з другога боку, адбывалася аднаўленне сістэмы адукацыі. Да 1950 г. ўдалося аднавіць даваенную сетку агульнаадукацыйных школ, ішло павелічэнне колькасці сярэдніх школ. Да сярэдзіны 50-х гг. быў завершаны пераход да ўсеагульнага сямігадовага навучання. У 1944–1945 гг. працавалі 22 ВНУ. Хутка адраджалася акадэмічная навука, флагманам якой стала аднавіўшая сваю работу ў 1944 г. АН БССР. К канцу 1950 г. ў рэспубліцы дзейнічала 77 навуковых устаноў.

Развіццё беларускай літаратуры ішло ў вельмі складаных умовах. Дыктат афіцыйнай ідэалогіі прывёў да таго, што многія літаратурныя творы вызначаліся бесканфліктнасцю і ідэалізацыяй савецкага ладу (раманы А. Стаховіча, М. Паслядовіча і інш.). Галоўная тэма – мінулая вайна (І. Мележ, М. Лынькоў, І. Шамякін). Гэтаму ж былі прысвечаны і першыя пасляваенныя п'есы К. Крапівы, А. Маўзона, А. Кучара.

Тэатральнае мастацтва таксама адчувала на сабе ідэалагічны ўціск партыйнага кіраўніцтва. Калі ў сезоне 1944/45 гг. у БССР працавала 12 тэатраў, то ў 1950 г. іх засталося толькі 8. У касмапалітызме былі абвінавачаны тэатральныя рэжысёры В. Галаўчынер, Я. Рамановіч. Пачаліся нападкі на п'есы А. Макаёнка, оперу Я. Цікоцкага "Алеся", кампазітараў С. Пракоф'ева, Дз. Шастаковіча, А. Хачатурана, П. Падкавырава. У той жа час на сцэне ззялі таленты Б. Платонава, Г. Глебава, Л. Ржэцкай, Л. Александроўскай і інш.

Адной з галоўных тэм мастацтва становіцца гераізм савецкіх людзей у гады вайны, увасабленне героя з багатым унутраным светам. Гераіку савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны ўвасабляюць мастакі Я. Ціхановіч, І. Давідовіч, Я. Зайцаў, В. Волкаў. З пачатку 50-х гадоў пачынаюць набываць папулярнасць жанравыя карціны (Г. Бржазоўскі, А. і І. Ткачовы, П. Гаўрыленка). Ярка праявіўся талент скульптара З. Азгура. Ён стварае цэлую серыю партрэтаў гістарычных дзеячаў і герояў сучаснасці. Значным дасягненнем стаў ансамбль Плошчы Перамогі (1954), створаны З. Азгурам, А. Бембелем, А. Глебавым, С. Селіханавым.

Манументалізмам адзначаецца і пасляваенная архітэктура (кампазіцыі праспекта Незалежнасці, Прывакзальнай плошчы). Ствараюцца генпланы рэканструкцыі гарадоў. Значная ўвага надаецца аднаўленню прамысловых прадпрыемстваў і жылога фонду (пераважна малапавярховыя дамы). Такім чынам, асаблівасцю пасляваеннага развіцця культуры стаў ідэалагічны дыктат, барацьба з прагрэсіўнай інтэлігенцыяй, русіфікацыя. Але важна зазначыць, што адбылося аднаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы адукацыі, навукі і культуры.

**Развіццё беларускай культуры ў 50–80-х гг. ХХ ст.** Супярэчлівы характар насіла культурнае жыццё рэспублікі і ў далейшы перыяд: 50–80-я гг. ХХ ст. З аднаго боку, намеціліся тэндэнцыі да дэмакратызацыі, звязаныя з наступленнем "адлігі", рэабілітацыя дзея-чаў навукі і культуры, аслабленне партыйнага ўціску, а з другога, – татальная русіфікацыя ўсіх сфер жыцця, абгрунтаваная тэзісам аб пабудове камуністычнага грамадства, дзе будуць зліты мовы і культуры ўсіх савецкіх народаў, агалцелы ваяўнічы атэізм, шаблоннасць. У адукацыі ў гэты час праходзіць



некалькі рэформ. У 1958 г. адбываецца пераход да ўсеагульнага 8-гадовага навучання і ўвядзенне ў сярэдняй школе 11-гадовага тэрміну з вытворчым навучаннем. Дзесяцігадовае навучанне вярнулася ў 1964–1984 гг., а ў 70-я гг. была ўведзена ўсеагульная сярэдняя адукацыя моладзі. У прафесійна-тэхнічнай адукацыі стваралася адзіная сістэма гарадскіх і сельскіх прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. У 1950 г. ў БССР працавала больш за 100 тэхнікумаў, 29 ВНУ. Але вышэйшая і сярэдняя спецыяльная адукацыя адзначалася экстэнсіўнасцю: пры пастаянным павелічэнні колькасці выпускнікоў не заўсёды захоўвалася якасць іх навучання.

Адной з адмоўных рыс адукацыі таго часу стала звужэнне сферы выкарыстання беларускай мовы. У БССР не было ніводнай сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы з беларускай мовай навучання. Бацькі атрымалі права вызваляць дзяцей ад вывучэння беларускай мовы ў школе. Дапускалася нават выкладанне беларускай мовы па-руску. У сярэдзіне 80-х гг. усяго каля 19 % дзіцячых садкоў і 23 % школ працавалі на беларускай мове. У выніку такой моўнай палітыкі стварыліся вельмі неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай культуры.

Навука гэтага перыяду характарызуецца станаўленнем фундаментальных даследаванняў. У сістэме АН БССР адкрываюцца інстытуты фізікі і матэматыкі, генетыкі, цепла- і масаабмену і інш. Ствараюцца цэлыя навуковыя школы (у галіне звычайных дыферэнцыяльных ураўненняў — школа Н.П. Яругіна, спектраскапіі і лазераў – Б.І. Сцяпанава, цепла- і масапераносу – А.В. Лыкава, тэарэтычнай фізікі – Ф.І. Фёдарава, антрапагенезу – Г.І. Гарэцкага, кардыялогіі – Г.І. Сідарэнкі, вылічальнай матэматыкі – У.І. Крылова, геалогіі і тэктонікі – Р.Г. Гарэцкага). Шырока вядомымі ў свеце сталі біёлаг В. Купрэвіч, матэматык У. Платонаў, фізік М. Барысевіч. Пераважнае развіццё ў рэспубліцы атрымалі тэхнічная і фізіка-матэматычная навукі, што звязана з развіццём навукова-тэхнічнага прагрэсу. Аднак толькі нямногія навуковыя распрацоўкі знаходзілі прымяненне на практыцы. Складаная сітуацыя складваецца ў сферы гуманітарных навук: дагматызм, звышідэалагізацыя, работа "на заказ" вышэйшага парткіраўніцтва сустракаецца ў шматлікіх працах беларускіх гісторыкаў і грамадазнаўцаў.

У беларускім рэчышчы развіваецца літаратура. Узмацняецца яе сувязь з жыццём. Але захоўваецца ідэалагічнае кіраўніцтва, цэнзура, асабліва пашыраная ў другой палове 60-х гг. У якасці вядучага жанру прозы ўсталёўваецца раман. Галоўнай застаецца тэма мінулай вайны,

але зараз мастакі слова большую ўвагу надаюць раскрыццю ўнутранага свету чалавека ў такіх экстрэмальных умовах (раманы А. Адамовіча, В. Быкава, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, дакументалістыка С. Алексіевіч і інш.). Гістарычная праблематыка таксама прыцягвае да сябе пільную ўвагу (раманы Л. Дайнекі, В. Іпатавай, У. Караткевіча, К. Тарасава, п'есы А. Макаёнка, А. Петрашкевіча).

Шмат твораў прысвячалася праблемам сацыялістычнай рэчаіснасці (Я. Брыль, Г. Далідовіч, К. Крапіва, І. Мележ, І. Шамякін). Паэзія адзначана творамі Р. Барадуліна, П. Броўкі, Н. Гілевіча,

П. Глебкі, П. Панчанкі і інш. Беларускія літаратары цесна супрацоўнічалі з кінастудыяй "Беларусьфільм", якая аднавіла сваю работу ў 1944 г. Кожны год на ёй выпускалася каля 70 фільмаў розных накірункаў. Сярод найбольш вядомых – мастацкія стужкі "Міколка-паравоз", "Белыя росы", "Крушэнне імперыі", "Альпійская балада".

З 60-х гг. беларускія тэатры захапляюцца маральна-этычнай праблематыкай. Ставяцца п'есы беларускіх драматургаў (А. Дударава, А. Макаёнка, М. Матукоўскага), рускіх і сусветных класікаў, савецкіх аўтараў. Сусветнае прызнанне атрымлівае балетная трупа Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева, свайго роду заснавальніка беларускай школы балета ("Стварэнне свету" А. Пятрова і інш.). К сярэдзіне 80-х гг. у БССР працавалі 2 музычныя, 6 лялечных, 9 драматычных тэатраў, але толькі 3 з іх былі беларускамоўныя.

У музычным мастацтве развіваюцца жанры сімфоніі і інструментальнай музыкі (кампазітары У. Алоўнікаў, М. Аладаў, А. Багатыроў, І. Лучанок, У. Мулявін, П. Падкавыраў, Я. Цікоцкі). Наладжваецца цеснае супрацоўніцтва з тэатрамі (оперы М. Аладава, Дз. Лукаса, Р. Пукста, Дз. Смольскага, Ю. Семянякі). Кампазітары звяртаюцца да ваенна-патрыятычнай тэматыкі, увасаблення вобразаў рэальных гістарычных асоб. Большасць кампазітараў працуе ў розных жанрах. У 70–80-я гг. з'яўляюцца новыя тыпы музычных і танцавальных калектываў (вакальна-інструментальныя ансамблі "Песняры", "Верасы", "Сябры", фальклорна- харэаграфічны ансамбль "Харошкі").

Дзяржава садзейнічае масаваму развіццю самадзейнай мастацкай творчасці: многія аматарскія калектывы сталі вядомы далёка за межамі рэспублікі. У 1983 – 1985 гг. у БССР было створана 652 калектывы мастацкай самадзейнасці, якія аб'ядноўвалі 18 тысяч удзельнікаў.

У гады "адлігі" пачалі сваю працу таленавітыя мастакі А. Кішчанка, Я. Шчамялёў, Г. Вашчанка, У. Стальмашонак, М. Савіцкі. Пашыраецца так званы "суровы стыль", які праўдзіва адлюстроўвае жыццё (М. Савіцкі – цыкл "Лічбы на сэрцы", інш. работы). Пераважае ваенная (М. Данцыг, В. Грамыка) і гістарычная (А. Марачкін, Я. Шчамялёў) тэматыка. Ствараюцца цэлыя серыі партрэтаў знакамітых людзей Беларусі (З. Паўлоўскі, У. Стальмашонак, І. Ахрэмчык, В. Сахненка). У 50–60-я гг. набывае папулярнасць новы жанр гарадскога пейзажа (П. Масленікаў, М. Данцыг), развіваецца нацюрморт (В. Жалток, Я. Радзялоўская, С. Каткова). Але многія мастакі, незгодныя з заідэалагізаванасцю і стэрэатыпнасцю ў жывапісе, вымушаны былі пакінуць краіну і набылі шырокую вядомасць за яе межамі (В. Баброў, А. Ісачоў, Н. Паўлоўскі, Г. Хацкевіч). У выяўленчым мастацтве замацавалася сістэма творчых заказаў, што, безумоўна, зніжала ўзровень мастацкіх твораў. Беларуская графіка гэтага часу прадстаўлена серыямі па гісторыі і сучаснасці, з выкарыстаннем розных прыёмаў (работы У. Басалыгі, С. Геруса, В. Шаранговіча).

Значныя змены адбываюцца ў гэты час у архітэктуры. Пачынаецца масавае будаўніцтва жылля; распрацоўваюцца генпланы забудовы гарадоў, у якіх плануецца месца пад цэлыя жылыя раёны і мікрараёны. Распаўсюджваецца буйнапанэльнае будаўніцтва. Хуткія тэмпы, імкненне да зніжэння кошту жылля прывялі да тыпізацыі забудовы; гарады страцілі сваё адметнае аблічча. У 70-я гг. паступова перадольваецца жорсткі рацыяналізм, выкарыстоўваюцца новыя праекты на аснове блок-секцыйных метадаў. Знешні выгляд гарадоў вызначаюць буйныя прамысловыя комплексы. Новым аб'ектам для беларускіх будаўнікоў становіцца сталічны метрапалітэн (з 1977 г.). Архітэктары працуюць над стварэннем мемарыяльных ансамбляў і комплексаў (манумент "Мінск – горад-герой", комплексы "Хатынь", "Брэсцкая крэпасць-герой", "Прарыў").

У той жа час у сярэдзіне 50-х гг. узмацнілася палітыка канфрантацыі дзяржавы ў адносінах да рэлігіі і вернікаў, што звязана з ідэяй пабудовы ў краіне камунізму на працягу аднаго пакалення, дзе рэлігіі няма месца. Пасля пастановы СМ СССР (1961) пачалася кампанія па масавым закрыцці і нават знішчэнні храмаў, рэпрэсіі ў адносінах да служыцеляў культу.

Культура БССР сярэдзіны 50–80-х гг. была цесна звязана з культурамі саюзных рэспублік і краін сацыялістычнага лагера. Ладзіліся тыдні і дэкады культуры Беларусі ў іншых краінах, фестывалі мастацтваў ("Дружба народаў", "Беларуская музычная восень" і інш.), на гастролі выязжалі славутыя беларускія творцы, умацоўваліся сувязі творчых саюзаў і мастацкіх калектываў.

Неад'емнай часткай агульнай беларускай культуры з'яўляецца культура беларускага замежжа. Далёка ад радзімы працуюць таленавітыя

навукоўцы і творцы: нобелеўскі лаўрэат, вучоны І. Прыгожын, літаратары Н. Арсеннева, М. Сяднёў, М. Галіна (родны брат Я. Коласа), У. Дудзіцкі, Р. Жук-Грышкевіч, архітэктар і мастак М. Навумовіч, гісторыкі Я. Запруднік, В. Жук-Грышкевіч, літаратуразнаўца З. Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку В. Кіпель і многія іншыя.

Такім чынам, беларуская культура перыяду 40–80-х гг. прайшла вельмі складаны і цяжкі шлях праз празмерную ідэалагізацыю, партыйна-савецкае кіраўніцтва, класавы падыход. Абмяжоўвалася свабода творчасці, і, што найбольш цяжка для нацыянальнай культуры, выцісканне беларускай мовы было ўведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Культура, навука і адукацыя не атрымлівалі дастатковага фінансавання, што сур'ёзна адбілася на іх узроўні і якасці. У той жа час увесь свет ведае нашых навукоўцаў, літаратараў, мастакоў, акцёраў, што сведчыць аб глыбіні і высокім прафесійным узроўні культуры.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Што садзейнічала звужэнню сферы ўжытку беларускай мовы ў пасляваенны час? 2. У чым выразіўся ўплыў негатыўных з'яў грамадска-палітычнага жыцця на развіццё беларускай культуры ў 70-я гг.? 3. Якімі жанрамі вызначаецца беларускае выяўленчае мастацтва 50–80-х гг.? 4. Якія накірункі найбольш характэрны для беларускай культуры замежжа?*

## Рэспубліка Беларусь – незалежная дзяржава

***Літаратура***

1. Бушчык, Г. Стан эканомікі і развіццё знешнеэканамічных сувязей Беларусі ў 1990–2005 гг. / Г. Бушчык // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 3. – С. 3.

2. Беларусь и Россия: организационно-правовые основы интеграции (1996–2001) / Козик Л.П. [и др.]. – Минск: Полымя, 2001. – 332 с.

3. Белорусско-российские отношения: проблемы и перспективы: Материалы 2-го “круглого стола” белорус. и российск. ученых (Минск, 26–27.1.1999) / Под ред. В.Е. Снапковского, А.В. Шарапо. – Минск: БГУ, 2000.

4. Каралёнак, Л. Беларусь і Вялікабрытанія: палітычныя адносіны ў 1991–2003 гг. / Л. Каралёнак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 9.



5. Конституция Республики Беларусь 1994 года с изменениями и дополнениями. Принята на референдуме 24 ноября 1996 г. – Минск, 2000.

6. Коршук, В.К. Политические партии Республики Беларусь: материалы для самостоятельной работы студентов / Авт.-сост.: В.К. Коршук, А.Г. Кохановский, И.Ф. Романовский. – Минск: БГУ, 2005. – 277 с.

7. Навіцкі, У. Беларусь і праблемы ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 4. – С. 3.

8. Пазняк, З. Сапраўднае аблічча / З. Пазняк. – Мінск: ТВЦ “Паліфакт”, 1992. – 207 с.

9. Радзік, Р. Беларусы (погляд з Польшчы)/ Р. Радзік. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2002. – 130 с.

10. Социально-политическая ситуация в Беларуси: проблемы и перспективы: По материалам социологического мониторинга: сб. науч. тр. / Под ред. М.Н. Хурса. – Минск: [ИСПИ]., 2000. – 329 с.

11. Тихиня, В.Г. Тернистый путь к правовому государству / В.Г. Тихиня. – Минск: Право и экономика, 1995. – 217 с.

12. Турбан, Г.В. Внешнеэкономическая деятельность / Г.В. Турбан. – 2-е изд., перераб. и доп. – Минск: Вышэйшая школа, 1999. – 210 с.

***Вызначальныя паняцці****: незалежнасць, дэмакратызацыя, рэферэндум, прэзідэнцтва, парламентарызм, цывільнае грамадства, эканамічны крызіс, інфляцыя, дэвальвацыя, дэнамінацыя.*

**Абвяшчэнне незалежнасці.** Палітыка перабудовы выявіла найважнейшую праблему, якая замоўчвалася ў эпоху “росквіту” СССР – праблему існавання нацыянальных рэгіёнаў і іх узаемаадносін з цэнтрам. Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця, хваля “аксамітных рэвалюцый” у краінах былога сацыялістычнага лагера, крызіс партыйных і ўладных структур СССР далі штуршок развіццю сепаратызму ў саюзных рэспубліках. Першай Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце прыняла Эстонская ССР (11. 1988 г.); да сярэдзіны 1990 г. падобныя дакументы былі падпісаны ў Літве, Латвіі, Арменіі, Грузіі, Малдавіі, Расіі, Украіне.

27.07.1990 г. Вярхоўным Саветам БССР прымаецца Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце. Паводле гэтага дакумента Беларусь абвяшчалася суверэннай дзяржавай, на тэрыторыі якой дзейнічаюць Канстытуцыя і законы БССР. На Усесаюзным рэферэндуме (03. 1991 г.) было ўзнята пытанне аб далейшым лёсе СССР. У галасаванні прыняло ўдзел каля 80% савецкіх грамадзян. Вынікі працэдуры на Беларусі

прадэманстравалі імкненне да захавання адзінства краіны (82,7% галасоў). Падобная ж тэндэнцыя назіралася і ў іншых рэспубліках Саюза. У кіраўніцтве краіны пачаліся размовы аб падпісанні новага саюзнага дагавора. Далейшыя палітычныя падзеі адбываліся на фоне чарговага павышэння цэн і росту забастовачнага руху ў гарадах БССР.

Правал жнівеньскага путча ў Маскве (18 – 21.08.1991) стаў своеасаблівым штуршком да канчатковага распаду СССР. 25.08.1991 г. на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР быў прыняты закон "Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце БССР" і пастанова "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці БССР", якія абвяшчалі палітычную і эканамічную незалежнасць беларускай дзяржавы. Паводле апошняга дакумента ў Беларусі ствараліся міністэрствы і ведамствы рэспубліканскага падпарадкавання – МУС, КДБ, Галоўнае ўпраўленне памежных войск, Дзяржаўны мытны камітэт, Міністэрства абароны; ва ўласнасць рэспубліка атрымлівала прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, якія раней мелі саюзнае падпарадкаванне.

Жнівеньскія падзеі ў Маскве і прыпыненне дзейнасці Кампартыі прывялі да адстаўкі Старшыні Вярхоўнага Савета БССР М. Дземянцея. У хуткім часе гэтую пасаду заняў прафесар С. Шушкевіч (09.1990 – 01.1994). 19.09.1991 г. на пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР краіна атрымала новую назву – Рэспубліка Беларусь (скарочана – Беларусь); новымі сімваламі незалежнай рэспублікі стала старажытная "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг. Першай сярод суседзяў незалежнасць Беларусі прызнала Польшча (03.09.1991).

8.12.1991 г. на сустрэчы кіраўнікоў Беларусі, Расіі і Украіны, якая праходзіла ў Віскулях (Белавежская пушча) была прынята пастанова аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД), каардынацыйным цэнтрам якой стала сталіца Беларусі – Мінск. У хуткім часе да новага дзяржаўна-палітычнага ўтварэння далучыліся і іншыя саюзныя рэспублікі (акрамя краін Прыбалтыкі і Грузіі). 21.12.1991 г. у Алма-Аце на сустрэчы прадстаўнікоў 11 рэспубліканскіх дэлегацый было абвешчана рашэнне аб дэнансацыі дагавора 1922 г. аб стварэнні СССР.

**Ад абвяшчэння незалежнасці – да прыняцця Канстытуцыі (1991 – 1994 гг.).** Даволі неадназначная спадчына дасталася незалежнай Беларусі ад савецкай эпохі: з аднаго боку, нядрэнна развітая прамысловасць (БССР – "зборачны цэх" Савецкага Саюза), з другога – тэхнічная адсталасць прамысловай базы і як вынік – неканкурэнтаздольнасць беларускай прадукцыі на сусветным рынку. Пасля распаду СССР, а з ім і агульнасаюзнай эканамічнай прасторы, беларуская прамысловасць



страціла магчымасць карыстацца таннай рэсурснай базай, атрымліваць камплектуючыя для выпуску гатовай прадукцыі. Вынікам гэтай сітуацыі становіцца новы віток эканамічнага крызісу, які распачаўся яшчэ ў эпоху перабудовы: скарачэнне вытворчасці і спыненне шэрагу прамысловых прадпыемстваў, пераход на скарочаны рабочы тыдзень, абавязковыя дадатковыя адпачынкі, а таксама галапіруючая інфляцыя, абвальны рост цэн на тавары шырокага ўжытку. Не лягчэй складалася сітуацыя і ў сельскагаспадарчай вытворчасці. Калгасна-саўгасны строй не стымуляваў сялян да высокапрадукцыйнай працы. Аб'ём жа выробленай прадукцыі быў настолькі нязначным, што шмат у чым не пакрываў патрэб насельніцтва краіны ў харчаванні. К сярэдзіне 90-х гг. Беларусь мела падзенне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, высокую інфляцыю, беспрацоўе; 60% насельніцтва аказалася за рысай беднасці.

У той жа час у эканоміцы рэспублікі паступова праяўляліся элементы рыначнай эканомікі, прававой базай для якіх стала прыняцце ў 1991–1995 гг. законаў "Аб уласнасці", "Аб нацыянальным банку", "Аб прадпрыемстве", "Аб арэндзе", "Аб прадпрымальніцтве" і інш. Яны дэкларавалі свабоду распараджэння прадпрымальнікаў выробленай прадукцыяй, частковую свабоду цэнаўтварэння і прыватызацыю, стваралі спрыяльны клімат для замежных інвестыцый і развіцця дробнага прадпрымальніцтва. Летам 1992 г. ў Рэспубліцы Беларусь былі ўведзены разліковыя білеты Рэспублікі Беларусь, а праз год, пасля ўвядзення ў Расійскай Федэрацыі ўласнай валюты, была ліквідавана рублёвая зона СССР.

Для грамадска-палітычнага жыцця першай паловы 90-х гг. характэрна супрацьстаянне нацыянальна-дэмакратычных сіл, якія ўзначальвае лідэр БНФ З. Пазняк, і былой партыйнай наменклатуры, якая яшчэ займае трывалыя пазіцыі ва ўладных структурах (урад В. Кебіча). Самай, бадай, істотнай кропкай сутыкнення становіцца праблема далейшага палітычнага лёсу краіны: дэмакраты, грунтуючыся на старажытных дзяржаваўтваральных традыцыях, сцвярджалі неабходнасць утварэння парламенцкай рэспублікі, урадавыя ж колы падтрымлівалі ідэю прэзідэнцтва.

15.03.1994 г. была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, паводле якой Беларусь з'яўляецца унітарнай, дэмакратычнай, сацыяльнай, прававой дзяржавай з прэзідэнцкай формай кіравання. 23.06. і 10.07.1994 г., пасля двух тураў выбараў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь становіцца Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па барацьбе з карупцыяй А.Р. Лукашэнка.

**Прэзідэнцкі перыяд у Рэспубліцы Беларусь.** 14.05.1995 г. разам з чарговымі парламенцкімі выбарамі па ініцыятыве прэзідэнта Рэспублікі

Беларусь адбыўся рэспубліканскі рэферэндум (удзельнічала 64,8%), вынікам якога стала замена дзяржаўнай сімволікі, наданне рускай мове статусу дзяржаўнай у Беларусі; насельніцтва таксама падтрымала ідэю эканамічнай інтэграцыі з Расійскай Федэрацыяй і ўнясенне змяненняў у беларускую Канстытуцыю, якія б істотна пашырылі правы кіраўніка дзяржавы ў адносінах да парламента.

Выбары ў Вярхоўны Савет XIII склікання праходзілі ў чатыры этапы і толькі к пачатку снежня 1995 г. быў поўнасцю зацверджаны склад беларускага парламента. Яго старшынёй быў абраны С. Шарэцкі. Супрацьстаянне прэзідэнта і парламента нарастала.

У гэтых умовах у лістападзе 1996 г. праходзіць другі рэспубліканскі рэферэндум, асноўным вынікам якога становіцца прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі прэзідэнтам. Паводле новай рэдакцыі Канстытуцыі ў краіне ствараецца двухпалатны парламент – Нацыянальны сход. Ён складаецца з Палаты прадстаўнікоў (110 дэпутатаў, абіраюцца народам) і Савета рэспублікі (64 дэпутаты, камплектацыя па тэрытарыяльным прынцыпе). Яшчэ адным вынікам рэспубліканскага рэферэндума становіцца перанос Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь з 27 ліпеня (дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР) на 3 ліпеня (дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў).

З сярэдзіны 90-х гг. у рэспубліцы праводзіцца ў жыццё новы стратэгічны кірунак на развіццё сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі. Ідзе працэс пошуку спосабаў выйсця краіны з глыбокага эканамічнага крызісу. У 1996 г. на І Усебеларускім сходзе прымаюцца “Асноўныя накірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996–2000 гг.” У краіне прыпыняецца працэс прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці; галоўным суб’ектам гаспадарчай дзейнасці абвяшчаецца дзяржава. Менавіта дзяржаўныя датацыі ў буйную прамысловасць, якая працуе на экспарт, у сельскую гаспадарку і жыллёвае будаўніцтва вызначаюць асноўныя захады кіраўніцтва рэспублікі да пераадолення крызісных з’яваў у эканамічнай сферы. 1997 г. характарызуецца зніжэннем спаду вытворчасці і стабілізацыяй курса нацыянальнай валюты. Але пры колькасным росце вытворчасці не павялічвалася рэнтабельнасць народнай гаспадаркі. Тэхнічнае забеспячэнне прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў заставалася нізкім. Замежныя інвестары, разглядаючы Беларусь як краіну з павышанай рызыкай для капіталаўкладанняў, не спяшаюцца на беларускі рынак. У 1998 г. пасля чарговага “абвалу” расійскага рубля, рэзка ўзрасла інфляцыя, паменшыліся заробкі насельніцтва, стварыўся пэўны дэфіцыт прадуктаў харчавання.



У 2001 г. на II Усебеларускім народным сходзе прымаецца Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001 – 2005 гг. Стратэгічнай мэтай пяцігодкі стала павышэнне дабрабыту народа і ўзроўню яго жыцця. Асноўныя прыярытэты – пашырэнне экспарту, заахвочванне інвестыцый і інавацыйнай дзейнасці, будаўніцтва жылля, развіццё АПК. Ажыццяўленне плана прывяло да росту аб’ёмаў прамысловасці (у 1,5 разоў) і сельскагаспадарчай прадукцыі (на 25,7 %), актывізацыі жыллёвага будаўніцтва. За гады сваёй незалежнасці Беларусь істотна павялічыла аб’ём экспарту (з 1993 г. – у 12 разоў) з доляй тавараў прамысловасці ў 60%. III Усебеларускі сход (2006 г.) асноўнай мэтай наступнай пяцігодкі вызначыў павышэнне якасці жыцця. У Праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2006 – 2010 гг. новымі накірункамі стала развіццё чалавечага патэнцыялу, прадпрымальніцтва і ініцыятывы.

Між тым арыентацыя сусветнай эканомікі на развіццё высокатэхналагічнай вытворчасці ставіць перад краінай задачу інавацыйнага развіцця, што падаецца праблематычным пры нізкіх на сённяшні дзень укладаннях бюджэта на развіццё навукі. Слаба развітай сферай у краіне з’яўляецца малы і сярэдні бізнес, заахвочванне замежных інвестараў. Не атрымала належнай эканамічнай і прававой падтрымкі беларускае фермерства, якое магло б стаць рэальнай альтэрнатывай калгасна-саўгаснай сістэме. Нягледзячы на пастаянны рост ВНП, эканамічны стан дзяржавы застаецца няўстойлівым, эканоміка і цяпер залежыць ад паставак рэсурсаў па льготных тарыфах і адкрытасці рынку Расіі для беларускіх тавараў. Беларускай уладай прымаюцца крокі па павышэнні ступені самастойнасці эканомікі – штогод на некалькі працэнтаў зніжаецца энергаёмістасць прамысловай прадукцыі, па меры магчымасці (з дапамогай экспарту найбольш канкурэнтаздольных тавараў) асвойваюцца новыя рынкі – ад арабскіх дзяржаў да развітых краін Захаду. Недастаткова развіты сектар паслуг (асабліва турызм). Не атрымалася выйсці на пазітыўныя адносіны з развітымі заходнімі краінамі, што перашкаджае і інтэнсіўным эканамічным кантактам з імі. Як і ў іншых былых савецкіх рэспубліках, назіраецца адмоўны дэмаграфічны рост, насельніцтва імкліва старэе, што выклікае новыя праблемы. Цяжарам для беларускай эканомікі з’яўляецца і неабходнасць пастаянных капіталаўкладанняў для ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, ад якой Беларусь пацярпела ў найбольшай ступені. Высокая доля дзяржаўнага сектара ў беларускай эканоміцы, няўстойлівая прававая сістэма стрымліваюць уключэнне Беларусі ў сусветную эканамічную прастору. Дадатнай рысай можна адзначыць тое,

што ўводзяцца ў строй буйныя сацыяльныя аб’екты (спартыўныя лядовыя і футбольныя палацы, шпіталі, новыя станцыі сталічнага метрапалітэна, будынкі вакзалаў). Напрыканцы 2010 г. адбыўся IV Усебеларускі сход, які галоўнай мэтай сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на бліжэйшыя гады назваў павышэнне ўзроўню і якасці жыцця насельніцтва на аснове інавацыйнага развіцця эканомікі. Гэта тым болей важна, паколькі па выніках апошняга перапісу насельніцтва (2009 г.) па стану на 1.12.2010 г. у нашай краіне налічваецца 9483,1 тыс. чалавек, што на 16,9 тысяч меней у параўнанні з пачаткам 2010 года.

У Рэспубліцы Беларусь існуе шматпартыйная сістэма. Да пачатку выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет XIII склікання (1995 г.) дзейнічала 34 партыі. Сёння іх 15; сярод вядучых вылучаюцца Аб’яднаная грамадзянская партыя, Ліберальна-дэмакратычная партыя, Беларуская сацыялдэмакратычная грамада, Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды, Партыя БНФ, Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ, Камуністычная партыя Беларусі. Большасць з іх знаходзяцца ў апазіцыі да існуючай улады і не маюць рэальнага ўплыву на палітычную сітуацыю ў краіне. Таксама ў рэспубліцы працуе 2,2 тысяч грамадскіх аб’яднанняў.

На прэзідэнцкіх выбарах (09.2001 г., 03.2006 г., 12.2010 г.) перамогу атрымаў дзейнічаючы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка.

**Рэспубліка Беларусь і міжнародная супольнасць.** 2.10.1991 г. Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь была прынята “Заява аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь”. У дакуменце дэкларараваліся прынцыпы незалежнасці знешняй палітыкі, прыхільнасці да асноўных прынцыпаў Статута ААН і Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гэта садзейнічала істотнаму росту міжнароднага аўтарытэта новай краіны. На працягу трох гадоў Рэспубліка Беларусь была прызнана 160 дзяржавамі свету, першай з якіх стала Польшча. Усталёўваецца членства Беларусі ў буйнейшых міжнародных арганізацыях – МВФ, МБРР, МФК; у краіне адчыняюцца прадстаўніцтвы ААН, АБСЕ, Сусветнага банку.

З пачатку 1992 г. пачынаецца працэс фарміравання нацыянальнага беларускага войска, які праходзіць у вельмі складаных умовах. Беларусь распрацоўвае ўласную ваенную дактрыну, якая грунтуецца на прынцыпах нейтралітэту і бяз’ядзернай прасторы. Скарачаецца колькасны склад беларускіх узброеных сіл; ядзерная зброя паэтапна вывозіцца на тэрыторыю Расіі (канчаткова – у лістападзе 1996 г.).

Дамінуючая роля ва ўсталяванні палітычнага і эканамічнага партнёрства Рэспублікі Беларусь належыць Расійскай Федэрацыі. Асабліва



гэтая тэндэнцыя ўзмацняецца пасля майскага 1995 г. рэферэндуму, на якім большасць беларускіх грамадзян (83,3%) падтрымала ідэю эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. 2.04.1996 г. падпісана беларускарасійская дамова аб глыбокай эканамічнай інтэграцыі і ўтварэнні Супольнасці Расіі і Беларусі. Працэс інтэграцыі, аднак, праходзіць даволі складана і характэрызуецца пэўнымі хвалямі ўздымаў і спадаў. Прычыны гэтага бачацца ў рознасці эканамічнага і сацыяльна-палітычнага стану дзяржаў, розных поглядах беларускага і расійскага боку на маючы адбыцца саюз.

2.04.1997 г. падпісаны дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі. Працэс эканамічнага і палітычнага збліжэння працягваецца падпісаннем 8.12.1999 г. Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Між тым абвешчаныя прынцыпы беларуска-расійскага супрацоўніцтва ў эканамічнай, палітычнай, ваеннай, сацыяльнай, культурнай і інш. дзейнасці, аб’яднанне іх матэрыяльнага і эканамічнага патэнцыялу, збліжэнне прававых сістэм, умацаванне абароназдольнасці вельмі часта носяць дэкларатыўны характар. Не рэалізавана ідэя адзінай грашовай прасторы. Апошнім часам спрэчкі выклікае і праблема пастаўкі прыродных рэсурсаў.

Трывалае партнёрства ўсталявалася ў Беларусі з шэрагам заходнееўрапейскіх краін. Гандлёвае лідэрства сярод іх займаюць Германія, Нідэрланды, Польшча. З другога боку, новымі арыенцірамі знешняй палітыкі і эканомікі для сённяшняй Беларусі становяцца краіны Блізкага Усходу, Кітай, Індыя, Венесуэла.

Пасля лістападаўскага 1996 г. рэспубліканскага рэферэндуму можна адзначыць пэўнае пахаладанне ў адносінах Рэспублікі Беларусь і краін Захаду. У 1997 г. Еўрасаюз прымае рашэнне аб абмежаванні палітычных сувязей з Беларуссю, адмаўляе ў многіх тэхнічных і фінансавых праектах. Беларуская палітычная мадэль не адпавядае асноўным прынцыпам заходняй дэмакратыі. Беларусь жа, у сваю чаргу, прытрымліваючыся прынцыпаў нейтралітэту і добрасуседскіх адносін, выступае супраць пашырэння ў Еўропе блока НАТА.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. У якіх умовах адбываўся працэс набыцця Беларуссю незалежнасці? 2. Якія асноўныя палітычныя падзеі 90-х гг. XX ст. вы можаце назваць? 3. Вызначце асноўныя накірункі знешнепалітычнага курсу Рэспублікі Беларусь. 4. У чым заключаюцца асноўныя асаблівасці сацыяльна-эканамічнага стану Беларусі на сучасным этапе?*

## Культура Беларусі на сучасным этапе

***Літаратура***


1. Гурко, А.В. Новые религии в Республике Беларусь: генезис, эволюция, последователи / А.В. Гурко. – Минск: Изд-во МИУ, 2006. – 276 с.
2. З'езд беларусаў свету (1, 1993, Мінск): Матэрыялы і дак. / Уклад. Г. Сурмач. – Мінск, 1997.
3. Землякоў, Л. Рэлігія ў сучаснай Беларусі / Л. Землякоў, І. Жылінская // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 6. – С. 3.
4. Каваленя, А. Нацыянальная акадэмія навук Беларусі: старонкі гісторыі і сучаснасць / А. Каваленя // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 12. – С. 3.
5. Котляров, И.В. Республика Беларусь в конфессиональном измерении / И.В. Котляров, Л.Е. Земляков. – Минск: Изд-во МИУ, 2004. – 231 с.
6. Культура Беларусі: стан і перспектывы развіцця: зб. арт. / пад рэд. Я.Д. Грыгаровіч, П.Р. Ігнатовіча. – Мінск: Бел. дзярж. ун-т культуры, 2001. – 250 с.
7. Культура беларускага замежжа: у 3 кн. / пад рэд. А. Сабалеўскага. – Мінск: Навука і тэхніка 1993 – 1998. – 3-я кн.
8. Марачкіна, І. Дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны / І. Марачкіна, А. Трусаў // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 9. – С. 38.
9. Мастацтва: часопіс. З 1991 г.
10. Мусіенка, С. Этнаканфесіянальнае асяроддзе Рэспублікі Беларусь: стан і тэндэнцыі развіцця / С. Мусіенка // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 9. – С. 33.
11. Прокошина, Е.С. Неокульты: идеология и практика / Е.С. Прокошина [и др.]. – Минск: Четыре четверти, 2005. – 195 с.
12. Смолікава, Т. Уплыў медыякультуры на духоўную культуру моладзі Беларусі / Т. Смолікава // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 7. – С. 8.
13. Шунейка, Я. Канспект па сучаснаму мастацтву / Я. Шунейка // Мастацтва Беларусі. – 1991. – № 1–6.


***Вызначальныя паняцці**: нацыянальныя тэндэнцыі, гуманітарызацыя, гуманізацыя, камерцыялізацыя культуры, поп-культура, медыякультура.*

**Узмацненне нацыянальных тэндэнцый.** У сярэдзіне 80-х гг. мінулага стагоддзя беларуская культура ўступае ў новы этап свайго развіцця, для якога характэрна аслабленне дзяржаўнага кантролю і ідэалагічнага ўціску над гэтай сферай. Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця аказвае вялікі ўплыў на развіццё беларускай культуры. Яшчэ адзін з фактараў, які адыгрывае значную ролю ў культурных працэсах, – абвяшчэнне дзяржаўнай незалежнасці нашай краіны, што стварыла спрыяльныя ўмовы для актывізацыі нацыянальных тэндэнцый у нашай культуры.

Немалую ролю ў гэтым працэсе адыгрывалі грамадскія аб'яднанні, якія займаліся пытаннямі адраджэння гісторыі Бацькаўшчыны, захавання помнікаў гісторыі і культуры, вяртання нацыянальных каштоўнасцей на радзіму ("Няміга", "Талака", "Падзея", "Тутэйшыя", згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і інш.). Было скасавана манапольнае становішча дзяржаўных устаноў у сферы культуры, з'явіліся шматлікія неафіцыйныя творчыя аб'яднанні – Беларускі фонд культуры (з 1987 г.), Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. Адраджэнню гістарычнай памяці народа садзейнічала выданне часопісаў ("Спадчына", "Беларуская мінуўшчына", "Беларускі гістарычны часопіс") і фундаментальных прац па беларускай гісторыі. Была створана пэўная заканадаўчая база, якая юрыдычна замацавала курс на нацыянальнае адраджэнне і ўсебаковае развіццё чалавека – законы "Аб мовах" (26.01.1990), "Аб культуры" (4.09.1991), "Аб адукацыі" (26.10.1991) і інш.

**Адукацыя і навука.** З сярэдзіны 80-х гг. пачалася рэформа агульнаадукацыйнай і прафесійнай школы, у выніку якой была ўсталявана шматузроўневая сістэма адукацыі (пачатковая – базавая – сярэдняя школы – сярэднія прафесійныя вучылішчы і спецыяльныя навучальныя ўстановы – ВНУ). З 1993 г. адбываецца пераход да якасна новага зместу навучання ў сярэдняй школе, з прымяненнем прагрэсіўных метадаў і тэхналогій, уводзіцца 2-гадовае профільнае навучанне (10 – 11 кл.), з'яўляюцца новыя тыпы спецыялізаваных навучальных устаноў – ліцэі, каледжы, гімназіі. Разгортваецца сетка беларускіх нацыянальных школ. У новых праграмах значная роля адводзіцца вывучэнню беларускай гісторыі; рыхтуюцца новыя падручнікі, а праз некалькі год гэты курс становіцца абавязковым для вывучэння і ў вышэйшых навучальных установах. Сённяшняя беларуская сярэдняя школа працуе па 12-гадоваму курсу навучання: 10-гадовае базавае і 2-гадовае профільнае навучанне.

За гэты час значныя змены адбыліся і ў вышэйшай школе: з'явіліся альтэрнатыўныя ВНУ розных форм уласнасці (у 1991 г. пачаў сваю работу Мінскі інстытут кіравання), пашырылася кола спецыяльнасцей

(уведзена звыш 200 новых), адбываецца больш цеснае інтэграванне адукацыі з навукай. Вышэйшая адукацыя на Беларусі становіцца масавай і даступнай. Зараз у ВНУ краіны ідзе працэс пераходу да 2-узроўневай сістэмы падрыхтоўкі спецыялістаў.

Але на шляху рэформы адукацыйнай сістэмы сустракаюцца і шматлікія цяжкасці: недастатковае фінансаванне, нізкая заработная плата выкладчыкаў, слабасць метадычнай базы. Пасля рэферэндума 1995 г. былі ўнесены праўкі ў "Закон аб мовах", па якіх у якасці дзяржаўнай разам з беларускай пачала выкарыстоўвацца і руская мова. Гэта пэўным чынам адбілася на адукацыі (пачаўся пераход да рускамоўных класаў) і культуры.

Беларуская навука з распадам СССР сутыкнулася з пэўнымі цяжкасцямі: скарацілася фінансаванне, асабліва фундаментальных даследаванняў, разбураецца матэрыяльна-тэхнічная база навуковых устаноў, назіраецца "старэнне" кадраў і эміграцыя інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі за мяжу (у 1991 – 1998 гг. выехаў 451 навуковец). Работа па стабілізацыі сітуацыі, распачатая у сярэдзіне 90-х гг., дала пэўныя вынікі: пачала ўдасканальвацца сістэма дзяржаўнага кіраўніцтва, беларуская навука інтэгруецца ў шматлікія міжнародныя структуры. Адчыняюцца новыя навуковыя ўстановы ў структуры НАН Рэспублікі Беларусь: Інстытут сацыялогіі, радыебіялогіі, малекулярнай і атамнай фізікі і інш. Напачатку 90-х гг. пачаў сваю работу Фонд фундаментальных даследаванняў, які фінансуе многія праекты навуковых калектываў і асобных даследчыкаў. Але цяжкасцей застаецца яшчэ шмат. Увогуле, развіццё навукі і адукацыі ў Беларусі можа стаць адной з рэальных магчымасцей выхаду краіны з крызісу.

**Сучасная беларуская літаратура.** З сярэдзіны 80-х гг. XX ст. назіраецца адыход ад сацыялістычнага рэалізму ў літаратуры, адкрываюцца магчымасці для свабоды творчасці беларускіх літаратараў. Новыя творы пісьменнікаў і паэтаў, прысвечаныя праблемам пошуку выйсця з нацыянальна-духоўнай дэградацыі – спадчыны савецкага рэжыму, прадстаўляюць асабістае бачанне сучаснага жыцця, звяртаюцца да старонак мінулага. Гэта, перш за ўсё, творы патрыярхаў сучаснай беларускай літаратуры В. Быкава, І. Шамякіна, Я. Брыля, В. Адамчыка, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча. Тэма мінулага пераважае ў творчасці У. Арлова, Т. Бондар, Л. Дайнекі, В. Коўтун, А. Лойкі, К. Тарасава, В. Чаропкі.

Не застаецца без увагі тэма гераізму ў час апошняй вайны (В. Адамчык, В. Карамазаў, І. Чыгрынаў). У першыя гады незалежнасці набыла вастрыню тэма рэпрэсій і культу асобы, – як яны ўплывалі на лёс людзей (Г. Далідовіч, І. Навуменка, А. Кудравец, Л. Геніюш). Не страчвае цікавасці тэма вёскі, своеасаблівага беларускага нацыянальнага асяродку; тэма гаспадара, цесна звязанага са сваёй зямлёй (В. Федарэнка, С. Грахоўскі, І. Пташнікаў). Сапраўднай трагедыяй для нашага народа стала Чарнобыльская катастрофа, паказаная ў творах А. Адамовіча, С. Алексіевіч, В. Гігевіча, С. Законнікава, В. Казько, Б. Сачанкі, І. Шамякіна і інш. Вялікая работа праводзіцца па вяртанні на радзіму літаратурнай спадчыны людзей, якія пісалі ў эміграцыі і ў сталінскіх лагерах. Убачылі свет раней невядомыя творы С. Баранавых, А. Бачылы, М. Гарэцкага, А. Гаруна, П. Галавача, Л. Геніюш, С. Грахоўскага, А. Звонака, Я. Купалы, Л. Марозавай (Лесі Беларускі), Б. Мікуліча, Я. Нёманскага і інш.

**Тэатральнае і музычнае мастацтва.** Новы час аказаў немалы ўплыў на тэатральнае мастацтва. У рэспубліцы працуе 28 дзяржаўных тэатраў. Разам з шырокавядомымі ў свеце аўтарытэтнымі калектывамі працуюць новыя лабараторыі, студыі ("Маладзёжны тэатр", "Вольная сцэна", "Дзе – Я?"). Рэпертуар тэатральных калектываў папаўняецца творамі нацыянальнай тэматыкі (балет А. Мдывані і В. Елізар'ева "Страсці (Рагнеда)" – Дзяржпрэмія Рэспублікі Беларусь 1996 г., опера "Князь Наваградскі", спектаклі "Звон – не малітва", "Саламея", "Князь Вітаўт", "Пінская шляхта", "Сны аб Беларусі"). Праводзяцца тэатральныя фестывалі – "Панарама" ў Мінску і "Белая вежа" ў Брэсце. Шчыруюць па адраджэнні беларускай культуры спевакі і музыканты (Дзяржаўны народны хор імя Г. Цітовіча, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы, Нацыянальны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі пад кіраўніцтвам М. Фінберга, Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр, вакальная група "Чысты голас", вакальна-інструментальныя ансамблі "Сябры" і "Песняры"). Творчасць многіх кампазітараў зміяшчаецца ў бок нацыянальнай тэматыкі (А. Мдывані, В. Кузняцоў, А. Бандарэнка). Стала традыцыяй правядзенне шматлікіх музычных фестываляў ("Славянскі базар у Віцебску", "Залаты шлягер", "Беларуская музычная восень", "Магутны Божа", "Мінская вясна", "Музы Нясвіжа", "Музычнае Палессе" і інш.), якія прадстаўляюць розныя накірункі і жанры сучаснага беларускага музычнага мастацтва.. Росту цікавасці да нацыянальнай музыкі ў маладзёвым асяроддзі спрыяе творчасць фолк- і рок-гуртоў "Палац", "Тройца", "Крыві", "Юр'я", "NRM", "Крамбамбуля" і інш.

Увогуле сучасная мастацкая культура Беларусі характарызуецца пошукам новых форм праяўлення, пашырэннем альтэрнатыўных метадаў, стракатасцю жанраў. "Новым павевам" стала арыентацыя творчасці на

масавы попыт; сучаснае мастацтва носіць пераважна відовішчны характар. Сфера культуры і мастацтва камерцыялізуецца.

**Музеі.** Гэта добра відаць на прыкладзе сучаснага выяўленчага мастацтва. За апошні час адкрылася некалькі недзяржаўных галерэй ("Беларт", "ЛаСандр-арт", "Ў", "Універсітэт культуры"). Шырокае развіццё жанру пейзажа сведчыць пра пераарыентацыю мастакоў на новы масавы рынак (работы Ф. Янушкевіча, Я. Баракоўскага). Папулярнасцю карыстаюцца таксама гістарычныя сюжэты (Я. Бартальёнак, А. Марачкін, Ю. Піскун). Стала папулярнай станкавая скульптура, зарыентаваная на замежны попыт (У. Слабодчыкаў, Г. Гаравая). Шырока вядомая нават за межамі Беларусі айчынная школа графікі (М. Купава, В. Шаранговіч, А. Кашкурэвіч, інш.). Чарговы цыкл карцін "Чорная быль" створаны бліскучым беларускім мастаком М. Савіцкім.

У 2010 г. у нашай краіне працавала 147 музеяў краязнаўчага, мастацкага і іншых накірункаў.

У спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЭСКА ўключаны чатыры аб'екты, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі – Белавежская пушча, Мірскі і Нясвіжскі замкі, геадэзічная дуга Струве.

**Беларускае замежжа.** Беларусь адкрыта для шырокіх кантактаў з прадстаўнікамі беларускай дыяспары. З 1993 г., з перыядычнасцю адзін раз на чатыры гады, у краіне адбываюцца з'езды беларусаў свету, на якіх сустракаюцца вядомыя беларусы-навукоўцы і творцы, чый талент квітнее далёка за межамі гістарычнай радзімы. Арганізатарам форумаў выступае згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". На апошнім, V з'ездзе (2009 г.) галоўным стаяла пытанне аб нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў у сучасным свеце. На сённяшні дзень за межамі Беларусі пражывае больш за тры мільёны беларусаў.

**Палітыка ў галіне рэлігіі.** Другая палова 80-х гг. XX ст. намеціла тэндэнцыю адыходу дзяржавы ў галіне рэлігійнай палітыкі ад ваяўніча-атэістычнай накіраванасці ў бок рэлігійнага адраджэння. Незалежная Беларусь у 1992 г. прымае "Закон аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацыях", які праз дзесяць год, у 2002 г. ператвараецца ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях". Вернікам вяртаюцца старажытныя храмы і рэлігійныя каштоўнасці, узводзяцца новыя малельні. Наша краіна традыцыйна з'яўляецца шматканфесійнай прасторай, на якой даволі мірна існуюць і традыцыйныя канфесіі, і новыя рэлігійныя рухі. Закон 2002 г., а таксама падпісанае ў 2003 г. Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Беларускай праваслаўнай царквой, аднак, выявілі прыярытэтныя пазіцыі праваслаўя ў Беларусі. Дзяржава пагадзілася садзейнічаць



умацаванню ўплыву рэлігійных інстытутаў у грамадстве і не дапускаць распаўсюджання псеўдарэлігійных, дэструктыўных арганізацый у рэспубліцы. На 1.01.2010 г. ў Рэспубліцы Беларусь дзейнічае 3106 рэлігійных арганізацый 25-ці канфесій і рэлігійных накірункаў.

Увогуле з атрыманнем дзяржаўнай незалежнасці беларуская культура перажывае нацыянальны ўздым. Але, каб гэтая тэндэнцыя захавалася і надалей, дзяржава павінна перагледзець сваю палітыку ў бок павелічэння фінансавання, уліку нацыянальнага фактару пры папаўненні фондаў культурных устаноў. Нацыянальную самабытнасць можна захаваць толькі з пашырэннем ужытку беларускай мовы ва ўстановах адукацыі і культуры. Толькі развітая нацыянальная культура можа стаць рэальным зместам суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

***Кантрольныя пытанні па тэме:***

*1. Чым абумоўлены змены ў развіцці нацыянальнай беларускай культуры 90-х гг.? 2. З якімі праблемамі сутыкнулася навука і адукацыя незалежнай Беларусі? 3. Якія тэмы сталі папулярнымі ў сучаснай беларускай літаратуры? 4. Адзначце новыя тэндэнцыі ў сучасным тэатральным мастацтве Беларусі.*

# III. ПРАКТЫКУМ

## 3.1. Агульная методыка правядзення практычных заняткаў

Асноўная мэта практычнага занятку заключаецца ў актывізацыі разумовай дзейнасці студэнтаў. Праслухаўшы лекцыю выкладчыка па пэўнай тэме і самастойна перапрацаваўшы асноўныя яе пытанні па канспекце лекцый, падручніках, навучальных дапаможніках і дадатковай літаратуры, студэнт атрымлівае навыкі самастойнай работы, вучыцца сістэматызаваць тыя ці іншыя гістарычныя факты, сам прыходзіць да высноў аб заканамернасцях гістарычнага працэсу, паляпшае свае ўменні складаць планы, канспекты, падбіраць літаратуру, працаваць з падручнікамі, дакументамі, даведачнай літаратурай, рыхтавацца да дакладаў і паведамленняў.

Форма і метады правядзення кожнага практычнага занятку залежаць ад яго мэты, тэматыкі і наяўнасці адпаведных сродкаў навучання.

***Семінар.*** Семінар з'яўляецца адной з найбольш распаўсюджаных у вышэйшых навучальных установах формай правядзення практычнага занятку, нацэленай на засваенне і замацаванне матэрыялу. Ён фарміруе самастойнасць у рабоце з першакрыніцамі, садзейнічае развіццю дыялогавай мовы. Студэнты самастойна рыхтуюцца да занятку па раней вядомым плане, складаюць апорны канспект і індывідуальныя паведамленні па найбольш складаных пытаннях тэмы.

***Лабараторны занятак.*** Лабараторная форма навучання часцей за ўсё грунтуецца на засваенні абсалютна новых для студэнтаў гістарычных крыніц. Большую частку часу студэнты самастойна працуюць з першакрыніцамі па пытаннях і заданнях, падрыхтаваных выкладчыкам.

***Дыскусія.*** Дыскусія – гэта абмен думкамі па канкрэтнай тэме альбо тэзісе з мэтай высвятлення ісціны. Студэнцкая дыскусія садзейнічае творчаму засваенню матэрыялу. Падчас дыскусіі можа ўзнікнуць палеміка, г. зн. сутыкненне розных, часта супрацьлеглых ці нават ўзаемавыключальных пазіцый. Студэнт павінен умець чотка фармуляваць тэзіс, прапанаваны для абмеркавання і пабудаваць лінію аргументацыі, дастатковай для абгрунтавання тэзісу, а таксама вучыцца аспрэчваць і абвяргаць аргументы свайго апанента. Пры падрыхтоўцы да дыскусіі самастойна вывучаюцца ўсе пытанні тэмы, выкарыстоўваюцца першакрыніцы. Падчас правядзення падобнага занятку важна не забываць і пра ўзаемную павагу да суразмоўцаў.

***Круглы стол.*** Роля выкладчыка пры правядзенні падобнай формы практычнага занятку амаль не заўважаецца. Студэнты вылучаюць са свайго асяродку аднаго–двух вядучых, як правіла, найбольш моцных навучэнцаў, якія поўнасцю вядуць занятак. Яны размяркоўваюць паміж студэнтамі групы асобныя пытанні, што рыхтуюцца імі больш глыбока, чым у звычайных падручніках. Важным аспектам правядзення круглага стала з'яўляецца далучэнне да ўдзелу ў абмеркаванні тэмы ўсіх членаў групы. Сталы пры гэтым ставяцца па крузе, – так, каб забяспечыць не толькі слыхавы, але і зрокавы кантакт усёй аўдыторыі.

Сярод іншых відаў практычных заняткаў па гісторыі ў студэнтаў ВНУ вылучаюцца таксама брыфінгі, прэс-канферэнцыі, сімпозіумы, прэзентацыі, з'езды, дэбаты, ролявыя гульні і шмат іншых формаў.

Адной з формаў самастойнай падрыхтоўкі да практычнага занятку з'яўляецца напісанне студэнтамі ***рэфератаў***. Самай адметнай і істотнай рысай рэферата (ад лац. referre – паведамляць, дакладаць) па гісторыі Беларусі для студэнтаў – не гісторыкаў з'яўляецца яго інфарматыўнасць. У рэфераце студэнты выкладаюць кароткі змест навуковага артыкула альбо манаграфіі, прысвечаных асобнай, даволі вузкай тэме, якая не разглядаецца супольна ў межах асобнага семінару, але мае пэўны пазнавальны інтарэс. Падобныя чотка арыентаваныя на студэнцкую аўдыторыю працы могуць складацца як на аснове апрацоўкі адной навуковай работы (манаграфічныя), так і на базе некалькіх гістарычных крыніц (зводныя рэфераты). Рэферат характэрызуецца арыгінальнай, самастойнай літаратурнай формай, чоткай структурай і лагічнай паслядоўнасцю выкладання матэрыялу. Рэфераты інфарматыўнага характару павінны ясна, коратка, проста і дакладна выкласці неабходную інфармацыю; матэрыял пры гэтым падаецца ў форме апісання альбо канстатацыі. Таму аб'ём падобнай работы не павінен перавышаць 2–3 старонак друкаванага тэксту (без афармлення даведачнага апарату).

Структура рэферата можа пэўным чынам мяняцца ў залежнасці ад формы яго выкарыстання: чытаецца ён ў аўдыторыі ці на студэнцкай навуковай канферэнцыі, альбо проста здаецца выкладчыку для праверкі ці нават для публікацыі ў студэнцкім часопісе альбо зборніку. Пры афармленні рэферата інфарматыўнага характару рэкамендуецца наступная структурная схема:

• на *тытульным лісце* ўказваецца назва ВНУ (Прыватная установа адукацыі "Мінскі інстытут кіравання"), кафедра, на якой выконваецца работа

(кафедра тэорыі і гісторыі дзяржавы і права), прадмет (гісторыя Беларусі), тэма работы, прозвішча і ініцыялы аўтара, курс і нумар групы, а таксама прозвішча і ініцыялы выкладчыка, горад і год выканання работы;

• *змест* альбо *план* работы (у плане не ўказваецца нумарацыя старонак і спіс выкарыстанай літаратуры). У сваю чаргу у змесце павінны быць прадстаўлены: уступ, асноўная частка, заключэнне і спіс выкарыстаных крыніц;

• ва *ўступе* коратка вызначаецца тэма, даецца апісанне крыніц і літаратуры, якімі карыстаўся студэнт. Далей даецца кароткае абгрунтаванне актуальнасці тэмы, апісанне сувязі тэмы з сучаснасцю, а затым чотка вызначаюцца задачы, пастаўленыя аўтарам работы. У *асноўнай частцы* раскрываецца сутнасць пытанняў, кожнае з якіх – невялікая самастойная частка работы. У канцы кожнага пытання неабходна зрабіць кароткі вывад. У *заключэнні* студэнт робіць галоўныя вывады па ўсёй рабоце. Яно павінна быць канкрэтным, аргументаваным, вагомым і арганічна звязвацца з усёй работай;

• *спіс выкарыстаных крыніц* можа змяшчаць як адну пазіцыю (манаграфічны рэферат), так і некалькі пунктаў (зводны). Пры гэтым неабходна ўважліва падысці да праблемы правільнага афармлення гэтага спісу (гл. табл. 4):

*Табліца 4*

| | |
|---|---|
| Адзін, два альбо тры аўтары | Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. – 366 с. |
| | Чарняўскі, М.М. Старажытныя шахцёры на Русі / М.М. Чарняўскі, В.Я. Кудрашоў, В.Л. Ліпніцкая. – Мінск: Навука і тэхніка, 1996. – 143 с. |
| Чатыры і болей аўтараў | Гісторыя Беларусі і сусветная цывілізацыя: дапаможнік для студэнтаў прыродазнаўчых факультэтаў / А.Г. Каханоўскі [і інш.]. – Мінск: БДУ, 2008. – 311 с. |
| Шматтомнае выданне | Археалогія Беларусі: у 4 т. / Рэдкал.: М.В. Біч (старш.) [і інш.] – Мінск: Бел. навука, 1997 – 2001. – 4 т. |
| Асобны том у шматтомным выданні | Гісторыя Беларусі: у 2 ч.: курс лекцый / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000 – 2002. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – 656 с. |
| Вучэбна-метадычныя матэрыялы | Лянцэвіч, В.М. Гісторыя Беларусі: вучэбна-метадычны комплекс / В.М. Лянцэвіч. – Мінск: Выд-ва МІК, 2010. – 272 с. |
| Электронныя рэсурсы (CD-ROM, DVD-ROM) | Театр [Электронный ресурс]: энциклопедия: по материалам изд-ва “Большая российская энциклопедия”: в 3 т. – электрон. дан. (486 Мб). – М.: Кордис & Медиа, 2003. – Электрон. опт. диски (CD-ROM): зв., цв. – Т.1: Балет. – 1 диск; Т.2: Опера. – 1 диск; Т.3: Драма. – 1 диск. |





| | |
|---|---|
| Рэсурсы удаленага доступу (інтэрнэт-рэсурсы) | Национальный интернет-портал Республики Беларусь [Электронный ресурс] / Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. – Минск, 2009. – Режим доступа: http://www.pravo.by. – Дата доступа: 01.03.2010. |
| Раздзел з кнігі | Ладысеў, У.Ф. Заходняя Беларусь у 1921 – 1939 гг. / У.Ф. Ладысеў // Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 166 – 179. |
| Частка зборніка | Савіцкі, Э.М. Матэрыяльныя ўмовы жыцця насельніцтва Беларусі ў пач. XX ст. / Э.М. Савіцкі // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім [і інш.]; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП “Экаперспектыва”, 1997. – С. 57 – 69. |
| Артыкулы са зборнікаў тэзісаў дакладаў і матэрыялаў канферэнцый | Іванова, Л.С. Рэфармацыя на Беларусі ў другой палове XVI – першай палове XVII стст. / Л.С. Іванова //Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 73 – 83. |
| Артыкул з часопіса | Ходзін, С. Летапісанне на Беларусі / С. Ходзін // Беларус. гіст. часоп. – 1997 – №2. – С. 81 – 94. |
| Артыкул са слоўніка, энцыклапедыі | Рассадзін, С. Неўры / С. Рассадзін // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мінск, 1999. – Т. 5. – С. 322. |

Немалую ролю ў самастойнай рабоце студэнта па гісторыі Беларусі займае падрыхтоўка ***даклада***. Даклад, падрыхтаваны студэнтам, павінен уяўляць сабой самастойную работу, заснаваную на паглыбленым вывучэнні крыніц і гістарычнай літаратуры. У адрозненне ад рэферата, у дакладзе павінен прыводзіцца аналіз, даследаванне шырокага кола матэрыялаў, якія адносяцца да тэмы, прычым матэрыялаў даследчыцкага, а не вучэбна-метадычнага характару. Работа над дакладам складаецца з наступных асноўных этапаў:

1. Азнаямленне па падручніках з праблемай увогуле (не толькі з тэмай даклада, але і з эпохай, да якой адносіцца абраная тэма).

2. Вывучэнне спецыяльнай літаратуры. Для студэнта-першакурсніка пры падрыхтоўцы даклада важнай умовай стае праца са спецыяльнымі даследаваннямі – артыкуламі і манаграфіямі, даведачнай літаратурай.

3. Вывучэнне першакрыніц (дакументаў азначанай эпохі). Для сапраўднага даклада вельмі важна падабраць матэрыял у крыніцах і правільна яго пракаменціраваць. Усе асноўныя палажэнні даклада павінны падмацоўвацца дадзенымі гістарычных помнікаў.

4. Распрацоўка плана даклада і ўзгадненне яго з выкладчыкам. Канчатковы варыянт плана будзе складзены пасля напісання асноўнай часткі работы; пытанні плана фармулююцца студэнтам самастойна і дэманструюць праблемнасць абранай тэмы. План павінен уключаць не больш за 4–5 пытанняў.

5. Напісанне даклада. Толькі пасля вывучэння крыніц і літаратуры па тэме даклада студэнт можа канчаткова сфармуляваць сутнасць вывучаемай праблемы і ўдакладніць план сваёй работы. Пытанні тэмы неабходна выкладаць паслядоўна. Мэтазгодна рабіць вывады па асобных пытаннях і даць агульны вывад альбо заключэнне па ўсёй рабоце. Ва уступе студэнт фармулюе праблему, вызначае яе месца ў канкрэтнай эпохе, дае характарыстыку кола разглядаемых пытанняў. Тут жа даецца агульная характарыстыка першакрыніц і даследчыцкай літаратуры па праблеме, ацэнка ступені распрацаванасці тэмы. Асноўны змест (да 2/3 ад агульнага аб'ёма работы) паслядоўна раскрывае асноўныя пытанні тэмы. Завяршаецца даклад заключэннем, у якім утрымліваюцца вывады па ўсім даследаванні.

6. Афармленне даклада. Работа пачынаецца з тытульнага ліста і зместу (узор афармлення глядзіце вышэй). Затым ідзе выкладанне уступу, асноўнай часткі і заключэння. Завяршаецца даклад спісам выкарыстаных крыніц. Пры афармленні неабходна звярнуць ўвагу на правільнае афармленне даведачнага апарату: спасылкі на дакументы і літаратуру лепш рабіць па тэксце, у адпаведнасці з нумарацыяй па спісе крыніц; напрыклад: [3, с.45] (дадаткова аб афармленні пісьмовых работ гл. ў выданні: Стандарт предприятия: Работы курсовые и дипломные. Структура и правила оформления. СТП МИУ 2.0.01-10 / авт.-сост. Н.В. Суша [и др.]. – Минск: Изд-во МИУ, 2010. – 48 с.). Работа друкуецца альбо акуратна пішацца на паперы фармату А-4, старонкі нумаруюцца; пакідаюцца палі.

**Алгарытм адпрацоўкі прапушчанага практычнага занятку.** Прапушчаны студэнтам практычны занятак абавязкова неабходна адпрацаваць у пазааўдыторны час. Для гэтага студэнт самастойна рыхтуе рэферат па прапушчанай тэме (пытанні і спіс літаратуры бярэ ў адпаведным раздзеле практыкума) на лістах фармату А-4, друкавана ці рукапісна, аб'ёмам не меней за 3 лісты. Рэферат павінен быць належным чынам афомлены і мець у наяўнасці тытульны ліст, план, асноўную частку і спіс літаратуры. Пасля падобнай самастойнай распрацоўкі тэмы студэнт абараняе рэферат перад выкладчыкам.

Дадзеныя метадычныя рэкамендацыі не могуць ахапіць усё кола пытанняў, звязаных з вывучэннем гісторыі Беларусі, і прадугледжваюць толькі дапамогу студэнтам пры самастойнай падрыхтоўцы да заняткаў. У дадзеным практыкуме вы знойдзеце падрабязную тэматыку практычных заняткаў па гісторыі Беларусі, а таксама метадычныя парады для падрыхтоўкі студэнта да семінара



## 3.2. Метадычныя рэкамендацыі да практычных заняткаў для студэнтаў дзённай формы навучання

### 3.2.1. Абавязковыя тэмы

**Тэма 1. ПЕРШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎТВАРЭННІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (IX – першая палова XIII ст.)**

1. Фарміраванне феадальных адносін на беларускіх землях у IX–XIII стст.
2. Полацкае княства і яго барацьба за незалежнасць у IX–XII стст. Асаблівасці развіцця Тураўскага княства ў IX–XII стст.
3. Феадальная раздробленасць на тэрыторыі Беларусі (XII–XIII стст.).
4. Барацьба беларускіх княстваў супраць іншаземных захопнікаў.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Полацкі князь Усяслаў Чарадзей – адметная асоба беларускай гісторыі.

• "Полацкі летапіс" як крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст.

• Шлях "з варагаў да грэкаў" у эканамічным і палітычным жыцці Полаччыны ў эпоху ранняга сярэднявечча.

• Эпоха феадальнай раздробленасці ў палітычным і эканамічным жыцці старажытнабеларускіх княстваў.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 44–60.
2. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С. 36–167.

3. Пічэта, У.І. Гісторыя Беларусі / У.І. Пічэта. – Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2005. – С. 41–103.
4. Чигринов, П. Г. Очерки истории Беларуси / П.Г. Чигринов. – Минск: Полымя, 2002. – С.17-36.
5. Быкаў, У. Эканамічныя прычыны феадальнай раздробленасці Старажытнай Русі / У. Быкаў // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 34–41.
6. Дзярновіч, С. Сувязі Полацка са Скандынавіяй у эпоху вікінгаў / С. Дзярновіч // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 38.
7. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. – 366 с.
8. Краўцэвіч, А. Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда / А. Краўцэвіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 44 с.
9. Лысенко, П.Ф. Туровская земля IX–XIII вв. / П.Ф. Лысенко. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 266 с.
10. Повесть временных лет / Пер. Д.С. Лихачева. – Петрозаводск: Карелия, 1991. – 188 с.
11. Прохоров, А.А. Князь Тур: история легенды: сакрализация княжеской власти у славян / А.А. Прохоров. – Минск: БГУ, 2005. – 250 с.
12. Саверчанка, І.В. “Полацкі летапіс” – галоўная крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст. / І.В. Саверчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – №5. – С. 13–18.
13. Тарасаў, С.В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С.В. Тарасаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 67 с.
14. Штыхаў, Г.В. Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі / Г.В. Штыхаў. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Права і эканоміка, 2002. – 89 с.

***Метадычныя парады***

Разгляд першага пункту плана мае асабліва важнае значэнне для раскрыцця астатніх пытанняў, паколькі асвятленне дадзенай тэмы патрабуе стараннага аналізу і сацыяльна-эканамічных і палітычных адносін, якія прывялі да фарміравання першых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі нашай краіны. Феадалізм – гэта сацыяльна-палітычная і эканамічная сістэма, пры якой феадалы (ад старафранцузскага – уладальнікі) эксплуатуюць асноўную масу насельніцтва шляхам манапалізацыі ўласнасці на зямлю і часткова ці поўнага падпарадкавання асноўных вытворцаў – сялян. Для развіцця феадальнага ладу характэрны наступныя рысы: пераважна натуральны спосаб гаспадарання, надзяленне сялян зямлёй і сродкамі вытворчасці, асабістая залежнасць сялян ад памешчыка, вельмі нізкі ўзровень тэхнічнага абсталявання, існаванне асобных сацыяльна-палітычных груп насельніцтва – саслоўяў, кожнае з якіх валодае ўласцівымі толькі яму грамадзянскімі правамі і абавязкамі. Неабходна заўважыць, што ў IX – XIII стст. феадальныя адносіны на тэрыторыі Беларусі знаходзіліся толькі на першапачатковым этапе развіцця. Вам патрэбна паказаць, якія працэсы падштурхнулі фарміраванне феадальнага ладу, якія формы феадальнага землекарыстання пераважалі, як феадальныя адносіны паўплывалі на развіццё заканадаўства.

Затым неабходна прааналізаваць асноўныя тэндэнцыі палітычнага развіцця Полацкага і Тураўскага княстваў. Чаму, на вашу думку, Полацкае княства значна раней за астатнія землі Беларусі пачало барацьбу за незалежнасць? Якія фактары сталі прычынай заняпаду Кіеўскай дзяржавы ў XII ст.?

Пры разглядзе трэцяга пытання неабходна назваць галоўныя прычыны феадальнай раздробленасці, яе станоўчыя і адмоўныя бакі ў развіцці беларускіх княстваў. Як праходзіла барацьба княстваў з нямецкімі крыжакамі і мангола-татарскімі захопнікамі?

**Тэма 2. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У IX – пачатку XIII ст.**

1. Дахрысціянскія вераванні жыхароў Беларусі. Асаблівасці распаўсюджвання хрысціянства ў X–XI стст.
2. Пісьменнасць і літаратура на старажытнабеларускіх землях.
3. Дойлідства і манументальны жывапіс. Асаблівасці мясцовых архітэктурных школ.
4. Прыкладное мастацтва, іканапіс, музыка.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Дахрысціянскія вераванні жыхароў Беларусі.
• Святыя зямлі беларускай (Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч, Аўраамій Смаленскі).
• Мастацтва будаваць храмы: дойлідства Беларусі X–XII стст.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 60 – 70.
2. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С. 168 – 186, 370 – 389, 482 – 495.

3. Ковкель, И.И. История Беларуси. С древнейших времен до нашего времени / И.И. Ковкель, Э.С. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 16 – 18.
4. Сагановіч, Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя / Г. Сагановіч. – Мінск: “Энцыклапедыкс”, 2001. – С. 48 – 58.
5. Арлоў, У.А. Асветніца з роду Усяслава: Еўфрасіння Полацкая / У.А. Арлоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 53 с.
6. Высоцкая, Н.Ф. Искусство Беларуси XII–XVIII вв. / Н.Ф. Высоцкая. – 3–е изд. – Минск, 2002. – 27 с.
7. Загарульскі Э. Пераадоленне язычніцтва падчас хрысціянізацыі заходніх зямель Русі / Э. Загарульскі. // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 8. – С. 31.
8. Мельнікаў, А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі: Жыццё, спадчына, светапогляд / А.А. Мельнікаў; пад рэд. В.А. Чамярыцкага. – 2-е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 459 с.
9. Тарасаў, К. Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны / К. Тарасаў. – Мінск: Полымя, 1990. – 263 с.
10. Трусаў, А. Старонкі мураванай кнігі: манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму / А. Трусаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 191 с.

***Метадычныя парады***

У пачатку дадзенай тэмы важна, перш за ўсё, звярнуць увагу на тое, якую ролю адыгрывала рэлігія ў жыцці старажытнага чалавека, як яна ўплывала на яго паводзіны, на адносіны ў грамадстве. Што сабой уяўляла паганства старажытных насельнікаў Беларусі? Чым яно адрознівалася ад вераванняў суседзяў? Якім багам і духам пакланяліся нашы продкі? Які тып пахавання існаваў у славян дахрысціянскага перыяду?

На развіццё пісьмовасці, літаратуры, грамадскай думкі, архітэктуры і мастацтва Беларусі X–XIII стст. вялікі ўплыў аказала прыняцце хрысціянства. Чым быў абумоўлены гэты крок? Чаму выбар Уладзіміра Полацкага аказаўся на баку Візантыйскага хрысціянства? Як ішло распаўсюджванне новай веры на нашых землях? Падкрэсліце станоўчыя і адмоўныя вынікі прыняцця хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях.

Затым разгледзьце пытанне аб з’яўленні на беларускіх землях кірылічнай сістэмы пісьма. Ці існавала пісьмовасць на Беларусі да канца X ст.? Якія версіі падае на гэты конт сучасная беларуская гістарыяграфія? Якія археалагічныя знаходкі сведчаць аб распаўсюджванні пісьменнасці



нават сярод простага насельніцтва? Раскажыце аб развіцці старажытнабеларускай літаратуры, праілюстраваўшы адказ характарыстыкай творчасці беларускіх хрысціянскіх аўтараў. Чаму старажытнабеларуская літаратура насіла пераважна рэлігійны характар?

Трэцяе пытанне звяртаецца да з’яўлення на нашых землях старажытных хрысціянскіх храмаў. Раскажыце аб будаўніцтве Сафійскага сабора ў Полацку. Якія функцыі выконвала гэтая пабудова? У XII ст., з наступленнем феадальнай раздробленасці, пачынаюць фарміравацца мясцовыя школы дойлідства. Дарэчы прыдасца і аналіз асноўных рыс полацкай і гарадзенскай архітэктурных школ на прыкладзе захаваных да гэтага часу царквы Святога Спаса (Полацк) і Барысаглебскай /Каложскай царквы (Гародня).

Апошняе пытанне прысвечана характарыстыцы прыкладнога мастацтва, іканапісу X–XIII стст. Завяршаючы падрыхтоўку дадзенай тэмы зрабіце вывад аб тым, які ўплыў на развіццё беларускай культуры X – пачатку XIII стст. аказала прыняцце хрысціянства.

**Тэма 3. ГАРАДЫ БЕЛАРУСІ – ЦЭНТРЫ РАМЯСТВА І ГАНДЛЮ**

1. Асаблівасці развіцця гарадоў Беларусі ў XIV–XVII стст. Месты, мястэчкі і гаспадарскія двары.
2. Развіццё рамяства. Цэхавыя арганізацыі.
3. Гандаль. Купецкія карпарацыі.
4. Магдэбургскае права.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Сімвалы самакіравання беларускіх гарадоў.
• Рамесны цэх у сярэднявечным беларускім горадзе.
• Сацыяльна-палітычная барацьба беларускіх гарадоў у XIV–XVII стст. Гарадскія паўстанні.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С. 370 – 389, 482 – 495.
2. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 135 – 137.
3. Экономическая история Беларуси: учеб. пособие / В.И. Голубович, Г.И. Ермашкевич, Г.П. Бушчик [и др.]; под ред. проф. В.И. Голубовича. – 3–е изд., доп. – Минск: ВП “Экоперспектива”, 2004. – С. 92–100.

4. Эканамічная гісторыя Беларусі: вучэб. дапаможнік / В.І. Галубовіч, Р.І. Ермашкевіч, Г.П. Бушчык [і інш.]; пад рэд. праф. В.І. Галубовіча. –3-е выд., дап. і перапрац. – Мінск.: ВП “Экаперспектыва”, 1999. – С. 102 – 112.
5. Цітоў, А. Вольныя беларускія месты (самакіраванне ў нашых гарадох XIV – XVIII стст.) / А. Цітоў. – Мінск: БРФП ДР, 1996. – 36 с.
6. Цітоў, А. Гарадская геральдыка Беларусі / А. Цітоў. – Мінск: Полымя, 1989. – 207 с.
7. Цітоў, А. Менск – места майстроў. Рамесныя цэхі XVI–XVIII стст. / А. Цітоў. – Мінск: Беларусь, 2002. – 110 с.
8. Цітоў, А.К. Геральдыка Беларусі: ад пачаткаў – да канца XX ст. / А.К. Цітоў. – Мінск: Мінская фабрыка каляровага друку, 2007. – 123 с.
9. Чигринов, П.Г. Белорусская история: науч.-попул. очерк / П.Г. Чигринов. – Минск: Современная школа, 2010. – С. 254 – 260.

***Метадычныя парады***

Пры асвятленні першага пытання трэба звярнуць увагу на ўплыў феадальнага спосабу вытворчасці на колькасны рост гарадоў і мястэчак, павелічэнне гарадскога насельніцтва. Неабходна вызначыць крытэрыі адрознення гарадоў і мястэчак, гаспадарскіх двароў; спыніцца на характарыстыцы іх функцый, знешняга выгляду, складу і заняткаў насельніцтва. Што такое юрыдыкі?

У коле другога пытання студэнтам неабходна асэнсаваць адметнасці і характар беларускіх рамёстваў (першапачаткова рамеснікі працавалі на заказ і толькі ў XVI - пач. XVII ст. назіраецца драбленне рамесных спецыяльнасцей, што сведчыць аб росце таварнай вытворчасці ўвогуле). У гэтай сувязі разгледзьце рамёствы і промыслы, найбольш развітыя на нашых землях. Важна вызначыць і прычыны ўтварэння рамесных цэхаў (феадальна-прыгонніцкія адносіны, канкурэнцыя з боку сельскіх рамеснікаў, свавольства шляхты, інш.), структуру цэха, а таксама тыпалогію цэхаў на тэрыторыі Беларусі.

Асвятленне трэцяга пытання лепш пачаць з вызначэння катэгорый купцоў (перакупнікі, прасолы, госці, інш.) і характарыстыкі іх дзейнасці. Звярніцу ўвагу на прычыны ўтварэння і дзейнасць купецкіх карпарацый.

Звяртаючыся да чацвёртага пытання нагадайце, што ў азначаны перыяд беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай, што прадвызначыла пераважна еўрапейскі ўплыў на фарміраванне тут сістэмы гарадскога самакіравання. Чаму літоўскія князі пачалі дараваць гарадам магдэбургскае права? У чым сутнасць прывілеяў, якія даравалiся гарадам вялікакняжацкай уладай? Якую ролю ў развіцці гарадоў адыграла Магдэбургскае права? Разгледзьце структуру магістрата, асвятліце кола яго дзейнасці.

Завяршаючы падрыхтоўку тэмы трэба зрабіць вывад, што беларускія гарады ў XIV–XVII стст. сталі цэнтрамі культурнага жыцця, рамяства і гандлю; іх роля ў эканоміцы краіны ўзрастала. Яна пашыралася за кошт прытоку сельскага насельніцтва (якія прычыны ляглі ў аснову гэтага працэсу?). Сфарміраваліся іх сацыяльныя і кіруючыя структуры. Гарады змагаліся за права на самакіраванне, што пашырала магчымасці развіцця іх эканомікі.



### Тэма 4. ПАДЗЕЛЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

1. Перадумовы крызісу эканамічнай і дзяржаўна-палітычнай сістэмы Рэчы Паспалітай у XVIII ст. Першы падзел Рэчы Паспалітай.
2. Чатырохгадовы сойм і Канстытуцыя 1791 г. Другі падзел Рэчы Паспалітай.
3. Нацыянальна-вызваленчае паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Трэці падзел Рэчы Паспалітай.

***Тэмы для рэфератаў:***

- Вядомая і незнаёмая вайна 1654–1667 гг. у лёсе Беларусі.
- Шляхта і магнаты Рэчы Паспалітай у XVIII ст.
- Жанчына ў феадальным грамадстве XVIII ст.
- Сялянскае паўстанне XVIII ст. ў Крычаўскім старостве.
- Яўхім Храптовіч – апошні канцлер ВКЛ.
- “Віленскі якабінец”... (Якуб Ясінскі).

***Літаратура***

1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 200 – 232.
2. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – 54 – 80.
3. Аніпяркоў, В.В. Утварэнне і механізм дзеяння інстытутаў Таргавіцкай канфедэрацыі на беларускіх землях ВКЛ / В.В. Аніпяркоў // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2009. – № 3. – С. 12–17.
4. Гардзіенка, Н. Выхаванне шляхцянак у ВКЛ у XVIII ст. / Н. Гардзіенка // Беларус. гіст. часоп. – 2001. – № 5. – С. 26 – 32.
5. Гардзіенка, Н. Постаць жанчыны на старонках старалітоўскіх выданняў / Н. Гардзіенка // Спадчына. – 2001. – № 5–6. – С. 86 – 103.

6. Гужалоўскі, А. Войска ВКЛ: апошнія старонкі гісторыі / А. Гужалоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 1. – С. 48 – 52.
7. Мальдзіс, А. Як жылі нашы продкі ў XVIII ст. / А. Мальдзіс. – Мінск: Лімарыус, 2001. – С. 146 – 207.
8. Мялешка, В. І ўзняўся люд просты: Да 300–годдзя з дня нараджэння Васіля Вашчылы – кіраўніка Крыч. паўстання 1740 – 1744 г. / В. Мялешка, П. Лойка. – Мінск: Беларусь, 1992. – 80 с.
9. Поляк, Н. Дысідэнцкае пытанне на беларускіх землях у кантэксце міжнародных адносін у 1660 – 1768 гг. / Н. Поляк // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 2. – С.30 – 35.
10. Сагановіч, Г. Невядомая вайна: 1654 – 1667. / Г. Сагановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 144 с.
11. Спірыдонаў, М. Апошні канцлер Вялікага княства Літоўскага / М. Спірыдонаў // Спадчына. – 2001. – № 1 – 2. – С. 25 – 34.
12. Ткачоў, М. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 – 1667 гг. / М. Ткачоў // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 83 – 90.
13. Філатава, А.М. Паўстанне 1794 г. на Беларусі і Літве / А.М. Філатава // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 83–91.
14. Юхо, Я. “Нарадзіўся я ліцьвінам...”: Тадэвуш Касцюшка / Я. Юхо, У. Емяльянчык. – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – 68 с.

***Метадычныя парады***

Падрыхтоўка да дадзенай тэмы патрабуе пільнага аналізу сітуацыі, у якой апынулася Рэч Паспалітая ў XVIII ст. Вы павінны ўважліва разгледзець як унутраныя, так і знешнія прычыны заняпаду гэтай калісьці ўплывовай еўрапейскай дзяржавы. У сувязі з гэтым, звярніце ўвагу на сацыяльна-палітычны лад Рэчы Паспалітай. Чаму гісторыкі часам называюць яго “шляхецкай анархіяй”? Паспрабуйце параўнаць дзяржаўную сістэму кіраўніцтва Рэчы Паспалітай з тагачаснымі дзяржаўнымі сістэмамі іншых краін, у першую чаргу Расіі, Прусіі і Аўстрыі. Чаму асаблівае становішча шляхты замаруджвала развіццё дзяржавы? Адказы на гэтыя пытанні дазволяць вам зразумець прычыны, па якіх Рэч Паспалітая пасля войнаў XVII – пачатку XVIII ст. трапіла ў палітычную залежнасць ад суседніх дзяржаў і з вялікай цяжкасцю здолела аднавіць сваю эканоміку. Уважліва прасачыце за ходам падзей пасля выбрання каралём Станіслава-Аўгуста Панятоўскага (1764). Якія рэформы былі праведзены? Якія мэты яны прадугледжвалі і якія вынікі мелі? Што паслужыла галоўнай прычынай узбуджэння дысідэнтцкага пытання (прааналізуйце яго сутнасць), арганізацыі Торуньскай, Слуцкай і Барскай канфедэрацый? Якія дзяржавы прынялі ўдзел у першым падзеле Рэчы Паспалітай і чаму? Як першы падзел адбіўся на лёсе беларускіх зямель?

Пасля першага падзелу ў Рэчы Паспалітай была зроблена спроба правядзення шэрагу рэформаў. Гэтым пытанням прысвечана дзейнасць Чатырохгадовага сойма. Кульмінацыяй спробаў палітычнай эліты Рэчы Паспалітай умацаваць палітычны лад краіны становіцца прыняцце Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Вам трэба вызначыць як станоўчыя, так і адмоўныя бакі дадзенага акту (ліквідацыя аўтаноміі ВКЛ, захаванне адзінай дзяржаўнай рэлігіі – каталіцызму, адзінай дзяржаўнай мовы – польскай, прыгонніцкага права і г. д.), а адсюль – і розныя пазіцыі насельніцтва Рэчы Паспалітай адносна дадзенай канстытуцыі. Вызначце сутнасць прэтэнзій Тарговіцкай канфедэрацыі. Параўнайце Канстытуцыі 1791 і 1793 гг. Раскажыце аб умовах другога падзелу.

Пры разглядзе апошняга пытання трэба вылучыць галоўныя мэты паўстання 1794 г. і прычыны яго паражэння. Зрабіце вывад аб выніках далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі.

### Тэма 5. РЭФОРМЫ 1860–1870-х гг. І НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВАЛЕНЧАЕ ПАЎСТАННЕ 1863 - 1864 гг. НА БЕЛАРУСІ

1. Аграрная рэформа 1861 года на Беларусі.
2. Падрыхтоўка да нацыянална-вызваленчага паўстання. Ход і вынікі паўстання 1863–1864 гг. на Беларусі.
3. Ліберальныя рэформы 1860–1870-ых гг. і асаблівасці іх правядзення на Беларусі.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Кастусь Каліноўскі – паэт, выдавец, рэвалюцыянер.
• “Мужыцкая праўда” – першая беларускамоўная газета.
• “Рыцар свабоды”: Валерый Урублеўскі.
• Беларуская вёска ў парэформенны перыяд.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч./ П.І. Брыгадзін, У.Ф. Ладысеў, П.І. Зялінскі [і інш.]. – Мінск.: РІВШ БДУ, 2002. – Ч.2: XIX–XX стагоддзі / П.І. Брыгадзін [і інш.]. – 2002. – С. 101 – 165.
2. Гісторыя Беларусі перыяду капіталізму: вучэб. дапам.: у 5 ч. / Склад. А.П. Жытко [і інш.]. – Мінск: БДПУ, 2005 – 2009. – Ч. 4:: Буржуазныя рэформы ў другой палове XIX – пачатку XX ст. – 2009. – 165 с.
3. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2-е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 127 – 144.

4. Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. / М.П. Касцюк [і інш.]. – Мінск: Беларусь,1994. – Ч. 1. – С. 303 – 328.
5. Эканамічная гісторыя Беларусі: вучэб. дапаможнік / В.І. Галубовіч, Р.І. Ермашкевіч, Г.П. Бушчык [і інш.]; пад рэд. праф. В.І. Галубовіча. –3-е выд., дап. і перапрац. – Мінск.: ВП "Экаперспектыва", 1999. – С. 151 – 167.
6. Экономическая история Беларуси: учеб. пособие / В.И. Голубович, Г.И. Ермашкевич, Г.П. Бушчик [и др.]; под ред. проф. В.И. Голубовича. – 3-е изд., доп. – Минск: ВП "Экоперспектива", 2004. – С. 135 – 146.
7. Калиновский, К. Из печатного и рукописного наследия / К. Калиновский. – Минск: Беларусь, 1988. – 208 с.
8. Панюціч, В. Рэформы дзяржаўных сялян Беларусі (канец 50-х – 70-я гг. XIX ст.) / В. Панюціч // Беларус. гіст. часоп. – 1996. – №3.
9. Сасім, А.М. Асаблівасці правядзення рэформы 1861 г. на Беларусі / А.М. Сасім // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1997. – С. 35–56.
10. Чаропка, В. Рыцар свабоды. Валерый Урублеўскі / В. Чаропка // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 5–6.

***Метадычныя парады***

Яшчэ ў канцы 1850-х гг. былыя землі ВКЛ лічыліся найбольш падрыхтаванымі да сацыяльна-палітычных і эканамічных пераўтварэнняў. Гэта выклікала спробы царызму абаперціся на ініцыятывы мясцовых памешчыкаў пры падрыхтоўцы і правядзенні аграрнай рэформы. Аднак апошнія пагаджаліся на адмену прыгоннага права толькі на ўмовах захавання сваіх былых прывілегій. Таму адмена прыгоннага права на беларускіх землях у 1861 г. адбывалася на ўмовах агульнарасійскага і двух мясцовых палажэнняў (адно дзейнічала на тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў, другое – на тэрыторыі Мінскай, Віленскай і Гродзенскай). Адрозненні мясцовых палажэнняў тлумачацца розніцай формаў землекарыстання розных рэгіёнаў. Паспрабуйце адказаць на пытанне, што гэта за адрозненні, калі яны з'явіліся і чым былі абумоўлены? Трэба таксама звярнуць увагу, на якіх умовах адбывалася рэформа, раскрыць яе сутнасць і прычыны, якія выклікалі незадаволенасць сярод сялян і памешчыкаў. Падкрэслім, што асабістую свабоду па ўмовах рэформы 1861 г. набылі толькі прыватнаўласніцкія (памешчыцкія) сяляне.



Адказ на другое пытанне лепей за ўсё пачаць з уважлівага аналізу сацыяльна-палітычнага становішча на Беларусі напярэдадні паўстання. Вызначце характар, асаблівасці арганізацыі і правядзення паўстання на беларускіх землях. Звярніце ўвагу на рознагалоссі сярод ідэолагаў паўстання на Беларусі і ў Польшчы. Якую ролю ў паўстанні адыграў К. Каліноўскі? Вызначце праграмныя мэты "белых" і "чырвоных". У чым заключалася роля Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК)? Якія рэформы прапаноўваліся паўстанцамі? Чаму ўрад прыняў для падаўлення выступленняў у 1863–1864 гг. незвычайна жорсткія меры? Прааналізуйце станоўчыя і адмоўныя вынікі паўстання.

Пры разглядзе апошняга пытання звярніце ўвагу на тое, якім чынам царскі ўрад праводзіў ліберальныя рэформы на тэрыторыі Беларусі. Адным з наступстваў нацынальна-вызваленчага паўстання былі не толькі рэпрэсіі, але і штучнае запаволенне сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця Беларусі. Земская, судовая, школьная, гарадская, ваенная, цэнзурная рэформы, якія праводзіліся ў Расійскай імперыі, на тэрыторыі Беларусі мелі вельмі абмежаваны характар (і па ўмовах, і па тэрмінах правядзення). Тым не менш, трэба паказаць, як змянілася эканамічная і палітычная сітуацыя ў выніку ліберальнай палітыкі ўрада.

**Тэма 6. БЕЛАРУСЬ У 1917–1918 гг.**

1. Грамадска-палітычная сітуацыя ў лютым–кастрычніку 1917 г. Дзейнасць палітычных партый і беларускіх нацыянальных арганізацый у міжрэвалюцыйны перыяд (люты–кастрычнік 1917 г.).
2. Кастрычніцкі пераварот і прыход да ўлады бальшавікоў на тэрыторыі Беларусі.
3. Першы Усебеларускі з'езд у Мінску і яго роспуск.
4. Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. Брэсцкі мір.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Беларуская Народная Рэспубліка і фарміраванне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці.
• Усталяванне бальшавіцкай сістэмы ўлады на Беларусі.
• Кастрычнік 1917 г.: пераварот ці рэвалюцыя?
• Першы Усебеларускі з'езд: погляд праз гады.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч./ П.І. Брыгадзін, У.Ф. Ладысеў, П.І. Зялінскі [і інш.]. – Мінск.: РІВШ БДУ, 2002. – Ч.2: XIX–XX стагоддзі / П.І. Брыгадзін [і інш.]. – 2002. – С. 251 – 311.

2. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 91 – 124.
3. Бригадин, П.И. История Беларуси в контексте европейской истории: курс лекций / П.И. Бригадин. – Минск: ГИУсТ БГУ, 2007. – С. 164 – 194.
4. Юхо, І.А. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917–1945): вучэб. дапам. / І.А. Юхо, В.А. Круталевіч. – 2-е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 237 с.
5. Игнатенко, И.М Октябрьская революция и самоопределение Белоруссии / И.М. Игнатенко. – Минск: Навука і тэхніка, 1992. – 254 с.
6. История Беларуси в документах и материалах / Авт.–сост. И.Н. Кузнецов, В.Г. Мазец. – Минск: Амалфея, 2000. – С. 251 – 396.
7. Ігнаценка І. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 25 – 33.
8. Касцюк, М. Бальшавіцкая сістэма ўлады на Беларусі / М. Касцюк. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 2000. – 307 с.
9. Круталевич, В.А. История Беларуси: становление национальной державности (1917–1922 гг.) / В.А. Круталевич. – 2-е изд., доп. – Минск: Право и экономика, 2003. – 585 с.
10. Луцкевіч, А.І. За дваццаць пяць гадоў (1903–1928). Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый / А.І. Луцкевіч; паслясл. А.М. Сідаровіча. – Мінск: БелСЭ, 1991. – 64 с.
11. Марцуль, Г.С. Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі. Нацыянальна–дзяржаўнае будаўніцтва. Іншаземная інтэрвенцыя. (1917–1920 гг.). Ч.1–2 / Г.С. Марцуль, Ж.А. Канцавая. – Мінск, 1995.
12. Рудовіч, С. Час выбару: праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе / С. Рудовіч. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 2000 с.
13. Усебеларускі з'езд 1917 года: сведчанне сучасніка / Прадмова і публікацыя В. Скалабана // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 62–69.

***Метадычныя парады***

Аналіз дадзенай тэмы найлепш пачаць з разгляду пытання аб узаемаадносінах розных палітычных сіл на тэрыторыі Беларусі ў перыяд паміж дзвюма рэвалюцыямі 1917 г. (Лютаўскай буржуазнай і Кастрычніцкай сацыялістычнай). Вызначце пазіцыі манархістаў, сацыял-дэмакратаў, ліберальна-буржуазных, нацыянальных беларускіх арганізацый па пытаннях адносін да вайны, вырашэння аграрнага пытання і пытання аб уладзе. У чым сутнасць двоеўладдзя? Адзначце храналагічны час яго існавання і асаблівасці на Беларусі. Як з кастрычніка па жнівень 1917 г. змянілася стратэгічная і тактычная лінія бальшавікоў па пытанні аб прыходзе да ўлады ў Расіі?

Затым прасачыце паслядоўнасць і логіку падзей, падчас якіх на тэрыторыі Беларусі была ўсталявана савецкая ўлада. Трэба таксама звярнуць увагу на ход працэсу легітымізацыі бальшавіцкай улады (Аблвыкамзах, СНК Заходняй вобласці). Адзначым, што ў выніку палітычных узрушэнняў кастрычніка – снежня 1917 г. бальшавікі змаглі атрымаць перамогу над сваімі праціўнікамі (ліберальныя сілы, а пазней нацыянальны рух) і на дадзеным этапе зацвердзіць сваю ўладу на тэрыторыі Беларусі.

У трэцім пытанні паспрабуйце раскрыць сэнс супярэчнасцей паміж бальшавіцкай уладай і нацыянальнымі сіламі па пытаннях грамадскапалітычнага і нацыянальна-дзяржаўнага строю Беларусі. Неабходна ўлічваць рознасць пазіцый па нацыянальным пытанні лідэраў Аблвыкамзаха і цэнтральнага ўрада бальшавікоў на чале з Леніным. Затым у цэнтры ўвагі павінны аказацца непасрэдна падзеі падрыхтоўкі, правядзення і роспуска Першага Усебеларускага з'езда, а таксама ўплыву гэтай падзеі на далейшыя дзеянні беларускіх нацыянальных арганізацый.

Першы Усебеларускі з'езд, нягледзячы на роспуск, здолеў звярнуць увагу новай улады на неабходнасць вырашэння нацыянальнага пытання. Абвяшчэнне БНР стала спробай праваліберальнага крыла нацыянальнага руху рэалізаваць нацыянальна-дэмакратычны ідэал беларускай дзяржаўнасці. Звярніце ўвагу на тое, што гэтая спроба ажыцявілася ва ўмовах германскай акупацыі Беларусі. Нявырашанасць пытання аб узаемаадносінах з нямецкімі ўладамі прывяла ў выніку да крызісу кіруючых органаў БНР. Спыніцеся на раскрыцці зместа і сэнсу трох Устаўных грамат БНР. Паспрабуйце ацаніць значэнне БНР для беларускай гісторыі.

Зрабіце вывад аб асноўных тэндэнцыях палітычнай і нацыянальнай гісторыі Беларусі ў 1917–1918 гг.

**Тэма 7. БЕЛАРУСЬ У ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЕ (1939–1945 гг.)**

1. Падзел Польшчы паміж Германіяй і СССР. Уключэнне Заходняй Беларусі ў склад БССР.
2. БССР у пачатку Вялікай Айчыннай вайны (лета 1941 г.).
3. Акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі.
4. Падпольная і партызанская антыфашысцкая барацьба.
5. Вызваленне Беларусі. Заканчэнне другой сусветнай вайны.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Фенамен беларускай калабарацыі.

• Дзейнасць Арміі Краёвай на Беларусі.

• Беларускія остарбайтары.

• Карныя аперацыі супраць партызан і мірнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі.

***Літаратура***


1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 180 – 190.
2. Гісторыя Беларусі: вучэбны дапаможнік / А. Абецэдарская, П. Брыгадзін [і інш.]; пад рэд. А. Каханоўскага. – Мінск, 1996. – С. 378 – 420.
3. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч. 2: Люты 1917 г. – 1997 год. – С. 218 – 279.
4. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 498 – 542.
5. История Беларуси в документах и материалах / Авт.–сост. И.Н. Кузнецов, В.Г. Мазец. – Минск: Амалфея, 2000. – С. 501– 584.
6. Беларусь в первые месяцы Великой Отечественной войны (22 июня – август 1941 г.): документы и материалы / Сост. В.И. Адамушко [и др.]. – Минск: НА РБ, 2006. – 456 с.
7. Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: масавыя забойствы нацыстаў / Гіст. майстэрня ў Мінску [і інш.]; рэдкал. Э.Р. Іофе [і інш.] . – Мінск: Гіст. майстэрня ў Мінску, 2005. – 305 с.
8. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: дзень за днём. Ілюстраваная храналогія / Уклад. і аўтар тэксту Я.В. Малашэвіч, фота У.А. Багданава і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 231 с.
9. Бязлепкін, Я. Германскі акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі (1941 – 1944 гг.) у англамоўнай гістарыяграфіі ЗША і Вялікабрытаніі / Я. Бязлепкін // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 12. – С. 32.
10. Бяспанскі, С. Наступальныя аперацыі Чырвонай Арміі ў Беларусі (восень 1943 – вясна 1944 г.) / С. Бяспанскі // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 1. – С. 24.
11. Варанкова, І. Апошнія месяцы нацысцкіх акупантаў у Мінску / І. Варанкова // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 25.





12. Ермаловіч, В. Што ж прывяло Армію Краёву на Беларусь? / В. Ермаловіч // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 3. – С. 120– 121.
13. Іофе, Э. Колькі ж яўрэяў загінула на беларускай зямлі ў 1941– 1945 гг. / Э. Іофе // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 49 – 52.
14. Каваленя, А.А. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. 1941 – 1944 гг. Вытокі, структура, дзейнасць / А.А. Каваленя. – Мінск: БДПУ імя М. Танка, 1999. – 235 с.
15. Казлова, С. Аграрная палітыка германскіх акупантаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1941 – 1944 гг. / С. Казлова // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 12. – С. 14.
16. Кнатько, Г.Д. Белорусские остарбайтеры: историко– аналитическое исследование / Г.Д. Кнатько, В.И. Адамушко и др. – Минск: [НА РБ], 2001. – 335 с.
17. Коршук, В.К. О партизанском движении в Беларуси (свидетельствуют трофейные немецкие документы) / В.К. Коршук // Весн. Беларус. дзярж. ун–та. Сер. 3. – 2005. – № 2. С. 13.
18. Кушнер, В. Вызваленне Беларусі: на шляху да Вялікай Перамогі / В. Кушнер, Я. Паўлаў // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 2. – С. 3 – 12.
19. Лемяшонак, У. Беларуская наступальная аперацыя ў ацэнцы нямецкіх генералаў і афіцэраў / У. Лемяшонак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 7. – С. 18.
20. Литвин, А. Белорусская Краевая Оборона: К вопросу о создании белорусского национального войска в годы второй мировой войны / А. Литвин // Неман. – 1994. – № 4.
21. Літвін, А. Армія Краёва на Беларусі / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 1;4.
22. Літвін, А. Вызваленне Беларусі і выкарыстанне партызанскага фактару (восень 1943 – вясна 1944 гг) / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 4. – С. 3.
23. Літвін, А. Акупацыя Беларусі (1941–1944). Пытанні супраціву і калабарацыі / А. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – 288 с.
24. Люк, М. “Паляванне дазваляецца”: барацьба з партызанамі ў “генеральным камісарыяце Беларутэнія” / М. Люк, М. Рыхтар // Беларускі гістарычны агляд. Т. 7, сш. 2 (13), 2000.
25. Лютко, С. Баявыя дзеянні на цэнтральным участку Заходняга фронту летам 1941 г. / С. Лютко // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 3. – С. 18.

26. Мінскае антыфашысцкае падполле / Я.І. Бараноўскі [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1995. – 254 с.
27. Новікаў, С. Абарона Магілёва (20 – 26 ліпеня 1941 г.) у святле новых дакументальных крыніц / С. Новікаў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 7. – С. 44.
28. Новікаў, С. Польская Армія Краёва: гісторыя і міфы / С. Новікаў // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 1. – С. 66.
29. Павлов, Я.С. Советско-германские договоры 1939–1941 годов: трагедия тайных сделок / Я.С. Павлов. – Минск: БелНИИДАД, 1996. – 99 с.
30. Паўлоўскі, А. Разгром фашызму. Урокі Вялікай Айчыннай вайны / А. Паўлоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 5. – С. 10.
31. Платонов, Р.П. Белоруссия, 1941–й: известное и неизвестное. По док. Нац. архива РБ. – Минск: БелНИИДАД, 2000. – 209 с.
32. Преступления немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии 1941 – 1944. / Сост. З.И. Белуга, Н.И. Каминский, А.Л. Мананенков и др. – Минск: ГИ БССР, 1063. – 436 с.
33. Сямашка, Я. Армія Краёва на Беларусі / Я. Сямашка. – Мінск: Беларус. выд–ва "Хата", 1994. – 269 с.
34. Тимохович, И.В. Битва за Белоруссию. 1941–1944. / И.В. Тимохович. – Минск: Беларусь, 1994. – 253 с.
35. Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Ю. Туронак; пер з польск. В. Ждановіч; камент. А.М. Літвіна. – Мінск: Беларусь, 1993. – 236 с.
36. Шарапа, А. Да пытання аб людскіх стратах у другой сусветнай вайне / А. Шарапа, А. Гардзейчык // Беларус. гіст. часоп. – 1996. – № 2.
37. Шомадзі, В. Вызваленне Беларусі (18 верасня 1943 – 28 ліпеня 1944 г.) / В. Шомадзі // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 5. – С. 3.

***Метадычныя парады***

Неабходна, перш за ўсё, вызначыць асноўныя прычыны развязвання найбуйнейшага міжнароднага канфлікту, разгледзець асноўныя палажэнні ідэалагічнай дактрыны фашызму і яго экспансію. Па-другое, трэба ахарактэрызаваць адносіны да фашысцкай Германіі з боку вядучых краін свету – Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША і, нарэшце, СССР. Што сабою ўяўляў пакт Рыбентропа-Молатава аб падзеле сфер уплыву ў Еўропе? Як гэта тычылася тэрыторыі Беларусі? Звярніце ўвагу на тое, што савецкія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Польшчы без абвяшчэння вайны. Многія жыхары Заходняй Беларусі віталі савецкіх салдат як вызваліцеляў. Як праходзіў працэс уключэння Заходняй Беларусі ў склад БССР? З якімі праблемамі сутыкнулася савецкае кіраўніцтва да пачатку вайны з Германіяй?

Пры разглядзе другога пытання трэба асвятліць прычыны пачатку Вялікай Айчыннай вайны, стратэгічныя планы Германіі, ход ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г., а таксама дзейнасць савецкага кіраўніцтва па арганізацыі абароны, эвакуацыі людзей і прамысловых аб’ектаў.

Пасля адступлення савецкіх войск уся тэрыторыя Беларусі апынулася пад акупацыяй. Што сабой уяўляў ваенна-адміністрацыйны падзел акупіраванай тэрыторыі Беларусі? Разгледзьце працэс фарміравання грамадзянскай і ваеннай акупацыйнай улады. Вызначце асноўны змест плана "Ост". Якую палітыку праводзілі акупанты ў дачыненні мірнага насельніцтва у эканамічнай, сацыяльнай, культурнай і рэлігійнай сферы? Раскрыйце сутнасць палітыкі генацыду, у тым ліку да яўрэяў і цыганоў (Халакост). Што сабою ўяўляла дзейнасць калабарцыяніцкіх арганізацый на Беларусі? Паспрабуйце даць асабістую ацэнку гэтай з’явы.

Наступнае пытанне аналізуе асноўныя праявы супраціўлення мірнага насельніцтва на акупіраваных тэрыторыях. Нягледзячы на жорсткія меры з боку захопнікаў, жыхары Беларусі стваралі партызанскія атрады. У гарадах дзейнічалі групы падпольшчыкаў. Акрамя савецкіх партызан і падпольшчыкаў барацьбу вялі польскія (Армія Краёва) і украінскія нацыяналісты. Дайце характарыстыку асноўных момантаў гераічнага супраціўлення жыхароў Беларусі. Раскажыце аб знакамітых партызанах і падпольшчыках. Што такое "рэйкавая вайна"? Якую ролю адыграла супраціўленне мірнага насельніцтва ў справе разгрому нямецкай арміі?

Апошняе пытанне прысвечана разгляду ваенных аперацый па вызваленню Беларусі. Першы этап прыходзіцца на восень 1943 - вясну 1944 г. Другі – беларуская наступальная аперацыя "Баграціон", якая, у сваю чаргу, прайшла ў два этапы. Прааналізуйце дзеянні Чырвонай Арміі. Напрыканцы пакажыце, якія вынікі для Беларусі мела Другая Сусветная вайна.

**Тэма 8. РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў 1945 - 1991 гг.**

1. Сярэдзіна 40 - 50 гг. XX ст.: узмацненне сталінскага ўціску на культуру.
2. Беларуская адукацыя і навука: асноўныя праблемы і дасягненні.
3. Ідэалагічны фактар у развіцці беларускай літаратуры 50-х – пачатку 90-х гг. XX ст.

4. Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускага мастацтва 50-х – пачатку 90-х гг.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Беларуская навука пасляваеннага дзесяцігоддзя: праблемы і дасягненні.

• Рэпрэсіўная палітыка савецкага ўрада супраць беларускіх літаратараў у пасляваенныя гады.

• Рэлігійная палітыка савецкай улады ў пасляваенны перыяд.

• Беларускія дысідэнты савецкай эпохі.

***Літаратура***


1. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 1998. – Ч.2: Люты 1917 г. – 1997 год. – С. 317 – 340.
2. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 565 – 570.
3. Барыс, С. Адраджэнне рэлігійнага жыцця ў Беларусі ў 1988 – 2003 гг. / С. Барыс // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 16.
4. Дробов, Л.Н. Живопись Советской Белоруссии (1917–1975 гг.) / Л.Н. Дробов. – Минск: Вышэйшая школа, 1979. – 302 с.
5. Карзенка, Г.В. Фарміраванне кадраў навукі Беларусі (сярэдзіна 50–х – 80–я гг.) / Г.В. Карзенка // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 190 – 194.
6. Кашталян, І. Становішча інтэлігенцыі БССР у 1944 – 1953 гг. (па матэрыялах Асобага сектара ЦК КП(б)Б) / І. Кашталян // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 7. – С. 28.
7. Кіпель, В. Беларусы ў ЗША / В. Кіпель. – Мінск: Беларусь, 1993. – 348 с.
8. Кушнер, В. Рыцар сумлення і свабоды. Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч / В. Кушнер // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 11. – С. 3.
9. Маржала Т. Польскія школы ў БССР у пасляваенныя гады (1945–1949) // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 4. – С. 30 – 33.
10. Навіцкі, У. Асаблівасці культурнага жыцця на Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 96 – 102.
11. Навіцкі, У. Супярэчлівасць культурнага жыцця Беларусі ў сярэдзіне 50-х –пач. 80-х гг. / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 2.





12. Наука Беларуси в ХХ столетии / НАН Беларуси; редкол.: Н.А. Борисевич [и др.]. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 1006 с.
13. Чэбан, І. Мікалай Шчакаціхін: каля вытокаў беларускага мастацтвазнаўства / І. Чэбан // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 1 – 2.


***Метадычныя парады***

Тэма ахоплівае асноўныя пытанні развіцця беларускай савецкай культуры ад пасляваенных часоў да атрымання краінай незалежнасці. Першае пытанне прысвечана асноўным праблемам пасляваеннага дзесяцігоддзя. Праўда, разам з інфармацыяй аб аднаўленні сістэмы адукацыі, асноўных тэмах літаратуры і накірунках мастацтва неабходна звярнуць увагу на складаныя ідэалагічныя ўмовы, у якіх апынуліся дзеячы беларускай культуры. У чым выявілася ўзмацненне партыйна-ідэалагічнага кантролю над развіццём культуры ў канцы 1940-х гг.? У пасляваенны час значна звузілася сфера ўжытку беларускай мовы. Паспрабуйце вызначыць асноўныя прычыны гэтага працэса.

Культурнае жыццё БССР у 50–80-я гг. насіла даволі супярэчлівы характар. Разгледзьце асноўныя рэформы ў адукацыі. Як гэта паўплывала на ўзровень сярэдняй, прафесійнай і вышэйшай школы? У развіцці беларускай навукі таксама вызначыліся новыя тэндэнцыі, найперш развіццё фундаментальных даследаванняў у галіне прыродазнаўчых дысцыплін. Праілюструйце гэта прыкладамі. З якімі цяжкасцямі сутыкаюцца гуманітарныя навукі?

У беларускай літаратуры назіраецца працэс станаўлення новай плыні творцаў. Адзначце тэндэнцыі, характэрныя для літаратуры гэтага часу. Як унутрыпалітычная сітуацыя ў краіне ўплывае на творчасць пісьменнікаў, паэтаў, драматургаў?

Асобную ўвагу патрэбна ўдзяліць праблеме палітыкі савецкай дзяржавы ў галіне рэлігіі і ў адносінах да вернікаў.

Апошняе пытанне тэмы прысвечана аналізу працэсаў, што адбываліся ў беларускай архітэктуры, выяўленчым мастацтве, скульптуры, тэатральным мастацтве і музыцы.

Такім чынам, беларуская культура 40 – пач. 90-х гг. прайшла вельмі складаны шлях, які характарызаваўся ўзмацненнем партыйна-дзяржаўнага кантролю, выцісканнем беларускай мовы з устаноў адукацыі і культуры, слабым фінансаваннем. Незалежная Беларусь павінна была пераадолець гэтыя з’явы.

### 3.2.2. Дадатковыя тэмы

Увядзенне дадзенага раздзела ў вучэбна-метадычны комплекс абумоўлена тым, што ў Мінскім інстытуце кіравання праходзяць навучанне студэнты эканамічных, юрыдычных спецыяльнасцей, а таксама спецыяльнасці "дызайн", "юрыдычная псіхалогія", для якіх курс гісторыі Беларусі таксама з'яўляецца абавязковым. Праграмная тэматыка практычных заняткаў абрана з пэўным акцэнтам на эканамічныя і палітычныя аспекты развіцця. У той жа час падаецца магчымым (па рашэнні выкладчыка) у некаторай ступені змяняць тэматыку практычных заняткаў у залежнасці ад пэўнай спецыяльнасці і прадметаў гістарычнага цыкла, якія праслухваліся студэнтамі раней за курс гісторыі Беларусі. З гэтай мэтай у падручніку прыведзены таксама дадатковыя тэмы для практычных заняткаў.

**Тэма 9. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў другой палове XVI–XVIII ст.**

1. Рэлігійная палітыка ўрада. Берасцейская царкоўная унія 1596 г.
2. Грамадска-палітычная думка XVII – пач. XVIII ст. на Беларусі.
3. Развіццё адукацыі, навукі і літаратуры. Эпоха Асветніцтва.
4. Беларускае мастацтва эпохі Рэчы Паспалітай.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Францішка Уршуля Радзівіл - пісьменніца і драматург свайго часу.
• Роля Берасцейскай уніі ў жыцці беларускага грамадства.
• Стараабраднікі на землях Беларусі.
• Сармацкая тэорыя ў беларускім мастацтве эпохі Рэчы Паспалітай.
• Пабытовая культура насельніцтва Беларусі XVIII ст.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Экаперспектыва, 2000 – 2005. – Т.3: Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII – XVIII стст.) / Ю. Бохан, В. Голубеў, У. Емяльянчык і інш. – 2004. – С. 148 – 169, 260 – 317.
2. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 233 – 256.
3. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 81 – 88.



4. Андрэева Е.Г., Лыч Л.М. Адукацыя на беларускіх землях Рэчы Паспалітай // Адукацыя і выхаванне. – 2002. – №8. – С. 68 – 74.
5. Бельскі, А.М. Вялікае мастацтва артылерыі: Казімір Семяновіч / А.М. Бельскі, М.А. Ткачоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 52 с.
6. Болатава, Ю. Стараабраднікі Беларускага Падзвіння і Падняпроўя: гісторыя і сучаснасць / Ю. Болатава // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 9. – С. 10.
7. Высоцкая, Н.Ф. Искусство Беларуси XII – XVIII вв. / Н.Ф. Высоцкая. – 3–е изд. – Минск, 2002. – 27 с.
8. Габрусь, Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т.В. Габрусь. – Мінск: Ураджай, 2001. – 286 с.
9. Гарбацкі А. Царкоўны раскол і старaверы на Беларусі ў другой палове XVII – першай палове XIX ст. // Беларускі гістарычны часопіс. – 1997. – № 4. – С. 60 – 66.
10. Гардзееў, Ю. Да пытання развіцця беларускай мовы ў XVIII ст. / Ю. Гардзееў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 11. – С. 3.
11. Грыцкевіч В.П. Адысея навагрaдскай лекаркі: Саламея Русецкая / В.П. Грыцкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990 – 53 с.
12. Іканапіс Беларусі XV – XVIII стагоддзяў: Альбом / Склад. Высоцкая Н.Ф. – Мінск: Беларусь, 1998. – 232 с.
13. Короткая, Т.П. Старообрядчество в Белоруссии / Т.П.Короткая, Е.С. Прокошина, А.А. Чудникова; под ред. А.С. Майхровича. – Минск: Навука і тэхніка, 1992. – 115 с.
14. Лавыш, К. Арыенталізм як частка мастацкай культуры і побыту беларускай шляхты эпохі сарматызму / К. Лавыш // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 1. – С. 48 – 59.
15. Лазука, Б.А. Беларускае барока: гісторыка–тэарэтычныя праблемы стылю / Б.А. Лазука. – Мінск: Беларусь, 2001. – 144 с.
16. Мальдзіс, А. Як жылі нашы продкі ў XVIII ст. / А. Мальдзіс. – Мінск: Лімарыус, 2001. – 383 с.
17. Некрашэвіч–Кароткая, Ж. Усходні фарс з Нясвіжа / Ж. Некрашэвіч–Кароткая // Спадчына. – 2001. – № 5 – 6. – С. 187 – 189.
18. Падокшын, С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (філасофска-гістарычны аналіз) / С.А. Падокшын. – 2–е выд. – Мінск: Бел. навука, 2000. – 111 с.
19. Прокошина, Е.С. Казимир Лыщинский / Е.С. Прокошина, В.Ф. Шалькевич. – Минск: Беларусь, 1986. – 93 с.
20. Радзівіл Ф. У. Суддзя, пазбаўлены розуму // Спадчына. – 2001. – № 5 – 6. – С. 190 – 220.

21. Саўчук Н. Беларуская батлейка // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – №3. – С.32 – 38.
22. Хурсан, Т. Рассяленне і заняткі стараабраднікаў на тэрыторыі Усаходняй Беларусі / Т. Хурсан // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 9. – С. 18.

***Метадычныя парады***

Беларуская культура эпохі Рэчы Паспалітай развівалася ва ўмовах акаталічвання і апалячвання насельніцтва, што, безумоўна, не магло не паўплываць на яе стан. Складанае было становішча праваслаўных і пратэстантаў, асабліва пасля актыўнай дзейнасці езуітаў, якія павярталі ў каталіцтва магнатаў і шляхту, таленавітую моладзь і простых людзей. Але, імкнучыся стварыць “адзіны непадзельны народ”, улады РП натыкнуліся на сур’ёзнае, перш за ўсё рэлігійнае, супрацьстаянне. Выхаваць насельніцтва, больш цярпімае да каталіцкай веры, імкнуліся праз царкоўную унію. У чым сутнасць пагаднення 1596 г. ў Брэсце паміж праваслаўнымі і каталіцкімі біскупамі? Якія мэты ставіла перад сабой праваслаўнае і каталіцкае святарства, падтрымліваючы ідэю царкоўнай уніі? Як ішло распаўсюджанне новай веры? Прааналізуйце стан уніяцтва на Беларусі ў канцы XVIII ст.

Рэлігійнае супрацьстаянне становіцца адной з галоўных тэм грамадска-палітычных твораў гэтага перыяду. Аўтары выказваюць ідэі скептыцызму, вольнадумства і атэізму. Крытыкуецца феадальна-прыгонніцкая сістэма, саслоўныя і класавыя адносіны, феадальнае права і суд, дзяржаўны лад і палітыка ўрада. Становяцца папулярнымі ідэі верацярпімасці, свабоды слова. Ідэі якіх прадстаўнікоў грамадска-палітычнай думкі XVII – пачатку XVIII ст. падаліся вам найбольш цікавымі?

Аснову культуры складае асвета. Прааналізуйце стан адукацыйнай справы ў РП. У чым сутнасць рэформаў, якія праводзіліся ў 70-я гг. XVIII ст. Адукацыйнай камісіяй? Важкіх поспехаў дасягаюць у гэты час прыродазнаўчыя навукі. Адкрыцці ў прыродазнаўстве і дасягнненні гуманітарных навук спрыялі ўсталяванню Асветніцтва. У якіх галінах культуры праявілася гэтая эпоха на Беларусі? У чым яе сутнасць? Назавіце асноўных прадстаўнікоў беларускага Асветніцтва, прадстаўце асноўныя іх дасягненні.

Развіццё літаратуры на Беларусі адзначана заняпадам летапісання і з’яўленнем новых жанраў (палемічная публіцыстыка, паэзія, палітычная сатыра, мемуарная літаратура). Адметнай рысай існавання літаратуры ў гэты час з’яўляецца яе полілінгвістычны характар. Як вы разумееце гэтую з’яву? Зрабіце кароткі агляд літаратурнай творчасці дадзенага перыяду.



Аналіз беларускага мастацтва XVII-XVIII стст. мэтазгодна пачынаць з вызначэння асаблівасцей стылю барока, які пераважае ў архітэктуры і жывапісе. Прааналізуйце асаблівасці стылю на прыкладзе вядомых архітэктурных і мастацкіх помнікаў. Узгадайце асноўныя этапы развіцця архітэктурнага барока і адметнасці гэтага стылю на беларускіх землях. Высокага ўзроўню дасягае ў гэты час тэатральнае і музычнае мастацтва. Вызначце асноўныя этапы развіцця беларускага тэатра (батлейка, школьны тэатр, прыгонны тэатр). Прыгадайце знакамітыя музычныя творы і найвядомейшых кампазітараў дадзенай эпохі.

Зрабіце вывад аб асноўных тэндэнцыях, цяжкасцях і дасягненнях беларускай культуры эпохі Рэчы Паспалітай.

## Тэма 10. БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (канец XVIII – першая палова XIX ст.)

1. Адміністратыўна-тэрытарыяльныя і прававыя пераўтварэнні царскага ўрада на беларускіх землях у канцы XVIII – пач. XIX ст.
2. Беларусь у вайне 1812 г.
3. Развіццё грамадска-палітычнай думкі і нацыянальна-вызваленчая барацьба на тэрыторыі Беларусі ў першай траціне XIX ст. Паўстанне 1830 – 1831 гг. і яго вынікі.
4. Заняпад феадальна-прыгонніцкай сістэмы гаспадарання ў першай палове XIX ст.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Масонства на Беларусі.
• Дваранскае саслоўе Беларусі ў першай палове XIX ст.
• Рэформа П. Кісялёва ў дзяржаўнай вёсцы.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава, С.Я. Сяльвёрстава, І.А. Фёдараў. – Мінск: РІВШ БДУ, 2000 – 2002. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. / І.П. Крэнь [і інш.] – 2000. – С. 4 – 82.
2. Гісторыя Беларусі з 1795 г. да вясны 1917 г.: вучэб. дапам. / І.І. Коўкель, І.П. Крэнь, Л.У. Бярэйшык [і інш.]; рэд. калегія: І.П. Крэнь, І.І. Коўкель. – Мінск: Аверсэв, 2001. – С. 53 – 123.
3. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 89 – 114.
4. Нарысы гісторыі Беларусі: у 2 ч. / М.П. Касцюк [і інш.]. – Мінск: Беларусь,1994. – Ч.1. – С. 267 – 289.

5. Вольныя муляры ў беларускай гісторыі. Канец XVIII – пачатак XX ст. – Вільня: Gudas, 2005. – 280 с.
6. Гарбачова, В.В. Паўстанне 1830 – 1831 гадоў на Беларусі / В.В. Гарбачова. – Мінск: БДУ, 2001. – 184 с.
7. Дабранскі, С. Масонскія лёжы ў Літве / С. Дабранскі // Спадчына. – 1997. – № 1. – С. 26 – 51.
8. Дабранскі, С. Нарысы з гісторыі масонства ў Літве / С. Дабранскі // Спадчына. – 1997. – № 3. – С. 42 – 72.
9. Марозаў, С. "Патрыёты Айчыны", або "Племя сарматаў" у Віленскім універсітэце ў 1827 – 1828 гг. / С. Марозаў // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 6. – С. 19.
10. Сосна, У.А. Рэфармаванне дзяржаўнай вёскі на Беларусі ў канцы XVIII – 60-х гг. XIX ст. / У.А. Сосна // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: Вуч.-метад. зб. – Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1997. – С. 15 – 34.
11. Туміловіч, Г. Дваранства на Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. / Г. Туміловіч // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 53 – 59.
12. Філатава, А. Стан беларуска–літоўскага грамадства ў час вайны 1812 г. / А. Філатава // Французская рэвалюцыя і лёсы свету. – Мн., 1992.
13. Швед, В.В. Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII – першая чвэрць XIX ст.): бібліягр. слоўн. / В.В. Швед. – Гродна: Гродз. дзярж. ун-т імя Я. Купалы, 2007. – 275 с.
14. Швед, В.В. Паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска–палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863) / В.В. Швед; навук. рэд. П.І. Брыгадзін. – Гродна: Гродз. дзярж. ун–т імя Я. Купалы, 2001. – 415 с.

***Метадычныя парады***

Пры падрыхтоўцы да дадзенага практычнага занятку студэнт павінен звярнуць увагу на тое, якім чынам адбывалася далучэнне беларускіх зямель да Расіі, разгледзець адміністрацыйна-тэрытарыяльныя і прававыя пераўтварэнні царскага ўрада на зноўдалучаных землях, яго адносіны да розных груп насельніцтва (шляхты, мяшчан, сялян, яўрэяў, каталікоў, праваслаўнай царквы і г. д.).

Пры адказе на першае пытанне многія студэнты памылкова ўказваюць на тое, што працэс далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі скончыўся трэцім падзелам Рэчы Паспалітай. На самой справе крайнія заходнія раёны Беларусі (Беласточчына) ўвайшлі ў склад Расіі толькі ў 1807 г. пасля падпісання Тыльзіцкай мірнай дамовы паміж імператарамі Аляксандрам I і Напалеонам Банапартам. Да гэтага часу яны знаходзіліся ў складзе Прускай дзяржавы. Палітыка царскай адміністрацыі на зноўдалучаных тэрыторыях адрознівалася пэўнай асцярожнасцю, асабліва ў адносінах да пануючага шляхецкага саслоўя. Так, да 30-х гг. XIX ст. ў беларускіх губернях дзейнічаў Статут 1588 г., адносна вольна развівалася рымска-каталіцкая і уніяцкая цэрквы. Больш за тое, Кацярына II дазволіла езуітам дзейнічаць на тэрыторыі Расіі нават пасля забароны ордэну рымскім папам. Да 1820 г. цэнтрам дзейнасці езуітаў усяго свету быў горад Полацк. У 1812–1820 гг. тут працавала вышэйшая навучальная ўстанова – Полацкая езуіцкая акадэмія. Час кіравання Аляксандра I наогул характэрызуецца пікам паланізацыі.

Аднак адносіны мясцовага насельніцтва да царскіх улад заставаліся варожымі. Гэтым тлумачыцца падтрымка часткай шляхты і гараджан Напалеона падчас вайны 1812 г., дзейнасць таемных дэмакратычных таварыстваў, а таксама паўстанне 1830–1831 гг. Пасля падаўлення паўстання ўлады рэзка змянілі палітыку задавальнення шляхецкага саслоўя на рэпрэсіўныя меры. Уважліва разгледзьце мерапрыемствы царскай адміністрацыі на беларускіх землях. У чым была іх сутнасць? Якія сацыяльна-палітычныя наступствы яны мелі?

Пры адказе на апошняе пытанне трэба ўважліва разгледзець праблемы развіцця эканомікі Беларусі ў 1772–1861 гг. Чаму існаванне прыгоннага права запавольвала яе далейшае развіццё? У чым сутнасць пераўтварэнняў, прынесеных у дзяржаўную вёску рэформай П. Кісялёва?

**Тэма 11. НОВАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў БССР**

1. Стан эканомікі Усходняй Беларусі ў 1919–1921 гг.
2. Пераўтварэнні ў сферы эканомікі і дзяржаўнага кіраўніцтва БССР ў 1920-х гг.
3. Развіццё сельскай гаспадаркі БССР ў 1921–1928 гг.
4. Прамысловасць і гандаль БССР – гады нэп.
5. Палітыка беларусізацыі.

***Тэмы для рэфератаў:***

• Палітыка беларусізацыі на Беларусі і яе вынікі.
• Удзел БССР у саюзных і міжнародных кірмашах і выставах (1921–1929).

***Літаратура***

1. История Беларуси: учебное пособие / Е.Л. Абецедарская, П.И. Бригадин, Л.А. Жилунович [и др.]; под ред. А.Г. Кохановского и др. – Минск: Экоперспектива, 1997. – С. 213 – 219.

2. История Беларуси в документах и материалах / Авт.–сост. И.Н. Кузнецов, В.Г. Мазец. – Минск: Амалфея, 2000. – С. 397 – 412.
3. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2-е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 392 – 413.
4. Экономическая история Беларуси: учеб. пособие / В.И. Голубович, Г.И. Ермашкевич, Г.П. Бушчик [и др.]; под ред. проф. В.И. Голубовича. – 3-е изд., доп. – Минск: ВП "Экоперспектива", 2004. – С. 198 – 123.
5. Эканамічная гісторыя Беларусі: вучэб. дапаможнік / В.І. Галубовіч, Р.І. Ермашкевіч, Г.П. Бушчык [і інш.]; пад рэд. праф. В.І. Галубовіча. – 3-е выд., дап. і перапрац. – Мінск.: ВП "Экаперспектыва", 1999. – С. 232 – 255.
6. Бандарэнка, М. Беларусізацыя ў вайсковых часцях у 1920 – 1930-я гг. / М. Бандарэнка // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 4. – С. 11–16.
7. Бяспалая, М. Беларусь на Першай Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужнай выставе 1923 г. / М. Бяспалая // Спадчына. – 1997. – № 1. – С. 101 – 109.
8. Бяспалая, М. Эканамічнае развіццё беларускай вёскі (20-я гг. XX ст.) / М. Бяспалая // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 1.
9. Вялікі, А. "Чырвоная" беларусізацыя / А. Вялікі // Спадчына. – 2001. – №3. – С. 50–68.
10. Ходзін, С.М. Беларуская вёска: ад дэкрэта аб зямлі да суцэльнай калектывізацыі / С.М. Ходзін // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 117 – 128.

***Метадычныя парады***

Ваенныя дзеянні падчас першай сусветнай, а потым і савецка-польскай вайны прывялі да пагаршэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі на Беларусі. Ужо ў першыя гады абвяшчэння савецкай улады і асабліва пасля абвяшчэння БССР і Літбел новыя ўлады імкнуліся да суцэльных змен у грамадскіх адносінах. Гэтым тлумачыцца правядзенне т. зв. палітыкі "ваеннага камунізму". Пры вывучэнні дадзенай тэмы вам трэба ўважліва разгледзець асноўныя вынікі першых савецкіх рэформ. Якім чынам яны адбіліся на эканоміцы Беларусі? Да якіх сацыяльна-эканамічных і палітычных змен прывялі? У чым заключалася галоўная мэта новай эканамічнай палітыкі, абвешчанай у 1921–1922 гг.? З якіх рэформ яна складалася? Якія сацыяльна-палітычныя змены ім папярэднічалі?

Пры разглядзе трэцяга і чацвёртага пытанняў звярніце пільную ўвагу на пэўныя асаблівасці правядзення рэформ у галінах сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю. БССР лічылася адной з найбольш адсталых рэспублік СССР. Таму палітыка рэфармавання тут адрознівалася некаторай аднабаковасцю (найбольш актыўнае рэфармаванне адбывалася ў сферы сельскай гаспадаркі) і асцярожнасцю ў дачыненні да прамысловага патэнцыялу краіны. Характэрна, што некаторыя пастановы ўрада мелі вельмі нізкую эфектыўнасць. Так, прадпрымальнікі амаль не ўкладалі сродкі ў арэнду прадпрыемстваў, таму што большасць з іх знаходзілася ў дрэнным стане, і ўкладанне фінансаў у сферу гандлю давала большыя прыбыткі. Працяглая і дрэнна абсталяваная заходняя мяжа ператварылася ў сапраўднае Эльдарада для кантрабандыстаў, што не дазваляла ў поўным аб'ёме забяспечыць дзяржаўную манаполію на знешні гандаль. Найбольш моцныя змены адбыліся ў галіне сельскай гаспадаркі, дзе па ініцыятыве наркамзема Дз. Прышчэпава (1925–1929) пачалося стварэнне хутарскіх і водрубных, разам з падтрымкай калектыўных, гаспадарак.

Своеасаблівым працягам новай эканамічнай палітыкі становіцца палітыка беларусізацыі (1924–1928), якая праводзілася ў сацыяльнай сферы, у галіне адукацыі і культуры. Вызначце асноўныя дасягненні і пралікі гэтай палітыкі, адзначце асноўныя прычыны яе згортвання.

**Тэма 12. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ – НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА**

1. Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Сацыяльна-палітычныя рэформы першай паловы XX ст.
2. Змены сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў сярэдзіне 90-х гг. XX ст.
3. Рэспубліка Беларусь – паўнапраўны член сусветнай супольнасці.
4. Асноўныя тэндэнцыі культуры Беларусі ў канцы XX – пачатку XXI ст.

***Літаратура.***

1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 227 – 426.
2. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 1998. – Ч.2: Люты 1917 г. – 1997 г. – С. 370 – 445.

3. История Беларуси в документах и материалах / Авт.-сост. И.Н. Кузнецов, В.Г. Мазец. – Минск: Амалфея, 2000. – С. 635–656.
4. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 589 – 602.
5. Эканамічная гісторыя Беларусі: вучэб. дапаможнік / В.І. Галубовіч, Р.І. Ермашкевіч, Г.П. Бушчык [і інш.]; пад рэд. праф. В.І. Галубовіча. – 3-е выд., дап. і перапрац. – Мінск.: ВП "Экаперспектыва", 1999. – С. 401–429.
6. Бушчык, Г. Стан экономікі і развіццё знешнеэканамічных сувязей Беларусі ў 1990–2005 гг. / Г. Бушчык // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 3. – С. 3.
7. Беларусь и Россия: организационно–правовые основы интеграции (1996–2001) / Козик Л.П. [и др.]. – Минск: Полымя, 2001. – 332 с.
8. Каралёнак, Л. Беларусь і Вялікабрытанія: палітычныя адносіны ў 1991 – 2003 гг. / Л. Каралёнак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 9.
9. Конституция Республики Беларусь 1994 года с изменениями и дополнениями. Принята на референдуме 24 ноября 1996 г. – Минск, 2000.
10. Коршук, В.К. Политические партии Республики Беларусь: материалы для самостоятельной работы студентов / Авт.–сост.: В.К. Коршук, А.Г. Кохановский, И.Ф. Романовский. – Минск: БГУ, 2005. – 277 с.
11. Навіцкі, У. Беларусь і праблемы ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 4. – С. 3.
12. Турбан, Г.В. Внешнеэкономическая деятельность / Г.В. Турбан. – 2-е изд., перераб. и доп. – Минск: Вышэйшая школа, 1999. – 210 с.
13. Землякоў, Л. Рэлігія ў сучаснай Беларусі / Л. Землякоў, І. Жылінская // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 6. – С. 3.
14. Каваленя, А. Нацыянальная акадэмія навук Беларусі: старонкі гісторыі і сучаснасць / А. Каваленя // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 12. – С. 3.
15. Смолікава, Т. Уплыў медыякультуры на духоўную культуру моладзі Беларусі / Т. Смолікава // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 7. – С. 8.



***Метадычныя парады***

Пры падрыхтоўцы да практычнага занятку на гэтую тэму студэнт павінен уяўляць, перш за ўсё, асноўныя праблемы развіцця Беларусі на сучасным этапе. У прыватнасці, адказваючы на першае пытанне, варта вызначыць аб'ектыўныя прычыны абвяшчэння незалежнасці Беларусі: працэс хуткай дэзінтэграцыі СССР, разрыў эканамічных сувязей паміж савецкімі рэспублікамі, нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, імкненне БССР да пабудовы суверэннай дзяржавы і г.д. Пакажыце асноўныя кірункі рэфармавання сацыяльна-палітычнага і эканамічнага жыцця рэспублікі ў першай палове 1990-х гг. Як адбываўся працэс дэмакратызацыі грамадскіх адносін? Як вырашаліся праблемы дзяржаўнага будаўніцтва? Дайце ацэнку сацыяльнай і палітычнай сітуацыі ў Беларусі на гэты перыяд. Якое значэнне мела прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г.? Як адбываўся гэты працэс?

Пры адказе на другое пытанне варта адлюстраваць прычыны і перадумовы змянення ўнутрыпалітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі ў другой палове 90-х гг., прааналізаваць вынікі першых прэзідэнцкіх выбараў 1994 г., а таксама рэферэндумаў 1995 і 1996 гг. Важна таксама паказаць, як змяніліся прыярытэты дзяржаўнага і эканамічнага будаўніцтва, адносіны паміж уладнымі структурамі і палітычнай апазіцыяй. Таксама разгледзьце вынікі апошніх парламенцкіх выбараў і прэзідэнцкіх выбараў 2001 і 2006 гг. Якія кірункі сацыяльна-палітычнага і эканамічнага развіцця стаяць перад Рэспублікай Беларусь у XXI ст.?

Знешнепалітычная і эканамічная дзейнасць з'яўляецца неад'емным атрыбутам суверэннай дзяржавы. Пры адказе на трэцяе пытанне важна паказаць, як змяніліся падыходы да міжнародных адносін пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі? Як фарміравалася знешнепалітычная дактрына нашай дзяржавы? Звярніце ўвагу на пашырэнне міжнародных эканамічных сувязей, працэсы глабалізацыі ў свеце, змены адносін да дыяспары (беларусаў, якія жывуць за мяжою). Якое месца займае Беларусь у Садружнасці Незалежных Дзяржаў? Што ўяўляе сабою працэс інтэграцыі Беларусі і Расіі? З якімі краінамі далёкага замежжа наладжваюцца цесныя сувязі? Пакажыце праблемы і перспектывы развіцця міжнародных адносін Рэспублікі Беларусь.

Адказ на пытанне пра культурнае жыццё Беларусі на сучасным этапе павінен уключаць аналіз дасягненняў навукі, адукацыі, літаратуры, мастацтва, архітэктуры, тэатра і кіно, характэрных для гэтага перыяду. Звярніце ўвагу на змены ў адносінах да моўнай палітыкі. Разгледзьце асноўныя кірункі сучаснай культуры. З якімі цяжкасцямі, на ваш погляд, сутыкаецца сучасная беларуская культура?

### 3.3. Метадычныя парады для падрыхтоўкі да практычных заняткаў для студэнтаў завочнай формы навучання

Практычныя заняткі з'яўляюцца неад'емнай часткай структуры вучэбнага працэса. Яны закліканы актывізаваць самастойную працу студэнтаў, садзейнічаюць больш глыбокаму засваенню некаторых базавых пытанняў курса. Пытанні, вынесеныя на практычныя заняткі, вывучаюцца студэнтамі самастойна па рэкамендаванай ці па іншай даступнай студэнтам навуковай і вучэбна-метадычнай літаратуры і абмяркоўваюцца на занятках калектыўна. Для самастойнай падрыхтоўкі студэнтаў-завочнікаў выносяцца комплексныя тэмы, якія ахопліваюць храналагічна працяглыя перыяды ў гісторыі нашай краіны.

**Тэма 1. ПЕРШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎТВАРЭННІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (IX - першая палова XIII ст.)**

1. Фарміраванне феадальных адносін на беларускіх землях у IX–XIII стст.
2. Полацкае княства і яго барацьба за незалежнасць у IX–XII стст. Асаблівасці развіцця Тураўскага княства ў IX–XII стст.
3. Феадальная раздробленасць на тэрыторыі Беларусі (XII–XIII стст.).
4. Барацьба беларускіх княстваў супраць іншаземных захопнікаў.
5. Хрысціянізацыя беларускіх зямель.
6. Асноўныя дасягненні беларускай культуры ў IX–XIII стст.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 44 – 70.
2. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С. 36 – 167, 168 – 186, 370 – 389, 482 – 495.
3. Пічэта, У.І. Гісторыя Беларусі / У.І. Пічэта. – Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2005. – С. 41 – 103.
4. Сагановіч, Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя / Г. Сагановіч. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. – С. 25 – 58.
5. Чигринов, П. Г. Очерки истории Беларуси / П.Г. Чигринов. – Минск: Полымя, 2002. – С.17 – 44.
6. Арлоў, У.А. Асветніца з роду Усяслава: Еўфрасіння Полацкая / У.А. Арлоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 53 с.
7. Высоцкая, Н.Ф. Искусство Беларуси XII – XVIII вв. / Н.Ф. Высоцкая. – 3-е изд. – Минск, 2002. – 27 с.
8. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. – 366 с.
9. Краўцэвіч, А. Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда / А. Краўцэвіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 44 с.
10. Лысенко, П.Ф. Туровская земля IX – XIII вв. / П.Ф. Лысенко. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 266 с.
11. Саверчанка, І.В. "Полацкі летапіс" – галоўная крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст. / І.В. Саверчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – №5. – С. 13–18.
12. Тарасаў, С.В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С.В. Тарасаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 67 с.
13. Штыхаў, Г.В. Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі / Г.В. Штыхаў. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Права і эканоміка, 2002. – 89 с.

***Метадычныя парады***

У першым пытанні тэмы патрэбна разгледзець сацыяльна-эканамічныя адносіны, якія прывялі да фарміравання першых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі нашай краіны. Феадалізм – гэта сацыяльна-палітычная і эканамічная сістэма, пры якой феадалы (ад старафранцузскага – уладальнікі) эксплуатуюць асноўную масу насельніцтва шляхам манапалізацыі ўласнасці на зямлю і частковага ці поўнага падпарадкавання асноўных вытворцаў – сялян. Якімі рысамі адзначаецца феадальны лад? У IX–XIII стст. феадальныя адносіны на тэрыторыі Беларусі знаходзіліся толькі на першапачатковым этапе развіцця. Вам патрэбна паказаць, якія працэсы падштурхнулі фарміраванне феадальнага ладу, якія формы феадальнага землекарыстання пераважалі. Таксама разгледзьце праблему фарміравання асноўных саслоўяў феадальнага грамадства: якім чынам фарміруюцца групы феадалаў-землеўласнікаў і залежных сялян? Якія катэгорыі насельніцтва папярэднічаюць гэтым групам?

У другім пытанні неабходна, перш за ўсё, прааналізаваць асноўныя перадумовы фарміравання першых дзяржаваў на беларускіх землях. Далей разгледзьце асноўныя тэндэнцыі палітычнага развіцця Полацкага і Тураўскага княстваў, пазнаёмцеся з самымі значнымі падзеямі ў гісторыі Полаччыны і Тураўшчыны X–XI стст. Чаму, на вашу думку, Полацкае княства значна раней за астатнія землі Беларусі пачало барацьбу

за незалежнасць? У чым адметнасць палітычнага ладу Тураўшчыны? Якія фактары сталі прычынай заняпаду Старажытнарускай дзяржавы ў XII ст. і наступлення перыяду феадальнай раздробленасці?

Калі на беларускіх землях наступае перыяд феадальнай раздробленасці? Назавіце галоўныя прычыны гэтай з'явы, яе станоўчыя і адмоўныя бакі ў развіцці беларускіх княстваў. Вызначце новыя палітычныя цэнтры, якія з'яўляюцца на беларускіх землях у гэты час. Як праходзіла барацьба княстваў з нямецкімі крыжакамі і мангола-татарскімі захопнікамі? Прааналізуйце ступень небяспекі для беларускіх зямель з боку кожнага з праціўнікаў. Вызначце прычыны, па якіх на нашых землях не было ўсталявана панаванне мангольскіх качэўнікаў.

На развіццё пісьмовасці, літаратуры, грамадскай думкі, архітэктуры і мастацтва Беларусі вялікі ўплыў аказала прыняцце хрысціянства. Чым быў абумоўлены гэты крок? Як ішло распаўсюджванне новай веры на нашых землях? Падкрэсліце асноўныя вынікі прыняцця хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях.

Далей вызначце асноўныя дасягненні ў развіцці беларускай культуры эпохі першых дзяржаўных утварэнняў. Раскажыце аб з'яўленні на беларускіх землях кірылічнай сістэмы пісьма. Ці існавала пісьмовасць на Беларусі да канца X ст.? Якія археалагічныя знаходкі сведчаць аб шырокім распаўсюджванні пісьменнасці сярод розных слаёў насельніцтва? Чаму старажытнабеларуская літаратура насіла пераважна рэлігійны характар? Якую ролю ў развіцці старажытнабеларускай культуры адыграла дзейнасць праваслаўных дзеячаў XII ст. Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча, Аўраамія Смаленскага? Звярніце ўвагу на развіццё манументальнага дойлідства на беларускіх землях пасля прыняцця хрысціянства. Як змяняецца характар храмаў на працягу X–XII стст.? Прааналізуйце асноўныя рысы мясцовых школ дойлідства (полацкай і гродзенскай), якія фарміруюцца на Беларусі ў XII ст. Завяршаючы падрыхтоўку дадзенай тэмы зрабіце вывад аб тым, які ўплыў на развіццё беларускай культуры X – пач. XIII ст. аказала пыняцце хрысціянства.

### Тэма 2. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў ЭПОХУ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (ДРУГАЯ ПАЛОВА XIII – КАНЕЦ XVIII СТ.)

1. Фарміраванне беларускай народнасці.
2. Сутнасць эпохі Адраджэння і яе асаблівасці на Беларусі.
3. Рэлігійныя працэсы XVI–XVII стст. Рэфармацыя і Контррэфармацыя. Уніяцтва.



4. Беларускае Асветніцтва.
5. Дасягненні культуры Беларусі ў сістэме еўрапейскай культуры.

***Літаратура***

1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 75 – 90.
2. Бригадин, П.И. История Беларуси в контексте европейской истории: курс лекций / П.И. Бригадин. – Минск: ГИУсТ БГУ, 2007. – С. 64 – 66, 78 – 94.
3. Гісторыя Беларусі: у 6 т. / рэдкал.: М. Касцюк (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Экаперспектыва, 2000 – 2005. – Т.3: Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII – XVIII стст.) / Ю. Бохан, В. Голубеў, У. Емяльянчык і інш. – 2004. – С. 42 – 70, 148 – 169, 260 – 317.
4. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 233–256.
5. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2-е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 36 – 44, 81 – 88.
6. Сагановіч, Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя / Г. Сагановіч. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. – С. 153 – 182, 246 – 254.
7. Блинова, Т.Б. Иезуиты в Беларуси. Роль иезуитов в организации образования и просвещения / Т.Б. Блинова. – Гродно: [ГрГУ], 2002. – 427 с.
8. Іванова, Л. Рэфармацыйны рух на Беларусі (другая палова XVI – першая палова XVII стст.) / Л.С. Іванова // Беларус. гіст. часоп. – 1997 – №2. – С. 54 – 72.
9. Короткая, Т.П. Старообрядчество в Белоруссии / Т.П.Короткая, Е.С. Прокошина, А.А. Чудникова; под ред. А.С. Майхровича. – Минск: Навука і тэхніка, 1992. – 115 с.
10. Кушнярэвіч, А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст.: Гістарычнае і архітэктурна–археалагічнае даследаванне / А.М. Кушнярэвіч; навук. рэд. Г.В. Штыхаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 148 с.
11. Марозава, С.В. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596 – 1839 гады) / С.В. Марозава; пад навук. рэд. У.М. Конана. – Гродна: Гродз. дзярж. ун–т імя Я. Купалы, 2001. – 352 с.
12. Падокшын, С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (філасофска-гістарычны аналіз) / С.А. Падокшын. – 2–е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2000. – 111 с.

13. Пилипенко, М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция / М.Ф. Пилипенко. – Минск: Беларусь, 1991. – 143 с.

***Метадычныя парады***

Дадзены практычны занятак прысвечаны аналізу культурных і рэлігійных працэсаў даволі працяглага па часе перыяду, падчас якога беларускія землі ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага, а затым Рэчы Паспалітай. Першае пытанне семінара прысвечана аналізу этнічных працэсаў на тэрыторыі Беларусі, у выніку якіх з XIII–XIV ст. пачынаецца фарміраванне новай этнічнай супольнасці – беларускай народнасці. Разгледзьце асноўныя прыкметы народнасці. Якія фактары садзейнічалі і, наадварот, замаруджвалі працэс яе ўтварэння? Які ўплыў новая этнічная супольнасць аказала на палітычнае, эканамічнае і культурнае развіццё краю?

Другое пытанне разглядае культурныя працэсы т. зв. “залатога веку” беларускай культуры – эпохі Адраджэння (XVI ст.). Студэнты павінны ведаць сутнасць ідэалагічных асноў эпохі (антрапацэнтрызм, рацыяналізм, гуманізм). Гэтыя ідэі былі распаўсюджаны пераважна ў асяродку адукаванага і заможнага насельніцтва. Звярніце ўвагу на спецыфічныя рысы эпохі Адраджэння на Беларусі. Чым яны абумоўлены? Вызначце асноўных прадстаўнікоў эпохі Адраджэння на нашых землях. Які ўплыў іх дзейнасць аказала на развіццё айчыннай і заходнееўрапейскай культуры?

Ідэалогія эпохі Адраджэння вызначылася і ў такой з’яве рэлігійнага і грамадска-палітычнага жыцця ВКЛ, як Рэфармацыя. Нагадайце асноўныя прычыны і праявы гэтага працэсу ў Заходняй Еўропе. Чым адрозніваўся рэфармацыйны рух на Беларусі ад агульнаеўрапейскіх тэндэнцый? Чаму? Далей паспрабуйце выявіць характэрныя рысы Контррэфармацыі на нашых землях. Як сябе паказаў у гэтай справе ордэн езуітаў? Не лішнім будзе нагадаць, што ў гэтую эпоху назіраецца падзенне статусу беларускай культуры ў межах Рэчы Паспалітай, узмацняецца працэс паланізацыі і акаталічвання беларускага народа. Сур’ёзным крокам на шляху вырашэння рэлігійнага пытання ў Рэчы Паспалітай становіцца падпісанне Брэсцкай царкоўнай уніі (1596). У чым сутнасць уніяцтва? Якую мэту ставіла сабе каталіцкае і праваслаўнае духавенства, падпісваючы гэты дакумент? Якую ролю уніяцтва адыграла ў беларускай культуры?

Аснову культуры складае асвета. Прааналізуйце стан адукацыйнай справы ў РП. У чым сутнасць рэформаў, якія праводзіліся ў 70-я гг. XVIII ст. Адукацыйнай камісіяй? Важкіх поспехаў дасягаюць у гэты час прыродазнаўчыя навукі. Адкрыцці ў прыродазнаўстве і дасягненні



гуманітарных навук спрыялі ўсталяванню Асветніцтва. У якіх галінах культуры праявілася гэтая эпоха на Беларусі? У чым яе сутнасць? Назавіце асноўных прадстаўнікоў беларускага Асветніцтва, прадстаўце асноўныя іх дасягненні.

У апошнім пытанні семінара мэтазгодна прааналізаваць дасягненні ў развіцці філасофіі, педагогікі, прававой культуры, друку, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, навукі і тэхнікі. Паспрабуйце сфармуляваць асноўныя прынцыпы права, абвешчаныя ў ВКЛ у XV–XVI стст. (Статуты). Звяртаючыся да аналізу развіцця адукацыі падкрэсліце важную ролю канфесійнага фактару. Якія новыя тыпы школ з’явіліся ў гэты перыяд? Які ўплыў аказала эпоха Рэнесанса на кола выкладаемых у школе прадметаў? У адукацыі і выхаванні вялікае месца адводзілася тэатральнаму мастацтву. Эпоха Адраджэння дала новы штуршок развіццю навукі і тэхнікі. Значных вышынь дасягнулі геаграфія і картаграфія, астраномія, хімія, металургія, механіка. Напрыканцы звярніце ўвагу на развіццё беларускага мастацтва: літаратуры, музыкі, тэатра, архітэктуры і выяўленчага мастацтва. Разгледзьце асноўныя літаратурныя жанры і творы. Як на працягу стагоддзяў мяняецца роля старажытнабеларускай мовы? Дайце характарыстыку асноўных архітэктурных стыляў: готыкі, рэнесансу, барока, класіцызму. Нарэшце, зрабіце агульны вывад аб месцы беларускай культуры азначанага перыяду ў культурнай сістэме ВКЛ і РП.

**Тэма 3. БССР У 1919–1945 гг.**

1. Першае і другое абвяшчэнне БССР. Літбел.
2. Новая эканамічная палітыка ў БССР. Беларусізацыя.
3. Індустрыялізацыя і калектывізацыя сельскай гаспадаркі.
4. Перадумовы і пачатак другой сусветнай і Вялікай Айчыннай вайны. Уключэнне Заходняй Беларусі ў склад БССР.
5. Акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі.
6. Партызанская і падпольная барацьба.
7. Вызваленне Беларусі. Вынікі вайны.

***Літаратура***

1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 125 – 165, 180 – 190.
2. Гісторыя Беларусі: вучэбны дапаможнік / А. Абецэдарская, П. Брыгадзін [і інш.]; пад рэд. А. Каханоўскага. – Мінск: Экаперспектыва, 1996. – С. 324 – 359, 378 – 420.
3. Бригадин, П.И. История Беларуси в контексте европейской истории: курс лекций / П.И. Бригадин. – Минск: ГИУсТ БГУ, 2007. – С. 208 – 261.

4. Лютко, С. Баявыя дзеянні на цэнтральным участку Заходняга фронту летам 1941 г. / С. Лютко // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 3. – С. 18.
5. Мінскае антыфашысцкае падполле / Я.І. Бараноўскі [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1995. – 254 с.
6. Міхнюк У. Першае абвяшчэнне ССРБ: умовы, прычыны, значэнне / У. Міхнюк // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 3. – С. 3.
7. Мяснікоў, А. Нацдэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка / А. Мяснікоў. – Мінск: Беларусь, 1993. – 110 с.
8. Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925–1928 гг.): Отражение времени в архивных документах / Авт.-сост.: Р.П. Платонов и др.; под ред. Р.П. Платонова. – Минск: БелНИИДАД, 2001. – 312 с.
9. Преступления немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии 1941 – 1944. / Сост. З.И. Белуга, Н.И. Каминский, А.Л. Манаенков и др. – Минск: ГИ БССР, 1063. – 436 с.
10. Сямашка, Я. Армія Краёва на Беларусі / Я. Сямашка. – Мінск: Беларус. выд-ва "Хата", 1994. – 269 с.
11. Тимохович, И.В. Битва за Белоруссию. 1941–1944. / И.В. Тимохович. – Минск: Беларусь, 1994. – 253 с.
12. Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Ю. Туронак; пер з польск. В. Ждановіч; камент. А.М. Літвіна. – Мінск: Беларусь, 1993. – 236 с.
13. Ходзін, С.М. Беларуская вёска: ад дэкрэта аб зямлі да суцэльнай калектывізацыі / С.М. Ходзін // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 117 – 128.
14. Хоміч, С. Асноўныя этапы фарміравання тэрыторыі БССР (1918 – 1926 гг.) / С. Хоміч // Беларускі гістарычны агляд. Т. 7, сш. 2 (13), 2000.

***Метадычныя парады***

Пасля заканчэння першай сусветнай вайны і дэнансацыі бальшавіцкім урадам умоваў Брэсцкага міру (1918) на тэрыторыю Беларусі вяртаюцца савецкія органы ўлады. Але нямецкая акупацыя, дзейнасць БНР і прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху паўплывалі на рашэнне цэнтральнага ўрада бальшавікоў аб абвяшчэнні на беларускіх землях незалежнай дзяржавы. Каму з прадстаўнікоў Беларусі належыць асобая роля ў стварэнні БССР? Больш падрабязна спыніцеся на першым абвяшчэнні БССР (1919). Новай небяспекай для савецкай краіны становяцца планы Польскай дзяржавы аб вяртанні да межаў 1772 года. Гэта, у сваю чаргу, уплывае на ўтварэнне супольнай беларуска-літоўскай дзяржавы (Літбел). Для чаго было створана падобнае аб'яднанне? На якіх умовах? Раскажыце аб асноўных падзеях савецка-польскай вайны на Беларусі і другім абвяшчэнні БССР (1920). Падкрэслім, што тэрыторыя БССР узору 1920 г. складала шэсць паветаў Мінскай губерні. Вызначце асноўныя ўмовы Рыжскага міру (1921) і яго ўплыў на лёс беларусаў. Апішыце падзеі першага і другога узбуйненняў БССР.

У чым заключалася галоўная мэта новай эканамічнай палітыкі, абвешчанай у 1921–1922 гг.? З якіх рэформ яна складалася? Якія сацыяльна-палітычныя змены ім папярэднічалі? Звярніце пільную ўвагу на пэўныя асаблівасці правядзення рэформ у галіне сельскай гаспадаркі, прамысловасці і гандлю. БССР лічылася адной з найбольш адсталых рэспублік СССР. Таму палітыка рэфармавання тут адрознівалася некаторай аднабаковасцю (найбольш актыўнае рэфармаванне адбывалася ў сферы сельскай гаспадаркі) і асцярожнасцю ў дачыненні да прамысловага патэнцыялу краіны. Найбольш моцныя змены адбыліся ў галіне сельскай гаспадаркі, дзе па ініцыятыве наркамзема Дз. Прышчэпава (1925–1929) пачалося стварэнне хутарскіх і водрубных, разам з падтрымкай калектыўных, гаспадарак. Своеасаблівым працягам новай эканамічнай палітыкі становіцца палітыка беларусізацыі (1924–1928), якая праводзілася ў сацыяльнай сферы, у галіне адукацыі і культуры. Вызначце асноўныя дасягненні і пралікі гэтай палітыкі, назавіце асноўныя прычыны яе згортвання.

Наступным крокам савецкага кіраўніцтва ў галіне рэфармавання эканомікі становіцца правядзенне палітыкі індустрыялізацыі. Дайце адзначэнне гэтай рэформы, назавіце крыніцы паступлення сродкаў для такога буйнамаштабнага працэсу. Якім чынам з індустрыялізацыяй звязана палітыка калектывізацыі?

Звяртаючыся да аналізу падзей, якія адбываліся на Беларусі падчас другой сусветнай вайны, студэнты павінны вызначыць асноўныя прычыны развязвання найбуйнейшага міжнароднага канфлікту, а таксама коратка ахарактэрызаваць адносіны да фашысцкай Германіі вядучых палітычных краін – Вялікабрытаніі, Францыі, ЗША і, нарэшце, СССР. Што сабою ўяўляў пакт Рыбентропа-Молатава аб падзеле сфер уплыву ў Еўропе? Як ён тычыўся беларускіх зямель? Як праходзіў працэс уключэння Заходняй Беларусі ў склад БССР? Якія праблемы вырашала савецкае кіраўніцтва да пачатку вайны з Германіяй? Далей трэба асвятліць прычыны пачатку Вялікай Айчыннай вайны, стратэгічныя

планы Германіі, ход ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г.

Пасля адступлення савецкіх войск уся тэрыторыя Беларусі апынулася пад акупацыяй. Разгледзьце працэс фарміравання грамадзянскай і ваеннай акупацыйнай улады на Беларусі. Якую палітыку праводзілі акупанты ў дачыненні мірнага насельніцтва? Раскрыйце сутнасць палітыкі генацыду, у тым ліку да яўрэяў і цыганоў (Халакост). Якія змены адбыліся ў сацыяльна-эканамічным жыцці? Што сабою ўяўляла дзейнасць калабарантаў? Паспрабуйце даць асабістую ацэнку гэтай з’явы.

Нягледзячы на жорсткія меры з боку захопнікаў, жыхары Беларусі стваралі партызанскія атрады. У гарадах дзейнічалі групы падпольшчыкаў. Акрамя савецкіх партызан і падпольшчыкаў барацьбу вялі польскія (Армія Краёва) і украінскія нацыяналісты. Дайце характарыстыку асноўным момантам гераічнага супраціўлення жыхароў Беларусі. Што такое “рэйкавая вайна”?

Пры асвятленні апошняга пытання прыпыніцеся на кароткай характарыстыцы асноўных этапаў вызвалення тэрыторыі Беларусі, а таксама падкрэсліце, якія наступствы для Беларусі мела другая сусветная вайна.

**Тэма 4. БССР У ПАСЛЯВАЕННЫ ПЕРЫЯД. РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ – НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА**

1. Аднаўленне народнай гаспадаркі БССР ў пасляваенны перыяд.
2. БССР і палітычная “адліга”.
3. Эканамічныя рэформы сярэдзіны 60-х гг. XX ст. НТР.
4. Палітыка “перабудовы”.
5. Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі.
6. Змены сацыяльна-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў РБ ў канцы XX – пачатку XXI ст.
7. Асноўныя тэндэнцыі развіцця беларускай культуры ў другой палове XX – пачатку XXI ст.

***Літаратура***

1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 227 – 426.
2. Бригадин, П.И. История Беларуси в контексте европейской истории: курс лекций / П.И. Бригадин. – Минск: ГИУсТ БГУ, 2007. – С. 273 – 314.
3. Гісторыя Беларусі: вучэбны дапаможнік / А. Абецэдарская, П. Брыгадзін [і інш.]; пад рэд. А. Каханоўскага. – Мінск: Экаперспектыва, 1996. – С. 421 – 486.



4. Чигринов, П. Г. Очерки истории Беларуси / П.Г. Чигринов. – Минск: Полымя, 2002. – С. 358 – 422.
5. Бушчык, Г. Стан эканомікі і развіццё знешнеэканамічных сувязей Беларусі ў 1990–2005 гг. / Г. Бушчык // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 3. – С. 3.
6. Галубовіч, В.І. Перадумовы, сутнасць і гістарычныя ўрокі гаспадарчай рэформы 1965 г. / В.И. Галубовіч // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі: вуч.–метад. зб. Вып. 2. / Г.П. Бушчык, У.А. Сосна, А.М. Сасім і інш.; пад агульн. рэд. В.І. Галубовіча. – Мінск: ВП “Экаперспектыва”, 1997. – С. 85–102.
7. Навіцкі, У. Асаблівасці культурнага жыцця на Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 96 – 102.
8. Навіцкі, У. Супярэчлівасць культурнага жыцця Беларусі ў сярэдзіне 50-х –пач. 80-х гг. / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 2.
9. Наука Беларуси в XX столетии / НАН Беларуси; редкол.: Н.А. Борисевич [и др.]. – Минск: Бел. наука, 2001. – 1006 с.
10. Социально– экономические преобразования в Белорусской ССР за годы Советской власти / под ред. акад. Ф.С. Мартинкевича. – Минск: Наука и техника, 1970. – 528 с.
11. Социально–политическая ситуация в Беларуси: проблемы и перспективы: По материалам социологического мониторинга: сб. науч. тр./ под ред. М.Н. Хурса. – Минск: [ИСПИ]., 2000. – 329 с.

***Метадычныя парады***

Дадзеная тэма ахоплівае даволі працяглы перыяд найноўшай гісторыі Беларусі, ад заканчэння другой сусветнай вайны да абвяшчэння незалежнасці і аналізу асноўных тэндэнцый сацыяльна-эканамічнага, культурнага і палітычнага жыцця краіны на сучасным этапе. Як аднаўлялася гаспадарка БССР пасля вайны? З якімі цяжкасцямі сутыкаюцца людзі? Вызначце асаблівасці аднаўленчых працэсаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Як мяняецца палітычны лад савецкай краіны ў сярэдзіне 1950-х гг.? Раскрыйце сутнасць тэрміна “адліга” і асноўны змест гэтага працэсу. Вызначце асноўны змест рэформаў 1965 г. у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Як змяняюцца настроі ў грамадстве на працягу гэтых некалькіх пасляваенных дзесяцігоддзяў? Чым гэта абумоўлена? Хто такія дысідэнты? У чым заключаецца асноўны змест палітыкі перабудовы? Чым гэты перыяд адзначаны ў палітычным, эканамічным і культурным жыцці нашай краіны? Як пачынаецца працэс абвяшчэння незалежнасці Беларусі?

Далей варта вызначыць аб’ектыўныя прычыны абвяшчэння незалежнай Беларусі: працэс хуткай дэзінтэграцыі СССР, разрыў эканамічных сувязей паміж савецкімі рэспублікамі, нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, імкненне БССР да пабудовы суверэннай дзяржавы і г.д. Пакажыце асноўныя кірункі рэфармавання сацыяльна-палітычнага і эканамічнага жыцця рэспублікі ў першай палове 1990-х гг. Як адбываўся працэс дэмакратызацыі грамадскіх адносін? Як вырашаліся праблемы дзяржаўнага будаўніцтва? Дайце ацэнку сацыяльнай, эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў Беларусі ў парламенцкі перыяд (1991–1994 гг.). Якое значэнне мела прыняцце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 г.?

У наступным пытанні варта адлюстраваць прычыны і перадумовы змянення ўнутрыпалітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі ў другой палове 90-х гг., прааналізаваць вынікі першых прэзідэнцкіх выбараў 1994 г., а таксама рэферэндумаў 1995 і 1996 гг. Важна таксама паказаць, як змяніліся прыярытэты дзяржаўнага і эканамічнага будаўніцтва, адносіны паміж уладнымі структурамі і палітычнай апазіцыяй. Разгледзьце вынікі прэзідэнцкіх выбараў 2001 і 2006 гг. Якія праблемы сацыяльна-палітычнага і эканамічнага развіцця стаяць перад Рэспублікай Беларусь у XXI ст.?

Адказ на пытанне пра культурнае жыццё Беларусі павінен уключаць аналіз дасягненняў навукі, адукацыі, літаратуры, мастацтва, архітэктуры, тэатра і кіно, характэрных для гэтага перыяду.

З якімі цяжкасцямі сутыкнулася беларуская культура ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі? Звярніце ўвагу на змены ў адносінах да моўнай палітыкі. Разгледзьце асноўныя кірункі, праблемы і дасягненні сучаснай культуры.

### 3.4. Кіруемая самастойная работа па гісторыі Беларусі для студэнтаў дзённай формы навучання

Практыка вынясення некаторых тэм курса (да 20% ад агульнага аб’ёма аўдыторнай нагрузкі) на самастойнае вывучэнне студэнтаў пад кантролем выкладчыка існуе ў Мінскім інстытуце кіравання з 2002 года. Звычайна для самастойнай распрацоўкі выносяцца тэмы нескладаныя і даволі даступныя па вучэбнай і метадычнай літаратуры. Па курсе гісторыі Беларусі прапануецца самастойнае вывучэнне студэнтамі наступных тэм:



| Тэма | лк | пз |
|---|---|---|
| Першыя дзяржаўныя ўтварэнні на тэрыторыі Беларусі (IX – першая палова XIII ст.) | 2 | |
| Культура беларускіх зямель у IX – пачатку XIII ст. | | 2 |
| Культура Беларусі ў другой палове XIII – першай палове XVI ст. | | 2 |
| Беларуская культура канца XVIII – пачатку XX ст. | | 2 |
| Заходняя Беларусь у складзе Польшчы (1921–1939) | 2 | |
| Беларусь у другой сусветнай вайне | 2 | |
| Развіццё беларускай савецкай культуры ў 1945–1991 гг. | 2 | |
| ***Усяго па дысцыпліне:*** | ***14*** | |

**Формай адпрацоўк**і дадзеных тэм з’яўляецца самастойнае вывучэнне студэнтамі ніжэй дадзеных пытанняў і напісанне (па выбару выкладчыка):

• плана-канспекта па асноўных пытаннях тэмы (на двайных аркушах паперы); планы-канспекты правяраюцца выкладчыкам;

• афармленне рэфератаў і дакладаў па асобных пытаннях дадзеных тэм;

• правядзенне калёквіуму;

• напісанне кантрольнай работы звычайнага тэкставага альбо тэставага характару;

• іншая форма, якую прызначае выкладчык.

### Тэма 1. ПЕРШЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎТВАРЭННІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ (IX – першая палова XIII ст.)

1. Фарміраванне феадальных адносін на беларускіх землях у IX–XIII стст.

2. Полацкае княства і яго барацьба за незалежнасць у IX–XII стст. Асаблівасці развіцця Тураўскага княства ў IX–XII стст.

3. Феадальная раздробленасць на тэрыторыі Беларусі (XII – пач. XIII ст.).

4. Барацьба беларускіх княстваў супраць іншаземных захопнікаў ў XII ст.

***Тэмы для дакладаў:***

• Легенды аб першых гаспадарах: Рагвалод і Тур.

• Горад Полацк у беларускай гісторыі.

• Полацкі князь Усяслаў Чарадзей – адметная асоба беларускай гісторыі.

• “Полацкі летапіс” як крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст.

• Шлях “з варагаў да грэкаў” у эканамічным і палітычным жыцці Полаччыны ў эпоху ранняга сярэднявечча.

• Паўсядзённае жыццё старажытнабеларускага грамадства у эпоху першых дзяржаўных утварэнняў.

• Эпоха феадальнай раздробленасці ў палітычным і эканамічным жыцці старажытнабеларускіх княстваў.

• Барацьба з крыжацкай агрэсіяй на беларускіх землях ў эпоху ранняга сярэднявечча.

***Літаратура***

1. Быкаў, У. Эканамічныя прычыны феадальнай раздробленасці Старажытнай Русі / У. Быкаў // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 34 – 41.

2. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 44 - 60.

3. Гісторыя Беларусі: у 2 ч.: курс лекцый / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С. 36–167.

4. Дзярновіч, С. Сувязі Полацка са Скандынавіяй у эпоху вікінгаў / С. Дзярновіч // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 38.

5. Дук, Дз. Паходжанне і ранняя гісторыя Полацка (VIII–X стст.) / Дз. Дук, В. Шайкоў // Беларус. гіст. часоп. – 2001. – № 6. – С. 14 – 23.

6. Ермаловіч, М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды / М. Ермаловіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. – 366 с.

7. Краўцэвіч, А. Тэўтонскі ордэн: Ад Ерусаліма да Грунвальда / А. Краўцэвіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 44 с.

8. Крыванос, Х. З варагаў пайшлі суровыя мужы / Х. Крыванос // Беларуская мінуўшчына. – 1993. – № 2.

9. Лысенко, П.Ф. Туровская земля IX–XIII вв. / П.Ф. Лысенко. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 266 с.

10. Мяцельскі, А. Землі Беларусі і Смаленскае княства (IX–XIII стст.) / А. Мяцельскі // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 2. – 17–27.

11. Памяць: Мінск: гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі: у 4 кн. / Рэдкал. Г.К. Кісялёў [і інш.]; уклад. А.А. Ляўшэвіч, В.С. Семенякоў; рэд. Г.В. Штыхаў. – Кн. 1. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – 574 с.



12. Пічэта, У.І. Гісторыя Беларусі / У.І. Пічэта. – Мінск: Выд. цэнтр БДУ, 2005. – С. 41–103.

13. Повесть временных лет / Пер. Д.С. Лихачева. – Петрозаводск: Карелия, 1991. – 188 с.

14. Прохоров, А.А. Князь Тур: история легенды: сакрализация княжеской власти у славян / А.А. Прохоров. – Минск: БГУ, 2005. – 250 с.

15. Саверчанка, І.В. “Полацкі летапіс” – галоўная крыніца палітычнай гісторыі Беларусі XII ст. / І.В. Саверчанка // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – №5. – С. 13–18.

16. Слово о полку Игореве / [Переложение] Е. Лукин. – М.: АСТ, 2007. – 110 с.

17. Тарасаў, С.В. Полацк IX–XVIII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С.В. Тарасаў. – 2-е выд. – Мінск: Беларуская навука, 2001. – 182 с.

18. Тарасаў, С.В. Чарадзей сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі / С.В. Тарасаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 67 с.

19. Темушев, С.Н. Княжеская власть и полюдье / С.Н. Темушев // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 3. – 2001. – № 2. – С. 9.

20. Чигринов, П. Г. Очерки истории Беларуси / П.Г. Чигринов. – Минск: Полымя, 2002. – С.17 – 36.

21. Штыхаў, Г.В. Старажытныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі / Г.В. Штыхаў. – 2-е выд., выпр. – Мінск: Права і эканоміка, 2002. – 89 с.

***Метадычныя парады***

Першае пытанне тэмы тычыцца аналізу сацыяльна-эканамічных адносін, якія прывялі да фарміравання першых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі нашай краіны. Феадалізм – гэта сацыяльна-палітычная і эканамічная сістэма, пры якой феадалы (ад старафранцузскага – уладальнікі) эксплуатуюць асноўную масу насельніцтва шляхам манапалізацыі ўласнасці на зямлю і частковага ці поўнага падпарадкавання асноўных вытворцаў – сялян. Якімі рысамі адзначаецца феадальны лад? У IX–XIII стст. феадальныя адносіны на тэрыторыі Беларусі знаходзіліся толькі на першапачатковым этапе развіцця. Вам патрэбна паказаць, якія працэсы падштурхнулі фарміраванне феадальнага ладу, якія формы феадальнага землекарыстання пераважалі, як феадальныя адносіны паўплывалі на развіццё заканадаўства? Таксама разгледзьце праблему фарміравання асноўных саслоўяў феадальнага грамадства: якім чынам фарміруюцца групы феадалаў-землеўласнікаў і залежных сялян? Якія катэгорыі папярэднічаюць гэтым групам?

Пры разглядзе другога пытання звярніце ўвагу на асноўныя канцэпцыі фарміравання дзяржаўнасці ва ўсходнеславянскім рэгіёне. У чым сутнасць нарманскай тэорыі? Прааналізуйце асноўныя перадумовы фарміравання першых дзяржаваў на беларускіх землях. Як у сучаснай гістарыяграфіі трактуецца Старажытнаруская дзяржава (Кіеўская Русь)? Далей прааналізуйце асноўныя тэндэнцыі палітычнага развіцця Полацкага і Тураўскага княстваў. Чаму, на вашу думку, Полацкае княства значна раней за астатнія землі Беларусі пачало барацьбу за незалежнасць? У чым адметнасць палітычнага ладу Тураўшчыны? Якія фактары сталі прычынай заняпаду Старажытнарускай дзяржавы ў XII ст.?

Калі на беларускіх землях наступае перыяд феадальнай раздробленасці? Назавіце галоўныя прычыны гэтай з'явы, яе станоўчыя і адмоўныя бакі ў развіцці беларускіх княстваў. Вызначце новыя палітычныя цэнтры, якія з'яўляюцца на беларускіх землях у гэты час.

Як праходзіла барацьба княстваў з нямецкімі крыжакамі і мангола-татарскімі захопнікамі? Прааналізуйце ступень небяспекі для беларускіх зямель з боку кожнага з праціўнікаў. Вызначце прычыны, па якіх на нашых землях не было ўсталявана панаванне мангольскіх качэўнікаў.

## Тэма 2. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКІХ ЗЯМЕЛЬ У IX – ПАЧАТКУ XIII ст.

1. Перадумовы, асаблівасці і вынікі распаўсюджвання хрысціянства на беларускіх землях ў X–XI стст.
2. Пісьменнасць і літаратура на старажытнабеларускіх землях.
3. Дойлідства і манументальны жывапіс. Асаблівасці мясцовых архітэктурных школ.
4. Прыкладное мастацтва, іканапіс, музыка.

***Тэмы для дакладаў:***

• Дахрысціянскія вераванні жыхароў Беларусі.
• Роля Еўфрасінні Полацкай ў рэлігійным і культурным жыцці Полаччыны.
• "Златавуст" з Турава (Кірыла Тураўскі).
• Святыя зямлі беларускай (Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Клімент Смаляціч, Аўраамій Смаленскі).
• Мастацтва будаваць храмы: дойлідства Беларусі X – XII стст.
• Абраз Адзігітрыі Полацкай XII ст. – помнік іканапісу часоў хрысціянізацыі на землях Беларусі.
• Полацкая школа дойлідства: фарміраванне, адметныя рысы, помнікі.



• Гродзенская школа дойлідства: фарміраванне, адметныя рысы, помнікі.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я.К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 60–70.
2. Гісторыя Беларусі: у 2 ч.: курс лекцый / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава [і інш.]. – Мінск: РІВШ, 2000. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. – С. 168 – 186, 370–389, 482–495.
3. Ковкель, И.И. История Беларуси. С древнейших времен до нашего времени / И.И. Ковкель, Э.С. Ярмусик. – 2-е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 16–18.
4. Сагановіч, Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя / Г. Сагановіч. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2001. – С. 48 – 58.
5. Арлоў, У. Еўфрасіння Полацкая / У. Арлоў. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. – 220 с.
6. Арлоў, У. Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны. Гісторыя крыжа святой Еўфрасінні Полацкай / У. Арлоў; навук. рэд. Г. Штыхаў. – Мінск: Асар, 1998. – 326 с.
7. Арлоў, У.А. Асветніца з роду Усяслава: Еўфрасіння Полацкая / У.А. Арлоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1989. – 53 с.
8. Высоцкая, Н.Ф. Искусство Беларуси XII–XVIII вв. / Н.Ф. Высоцкая. – 3-е изд. – Минск, 2002. – 27 с.
9. Загарульскі Э. Пераадоленне язычніцтва падчас хрысціянізацыі заходніх зямель Русі / Э. Загарульскі. // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 8. – С. 31.
10. Крук, Я. Сімволіка беларускай народнай культуры / Я. Крук. – 2-е выд. – Мінск: Беларусь, 2003. – 349 с.
11. Мельнікаў, А.А. Кірыл, епіскап Тураўскі: Жыццё, спадчына, светапогляд / А.А. Мельнікаў; пад рэд. В.А. Чамярыцкага. – 2-е выд. – Мінск: Бел. навука, 2000. – 459 с.
12. Тарасаў, К. Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны / К. Тарасаў. – Мінск: Полымя, 1990. – 263 с.
13. Трусаў, А. Старонкі мураванай кнігі: манументальная архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму / А. Трусаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 191 с.

**Метадычныя парады**

У пачатку дадзенай тэмы важна, перш за ўсё, звярнуць увагу на тое, якую ролю адыгрывала рэлігія ў жыцці старажытнага чалавека,

як яна ўплывала на яго паводзіны, на адносіны ў грамадстве. Што сабой уяўляла паганства старажытных насельнікаў Беларусі? Чым яно адрознівалася ад вераванняў суседзяў? Якім багам і духам пакланяліся нашы продкі? Які тып пахавання існаваў у славян дахрысціянскага перыяду?

На развіццё пісьмовасці, літаратуры, грамадскай думкі, архітэктуры і мастацтва Беларусі раннефеадальнага перыяду вялікі ўплыў аказала прыняцце хрысціянства. Чым быў абумоўлены гэты крок? Як ішло распаўсюджванне новай веры на нашых землях? Які прамежак часу заняў гэты працэс. Пракаменціруйце з'яву двухвер'я. Падкрэсліце асноўныя вынікі прыняцця хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях.

Трэцяе пытанне прысвечана праблеме з'яўлення на беларускіх землях кірылічнай сістэмы пісьма. Ці існавала пісьмовасць на Беларусі да канца X ст.? Якія археалагічныя знаходкі сведчаць аб распаўсюджванні пісьменнасці сярод розных слаёў насельніцтва? Раскажыце аб развіцці старажытнабеларускай літаратуры, праілюстраваўшы адказ характарыстыкай творчасці беларускіх хрысціянскіх аўтараў. Чаму старажытнабеларуская літаратура насіла пераважна рэлігійны характар?

Наступнае пытанне звяртаецца да будаўніцтва на нашых землях старажытных хрысціянскіх храмаў. Гэтую частку можна звязаць з асвятленнем будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку ў XI ст. Якія функцыі выконвала гэтая пабудова? У XII ст., з наступленнем феадальнай раздробленасці, пачынаюць фарміравацца мясцовыя школы дойлідства. Дарэчы прыдасца і аналіз асноўных рыс полацкай і гарадзенскай архітэктурных школ на прыкладзе захаваных да гэтага часу царквы Святога Спаса (Полацк) і Барысаглебскай /Каложскай царквы (Гародня). Апошняе пытанне прысвечана характарыстыцы прыкладнога мастацтва, іканапісу X–XIII стст.

Завяршаючы падрыхтоўку дадзенай тэмы зрабіце вывад аб тым, які ўплыў на развіццё беларускай культуры X – пач. XIII стст. аказала прыняцце хрысціянства.

## Тэма 3. КУЛЬТУРА БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XIII–XVI СТ.

1. Фарміраванне беларускай народнасці.
2. Сутнасць эпохі Адраджэння і яе асаблівасці на Беларусі.
3. Рэлігійныя працэсы XVI–XVII стст. Рэфармацыя і Контррэфармацыя.
4. Дасягненні культуры Беларусі ў сістэме еўрапейскай культуры.



***Тэмы для дакладаў:***

• Развіццё кнігадрукавання ў ВКЛ.

• Гуманізм у літаратуры ВКЛ: паслядоўнікі Скарыны (М. Гусоўскі, А. Волан і др.).

• Дзейнасць ордэна езуітаў на беларускіх землях у галіне адукацыі і культуры.

• Лютэранства і кальвінізм на Беларусі ў XVI ст.

• Погляды арыян ВКЛ і Польшчы.

• Храмы-кастэлі на землях Беларусі.

• Рэнесанс у беларускай архітэктуры эпохі ВКЛ.

***Літаратура***

1. Бригадин, П.И. История Беларуси в контексте европейской истории: курс лекций / П.И. Бригадин. – Минск: ГИУсТ БГУ, 2007. – С. 64–66.
2. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч. / І.П. Крэнь, І.І. Коўкель, С.В. Марозава, С.Я. Сяльвёрстава, І.А. Фёдараў. – Мінск: РІВШ БДУ, 2000 – 2002. – Ч.1: Са старажытных часоў да канца XVIII ст. / І.П. Крэнь [і інш.] – 2000. – С. 260–275, 302–330, 390–412, 441–452.
3. Блинова, Т.Б. Иезуиты в Беларуси. Роль иезуитов в организации образования и просвещения / Т.Б. Блинова. – Гродно: [ГрГУ], 2002. – 427 с.
4. Габрусь, Т.В. Саборы помняць ўсё: готыка і рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі / Т.В. Габрусь. – Мінск: Беларусь, 2007. – 165 с.
5. Дзіханава-Внукоўская Л.А. Францыск Ксаўе – місіянер ордэна езуітаў // Беларускі гістарычны часопіс. – 2003. – №2. – С. 32–39.
6. Жывапіс Беларусі XII–XVIII стагоддзяў: Фрэска, абраз, партрэт / Аўт. уступ. тэксту Н.Ф. Высоцкая. – Мінск: Беларусь, 1980. – 316 с.
7. Іванова, Л. Рэфармацыйны рух на Беларусі (другая палова XVI – першая палова XVII стст.) / Л.С. Іванова // Беларус. гіст. часоп. – 1997 – №2. – С. 54–72.
8. Кушнярэвіч А. Храмы-кастэлі Вялікага княства Літоўскага / А.М. Кушнярэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – № 2. – С. 26–37.
9. Кушнярэвіч, А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст.: Гістарычнае і архітэктурна-археалагічнае даследаванне / А.М. Кушнярэвіч; навук. рэд. Г.В. Штыхаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 148 с.
10. Пилипенко, М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция / М.Ф. Пилипенко. – Минск: Беларусь, 1991. – 143 с.

11. Подокшин, С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI – начало XVII в.) / С.А. Подокшин. – Минск: Навука и тэхніка, 1970. – 224 с.
12. Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока / І. Саверчанка. – Мінск: Тэхналогія, 1998. – 319 с.
13. Скарына, Ф. Творы: Прадмовы, сказанні, пасляслоў'і, акафісты, пасхалія / Ф. Скарына; уступ. арт., падр. тэкстаў, камент., слоўн. А.Ф. Коршунава. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 206 с.
14. Ткачоў, М.А. Замкі і людзі / М.А. Ткачоў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 184 с.
15. Франциск Скорина и его время: энцикл. справочник / Белорус. сов. энциклопедия; Редкол. И.П. Шамякин (гл. ред.) [и др.]. – Минск: БелСЭ, 1990. – 631 с.
16. Ходзін, С. Летапісанне на Беларусі / С. Ходзін // Беларус. гіст. часоп. – 1997 – №2. – С. 81 – 94.
17. Юхо, Я. Гістарычныя карані назвы Беларусь / Я. Юхо // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 39.

***Метадычныя парады***

Першае пытанне тэмы прысвечана аналізу этнічных працэсаў на тэрыторыі Беларусі, у выніку якіх з XIII–XIV стст. пачынаецца фарміраванне новай (пасля племені) этнічнай супольнасці – беларускай народнасці. Разгледзьце асноўныя прыкметы народнасці. Якія фактары садзейнічалі і, наадварот, запавольвалі працэс утварэння беларускай народнасці? Які ўплыў новая этнічная супольнасць аказала на палітычнае, эканамічнае і культурнае развіццё краю?

Другое пытанне разглядае культурныя працэсы т. зв. "залатога веку" беларускай культуры – эпохі Адраджэння. Студэнты павінны ведаць сутнасць ідэалагічных асноў эпохі (антрапацэнтрызм, рацыяналізм, гуманізм). Гэтыя ідэі былі распаўсюджаны пераважна ў асяродку адукаванага і заможнага насельніцтва. Звярніце ўвагу на спецыфічныя рысы эпохі Адраджэння на Беларусі. Чым яны абумоўлены?

Ідэялогія эпохі Адраджэння вызначалася і ў такой з'яве, як Рэфармацыя. Нагадайце асноўныя прычыны і праявы гэтага працэсу ў Заходняй Еўропе. Чым адрозніваўся рэфармацыйны рух на Беларусі ад агульнаеўрапейскіх тэндэнцый? Далей паспрабуйце выявіць характэрныя рысы Котррэфармацыі на нашых землях. Раскажыце аб дзейнасці езуітаў. Не лішнім будзе нагадаць, што ў гэтую эпоху назіраецца падзенне статусу беларускай культуры ў межах Рэчы Паспалітай.



У апошнім пытанні тэмы мэтазгодна прааналізаваць дасягненні ў развіцці філасофіі, педагогікі, прававой культуры, друку, архітэктуры, выяўленчага мастацтва, тэатра, навукі і тэхнікі. Як можна ацаніць узровень развіцця філасофскай думкі на Беларусі як часткі еўрапейскай культуры? Паспрабуйце сфарміраваць асноўныя прынцыпы права, абвешчаныя ў ВКЛ у XV–XVI стст. Звяртаючыся да аналізу развіцця адукацыі падкрэсліце важную ролю канфесійнага фактару. Якія новыя тыпы школ з'явіліся ў гэты перыяд? Які ўплыў аказала эпоха Рэнесансу на кола выкладаемых у школе прадметаў? У адукацыі і выхаванні вялікае месца адводзілася тэатральнаму мастацтву. Эпоха Адраджэння дала новы штуршок развіццю навукі і тэхнікі. Значных вышынь дасягнулі геаграфія і картаграфія, астраномія, хімія, металургія, механіка. Напрыканцы звярніце ўвагу на развіццё беларускага мастацтва: літаратуры, музыкі, тэатра, архітэктуры і выяўленчага мастацтва. Адзначце асноўныя літаратурныя жанры. Пазнаёмцеся з адметнымі рысамі вядучых стыляў (готыка, рэнесанс) у свецкай і культавай архітэктуры.

Нарэшце, зрабіце агульны вывад аб месцы беларускай культуры азначанага перыяду ў культурнай сістэме ВКЛ.

## Тэма 4. БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА КАНЦА XVIII – ПАЧАТКУ XX СТ.

1. Фарміраванне беларускай нацыі.
2. Праблемы складвання і развіцця беларускай літаратурнай мовы. Станаўленне новай беларускай літаратуры.
3. Развіццё беларускай навукі і адукацыі ва ўмовах царскай Расіі.
4. Мастацтва і архітэктура Беларусі XIX - пачатку XX ст.

***Тэмы для дакладаў:***

• Газеты "Наша доля" і "Наша ніва" і іх роля ў беларускім нацыянальным адраджэнні.
• Ідэалогія "заходнерусізму" і Беларусь.
• Пачаткі навуковага вывучэння беларускага краю.
• Уклад у прыродазнаўства беларускіх вучоных і нашых землякоў.

***Літаратура***

1. Гісторыя Беларусі з 1795 г. да вясны 1917 г.: вучэб. дапам. / І.І. Коўкель, І.П. Крэнь, Л.У. Бярэйшык [і інш.]; рэд. калегія: І.П. Крэнь, І.І. Коўкель. – Мінск: Аверсэв, 2001. – С. 124–146, 231–249, 320–338.
2. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. –

Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч.1: Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. – С. 285 – 303; 385 – 410.
3. Чигринов, П. Г. Очерки истории Беларуси / П.Г. Чигринов. – Минск: Полымя, 2002. - С.198 – 216, 265 – 277.
4. Гісторыя беларускай літаратуры XIX – пач. XX ст.: падручнік / пад агул. рэд. М.А. Лазарука, А.А. Семяновіча. – Мінск: Вышэйшая школа, 1998. – 559 с.
5. Багдановіч, М. Беларускае адраджэнне / М. Багдановіч; прадм. У.М. Лазоўскага. – Мінск: Універсітэцкае, 1994. – 31 с.
6. Гаранін, Л. Нацыянальная ідэя ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя / Л. Гаранін. – Мінск: Беларуская навука, 1996. – 176 с.
7. Грыгор'ева, В.В. Канфесіі на Беларусі (канец XVIII – XX ст.) / В.В. Грырор'ева, У.М. Завальнюк, У.І. Навіцкі, А.М. Філатава; Навук. рэд. У.І. Навіцкі. – Мінск: ВП "Экаперспектыва", 1998. – 340 с.
8. Гулак, А. Ідэі заходнерусізму ў "Гісторыі беларускага краю" Пятра Бяссонава / А. Гулак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 4. – С. 34.
9. Гусак, А.А. Практычная механіка і "мёртвыя душы" / А.А. Гусак. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 54 с.
10. Дабравольскі, В.А. Да ісціны – найпрасцейшым шляхам: Васіль Ермакоў / В.А. Дабравольскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 60 с.
11. Карскі Я. Беларусы / Уклад. і камент. С. Гараніна і Л. Ляўшун; Навук. рэд. А. Мальдзіс; Прадм. Я. Янушкевіча і К. Цвіркі. – Мн., 2001.
12. Лукін, В. "… сталася пуцяводнай зоркай…" / В. Лукін // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 3. – С. 25 – 31.
13. Процька, Т. Даследчык таямніцаў святла: Аляксандр Садоўскі / Т. Процька. – Мінск: Навука і тэхніка, 1994. – 63 с.
14. Снапкоўская, С. Адукацыйная палітыка і школа на Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. / С. Снапкоўская. – Мінск: Нац. інстытут адукацыі, 1998. – 191 с.
15. Унучак, А. "Наша ніва" і ідэйнае выхаванне беларускай інтэлігенцыі / А. Унучак // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 4. – С. 16.
16. Філякоў, У.Г. Шляхі развіцця беларускай культуры у пачатку XX ст. / У.Г. Філякоў // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 110 – 117.



17. Цьвікевіч, А. "Западно–руссизм": Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.: фотакопіі: у 2 ч./ А. Цьвікевіч. – Мінск: Белдзяржвыд, 1929.
18. Чаропка, В. Іван Хруцкі: адкрыццё мастака (да 200–годдзя з дня нараджэння) / В. Чаропка // Беларус. гіст. часоп. – 2010. – №.1. – С. 3 –14.
19. Чаропка, В. Творчы геній Напалеона Орды / В. Чаропка // Беларус. гіст. часоп. – 2007. – № 2. – С. 48 – 55.

***Метадычныя парады***

Адна з асноўных цяжкасцей, з якой сутыкаюцца студэнты пры падрыхтоўцы дадзенай тэмы, звязана з вялікім аб'ёмам матэрыялу, што раскіданы, як правіла, па трох раздзелах падручніка. Таму, надаючы вялікую ўвагу асобным падзеям, яны часта не бачаць агульных тэндэнцый у развіцці нашай культуры перыяду знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Галоўная задача дадзенай работы якраз і заключаецца ў вызначэнні агульнага накірунку культурных працэсаў гэтага часу.

Значны ўплыў на развіццё беларускай культуры аказвае спачатку пераважна польская, а пазней, пасля рэвалюцыйных падзей 1830-х і 1860-х гг., руская культура. На беларускіх землях распаўсюджваецца жорсткі прыгнёт з боку царскай улады, якая імкнецца даказаць, што гэтая тэрыторыя з'яўляецца заходняй часткай Расійскай імперыі, а яе насельніцтва не мае сваёй этнічнай адметнасці (ідэялогія "заходнерусізму"). Тым не менш менавіта ў гэты час беларускі этнас фарміруецца як нацыя. Адзначце прыкметы нацыі. Як ішоў працэс іх фарміравання? Які ўплыў фарміраванне нацыі аказвае на сацыяльна-эканамічныя і культурныяя працэсы, што адбываюцца ў краіне?

На пачатку XIX ст. наступае новы этап у развіцці беларускай літаратурнай мовы, якая пачала адраджацца на аснове фальклорных твораў і гаворак жыхароў вёскі. Але большая частка літаратурных твораў першай паловы XIX ст. пісалася па-польску. Чаму, на ваш погляд, многія беларускамоўныя творы гэтага часу насілі ананімны характар? Назавіце асноўныя літаратурныя стылі і жанры беларускай літаратуры.

Значныя зрухі і змены адбыліся ў галіне асветы. Яны былі выкліканы ўцягненнем сістэмы народнай асветы ў агульнарасійскую, а таксама працэсам пашырэння і дэмакратызацыі асветы. Напачатку XIX ст. ў Расійскай імперыі была створана адзіная сістэма агульнаадукацыйных школ з цэнтралізаваным кіраўніцтвам. Раскажыце аб дзейнасці Віленскай навучальнай акругі (1803–1824, 1850–1917) і яе

цэнтра – Віленскага універсітэта. Як палітычныя падзеі ўплывалі на змены ўрадавай палітыкі ў галіне асветы? Ацаніце ўзровень школьнай і прафесійнай адукацыі XIX – пачатку XX ст.

Пачалося навуковае даследаванне Беларусі. Да пачатку XX ст. найбольшыя поспехі былі дасягнуты ў этнаграфіі, мовазнаўстве і фалькларыстыцы. Вызначце прозвішчы навукоўцаў, чые работы прысвечаны вывучэнню беларускага краю.

Новыя тэндэнцыі адзначаюцца ў беларускім тэатры, выяўленчым мастацтве (фарміруюцца новыя адметныя жанры), архітэктуры (стылі класіцызму, "гістарызму", мадэрна). Беларускае мастацтва набывае ярка выражаны свецкі характар.

Падводзячы вынік работы, паспрабуйце вылучыць асноўныя прычыны, якія спрыялі, і, наадварот, перашкаджалі развіццю беларускай нацыянальнай культуры ў XIX – пачатку XX ст.

## Тэма 5. ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ У СКЛАДЗЕ ПОЛЬШЧЫ (1921–1939)

1. Рыжскі дагавор 1921 г. Заходняя Беларусь у складзе Польшчы.
2. Эканамічнае развіццё Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг.
3. Сацыяльна-палітычная і нацыянальная барацьба народа Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг.
4. Культура заходнебеларускіх зямель у міжваенны перыяд.

***Тэмы для дакладаў:***

• Рыжскі мірны дагавор 1921 г. у лёсе беларусаў.
• Перыядычныя выданні Заходняй Беларусі ў 1921–1939 гг.
• Беларускія жаўнеры ў польскай арміі, 1921–1939 гг.
• Язэп Драздовіч – жывапісец, графік, скульптар, этнолаг...

***Літаратура***

1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 166 – 179.
2. Гісторыя Беларусі: курс лекцый: у 2 ч./ П.І. Брыгадзін, У.Ф. Ладысеў, П.І. Зялінскі [і інш.]. – Мінск.: РІВШ БДУ, 2002. – Ч.2: XIX – XX стагоддзі / П.І. Брыгадзін [і інш.]. – 2002. – С. 390 – 434.
3. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 1998. – Ч.2: Люты 1917–1997 год. – С. 196 – 215.
4. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 475 – 497.



5. Вабішчэвіч, А. Беларускае навуковае таварыства ў Вільні (1918–1939) / А. Вабішчэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 6. – С. 35.
6. Вабішчэвіч, А. Даследаванне нацыянальнай палітыкі польскага рэжыму "санацыі" / А. Вабішчэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 3. – С. 73.
7. Вабішчэвіч, А. Нацыянальная школа ў Заходняй Беларусі (1921–1939) / А. Вабішчэвіч // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 2. – С. 38 – 46.
8. Грыбоўскі, Ю. Беларусы ў войску міжваеннае Польшчы (1921 – 1939)/ Ю. Грыбоўскі // Спадчына. – 2001. – № 3. – С. 201 – 210.
9. Загідулін, А. Нацыянальная палітыка ў адносінах да беларусаў у ІІ Рэчы Паспалітай (1921–1939) / А. Загідулін // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 10. – С. 31.
10. Каранеўская, В. Умовы развіцця беларускага перыядычнага друку ў міжваеннай Польшчы (1921–1939) / В. Каранеўская // Беларус. гіст. часоп. – 2001. – № 2. – С. 47 – 50.
11. Ладысеў, У. Рыжскі мірны дагавор: перамога савецкай дыпламатыі ці паражэнне? / У. Ладысеў // Беларус. гіст. часоп. – 2001. – № 3. – С. 23 – 27.
12. Мазец, В. Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі / В. Мазец // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 11. – С. 76.
13. Мілеўскі, Я.Е. Заходняя Беларусь: да пытання тэрыторыі і насельніцтва / Я.Е. Мілеўскі // Беларус. гіст. часоп. – 1998. – № 3.
14. Сляшынські, В. Грамадска–палітычнае становішча на паўночна–ўсходніх землях ІІ Рэчы Паспалітай (Заходняя Беларусь) з 1 па 17 верасня 1939 г. / В. Сляшынські // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 11. – С. 13.
15. Шунейка, Я. Фантастычныя вандроўкі Язэпа Драздовіча / Я. Шунейка, В. Архіпава // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 11. – С. 25.

***Метадычныя парады***

У выніку заключэння Рыжскага мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй і Украінай з аднаго боку і Польшчай з другога землі Беларусі былі падзелены на 2 часткі, і далейшае развіццё Заходняй і Усходняй Беларусі адбывалася ў розных умовах і па розных сцэнарыях. Заходняя Беларусь была ўключана ў склад Польскай рэспублікі. На яе тэрыторыі (прыкладна 113 тыс. кв./км.) пражывала каля 4,6 млн. чалавек, большасць з іх – беларусы.

Заходняя Беларусь была эканамічна адсталым рэгіёнам, аграрным і сыравінным прыдаткам Польшчы. Насуперак Рыжскім дамовам, польскія ўлады праводзілі палітыку паланізацыі і асіміляцыі, ад якой пакутавалі не толькі беларусы, але і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей – яўрэі, украінцы, літоўцы, цыганы і г.д. Усе кіруючыя пасты ў мясцовай адміністрацыі займалі толькі палякі. Толькі ў 1921–1927 гг. былі закрыты 22 беларускамоўныя газеты. На беларускіх землях сяліліся польскія каланісты – асаднікі. Характэрызуючы палітыку Польшчы ў Заходняй Беларусі, важна зразумець, як яна змянялася на працягу двух дзесяцігоддзяў, і разгледзець планы польскага ўрада адносна будучыні гэтых тэрыторый.

Пры разглядзе другога пытання трэба асаблівую ўвагу надаць аналізу сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі, а таксама рэформам, якія праводзіў польскі ўрад - камасацыі, парцэляцыі і ліквідацыі сервітутаў. Чаму яны выклікалі незадаволенасць сялян? Якія наступствы гэтыя рэформы мелі? Як адбілася на развіцці эканомікі Заходняй Беларусі сусветная эканамічная дэпрэсія 1929–1933 гг.?

Нацыянальны, палітычны і эканамічны прыгнёт вымушаў насельніцтва Заходняй Беларусі весці барацьбу за свае правы. Яна вялася як легальнымі, так і нелегальнымі метадамі. Важную ролю ў ёй адыгрывалі палітычныя партыі і арганізацыі. У навуковай літаратуры і навучальных дапаможніках вялікае месца адводзіцца дзейнасці КПЗБ. Між тым, у пачатку 1920-х гг. галоўную арганізацыйную дзейнасць сярод беларускага насельніцтва вяла партыя эсэраў (БПСР). У другой палове 1920-х гг. самай масавай палітычнай арганізацыяй стала Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада (БСРГ). Яна аб’ядноўвала каля 120 тысяч чальцоў. У польскім сейме дзейнічаў беларускі пасольскі клуб. Звярніце ўвагу на тое, якія метады палітычнай і эканамічнай барацьбы пераважалі на розных этапах развіцця нацыянальна-вызваленчага руху? Якія меры прадпрымалі польскія ўлады, каб задушыць беларускі нацыянальны рух?

Пры асвятленні пытання аб развіцці культуры Заходняй Беларусі трэба спыніцца на праблемах, выкліканых палітыкай паланізацыі, закрыццём школ, адсутнасцю буйных беларускіх тэатраў і бібліятэк. Якую ролю ў развіцці культуры адыграла дзейнасць А. Луцкевіча, Б. Тарашкевіча, М. Танка, Я. Драздовіча і інш.?

**Тэма 6. БЕЛАРУСЬ У ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЕ**

1. Падзел Польшчы паміж Германіяй і СССР. Уключэнне Заходняй Беларусі ў склад БССР.
2. БССР у пачатку Вялікай Айчыннай вайны (лета 1941 г.).



3. Акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі.
4. Падпольная і партызанская антыфашысцкая барацьба.
5. Вызваленне Беларусі. Заканчэнне другой сусветнай вайны.

***Тэмы для дакладаў:***

• Фенамен беларускай калабарацыі.
• Халакост на Беларусі.
• Беларусы – змагары супраць фашызму ў замежных краінах.
• Дзейнасць Арміі Краёвай на Беларусі.
• Беларускія остарбайтары.
• Карныя аперацыі супраць партызан і мірнага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі.
• Дзейнасць Мінскага падполля падчас акупацыі Беларусі.
• Вільгельм Кубэ – генеральны камісар акругі “Беларусь”.
• Праваслаўная і каталіцкая царква на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.
• “Рэйкавая вайна” на тэрыторыі Беларусі.

***Літаратура***


1. Беларусь на мяжы тысячагоддзяў. – Мінск: БелЭн, 2000. – С. 180 – 190.
2. Гісторыя Беларусі: вучэбны дапаможнік / А. Абецэдарская, П. Брыгадзін [і інш.]; пад рэд. А. Каханоўскага. – Мінск, 1996. – С. 378 – 420.
3. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / Я. К. Новік, Г.С. Марцуль, І.Л. Качалаў [і інш.]; пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 2000. – Ч. 2: Люты 1917 г. – 1997 год. – С. 218 – 279.
4. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 498 – 542.
5. История Беларуси в документах и материалах / Авт.–сост. И.Н. Кузнецов, В.Г. Мазец. – Минск: Амалфея, 2000. – С. 501–584.
6. Баландзін, К. Культура Беларусі: здабыткі і страты ў гады Вялікай Айчыннай вайны / К. Баландзін // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 5. – С. 20.
7. Бастун, Д.Ю. Канфесійныя пытанні ў палітыцы нямецкіх акупацыйных улад на тэрыторыі Беларусі (1941–1944) / Д.Ю. Бастун // Весн. Беларус. дзярж. ун–та. Сер. 3. – 2005. – № 2. – С. 40.
8. Беларусь в первые месяцы Великой Отечественной войны (22 июня – август 1941 г.): документы и материалы / Сост. В.И. Адамушко [и др.]. – Минск: НА РБ, 2006. – 456 с.

9. Беларусь у выпрабаваннях Вялікай Айчыннай вайны: масавыя забойствы нацыстаў / Гіст. майстэрня ў Мінску [і інш.]; рэдкал. Э.Р. Іофе [і інш.] . – Мінск: Гіст. майстэрня ў Мінску, 2005. – 305 с.
10. Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: дзень за днём. Ілюстраваная храналогія / Уклад. і аўтар тэксту Я.В. Малашэвіч, фота У.А. Багданава і інш. – Мінск: Беларусь, 2004. – 231 с.
11. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны: Праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства / Навук. рэд. Я.С. Паўлаў, А.М. Літвін. – Мінск: Бел. навука, 1999. – 251 с.
12. Бязлепкін, Я. Германскі акупацыйны рэжым на тэрыторыі Беларусі (1941 – 1944 гг.) у англамоўнай гістарыяграфіі ЗША і Вялікабрытаніі / Я. Бязлепкін // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 12. – С. 32.
13. Бяспанскі, С. Наступальныя аперацыі Чырвонай Арміі ў Беларусі (восень 1943 – вясна 1944 г.) / С. Бяспанскі // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 1. – С. 24.
14. Варанкова, І. Апошнія месяцы нацысцкіх акупантаў у Мінску / І. Варанкова // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 6. – С. 25.
15. Варанкова, І. Вераснёўскі выбух у Мінску: гісторыя забойства Вільгельма Кубэ / І. Варанкова // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 12. – С. 22.
16. Грыбоўскі, Ю. Баявы шлях беларусаў–вайскоўцаў брытанскай арміі ў час другой сусветнай вайны (1939 – 1945 гг.) / Ю. Грыбоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 2001. – № 3. – С. 62 – 69.
17. Грыцкевіч, А. Праваслаўная царква ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны / А. Грыцкевіч // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 5. – С. 12.
18. Ермаловіч, В. Што ж прывяло Армію Краёву на Беларусь? / В. Ермаловіч // Беларус. гіст. часоп.– 1997. – № 3. – С. 120 – 121.
19. Іваноў, С. Варшаўскае паўстанне 1944 года: праўда і няпраўда / С. Іваноў // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 1. – С. 3.
20. Іофе, Э. Колькі ж яўрэяў загінула на беларускай зямлі ў 1941–1945 гг. / Э. Іофе // Беларус. гіст. часоп. – 1997. – № 4. – С. 49 – 52.
21. Каваленя, А.А. Прагерманскія саюзы моладзі на Беларусі. 1941 – 1944 гг. Вытокі, структура, дзейнасць / А.А. Каваленя. – Мінск: БДПУ імя М. Танка, 1999. – 235 с.
22. Казлова, С. Аграрная палітыка германскіх акупантаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1941 – 1944 гг. / С. Казлова // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 12. – С. 14.



23. Кнатько, Г.Д. Белорусские остарбайтеры: историко–аналитическое исследование / Г.Д. Кнатько, В.И. Адамушко и др. – Минск: [НА РБ], 2001. – 335 с.
24. Коршук, В.К. О партизанском движении в Беларуси (свидетельствуют трофейные немецкие документы) / В.К. Коршук // Весн. Беларус. дзярж. ун–та. Сер. 3. – 2005. – № 2. С. 13.
25. Котаў, А. Беларусы ў еўрапейскім руху супраціўлення / А. Котаў // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 3. – С. 3 – 11.
26. Кушнер, В. Вызваленне Беларусі: на шляху да Вялікай Перамогі / В. Кушнер, Я. Паўлаў // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 2. – С. 3 – 12.
27. Лемяшонак, У. Беларуская наступальная аперацыя ў ацэнцы нямецкіх генералаў і афіцэраў / У. Лемяшонак // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 7. – С. 18.
28. Литвин, А. Белорусская Краевая Оборона: К вопросу о создании белорусского национального войска в годы второй мировой войны / А. Литвин // Неман. – 1994. – № 4.
29. Літвін, А. Армія Краёва на Беларусі / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 1;4.
30. Літвін, А. Армія Краёва на Беларусі: да праблемы вывучэння / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 1994. – № 1. – С. 65 – 73.
31. Літвін, А. Вызваленне Беларусі і выкарыстанне партызанскага фактару (восень 1943 – вясна 1944 гг.) / А. Літвін // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 4. – С. 3.
32. Літвін, А. Акупацыя Беларусі (1941–1944). Пытанні супраціву і калабарацыі / А. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – 288 с.
33. Люк, М. "Паляванне дазваляецца": барацьба з партызанамі ў "генеральным камісарыяце Беларутэнія" / М. Люк, М. Рыхтар // Беларускі гістарычны агляд. Т. 7, сш. 2 (13), 2000.
34. Лютко, С. Баявыя дзеянні на цэнтральным участку Заходняга фронту летам 1941 г. / С. Лютко // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 3. – С. 18.
35. Мацэль, В. Удзел воінаў–беларусаў у разгроме мілітарысцкай Японіі / В. Мацэль // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 8. – С. 3.
36. Мінскае антыфашысцкае падполле / Я.І. Бараноўскі [і інш.]. – Мінск: Беларусь, 1995. – 254 с.
37. Новікаў, С. Абарона Магілёва (20 – 26 ліпеня 1941 г.) у святле новых дакументальных крыніц / С. Новікаў // Беларус. гіст. часоп. – 2008. – № 7. – С. 44.

38. Новікаў, С. Польская Армія Краёва: гісторыя і міфы / С. Новікаў // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 1. – С. 66.
39. Нут, М. Калабарацыянізм / М. Нут // Спадчына. – 1996 .– № 4.
40. Павлов, Я.С. Советско–германские договоры 1939–1941 годов: трагедия тайных сделок / Я.С. Павлов. – Минск: БелНИИДАД, 1996. – 99 с.
41. Паўлоўскі, А. Разгром фашызму. Урокі Вялікай Айчыннай вайны / А. Паўлоўскі // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 5. – С. 10.
42. Платонов, Р.П. Белоруссия, 1941–й: известное и неизвестное. По док. Нац. архива РБ. – Минск: БелНИИДАД, 2000. – 209 с.
43. Преступления немецко–фашистских оккупантов в Белоруссии 1941 – 1944. / Сост. З.И. Белуга, Н.И. Каминский, А.Л. Мананенков и др. – Минск: ГИ БССР, 1063. – 436 с.
44. Сямашка, Я. Армія Краёва на Беларусі / Я. Сямашка. – Мінск: Беларус. выд–ва “Хата”, 1994. – 269 с.
45. Тимохович, И.В. Битва за Белоруссию. 1941–1944. / И.В. Тимохович. – Минск: Беларусь, 1994. – 253 с.
46. Туронак, Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Ю. Туронак; пер з польск. В. Ждановіч; камент. А.М. Літвіна. – Мінск: Беларусь, 1993. – 236 с.
47. Цяцернік, А. Беларусы – кавалеры памятнага крыжа Монтэ–Касіна / А. Цяцернік // Беларус. гіст. часоп. – 2001. – № 3. – С. 70 – 72.
48. Шарапа, А. Да пытання аб людскіх стратах у другой сусветнай вайне / А. Шарапа, А. Гардзейчык // Беларус. гіст. часоп. – 1996. – № 2.
49. Шнэк У. Беларуская краёвая абарона (альбом) // Спадчына. – 2001. – № 4. – С. 132 – 144.
50. Шнэк–Случанскі У. Споведзь нацыяналіста // Спадчына. – 2001. – № 4. – С. 107 – 131.
51. Шомадзі, В. Вызваленне Беларусі (18 верасня 1943 – 28 ліпеня 1944 г.) / В. Шомадзі // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 5. – С. 3.

***Метадычныя парады***

Дадзеная тэма прысвечана аналізу праблем аднаго з найбольш трагічных для нашага народа перыядаў. Яе разгляд варта пачаць з высвятлення міжнароднай абстаноўкі ў Еўропе ў другой палове 1930-х гг. Што сабою ўяўляў пакт РыбентропаМолатава аб падзеле сфер уплыву ў Еўропе? Як ён тычыўся тэрыторыі Беларусі? Звярніце ўвагу на тое, што савецкія войскі ўвайшлі на тэрыторыю Польшчы без абвяшчэння вайны. Многія жыхары Заходняй Беларусі віталі савецкіх салдат як вызваліцеляў. Як праходзіў працэс уключэння Заходняй Беларусі ў склад БССР? Якія праблемы вырашала савецкае кіраўніцтва да пачатку вайны з Германіяй?

Затым вызначце прычыны пачатку Вялікай Айчыннай вайны, стратэгічныя планы Германіі, ход ваенных дзеянняў на тэрыторыі Беларусі летам 1941 г., а таксама дзейнасць савецкага кіраўніцтва па арганізацыі абароны, эвакуацыі людзей і прамысловых аб’ектаў.

Пасля адступлення савецкіх войск уся тэрыторыя Беларусі апынулася пад акупацыяй. Разгледзьце працэс фарміравання грамадзянскай і ваеннай акупацыйнай улады на Беларусі. Што сабой уяўляў ваенна-адміністрацыйны падзел акупіраванай тэрыторыі Беларусі? Якую палітыку праводзілі акупанты ў дачыненні мірнага насельніцтва? Раскрыйце сутнасць палітыкі генацыду, у тым ліку да яўрэяў і цыганоў (Халакост). Якія змены адбыліся ў сацыяльна-эканамічным жыцці? Што сабою ўяўляла дзейнасць калабарантаў? Паспрабуйце даць асабістую ацэнку гэтай з’явы.

Нягледзячы на жорсткія меры з боку захопнікаў, жыхары Беларусі стваралі партызанскія атрады. У гарадах дзейнічалі групы падпольшчыкаў. Адзначце функцыі арганізацый, якія кіравалі партызанскім рухам (ЦШПР, БелШПР). Акрамя савецкіх партызан і падпольшчыкаў барацьбу вялі польскія (Армія Краёва) і украінскія нацыяналісты. Дайце характарыстыку асноўным момантам гераічнага супраціўлення жыхароў Беларусі. Што такое “рэйкавая вайна”? Якую ролю адыгралі партызаны ў аперацыях Чырвонай Арміі па вызваленню тэрыторыі Беларусі?

Пры асвятленні апошняга пытання неабходна прыпыніцца на характарыстыцы асенне-зімняй кампаніі 1943–1944 гг. па вызваленні усходняй часткі Беларусі. Раскрыйце асноўныя мэты, ход і вынікі Беларускай наступальнай аперацыі. Пакажыце, якія наступствы для Беларусі мела другая сусветная вайна.

## Тэма 7. РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў 1945–1991 гг.

1. Сярэдзіна 40–50 гг.: узмацненне сталінскага ўціску на культуру.
2. Беларуская адукацыя і навука: асноўныя праблемы і дасягненні.
3. Ідэалагічны фактар у развіцці беларускай літаратуры 50-х – пачатку 90-х гг.

4. Асноўныя тэндэнцыі ў развіцці беларускага мастацтва 50-х – пачатку 90-х гг.

***Тэмы для дакладаў:***

• Беларуская навука пасляваеннага дзесяцігоддзя: праблемы і дасягненні.

• Рэпрэсіўная палітыка савецкага ўрада супраць беларускіх літаратараў у пасляваенныя гады.

• Рэлігійная палітыка савецкай улады ў пасляваенны перыяд.

• Беларускія дысідэнты савецкай эпохі.

***Літаратура***


1. Гісторыя Беларусі: вучэб. дапам.: у 2 ч. / пад рэд. Я.К. Новіка, Г.С. Марцуля. – Мінск: Універсітэцкае, 1998. – Ч.2: Люты 1917 г. – 1997 год. – С. 317 – 340.
2. Ковкель, И. История Беларуси с древнейших времен до нашего времени / И. Ковкель, Э. Ярмусик. – 2–е изд., доп. – Минск: Аверсэв, 2002. – С. 565 – 570.
3. Барыс, С. Адраджэнне рэлігійнага жыцця ў Беларусі ў 1988–2003 гг. / С. Барыс // Беларус. гіст. часоп. – 2004. – № 5. – С. 16.
4. Дробов, Л.Н. Живопись Советской Белоруссии (1917–1975) / Л.Н. Дробов. – Минск: Вышэйшая школа, 1979. – 302 с.
5. Карзенка, Г.В. Фарміраванне кадраў навукі Беларусі (сярэдзіна 50–х – 80–я гг.) / Г.В. Карзенка // Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён: Зб. арт. – Мінск, 1992. – С. 190 – 194.
6. Кашталян, І. Становішча інтэлігенцыі БССР у 1944 – 1953 гг. (па матэрыялах Асобага сектара ЦК КП(б)Б) / І. Кашталян // Беларус. гіст. часоп. – 2006. – № 7. – С. 28.
7. Кіпель, В. Беларусы ў ЗША / В. Кіпель. – Мінск: Беларусь, 1993. – 348 с.
8. Кушнер, В. Рыцар сумлення і свабоды. Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч / В. Кушнер // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 11. – С. 3.
9. Маржала Т. Польскія школы ў БССР у пасляваенныя гады (1945 – 1949 гг.) // Беларус. гіст. часоп. – 2003. – № 4. – С. 30 – 33.
10. Навіцкі, У. Асаблівасці культурнага жыцця на Беларусі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 1. – С. 96 – 102.
11. Навіцкі, У. Супярэчлівасць культурнага жыцця Беларусі ў сярэдзіне 50–х –пач. 80–х гг. / У. Навіцкі // Беларус. гіст. часоп. – 1993. – № 2.





12. Наука Беларуси в XX столетии / НАН Беларуси; редкол.: Н.А. Борисевич [и др.]. – Минск: Беларуская навука, 2001. – 1006 с.
13. Чэбан, І. Мікалай Шчакаціхін: каля вытокаў беларускага мастацтвазнаўства / І. Чэбан // Беларус. гіст. часоп. – 2005. – № 1 – 2.
14. Шычко, А. Эвалюцыя тэматыкі беларускага эстампа ў 1980-я гг. (на прыкладзе работ А. Кашкурэвіча, Г. Паплаўскага і В. Шаранговіча) / А. Шычко // Беларус. гіст. часоп. – 2009. – № 4. – С. 24.


***Метадычныя парады***

Тэма ахоплівае асноўныя пытанні развіцця беларускай савецкай культуры ад пасляваенных часоў да атрымання краінай незалежнасці. Першае пытанне прысвечана асноўным праблемам пасляваеннага дзесяцігоддзя. Праўда, разам з інфармацыяй аб аднаўленні сістэмы адукацыі, асноўных тэмах літаратуры і накірунках мастацтва неабходна звярнуць увагу на складаныя ідэалагічныя ўмовы, у якіх апынуліся дзеячы беларускай культуры. У чым выявілася ўзмацненне партыйна-ідэалагічнага кантролю над развіццём культуры ў канцы 1940-х гг.? У пасляваенны час значна звузілася сфера ўжытку беларускай мовы. Паспрабуйце вызначыць асноўныя прычыны гэтага працэсу.

Культурнае жыццё БССР у 50–80-я гг. насіла даволі супярэчлівы характар. Разгледзьце асноўныя рэформы ў адукацыі. Як гэта паўплывала на ўзровень сярэдняй, прафесійнай і вышэйшай школы? У развіцці беларускай навукі таксама вызначыліся новыя тэндэнцыі, найперш, развіццё фундаментальных даследаванняў у галіне прыродазнаўчых дысцыплін. Праілюструйце гэта прыкладамі. З якімі цяжкасцямі сутыкаюцца гуманітарныя навукі?

У беларускай літаратуры назіраецца працэс станаўлення новай плыні творцаў. Адзначце тэндэнцыі, характэрныя для літаратуры гэтага часу. Як унутрыпалітычная сітуацыя ў краіне ўплывае на творчасць пісьменнікаў, паэтаў, драматургаў?

Апошняе пытанне тэмы прысвечана аналізу працэсаў, што адбываліся ў беларускай архітэктуры, выяўленчым мастацтве, скульптуры, тэатральным мастацтве і музыцы.

### 3.5. Навукова-даследчыцкая работа студэнта па гісторыі Беларусі

Навукова-даследчыцкая работа (НДР) можа стаць часткай самастойнай работы студэнта дзённага аддзялення, а таксама адной з формаў кантролю і часткова забяспечыць паспяховую здачу выніковага іспыту па курсе "Гісторыя Беларусі".

***Патрабаванні да афармлення работы***

НДР па гісторыі Беларусі выконваецца студэнтамі на аснове самастойнага і глыбокага вывучэння крыніц і літаратуры. Студэнт павінен усебакова асвятліць пытанні тэмы, прадэманстраваўшы тым самым, глыбокае веданне разглядаемай праблемы.

Студэнту неабходна ўважліва пазнаёміцца з тэмай работы і напачатку скласці спіс літаратуры і папярэдні план, які ўзгадняецца з выкладчыкам. І толькі пасля ўважлівага знаёмства з навуковай і вучэбнай літаратурай па праблеме неабходна прыступіць да пісьмовага асвятлення кожнага пытання плана.

НДР павінна мець пэўную ***структуру***. Яна складаецца з тытульнага ліста, рэферата, зместа, уступа, асноўнай часткі (асноўныя пытанні плана) і заключэння (агульныя пытанні па тэме), а таксама спіса літаратуры, якую аўтар выкарыстоўваў пры напісанні работы.

На *тытульным лісце* размяшчаюцца звесткі аб назве установы, дзе навучаецца аўтар работы, назва работы, курс, прозвішча, імя, імя па бацьку аўтара, вучоная ступень, званне, прозвішча і ініцыялы навуковага кіраўніка работы, а таксама горад і год выканання работы. *Рэферат* утрымлівае інфармацыю аб аб'ёме работы, колькасці ілюстратыўнага матэрыяла, табліц, прылажэнняў, выкарыстаных крыніц. Таксама тут пералічваюцца вызначальныя паняцці работы, а ў тэксце рэферата фармулюецца аб'ект даследавання, мэта і метады правядзення даследавання, вынікі даследавання і вобласць яго практычнага прымянення. Ва *ўступе* даецца кароткая ацэнка сучаснага стану вывучэння праблемы, даецца апісанне крыніц і літаратуры, якімі карыстаўся студэнт. Далей вызначаецца кароткае абгрунтаванне актуальнасці і навізны тэмы, апісанне сувязі тэмы з сучаснасцю, а затым чотка вызначаюцца задачы, пастаўленыя аўтарам работы. У *асноўнай частцы* раскрываецца сутнасць пытанняў, кожнае з якіх — невялікая самастойная частка работы. У канцы кожнага пытання неабходна зрабіць кароткі вывад. У *заключэнні* студэнт робіць галоўныя вывады па ўсёй рабоце, дае ацэнку паўнаты вырашэння пастаўленых задач. Па аб'ёму заключэнне звычайна меньш за ўсе іншыя



часткі, адна-дзве старонкі. Яно павінна быць канкрэтным, аргументаваным, вагомым і арганічна звязвацца з усёй работай.

*Спіс літаратуры* афармляецца ў наступнай паслядоўнасці: першакрыніцы (напр., "Мужыцкая праўда" Кастуся Каліноўскага), а потым навуковая літаратура ў алфавітным парадку і артыкулы ў перыядычным друку. У рабоце студэнт павінен выкарыстоўваць пераважна манаграфічную літаратуру, спецыялізаваныя артыкулы і даследаванні; добра, калі ён карыстаецца першакрыніцамі. Для работы над спісамі літаратуры па тэме выкарыстоўвайце ў якасці ўзору: *Стандарт предприятия: Работы курсовые и дипломные. Структура и правила оформления. СТП МИУ 2.0.01-10 / авт.-сост. Н.В. Суша [и др.]. – Минск: Изд-во МИУ, 2010. – С. 36-37.*

Выкладанне тэкста павінна быць канкрэтным, без скарачэння слоў. Трэба сур'ёзна падыйсці да афармлення даведачнага апарата, перш за ўсё спасылак на крыніцы і літаратуру. У рабоце часта выкарыстоўваюцца цытаты (дакладныя вытрымкі з канкрэтнай крыніцы), а таксама фактычны матэрыял. Пры гэтым цытата павінна поўнасцю адпавядаць арыгіналу. Цытата бярэцца ў двухкоссе і афармляецца спасылкай, якая месціцца ў канцы кожнай старонкі альбо ў тэксце работы (у дужках). Практыкуецца і другая форма: спасылкі на крыніцы ў тэксце толькі нумаруюцца (1,2...10... і г.д.), а самі спасылкі пад гэтымі нумарамі выносяцца ў канец работы, пасля заключэння. Студэнт можа выбраць для сябе любую з вышэй указаных форм. Спасылка афармляецца ў наступным парадку: прозвішча і ініцыялы аўтара, назва кнігі, месца і назва выдавецтва, год выдання, старонка, з якой узята цытата. Напрыклад:

1. Крук, Я. Сімволіка беларускай народнай культуры / Я. Крук. – Мінск: "Ураджай", 2001. – С.12.
2. Там жа. С.30.
3. История Беларуси в документах и материалах / авт.-сост. И.Н. Кузнецов, В.Г. Мазец. – Минск: Амалфея, 2000. – С.40.
4. Фядосік, В.А. Антычны трыумф хрысціянства, або Хрысціянская рэвалюцыя / В.А. Фядосік // Беларус. гіст. часоп.— 2000 — №2 — С.44.

Калі дакумент цытуецца не па першакрыніцы, а ўзяты з другаснага выдання, у спасылцы пішацца: Цыт. па: ... (указваецца аўтар, назва кнігі альбо артыкула і выхадныя дадзеныя). Пры неаднаразовай спасылцы на адну і тую ж работу спачатку на старонцы ўказваецца поўная назва кнігі і выхадныя дадзеныя, а затым пішацца: "Там жа" і ўказваецца толькі старонка. Калі ў рабоце студэнт выкарыстоўвае лічбы, табліцы, таксама трэба даваць спасылкі на літаратуру.

Работа друкуецца на камп'ютэры альбо іншым спосабам. Аб'ём навукова-даследчыцкай работы студэнта павінен складаць 20-25 старонак фармата А-4 (шрыфт не меней за 12 пт., палутарны міжрадковы інтэрвал), старонкі нумаруюцца і пакідаюцца стандартныя палі (20 мм.).

Спіс літаратуры і пункты плана, якія студэнт складае самастойна, узгадняюцца з выкладчыкам. Пасля праверкі выкладчыкам і ўнясення правак студэнт абараняе сваю работу.

Пры *вызначэнні тэмы* студэнцкай навукова-даследчыцкай работы рэкамендуецца карыстацца наступнымі крытэрыямі: актуальнасць, малая даследаванасць у навуковым свеце, нагода пэўнай падзеі, дыскусійнасць у навуковых выданнях, тэарэтычная і практычная значнасць даследавання, краязнаўчыя тэмы. Тэма вызначаецца пасля ўзгаднення з выкладчыкам.

***Прыкладная тэматыка студэнцкіх навукова-даследчыцкіх работ***

1. Этнагенэз беларусаў: дыскусіі ў сучаснай гістарыяграфіі.
2. "Полацкі летапіс" як крыніца па беларускай гісторыі XII ст.
3. Асоба Еўфрасінні Полацкай у сучаснай айчыннай і замежнай гістарыяграфіі.
4. Рэлігійны фактар у знешнепалітычным курсе ВКЛ сярэдзіны XIV – XVI стст.
5. Беларусы пад Грунвальдам: да 600-й гадавіны падзеі.
6. "Валочная памера" на беларускіх землях.
7. Рэнесанс у сакральным дойлідстве Беларусі.
8. Арыянства на Беларусі.
9. Рэлігійнае пытанне ў палітыцы афіцыйных улад Рэчы Паспалітай у XVIII ст.
10. Станаўленне прафесійнай адукацыі на Беларусі
11. Ідэялогія заходнерусізму і яе ўплыў на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі XIX ст.
12. Беларускае замежжа ў 20-30 гг. XX ст.
13. У.І. Пічэта – даследчык старажытнай гісторыі Беларусі.
14. Нізавая хрысціянская культура.
15. Дыскусія аб Халакосце ў сучаснай замежнай і айчыннай гістарыяграфіі.
16. Школьная адукацыя на акупіраванай тэрыторыі Беларусі (1941 – 1944.).
17. Нацыянальная палітыка акупантаў на тэрыторыі Беларусі (1941 – 1944).



18. Каталіцкая і праваслаўная царква на Беларусі ва ўмовах акупацыі (1941 – 1944).
19. Гаспадарчая рэформа 1965 г. на Беларусі: вынікі і ўрокі.
20. Канфесійнае пытанне на Беларусі ў сістэме еўрапейскіх міжнародных адносін.
21. Этнаканфесійныя стэрэатыпы беларусаў.

Практычная апрабацыя НДР адбываецца падчас выступленняў па тэме работы на семінарах, гуртках, а таксама на студэнцкіх навуковых канферэнцыях. Падобная канферэнцыя для студэнтаў і магістрантаў ладзіцца штогод вясной і ў Мінскім інстытуце кіравання.

## 3.6. Тэсты і трэніровачныя заданні па гісторыі Беларусі

Адной з асноўных формаў выніковага кантролю ведаў студэнтаў у Мінскім інстытуце кіравання з'яўляецца тэсціраванне. Яно прымяняецца таксама для якаснага кантролю цякучых ведаў (напрыклад, па выніках аднаго практычнага занятку), тэматычнага кантролю (па адной вялікай тэме альбо па роднасных тэмах), рубежнага кантролю (пры правядзенні прамежкавай атэстацыі ведаў студэнтаў, якія праслухалі значную частку аўдыторнага курса прадмета). Пры гэтым неабходна пазбягаць сітуацый, калі педагагічны тэст разглядаецца як адзіна аб'ектыўная мера аб'ёму і структуры ведаў студэнта. Дысцыпліны гістарычнага цыкла прадстаўлены шырокім спектрам розных формаў тэставых заданняў. Пазнаёмімся з найбольш распаўсюджанымі з іх.

Адной з найбольш папулярных формаў з'яўляюцца тэсты *закрытай формы*, у якіх студэнты самі павінны выбраць адзін альбо некалькі (гэта фармулюецца ва ўмовах пытання) варыянтаў правільных адказаў з прапанаванага мноства.

✓ Назавіце прозвішча канцлера Вялікага княства Літоўскага – аднаго з аўтараў Статута 1588 г.:

1) Я. Храптовіч; 2) Л. Сапега; 3) А. Гаштольд; 4) К. Пац; 5) М. Вішнявецкі.

Пры гэтым, каб як правільны ўлічваўся адказ, у якім прадугледжана некалькі варыянтаў, трэба вызначыць іх усе:

✓ У канцы XV ст. на Беларусі былі пашыраны наступныя хрысціянскія канфесіі:

1) уніяцкая; 2) праваслаўная); 3) кальвінізм; 4) іудаізм; 5) каталіцызм.

Не менш цікавымі падаюцца па гісторыі заданні *адкрытай формы*, у якіх студэнт сам павінен сфармуляваць правільны адказ. Ён можа быць кароткім і складацца з аднаго слова альбо словазлучэння:

✓ Назавіце прозвішча беларускага гісторыка, публіцыста, літаратуразнаўцы, грамадскага і палітычнага дзеяча пач. XX ст., аўтара “Кароткай гісторыі Беларусі” (1910)...

Выкарыстоўваюцца таксама заданні, у якіх патрабуецца разгорнутая фармуліроўка адказу:

✓ Хрысціянізацыя – гэта...

Даволі папулярныя сярод выкладчыкаў-гісторыкаў заданні, у якіх неабходна для элементаў адной групы падабраць *адпаведныя фармуліроўкі* з другой групы:

✓ Суаднясіце элементы двух мностваў (па схеме: тэрмін – варыянт адзначэння):

| | |
|---|---|
| **1. анімізм** | а) вера ў здольнасць неадушаўлёных прадметаў валодаць звышнатуральнай сілай і тым самым аказваць уплыў на жыццё чалавека, а таксама рэлігійнае пакланенне гэтым прадметам |
| **2. татэмізм** | б) вера ў існаванне духаў, абагаўленне сіл прыроды, раслін, жывёл, неадушаўлёных прадметаў, прыпісванне ім звышнатуральнай магутнасці |
| **3. магія** | в) вера групы людзей у іх роднасць з пэўным відам расліны/жывёлы, неадушаўлёнага прадмета і абрады па ўступленні ў кантакт з ім |
| **4. фетышызм** | г) вера ў існаванне звышнатуральных сродкаў уздзеяння на прыроду, іншых людзей, духаў і прымяненне іх на практыцы для атрымання матэрыяльных вынікаў |

Такія заданні называюцца трэніровачнымі, паколькі яны не ўтрымліваюць няправільнай інфармацыі, а асноўная задача студэнтаў заключаецца ў сістэматызацыі варыянтаў адказаў. Падобныя заданні накіраваны на развіццё навыкаў аналізу і абагульнення сувязей, прызнакаў і прычын розных гістарычных з’яваў, падзей і працэсаў. У адрозненне ад трэніровачных, тэставыя заданні змяшчаюць як правільную, так і няправільную альбо недакладную інфармацыю; асноўнае іх прызначэнне – актывізацыя пазнавальнай дзейнасці студэнтаў, развіццё творчага мыслення, умення аналізаваць інфармацыю і прымаць правільныя рашэнні.

У дысцыплінах гістарычнага цыкла таксама выкарыстоўваюцца трэніровачныя заданні, што прадстаўляюць сабой непаслядоўны набор элементаў, якія патрабуецца выстраіць у *правільнай паслядоўнасці* (храналагічнай, лагічнай, інш.):

✓ Выстрайце ў правільнай храналагічнай паслядоўнасці наступныя важкія падзеі перыяду першай сусветнай вайны на Беларусі:

1) Абвяшчэнне БНР;
2) Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя;
3) Стабілізацыя Заходняга фронту па лініі Дзвінск–Паставы–Баранавічы–Пінск;
4) Адрачэнне Мікалая II ад прэстолу; двоеўладдзе;
5) Першы Усебеларускі з’езд у Мінску;
6) Перамога бальшавіцкага ўзброенага паўстання ў Петраградзе.

Ніжэй прыкладзены трэніровачныя і тэставыя заданні па трох асноўных раздзелах курса гісторыі Беларусі, якія дапамогуць студэнту пры паўтарэнні матэрыялу і падрыхтоўцы да выніковага іспыту.

## Раздзел I. ПЕРШАБЫТНАЯ І СЯРЭДНЯВЕЧНАЯ ЭПОХІ

### *Трэніровачныя заданні*

1. Размясціце наступныя эпохі гісторыі першабытнага грамадства ў храналагічнай паслядоўнасці іх праходжання, пачынаючы ад самай ранняй:

а) жалезны век, б) мезаліт, в) век медзі і бронзы, г) палеаліт, д) неаліт.

2. Суаднясіце наступныя эпохі гісторыі першабытнага грамадства з адпаведнымі дасягненнямі гаспадаркі і грамадства:

| | |
|---|---|
| 1) прыручэнне сабакі | а) неаліт |
| 2) маёмасная няроўнасць | б) жалезны век |
| 3) матычнае земляробства | в) мезаліт |
| 4) гарадзішчы | г) век медзі і бронзы |
| 5) гліняны посуд | |
| 6) лук і стрэлы | |

3. Вызначце храналагічную паслядоўнасць ніжэй пералічаных падзей:

а) аднаўленне незалежнай дынастыі ў Турава-Пінскім княстве;
б) захоп Уладзімірам Полацка, забойства Рагвалода і палон Рагнеды;
в) пачатак будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора;
г) пачатак перыяду феадальнай раздробленасці на беларускіх землях;
д) першы ўспамін аб Полацку ў летапісах;

е) хрышчэнне Кіева.

Суаднясіце іх з адпаведнай датай:

1) 1101 г., 2) 988 г., 3) 1158 г., 4) 980 г., 5)1044 г., 6) 862 г.,

4. Суаднясіце наступныя падзеі гісторыі полацкага княства з іменем князя, пры якім яны адбываліся:

| | |
|---|---|
| 1) Бітва на р. Нямізе | а) Святаслаў-Георгій |
| 2) Далучэнне да Полацкага княства Віцебска і Усвята | б) Уладзімір Полацкі |
| 3) “Вечны мір” Полацка і Рыгі | в) Усяслаў Чарадзей |
| 4) Высылка полацкіх князёў у Візантыю | г) Брачыслаў Ізяславіч |
| 5) Утварэнне Полацкай епархіі | д) Ізяслаў |
| 6) Заснаванне горада Рыгі | |

5. Суаднясіце наступныя даты і падзеі з гісторыяй Вялікага княства Літоўскага:

| | |
|---|---|
| 1) **1410 г.** | а) Наданне Брэсту права на самакіраванне |
| 2) **1385 г.** | б) Перанос сталіцы ВКЛ у Вільню |
| 3) **1390 г.** | в) Грунвальдская бітва |
| 4) **1323 г.** | г) Востраўскае пагадненне |
| 5) **1392 г.** | д) Крэўская унія |

6. Вызначце храналагічную паслядоўнасць наступных падзей знешнепалітычнага жыцця ВКЛ:

а) Паражэнне войск ВКЛ у бітве супраць татараў на р. Ворскле;

б) Торуньскі мір паміж ВКЛ, Польшчай і Тэўтонскім ордэнам;

в) Перамога беларуска-літоўскага войска над крыжакамі на р. Стрэве;

г) Разгром войскам ВКЛ (М. Глінскі) крымскіх татар пад Клецкам;

д) Перамога войск ВКЛ (Альгерд) над мангола-татарамі на р. Сінія Воды;

7. Суаднясіце назвы дакументаў, якія юрыдычна афармлялі прыгоннае права ў ВКЛ, з часам іх прыняцця і запішыце ў храналагічнай паслядоўнасці:

| | |
|---|---|
| 1) **1566 г.** | а) Статут ВКЛ (Жыгімонт Ваза) |
| 2) **1588 г.** | б) Судзебнік Казіміра IV |
| 3) **1447 г.** | в) Статут ВКЛ (Жыгімонта Старога) |
| 4) **1468 г.** | г) Статут ВКЛ (Жыгімонт Аўгуст) |
| 5) **1557 г.** | д) Прывілей |
| 6) **1529 г.** | е) “Устава на валокі” |



***Тэставыя заданні***

8. Назавіце твор, у якім змешчаны звесткі аб пачатках дзяржаўнасці на беларускіх землях:

а) “Слова пра паход Ігараў”; б) “Руская праўда”; в) “Аповесць мінулых гадоў”; г) Полацкі летапіс; д) Тураўскае евангелле.

9. Вызначце асноўную сутнасць нарманскай тэорыі:

а) усходнеславянская дзяржава ўзнікла натуральным шляхам, у ходзе доўгага грамадскага працэсу;

б) дружыннікі-вікінгі не стварылі на Русі новых палітычных структур, а толькі ўключыліся ў дзяржаваўтваральныя працэсы, якія адбываліся на ўсходнеславянскіх землях;

в) скандынаўскі элемент адыграў у фарміраванні ўсходнеславянскай дзяржаўнасці вызначальную арганізуючую ролю.

10. Да якога перыяду адносіцца зараджэнне дзяржаўнасці ва ўсходніх славян?

а) X–XI стст.; б) VI–VII стст.; в) VIII–XI стст.; г) IX–X стст.; д) XI–XII стст.

11. Сучаснікамі былі:

а) Княгіня Вольга і Рагнеда;

б) Уладзімір Полацкі і біскуп Альберт Буксгёўдэн;

в) Уладзімір Святы і Еўфрасіння Полацкая;

г) Усяслаў Чарадзей і Усевалад Герцыкскі;

д) Рагвалод і Кірыла Тураўскі.

12. Назавіце асноўную прычыну прыняцця хрысціянства Уладзімірам Святым і далейшага хрышчэння ўсходнеславянскіх зямель:

а) прыняцце хрысціянства стала вынікам раскаяння Уладзіміра ў папярэднім грахоўным жыцці;

б) прыняцце хрысціянства – акт, здзейснены Уладзімірам дзеля дынастычнага саюза з Візантыяй;

в) хрысціянства разглядалася Уладзімірам як рэлігія, якая зможа ўмацаваць аўтарытэт дзяржавы, падняць значэнне княжацкай улады, умацаваць знешнепалітычны статус Русі.

13. Якія з ніжэй названых пазіцый можна лічыць перадумовамі ўтварэння Вялікага княства Літоўскага:

а) утварэнне Кіеўскай Русі;

б) пагроза усходнеславянскім і прыбалтыйскім землям з боку Тэўтонскага ордэна;

в) хрысціянізацыя ўсходнеславянскіх зямель;

г) узвышэнне Наваградскага княства ва ўсходнеславянскім рэгіёне;

д) жаданне мясцовых князёў адасобіцца ад цэнтральнай улады;
е) умацаванне цэнтраімклівых працэсаў у славян і балтаў.

14. Першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага з'яўляецца горад:

а) Вільня; б) Гродна; в) Навагрудак; г) Мінск; д) Полацк.

15. Як называўся вышэйшы саслоўна-прадстаўнічы орган кіравання ў Вялікім княстве Літоўскім:

а) Рада, б) Сойм, в) Дума, г) Веча, д) Магістрат.

16. Вызначце, якім шляхам у склад Вялікага княства Літоўскага трапіла Менскае княства:

а) дынастычны шлюб; б) заваёва; в) прывілей князя; г) купля-продаж; д) дагавор.

17. Вызначце, якія з ніжэй пералічаных падзей прыпадаюць на час кіравання Казіміра Ягелончыка:

а) замацаванне ў дзяржаўным справаводстве беларускай мовы;
б) прыняцце першага Статута ВКЛ;
в) выданне Судзебніка;
г) Лівонская вайна;
д) перамога пад Оршай над войскам Васіля III.

18. Уладанні свецкіх і духоўных феадалаў у вялікакняжацкіх гарадах называліся:

а) слободы, б) юрыдыкі, в) гаспадарскія двары, г) мястэчкі,
д) дзядзінцы.

19. Рэлігійныя брацтвы з друкарнямі і школамі ствараліся пры цэрквах:

а) каталіцкіх; б) кальвінісцкіх; в) уніяцкіх; г) лютэранскіх; д) праваслаўных.

20. Назавіце адзін з асноўных вынікаў "валочнай памеры":

а) ліквідацыя сялянскай абшчыны; б) адмена прыгоннага права;
в) стварэнне ўмоваў для развіцця капіталістычных адносін у вёсцы;
г) страта сувязей з заходнееўрапейскім збожжавым рынкам;
д) канчатковае юрыдычнае афармленне прыгоннага права на беларускіх землях.

21. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка у Вялікім княстве Літоўскім, уведзеная паводле Гарадзельскага прывілея 1413 г.:

а) павет; б) стан; в) гмін; г) ваяводства; д) староства.



## Раздзел II. БЕЛАРУСЬ У НОВЫМ ЧАСЕ

***Трэніровачныя заданні***

1. Вызначце з'явы, падзеі і працэсы, якія адносяцца да перыяду кіравання наступных манархаў:

1) Жыгімонт II Аўгуст; 2) Жыгімонт III Ваза; 3) Станіслаў Панятоўскі і выстаўце іх у храналагічнай паслядоўнасці:

а) першая Канстытуцыя Рэчы Паспалітай;
б) акт Люблінскай уніі;
в) дзейнасць Чатырохгадовага сойма;
г) Брэсцкая царкоўная унія;
д) дзейнасць Адукацыйнай камісіі;
е) прыняцце III Статута ВКЛ;
ж) пачатак Лівонскай вайны;
з) польска-шведская інтэрвенцыя ў Расію;
і) паўстанне пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі.

2. Суаднясіце наступныя тэрміны і "залатыя шляхецкія вольнасці" эпохі Рэчы Паспалітай:

| | |
|---|---|
| 1) **канфедэрацыя** | а) права ўзброенага паўстання супраць свайго караля |
| 2) **рокаш** | б) прынцып адзінагалоснага прыняцця рашэнняў на сойме |
| 3) **liberum veto** | в) часовы ваенна-палітычны саюз шляхты |

3. Выстаўце ў храналагічнай паслядоўнасці наступныя шляхецкія канфедэрацыі і вызначце іх характар:

| | | |
|---|---|---|
| 1) Барская | а) праваслаўная | I) 1767 г. |
| 2) Слуцкая | б) пратэстанцкая | II) 1792 г. |
| 3) Таргавіцкая | в) супраць Канстытуцыі | III) 1768 г. |
| 4) Торуньская | г) антыдысідэнцкая | IV) 1767 г. |

4. Вызначце, якіх грамадска-палітычных дзеячаў першай паловы XIX ст. тычацца наступныя характарыстыкі:

1) Выдатны польскі гісторык, палітычны і грамадскі дзеяч. Прафесар Віленскага універсітэта. Узначальваў дэмакратычную плынь у нацыянальна-вызваленчым руху, прытрымліваўся антыфеадальных і антыклерыкальных пазіцый. Актыўны ўдзельнік паўстання 1830–1831 гг.

2) Беларускі рэвалюцыйны дэмакрат, арганізатар нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі "Дэмакратычнае таварыства" пры Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі, аўтар яе праграмы.

3) Прыхільнік рэвалюцыйна-дэмакратычнага накірунку ў нацыянальна-вызваленчым руху Польшчы, адзін з арганізатараў нелегальнай арганізацыі “Садружнасць польскага народа”, актыўны ўдзельнік паўстання 1830–1831 гг., пакараны смерцю ў Вільні.

4) Адзін з арганізатараў таварыства “Ваенных сяброў” у Літоўскім асобным корпусе; да палітычнай дзейнасці далучыўся як прадстаўнік руху філаматаў. І суаднясіце іх з наступнымі прозвішчамі:

а) Ф. Савіч; б) М. Рукевіч; в) І. Лялевель; г) Ш. Канарскі.

5. Вызначце храналагічную паслядоўнасць наступных аграрных рэформаў XIX – пач. XX ст.:

1) рэформа, якая канчаткова разбурыла сялянскую абшчыну;

2) рэформа па ўпарадкаванні землекарыстання ў дзяржаўнай вёсцы;

3) адмена прыгоннага права ў памешчыцкай вёсцы – і суаднясіце іх з імёнамі асобаў, якія адыгралі вядучую ролю ў падрыхтоўцы і ажыццяўленні гэтых працэсаў:

а) Аляксандр II; б) П. Сталыпін; в) П. Кісялёў.

6. Суаднясіце прозвішчы мастакоў XIX – пач. XX ст. з іх асноўнымі жанрамі і назвамі твораў:

| | | |
|---|---|---|
| 1) І. Хруцкі | а) пейзаж | I) “Вызваленне Т. Касцюшкі з цямніцы” |
| 2) Я. Дамель | б) нацюрморт | II) “А. Міцкевіч на скале Аюдаг” |
| 3) В. Ваньковіч | в) гістарычны | III) “Вясна ідзе” |
| 4) В. Бялыніцкі-Біруля | г) партрэт | IV) “Кветкі і садавіна” |

***Тэставыя заданні***

7. Рэч Паспалітая ўзору 1569 г. ўяўляла сабой:

а) канфедэрацыю; б) часовы ваенна-палітычны саюз; в) унітарную дзяржаву; г) федэрацыю; д) садружнасць незалежных дзяржаў.

8. Вызначце саслоўе ВКЛ, найменей зацікаўленае ў заключэнні Люблінскай уніі:

а) мяшчане; б) казакі; в) шляхта; г) магнаты; д) сяляне.

6. Пасля Смаленскай вайны 30-х гг. XVII ст. Смаленская зямля:

а) увайшла ў склад Расійскай дзяржавы; б) была далучана да Беларусі; в) засталася ў складзе Рэчы Паспалітай; г) адышла да Швецыі.

7. Казацка-сялянская вайна 1648 –1653 гг. на беларускіх землях насіла характар:

а) антыпольскі; б) антыфеадальны; в) вайны за незалежнасць; г) антыбуржуазны; д) вайны за пашырэнне зямель.



8. Руска-шведская вайна за выхад да Балтыйскага мора адбывалася ў:

а) 1721–1730 гг.; б) 1654–1667 гг.; в) 1657–1660 гг.; г) 1605–1612 гг.; д) 1648–1653 гг.

9. Прарасійскую арыентацыю мела наступная канфедэрацыя Аўгуста II:

а) Сандамірская; б) Торуньская; в) Слуцкая; г) Таргавіцкая; д) Барская.

якая была створана ў:

1) 1768 г.; 2) 1767 г.; 3) 1704 г.; 4) 1792 г.; 5) 1732 г.

10. Інфлянцкае, частка Полацкага і Віцебскага ваяводстваў, а таксама Рагачоўскі павет Мінскага ваяводства былі ўключаны ў склад Расійскай імперыі ў:

а) 1807 г; б) 1795 г.; в) 1793 г; г) 1772 г.

11. Ордэн езуітаў перапыніў сваю дзейнасць на землях ВКЛ у:

а) 1773 г.; б) 1795 г.; в) 1812 г.; г) 1831 г.; д) 1864 г.

12. Назавіце уніяцкі манаскі ордэн, які апекаваўся справамі адукацыі на беларускіх землях у эпоху Рэчы Паспалітай:

а) піяры; б) брыгіткі; в) францысканцы; г) базыльяне; д) езуіты.

13. Першай культавай пабудовай стылю барока на беларускіх землях з’яўляецца:

а) фарны касцёл у Гродне; б) Сафійскі сабор у Полацку; в) Мікалаеўская царква ў Магілёве; г) фарны касцёл у Нясвіжы; д) Петрапаўлаўскі сабор у Мінску.

14. Старабеларуская мова была выключана з дзяржаўнага справаводства на землях ВКЛ у:

а) 1569 г.; б) 1596 г.; в) 1696 г.; г) 1669 г.; д) 1795 г.

15. Вызначце прадстаўнікоў грамадска-палітычнай думкі на беларускіх землях у XVII – XVIII стст.:

а) Ф. Скарына, А. Рымша, М. Гусоўскі, С. Будны;

б) К. Лышчынскі, Я. Храптовіч, М. Карповіч, К. Нарбут;

в) К. Семяновіч, Ж. Жылібер, С. Юндзіл, С. Русецкая.

16. Вызначце мастацкі стыль, які быў распаўсюджаны на беларускіх землях у эпоху Асветніцтва:

а) класіцызм; б) барока; в) рэнесанс; г) ракако; д) рамантызм.

17. Асабістая іконапісная школа канчаткова сфарміравалася на беларускіх землях у:

а) XIX ст.; б) XVIII ст.; в) XVII ст.; г) XVI ст.; д) XX ст.

18. Партрэт Кшыштафа Весялоўскага адносіцца да тыпу:

а) труннага; б) параднага; в) сармацкага; г) эпітафійнага; д) парсуны.

19. Першыя драмы, напісаныя на беларускай народнай мове, ставіліся ў тэатры:

а) прыгонным; б) школьным; в) оперным; г) драматычным; д) нацыянальным.

20. Тэрмін "Паўночна-Заходні край" у дачыненні да беларускіх зямель з'явіўся пасля:

а) 1795 г.; б) 1812 г.; в) 1831 г.; г) 1863 г.; д) 1905 г.

21. Якія рашэнні па сялянскім пытанні адносяцца да перыяду кіравання Аляксандра II:

а) выданне закона аб вольных хлебапашцах, які тлумачыў законны спосаб масавага перапынення прыгоннага права па ініцыятыве памешчыка;

б) прыняцце закона, паводле якога сяляне аказаліся прымацаванымі да зямлі і асабіста залежнымі ад землеўласніка;

в) прыняцце дакументаў аб адмене асабістай залежнасці сялян ад землеўласнікаў і парадку выкупу імі часткі памешчыцкіх зямель.

22. Вызначце асноўныя вынікі буржуазнай рэформы 1861 г.:

а) разбурэнне абшчыны і абшчыннага землеўладання, стварэнне ўмоваў для паскоранага развіцця капіталістычных адносін у вёсцы;

б) забеспячэнне прынцыпу справядлівага перадзелу зямлі паміж памешчыкамі і сялянамі;

в) асабістая свабода памешчыцкіх сялян і магчымасць выкупу часткі памешчыцкіх зямель;

г) асабістая свабода і права на зямлю для ўсіх катэгорый сялян;

д) наданне сялянству роўнага статусу з іншымі саслоўямі расійскага грамадства.

23. Як было вырашана пытанне аб уладзе падчас Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.:

а) улада перайшла да Часовага урада; б) уладу ўзяў у рукі Петраградскі Савет; в) у краіне ўсталявалася сістэма двоеўладдзя; г) да ўлады прыйшла Дзяржаўная дума; д) улада замацавалася за Устаноўчым сходам.

## Раздзел III. НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

***Трэніровачныя заданні***

1. Адзначце пытанні, якія не былі вырашаны падчас Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.:

а) аб уладзе; б) нацыянальнае; в) аб міры; г) рабочае; д) аграрнае.



2. Тэрыторыя Літбел ССР, утворанай напачатку савецка-польскай вайны, складалася з тэрыторый наступных губерняў:

а) Мінскай; б) Гомельскай; в) Брэсцкай; г) Віленскай; д) Магілёўскай; е) Гродзенскай; ж) Сувалкаўскай; з) Віцебскай; і) Смаленскай.

3. Суаднясіце погляды на беларускую дзяржаўнасць і розныя палітычныя сілы, якія прытрымліваліся іх пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г., а таксама лідэраў дадзеных сіл:

а) суверэнітэт Беларусі; б) аўтаномія Беларусі ў складзе РСФСР; в) Беларусь – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе РСФСР.

1) Беларускі нацыянальны камісарыят; 2) Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту; 3) Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.

1) З.Жылуновіч; 2) Я. Варонка; 3) А. Мяснікоў.

4. Суаднясіце асноўныя дакументы БНР з рашэннямі, прынятымі ў кожным з іх:

1) І Устаўная грамата Выканкама Савета Усебеларускага з'езда;

2) ІІ Устаўная грамата БНР;

3) ІІІ Устаўная грамата БНР.

а) абвяшчэнне незалежнасці БНР; б) ідэя нацыянальнага самавызначэння Беларусі; в) БНР як сацыялістычная дзяржава; г) патрабаванне перагляду ўмоў Брэсцкага міру; д) абвяшчэнне БНР; е) абвяшчэнне Выканкамам Усебеларускага з'езда сябе часовай уладай на Беларусі; ж) вылучэнне Народнага Сакратарыята Беларусі як выканаўча-распарадчага органа; з) абвяшчэнне дэмакратычных правоў і вольнасцей (сходаў, друку, сумлення, недатыкальнасць асобы, інш.); і)ператварэнне Выканкама Усебеларускага з'езда ў Раду БНР.

5. Узбуйненні тэрыторыі Савецкай Беларусі адбываліся ў:

а) 1921 г.; б) 1922 г.; в) 1924 г.; г) 1925 г.; д) 1926 г.; е) 1928 г.

6. Кінастудыя мастацкіх фільмаў "Савецкая Беларусь" пачала працаваць у:

| | |
|---|---|
| а) г. Мінск | 1) 1928 г. |
| б) г. Смаленск | 2) 1921 г. |
| в) г. Масква | 3) 1924 г. |
| г) г. Ленінград | 4) 1930 г. |
| д) г. Вільня | 5) 1926 г. |

7. Вызначце меры і працэсы, характэрныя для палітыкі:

1) "ваеннага камунізму"

2) новай эканамічнай палітыкі –

а) прамы дзяржаўны тавараабмен прамысловых тавараў на сельскагаспадарчыя;

б) увядзенне рабочага самакіравання на вытворчасці;

в) увядзенне харчразвёрсткі;

г) фінансавая рэформа;

д) адмена падаткаў і платы за камунальныя паслугі;

е) дазвол на свабодны гандаль і грашовы абарот;

ж) замена харчразвёрсткі харчпадаткам;

з) паскораная нацыяналізацыя буйной, сярэдняй і дробнай прамысловасці і транспарту;

і) матэрыяльная зацікаўленасць у выніках працы;

й) увядзенне камітэтаў беднаты;

к) дазвол на свабодны наём рабочай сілы ў вёсцы;

л) адмена усеагульнай працоўнай павіннасці;

м) дэцэнтралізацыя кіравання вытворчасцю.

8. Суаднясіце наступныя тэрміны і іх адзначэнні:

| | |
|---|---|
| 1) **асаднікі** | а) права свабоднага карыстання сялянамі часткай памешчыцкіх лясоў і выпасаў |
| 2) **камасацыя** | б) палітычны і эканамічны рэжым, які ўсталяваўся ў Заходняй Беларусі ў 1926 годзе |
| 3) **сервітуты** | в) аб'яднанне ў адзіны надзел міжпалосна раздробленых сялянскіх зямель |
| 4) **парцэляцыя** | г) ваеныя і грамадзянскія каланісты, пераселеныя польскім урадам з цэнтральных рэгіёнаў Польшчы ў Заходнюю Беларусь |
| 5) **санацыя** | д) продаж часткі памешчыцкай і дзяржаўнай зямлі праз зямельны банк |

9. Праставўце ў храналагічнай паслядоўнасці наступныя падзеі перыяду Другой сусветнай вайны і суаднясіце іх з адпаведнымі датамі:

1) 23.08.1939 г. а) пачатак другой сусветнай вайны
2) 1.09.1939 г. б) пачатак аперацыі "Баграціён"
3) 22.03.1943 г. в) заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны
4) 23.06.1944 г. г) падпісанне савецка-германскага дагавора аб ненападзенні
5) 9.05.1945 г. д) трагедыя вёскі Хатынь.

10. Якія падзеі аб'ядноўваюць гэтыя імёны і што "лішняе" ў кожным з лагічных ланцужкоў:

а) К.Ракасоўскі, Г. Жукаў, Г.Захараў, І.Чарняхоўскі, І.Баграмян;

б) І.Зубачоў, П.Гаўрылаў, Я.Фамін, П. Калінін, А.Кіжаватаў;



в) К. Заслонаў, М. Шмыроў, В. Корж, П. Машэраў, Ц. Бумажкоў;

г) А. Мазанік, А. Купрыянава, М. Осіпава, Н. Траян;

д) І. Цуба, Ц. Баран, М. Казей, М. Цуба.

11. Вызначце з'явы, якія характэрны для перыяду:

1) "адлігі"
2) "застоя"
3) "перабудовы"

а) праследванне дысідэнцкага руху;

б) асуджэнне культу асобы Сталіна;

в) эканамічная стагнацыя;

г) шырокае развіццё галоснасці;

д) узмацненне бюракратызацыі палітычнай сістэмы;

е) пачатак рэабілітацыі бязвінна асуджаных;

ж) шырокая дэмакратызацыя грамадства;

з) зварот дзяржавы да вырашэння сацыяльных пытанняў;

і) рух за камуністычныя адносіны да працы.

***Тэставыя заданні***

12. Пасля якой падзеі бальшавікі абвясцілі лозунг падрыхтоўкі да ўзброенага паўстання з мэтай прыходу да ўлады:

а) крызіс Часовага ўрада (красавік 1917 г.);

б) няўдалае наступленне рускай арміі на Паўднёвым фронце (чэрвень 1917 г.);

в) растрэл антываеннай дэманстрацыі ў Петраградзе (ліпень 1917 г.);

г) адрачэнне Мікалая II ад прэстола (сакавік 1917 г.).

13. Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандвання напрыканцы першай сусветнай вайны знаходзілася ў:

а) Мінску; б) Смаленску; в) Магілёве; г) Маскве; д) Петраградзе.

14. Вызначце галоўную задачу беларускага нацыянальнага руху пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г.:

а) абвяшчэнне незалежнасці беларускай сацыялістычнай рэспублікі;

б) адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г.;

в) стварэнне на Беларусі буржуазнай дэмакратычнай рэспублікі;

г) скліканне Усебеларускага з'езда для канчатковага рашэння пытання аб беларускай дзяржаўнасці.

15. Першае абвяшчэнне ССРБ адбылося ў:

а) Мінску; б) Маскве; в) Брэсце; г) Смаленску; д) Магілёве.

16. Першы часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад ССРБ узначаліў:

а) Я. Варонка; б) В. Ластоўскі; в) З. Жылуновіч; г) А. Чарвякоў; д) І. Серада.

17. Першая ў БССР электрастанцыя – БелДРЭС – была пабудавана ў:

а) Гродзенскім раёне; б) Аршанскім раёне; в) Мазырскім раёне; г) Мінскім раёне; д) Полацкім раёне.

18. Слуцкае паўстанне (“Слуцкі збройны чын”) насіла характар:

а) антыпольскі; б) антыбеларускі; в) антысавецкі; г) антываенны; д) антырускі.

19. Народны камісар земляробства БССР (1924 – 1929), прыхільнік новай эканамічнай палітыкі на вёсцы:

а) А.І. Крыніцкі; б) І.А. Адамовіч; в) А.В. Баліцкі; г) Дз.Ф. Прышчэпаў; д) А.Р. Чарвякоў.

20. Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт) у 1929 г. быў рэарганізаваны ў:

а) Народны камісарыят Асветы; б) Беларускую Акадэмію навук; в) Белдзяржуніверсітэт; г) Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў.

21. Да якога перыяду другой сусветнай вайны адносіцца аперацыя “Баграціон”:

а) 01.09.1939 – 21.06.1941; б) 22.06.1941 – 18.11.1942; в) 19.11.1942 – 31.12.1943; г) 01.01.1944 – 09.05.1945; д) 09.05.1945 – 02.09.1945.

22. У адпаведнасці з цяперашняй Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь у краіне склалася:

а) парламенцкая рэспубліка; б) прэзідэнцкая рэспубліка; в) змешаная рэспубліка.



## IV. КАРОТКІ ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

АБЛВЫКАМЗАХ – абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту. Дзейнічаў 26 лістапада 1917 – 2 студзеня 1919 гг. як вышэйшы заканадаўчы орган савецкай улады на Заходнім фронце і ў *Заходняй вобласці*. Фактычна знаходзіўся пад кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б). Першы старшыня прэзідыума – М. У. Рагазінскі, з 17 студзеня 1918 г. – А. Ф. Мяснікоў.

АГАРОДНІКІ – малазямельныя сяляне ў ВКЛ. Звычайна атрымоўвалі ад феадала ў карыстанне невялікія надзелы (згодна *валочнай памеры* – 3 моргі зямлі), за якія выконвалі агавораныя павіннасці (звычайна – паншчыну).

АГІЯГРАФІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА (“ЖЫЦІІ”) – апісанні жыцця і подзвігаў людзей, прылічаных хрысціянскай царквой да ліку святых. Падзялялася на біясы (непасрэдныя апісанні жыцця), марцірыі (пакутніцтвы), у каталікаў таксама вылучаліся транслатэоны (апісанні пераносу рэшткаў святых).

АДУКАЦЫЙНАЯ КАМІСІЯ – скарочаная назва Камісіі народнай асветы, заснаваная пасля забароны папам ордэна езуітаў сеймам Рэчы Паспалітай (1773–1775), установа, якая праводзіла агульную рэформу сістэмы адукацыі ў краіне.

АНТАНТА – міждзяржаўны ваенна-палітычны блок (ад франц. Entente Cordinale – сардэчнае пагадненне), заснаваны ў 1904–1907 гг. Францыяй, Вялікабрытаніяй і Расіяй супраць *Траістага саюза*. Пад- час першай сусветнай вайны (1914 – 1918) Антанта абъядноўвала каля 20 дзяржаў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Расія выйшла з Антанты, што стала адной з прычын падтрымкі членамі Антанты Польшчы, Літвы, Латвіі і іншых сіл у іх барацьбе супраць савецкай улады. Спроба самастойнай інтэрвенцыі Антанты ў Савецкую Расію прывяла да паражэння і распаду блока.

АСАДНІКІ – польскія ваенныя і цывільныя каланісты, якім польскі ўрад паводле спецыяльнага Закона 1920 г. выдзяляў землі на тэрыторыі Заходняй Беларусі

АСВЕТНІЦТВА – буржуазная антыфеадальная ідэалогія часоў фарміравання капіталізму; прапаведвала прыярытэт навукі, розуму, асветы ў жыцці чалавека і развіцці грамадства.

"БАГРАЦІЁН" – кодавая назва Беларускай наступальнай аперацыі (23.06. – 29.08.1944 гг.), у выніку якой уся тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад нямецкіх акупантаў.

БАЗІЛІКА – шырока распаўсюджаны тып кампазіцыі хрысціянскіх храмаў.

БАЛТЫ – злучнасць індаеўрапейскіх *этнасаў*, якія размаўляюць на балтыйскіх мовах. Сфарміраваліся ў 3 – 2 тысячагоддзі да н. э. на тэрыторыі Усходняй Еўропы. У канцы 3 тысячагоддзя да.н.э. – VI ст. н. э. складалі асноўную частку насельніцтва беларускіх земляў. У IX–XII стст. пісьмовыя крыніцы ўзгадваюць шэраг балцкіх этнасаў (прусы, ятвягі, куршы, латгалы, земгалы, жамойты, літва і г. д. ), якія насялялі паўднёвае і ўсходняе ўзбярэжжа Балтыйскага мора, а таксама паўночна-заходнюю частку сучаснай Беларусі. Балты, якія жылі на тэрыторыі Беларусі, у большасці былі асіміляваныя славянскімі перасяленцамі, што паўплывала на адметнасці і характэрныя рысы мясцовага славянскага насельніцтва, яго мовы і культуры. Асіміляцыя часткі балтаў продкамі беларусаў працягвалася да першай паловы XIX ст. Сучаснымі нашчадкамі балцкіх народаў з'яўляюцца літоўцы і латышы.

"БАРБАРОСА" – кодавая назва плана вайны Германіі супраць СССР, прынятага ў снежні 1940 г.

БАРОКА (ад італ. Barocco – няправільны, дзіўны) – вядучы накірунак у беларускім мастацтве XVI–XVIII стст.; адзначаецца ўрачыстасцю, кантраснасцю, ускладненасцю форм, параднасцю, пышным дэкорам. Стыль эпохі Контррэфармацыі.

БАТЛЕЙКА – лялечны тэатр, які з'явіўся на Беларусі ў XVI ст. Назва паходзіць ад старажытнага горада Бітлема (Віфліема), у якім нарадзіўся Ісус. Да XIX ст. ў рэпертуары батлейкі пераважала рэлігійная тэматыка.

БАЯРЫ – ваенна-служылы слой феадальнага грамадства ў IX–XVI стст. У раннефеадальны перыяд (IX–XIII стст.) так звычайна называўся вышэйшы слой феадалаў, якія служылі князю, мелі свае *вотчыны*, слуг і залежных сялян. У ВКЛ баярамі называлі як частку феадалаў (пазней гэты тэрмін выціскнуты паняццем "шляхта"), так і сялян-слуг (баяры панцырныя, путныя і г. д.).

БЕЛАРУСКАЯ РЭЗЬ – назва манументальнай аб'ёмна-ажурнай пазалочанай разьбы па дрэве ў форме перапляцення расліннага арнамента з выявамі жывёл, птушак, чалавека.

БРАЦТВЫ – рэлігійныя арганізацыі, якія дзейнічалі ў XVI–XVIII стст. пры праваслаўных і уніяцкіх цэрквах. Займаліся культурна-асветніцкай справай.



БУРЖУАЗІЯ – грамадскі клас (ад франц. bourgeosie – гараджане), які ўдзельнічае ў арганізацыі рынкавай гаспадаркі і жыве за кошт інвестыцый капіталу.

"ВАЕННЫ КАМУНІЗМ" – эканамічная палітыка Савецкай дзяржавы ў 1918–1920 гг. Складаўся з шэрагу надзвычайных мер: нацыяналізацыі прамысловай вытворчасці, жорсткай цэнтралізацыі кіравання эканомікай, забароны прыватнага гандлю харчовымі і найбольш дыфіцытнымі таварамі (асабліва хлебам), карткавай сістэмы размеркавання тавараў, частковай адмены грошаў, харчразверсткі і г. д. Увядзенне палітыкі "ваеннага камунізму" часткова тлумачыцца цяжкасцямі, якія перажывала дзяржава ў сувязі з грамадзянскай вайной і іншаземнай інтэрвенцыяй, але вялікі ўплыў мелі і ідэалагічныя перакананні савецкага кіраўніцтва. Падчас існавання *Літбела* (зіма – лета 1919 г.) палітыка "ваеннага камунізму" суправаджалася асабліва жорсткімі формамі ў сферы сельскай гаспадаркі. Улады адмаўляліся размяркоўваць памешчыцкія землі паміж сялянамі, спадзеючыся, што створаныя на іх камуны і арцелі паступова выціснуць прыватную сялянскую гаспадарку. Усё гэта выклікала масавую незадаволенасць сярод сялян і часткі гарадскога насельніцтва.

ВАЛОКА – асноўная зямельная мера і адзінка абкладання сялян павіннасцямі ў ВКЛ. Прыкладна роўная 21,36 га. Складалася з 30 моргаў або 9000 прутоў.

ВАЛОЧНАЯ ПАМЕРА – аграрная рэформа, якая праводзілася ў ВКЛ на працягу другой паловы XVI – пач. XVII ст. Распачата ў 1557 г. па ініцыятыве каралевы і вялікай княгіні Боны Сфорцы, маці Жыгімонта II Аўгуста, з мэтай павелічэння дзяржаўных даходаў. Складалася з праверкі правоў на зямлю, стварэння комплекснай панскай гаспадаркі – фальварка, увядзення адзінай меры пататкаабкладання залежных сялян – *валокі*, рэгламентацыі іх павіннасцяў, разбурэння сялянскай абшчыны і г. д. У поўным аб'ёме рэформа праводзілася на тэрыторыі Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, спачатку на дзяржаўных, а пасля – прыватных і царкоўных землях. Памера садзейнічала паскарэнню запрыгоньвання сялян і фарміраванню адзінага сялянскага *саслоўя*.

ВАРАГІ – назва выхадцаў з краін Скандынавіі (ад швед. vaerinjar – воін-найміт), якія наведвалі ў VIII – XI стст. Усходнюю Еўропу. Варагі актыўна займаліся гандлем, служылі ў *дружынах* мясцовых князёў. З варагаў паходзілі княскія дынастыі Рурыкавічаў і Рагвалодавічаў.

"ВЕРТЫКАЛЬ" – строга цэнтралізаваная сістэма дзяржаўнага кіравання, сфарміраваная ў Рэспубліцы Беларусь пасля першых прэзідэнцкіх выбараў (студзень 1995 г.).

ВЕЧА – народны сход (ад старажытнаслав. вет – рада) у старажытнарускіх гарадах. Збіралася па неабходнасці ці па ініцыятыве князя. У XI–XII стст. у беларускіх гарадах, асабліва ў Полацку, веча адыгрывала вялікую ролю ў дзяржаўным жыцці. Яно вырашала найбольш вострыя палітычныя і эканамічныя пытанні, магло абвяшчаць вайну ці заключаць мірнае пагадненне, прымаць ці выганяць князя. Удзел у вечы прымалі толькі дарослыя мужчыны. Пастановы адабраліся крыкам. Магчыма, што ў некаторых буйных гарадах Беларусі веча праіснавала да XIV–XVI стст. і пасля прыняцця *магдэбургскага права* было заменена на іншыя органы гарадскога самакіравання.

ВОТЧЫНА – прыватнае зямельнае ўладанне феадалаў на Беларусі і іншых усходнеславянскіх землях.

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ – вышэйшы пастаяннадзеючы, аднапалатны, заканадаўчы орган у БССР (1938 – 1991 гг.) і Рэспубліцы Беларусь (1991 – 1996 гг.)

ГАТЫЧНЫ СТЫЛЬ (ад франц. gothique – назвы племені готаў) – мастацкі, пераважна архітэктурны стыль у Еўропе, які прыйшоў на змену раманскаму (XII – XVI стст.), адметны ўзнёслымі формамі, ажурнымі ўпрыгожваннямі, стральчатымі аркамі, вітражамі.

ГЕТА – адасобленая частка заходнееўрапейскага горада, дзе пражывалі прадстаўнікі нацыянальных ці рэлігійных меншасцяў (звычайна яўрэі). У беларускіх гарадах XV–XVIII стст. таксама існавалі яўрэйскія кварталы, яўрэі складалі самастойную абшчыну – кагал. Аднак адасобленных ад горада гета не было. Падчас другой сусветнай вайны гета ствараліся акупацыйнымі ўладамі для ізаляцыі і далейшага знішчэння яўрэйскага насельніцтва ў Мінску, Брэсце, Навагрудку, Слоніме і іншых беларускіх гарадах. Тэрыторыі гета абносіліся калючым дротам і ахоўваліся войскамі ці паліцыяй. Зняволеныя павінны былі насіць спецыяльныя апазнавальныя знакі, падпарадкоўвацца жорсткаму распарадку. Несанкцыянаваны выхад з гета караўся смерцю.

ГРАФІКА – від выяўленчага мастацтва, заснаваны на малюнку, выкананым без выкарыстоўвання фарбаў.

ГРЫЎНЯ – сярэднявечная грашова-вагавая адзінка ў краінах Усходняй Еўропы. Звычайна была распаўсюджана ў выглядзе зліткаў са срэбра ці іншых каляровых металаў.

ГУМАНІЗМ – культурны рух эпохі Адраджэння, аснову якога складалі прынцыпы абсалютнай духоўнай незалежнасці, самакаштоўнасці чалавечага жыцця, натуралізму.



ДЗЯКЛА – натуральны аброк сельскагаспадарчымі прадуктамі, які збіралі феадалы ВКЛ з сялян. Мог быць па жаданні заменены на адпаведную грашовую выплату.

ДРУЖЫНА – ваенная арганізацыя ў старажытнарускім грамадстве. Відавочна, мае дадзяржаўнае паходжанне. У раннефеадальны перыяд выконвала функцыю княскай ці баярскай гвардыі, галоўнай сілы войска. Колькасць служачых у дружыне была невялікай, рэдка перавышала некалькі соцень чалавек. Буйныя дружыны падзяляліся на малодшую і старэйшую. Аснову апошняй складалі княскія мужы ці *баяры*. Дружыннікі былі прафесійнымі ваярамі, звязанымі з князем прысягай ці асабістай дамовай. Яны аб'ядноўваліся ў таварыства ці брацтва, фармальна лічыліся роўнымі, удзельнічалі ў кіраванні дзяржавай, выконвалі розныя даручэнні князя, за што атрымлівалі частку даніны і ваеннай здабычы, пазней – зямельную маёмасць.

ДРЫГАВІЧЫ – аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён (VIII–XII стст.), якое займала тэрыторыю Паўднёвай (на усход ад Дняпра) і Цэнтральнай Беларусі. Асноўным заняткамі дрыгавічоў былі земляробства і жывёлагадоўля. Вялікую ролю (асабліва на Палессі) адыгрывалі паляванне і бортніцтва. Першае дзяржаўнае ўтварэнне (Тураўскае княства) на землях дрыгавічоў упершыню ўзгадваецца ў X ст.

ЗАКУПЫ – катэгорыя залежнага насельніцтва ва ўсходнеславянскіх землях у IX–XVI стст. Закупамі звычайна станавіліся збяднелыя ці выгнаныя з абшчыны сяляне, якія бралі ў феадала грашовую ці натуральную пазыку (купу) і павінны былі яе адпрацаваць. Заканадаўства дазваляла феадалу выкарыстоўваць у дачыненні закупаў фізічнае пакаранне ці нават ператвараць іх у *халопаў*.

ЗАМАК – ваенна-фартыфікацыйны комплекс, які складаўся з некалькіх замкнёных абарончых збудаванняў. На Беларусі замкі (Гродзенскі, Крэўскі, Магілёўскі, Ляхавіцкі, Мінскі, Быхаўскі, Слуцкі, Лідскі і інш.) будаваліся на працягу XII–XVIII стст. З XVI ст. вядомыя палаца-замкавыя комплексы (Нясвіжскі, Мірскі, Гальшанскі і інш.). Галоўную ролю ў архітэктурнай кампазіцыі апошніх адыгрываў палац.

ЗАХОДНЕРУСІЗМ – накірунак грамадска-палітычнай думкі на Беларусі ў XIX – пач. XX ст.; грунтуецца на адмаўленні прызнання беларусаў як асобнага этнасу і лічыць іх адгалінаваннем рускага народа.

ЗАХОДНЯЯ ВОБЛАСЦЬ – адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў складзе Расійскай рэспублікі (пазней РСФСР). Утворана у чэрвені 1917 г. з мэтай цэнтралізацыі кіраўніцтва саветаў

Віленскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў з цэнтрам у Мінску. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тэрыторыя вобласці была пашырана за кошт Віцебскай (1917) і Смаленскай губерняў (1918). Вышэйшым заканадаўчым органам стаў *Аблвыкамзах*. У лютым 1918 г. ў сувязі з наступам нямецкай арміі цэнтр вобласці перанесены ў Смаленск. У верасні 1918 г. Заходняя вобласць атрымала назву Заходняй Камуны. Скасавана пасля абвяшчэння БССР (2 студзеня 1919 г.).

ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ – стварэнне буйной машыннай вытворчасці і пабудова высокапрадукцыйнай эканомікі на аснове тэхнічных рэсурсаў. Да 1920-х гг. на Беларусі працэс індустрыялізацыі меў надзвычай запаволеныя тэмпы. У БССР, як і ў іншых савецкіх рэспубліках, паскарэнне індустрыялізацыі ў канцы 1920-х гг. было выклікана пераходам да планавай эканомікі. Каб знайсці сродкі на будаўніцтва вялікай колькасці новых прадпрыемстваў, улады рэспублікі замарожвалі зарплату рабочых, скарачалі выдаткі на сацыяльную сферу, павялічвалі прамыя і ўскосныя падаткі. Прыбытак таксама давалі манаполія на вытворчасць і продаж гарэлкі, абавязковыя доўгатэрміновыя пазыкі ў насельніцтва, а таксама дапамога з боку цэнтральнага кіраўніцтва. Вынікамі індустрыялізацыі канца 1920 – 1930-х гг. сталі адкрыццё новых буйных прадпрыестваў, з’яўленне новых галін вытворчасці (паліўнай, энергетычнай і г. д.), павелічэнне колькасці рабочых і ліквідацыя беспрацоўя. Адмоўнымі з’явамі паскоранай індустрыялізацыі былі зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва ў першай палове 1930-х гг., заняпад сацыяльнай сферы і недахоп кваліфікаваных спецыялістаў.

КАЛАБАРАЦЫЯНІСТЫ (ад франц. *collaboration* – супрацоўніцтва) – прыватныя асобы, грамадскія рухі і палітычныя партыі на акупіраванай фашысцкімі войскамі тэрыторыі, якія ў гады другой сусветнай вайны супрацоўнічалі з захопнікамі.

КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ – працэс кааперацыі сялянскіх гаспадарак, пераход ад індывідуальнай да калектыўнай вытворчасці. Першыя калектыўныя гаспадаркі (калгасы, саўгасы, камуны, арцелі і таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі) узніклі з усталяваннем савецкай улады (1917–1920) У 1922–1928 гг. улады БССР падтрымлівалі добраахвотную калектывізацыю з мэтай аб’яднання дробных сялянскіх гаспадарак. У 1929 г. былі абвешчаны суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя *кулакоў*. Пастановы ЦК КП(б)Б 1930 г. арыентаваліся на паскоранае завяршэнне стварэння калгасаў і саўгасаў. У выніку, працэс калектывізацыі набыў прымусовы характар. Да 1939 г. было калектывізавана 90 % сялянскіх гаспадарак. У кожным раёне дзейнічалі *МТС*. У Заходняй Беларусі суцэльная калектывізацыя была праведзена ў 1949–1952 гг. Адмоўнымі вынікамі прымусовай калектывізацыі сталі рэпрэсіі ў дачыненні сялянства, штучны голад 1933 г., масавы забой рагатай жывёлы, раскулачванне заможных сялянскіх гаспадарак.

КАМАСАЦЫЯ – састаўная частка аграрнай рэформы, абвешчанай польскім сеймам у 1919 г. Праводзілася ў Заходняй Беларусі на падставе законаў 1923 і 1925 гг. Прадугледжвала ліквідацыю цераспалосіцы і стварэнне суцэльных індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

КАНФЕДЭРАЦЫЯ – часовы ваенна-палітычны саюз у Рэчы Паспалітай. Звычайна ствараўся прадстаўнікамі аднаго *саслоўя* (часцей – шляхтай) для дасягнення пэўных палітычных мэт. Мелі свае *соймы* (рады), пастановы, на якіх прымаліся большасцю галасоў, і суды. Буйныя шляхецкія канфедэрацыі мелі назву генеральных. Іх пастановы мелі заканадаўчы характар.

КАНФЕСІЯ – рэлігійнае аб’яднанне (накірунак), якое мае распрацаваную дагматыку, культ і арганізацыйную структуру.

КАПА – грашова-лікавая адзінка ў XIV–XIX стст., роўная 60 літоўскім срэбраным грошам. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі адпаведнасць літоўскай капы вызначалася ў дачыненні да рубля.

КАПІШЧА – паганскае свяцілішча, звычайна – пляцоўка круглай формы, абнесенная ровам ці каменнямі. У цэнтры капішча месцілася выява баства. На Беларусі для абазначэння капішча таксама ўжывалася слова “стадол”.

КАРДЫНАЛЬНЫЯ ПРАВЫ – сістэма прававых нормаў дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай, зацвярджаўшая пануючую ролю шляхецкага *саслоўя*.

КАСТЭЛЬ (ад франц. castel – невялікі замак) – замак у выглядзе замкнёнага прамавугольнага комплексу з абарончымі сценамі і вежамі, храмам, жылымі памяшканнямі; выконваў ролю шматфункцыянальнага рэгіянальнага цэнтра.

КАФЛЯ – керамічны твор для аздаблення печаў.

КЛАСІЦЫЗМ (ад нямецк. *klassizismus*) – плынь у еўрапейскай мастацкай культуры XVII – XIX стст., якая адзначалася рацыяналістычным падыходам да з’яваў грамадска-палітычнага жыцця. Як архітэктурны стыль характэрызуецца геаметрызмам і дакладнасцю формаў, лагічнасцю планіроўкі, стрыманым дэкорам.

КНІЖНАЯ МІНІЯЦЮРА – малюнак невялікага памеру і тонкай тэхнікі выканання, размешчаны на старонках рукапісу.

КОНТРРЭФАРМАЦЫЯ – рэлігійна-палітычны рух супраць Рэфармацыі, арганізаваны каталіцкай царквой; на Беларусі пераважна праводзіўся пад кіраўніцтвам ордэна езуітаў.

КРЫВІЧЫ – аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён, якія насялялі верхняе Падзвінне і Падняпроўе, а таксама землі на поўдзень ад Чудскага возера. Пазней на гэтых тэрыторыях узніклі Полацкае, Смаленскае і Пскоўскае княствы. Полацкія крывічы складалі самастойную групу плямён – палачан. У больш пазнейшую эпоху (XI–XIII стст.) крывічы-каланісты прасунуліся далей на захад. Напрыклад, у ніжнім Падзвінні імі былі заснаваны княствы Герцыке і Кукенойс. Для культуры крывічоў характэрныя многія балцкія і часткова – фінскія рысы, што тлумачыцца адносна працяглым працэсам асіміляцыі дасла- вянскага насельніцтва і пастаяннай каланізацыяй тэрыторый *балтаў* і фінамоўных плямён. У пісьмовых крыніцах назва "крывіцкія землі" праіснавала да пачатку XIV ст.

КРЫЖАКІ – заходнееўрапейскія рыцары, якія ў сярэднявеччы па закліку каталіцкіх пантыфікаў вялі "святыя" войны супраць іншаверцаў (паганцаў, мусульман, праваслаўных). Частка крыжакоў аб'ядноўвалася ў ваенна-манаскія ордэны, накшталт Лівонскага ці Тэўтонскага. Чальцы ордэну ("браты-рыцары") не мелі прыватнай маёмасці, прытрымліваліся жорсткай дысцыпліны і захоўвалі цэлібат. Галоўнай мэтай іх жыцця лічылася абарона і пашырэнне каталіцтва "жалезам і малітвай".

КУЛАКІ – пашыраная назва заможнага сялянства ў другой палове XIX – першай палове XX ст.

ЛАНКАСТАРСКІЯ ШКОЛЫ – урадавыя бясплатныя школы, якія працавалі паводле прынцыпу ўзаемнага навучання; дзейнічалі непрацяглы тэрмін з 1821 г.

ЛІНІЯ КЕРЗОНА – умоўная лінія, прапанаваная Парыжскай мірнай канферэнцыяй (1919–1920) і вызначаная міністрам замежных спраў Вялікабрытаніі лордам Дж. Керсанам у 1920 г. для ўсталявання ўсходняй дзяржаўнай мяжы Польшчы. Праходзіла праз Гродна, Няміраў і Брэст. Адпавядала прыкладнай этнаграфічнай мяжы паміж Польшчай і Беларуссю.

ЛІТБЕЛ – скарочаная назва Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі (1919–1920).

МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА – феадальнае гарадское права. Узнікла ў Магдэбургу (Германія) у XIII ст. Разам с Аўсбургскім і Любекскім правам было шырока пашырана ў краінах Еўропы. У канцы XIV–XVIII стст. вядома на Беларусі. Гарады і мястэчкі, якія карысталіся магдэбургскім правам, мелі самакіраванне, судовы імунітэт, права мець герб і валодаць зямлёй, падатковыя і іншыя льготы. Магдэбургскім правам маглі карыстацца толькі гарадскія грамадзяне. Грамадзянства перадавалася па спадчыне ці ў выніку прыняцця гарадской прысягі.



МАГІСТРАТ – выбарны адміністрацыйны і судовы орган кіравання ў гарадах і мястэчках, якія карысталіся *магдэбургскім правам*. Звычайна складаўся з рады і лавы. Рада займалася адміністрацыйнай дзейнасцю, лава – судовай. На чале рады стаялі бурмістры. На чале лавы – войт. Войту падпарадкоўваўся ўвесь магістрат.

МАГНАТЫ – буйныя землеўласнікі, заможная арыстакратыя ў краінах Усходняй Еўропы ў XIV–XIX стст. (ад лацінскага magnus – вялікі, буйны, значны). У ВКЛ магнаты як група феадальнай арыстакратыі з'явіліся прыкладна ў канцы XIV ст. з узнікненнем буйных феадальных маёнткаў. Большасць магнатаў паходзіла з літоўскай служылай знаці (Радзівілы, Гальшанскія, Гаштольды, Кезгайлы і г. д.), удзельных князёў (Алелькавічы, Масальскія, Глінскія, Астрожскія і г. д.), а таксама баярства і служылага люду (Сапегі, Тышкевічы, Іллінічы, Кішкі і г. д.).

МАДЭРН (ад франц. *moderne* – найноўшы) – стылявы накірунак у архітэктуры канца XIX – пач. XX ст., звязаны з выкарыстаннем новых тэхніка-канструктыўных сродкаў. Характарызуецца імкненнем да арыгінальнасці, якая вяла да дэфармацыі звыклых абрысаў (крывалінейнасць, асіметрыя), выкарыстаннем экзатычнага арнаменту.

МАЗАІКА – адзін з асноўных відаў манументальнага мастацтва, выява альбо ўзор, выкананы з рознакаляровых каменняў, смальты, каляровых керамічных плітак і г.д.

МАЛАНКАВАЯ ВАЙНА (БЛІЦ-КРЫГ) – тэорыя вядзення наступальнай вайны, паводле якой перамога над ворагам павінна быць дасягнута ў найкарацейшы тэрмін.

МАНУФАКТУРА – прамысловае прадпрыемства, заснаванае на падзеле працы і ручной вытворчасці. Упершыню з'явілася на Беларусі ў XVIII ст. Канчаткова выціскнута фабрычнай вытворчасцю толькі на пачатку XX ст. Да 1861 г. пераважалі вотчынныя мануфактуры, на якіх выкарыстоўвалася праца прыгонных рабочых. Пасля адмены прыгоннага права існавалі выключна капіталістычныя мануфактуры. Працоўная сіла на іх была наёмнай.

МЕЗАЛІТ – сярэдні каменны век. На Беларусі пачаўся пасля адступлення ледавіка ў 9 – 5 тысячагоддзі да н. э. Працягваўся да 5 тысячагоддзя да н. э. Падчас мезаліту людзі засялілі ўсю тэрыторыю Беларусі. Іх асноўнымі заняткамі былі паляванне, рыбная лоўля і збіральніцтва. Выкарыстоўваліся такія прылады працы, як сякера, лук, стрэлы, скрэблы, гарпуны, нажы і г. д. З'явілася першая свойская жывёла – сабака.

МЕЗЛЕВА – натуральны падатак ў ВКЛ, які збіраўся ў выглядзе мясных прадуктаў (птушка, свініна, ялавічына) на карысць вялікага князя. На пачатку XVI ст. заменены на грашовы падатак.

МЕМУАРНАЯ ЛІТАРАТУРА – успаміны пра мінулае, напісаныя сведкамі альбо ўдзельнікамі пэўных падзей; у беларускай літаратуры XVII–XVIII стст. прадстаўлены дзённікамі-дыярыушамі і творамі аўтабіяграфічнага жанру.

МТС – машынна-трактарная станцыя. Пачалі ствараюцца ў 1928 г. для падтрымкі *калектывізацыі,* звычайна адзін на раён (у БССР першая МТС была створана ў 1930 г. ў Койданаўскім раёне). За карыстанне тэхнічнымі сродкамі МТС дзяржава атрымоўвала ад калгасаў і саўгасаў натуральную плату збожжам і прадуктамі жывёлагадоўлі. У 1958 г. дзяржава адмовілася ад утрымання МТС, а іх тэхнічная база была перададзена за плату калгасам і саўгасам.

МЯШЧАНЕ – падатковае гарадское *саслоўе* ў XIV – пачатку XX ст. Складалася з купцоў, рамеснікаў, дробных гандляроў, часам – гараджан, якія займаліся сельскай гаспадаркай, выконвалі вайсковы абавязак і г. д. Былі асабіста свабоднымі і карысталіся рознымі прывілегіямі, у тым ліку *магдэбургскім правам*. Пасля далучэння да Расійскай імперыі (канец XVIII ст.) чыноўнікі, інтэлігенцыя, а таксама купцы і рамеснікі, аб'яднаныя ў цэхі і гільдыі, пачалі паступова адасабляцца ад мяшчанскага саслоўя. У 1785 г. ўведзена катэгорыя славутых грамадзян, у 1832 г. – ганаровых грамадзян.

НАРОДНАСЦЬ – гістарычна сфарміраваная этнічная супольнасць людзей, для якой характэрны сумеснае пражыванне на адпаведнай тэрыторыі, адноснае адзінства гаспадаркі, мовы і культуры, а таксама этнічная самасвядомасць.

НАРОДНІКІ – прыхільнікі грамадска-палітычных ідэй, заснаваных на думцы, быццам бы грамадства можа перайсці да сацыялістычнага развіцця, мінуючы капіталізм. Вучэнне народнікаў узнікла ў другой палове XIX ст. ў Расіі. Умоўна яго падзяляюць на рэвалюцыйную (М. Бакунін, М. Ішуцін, Г. Нячаеў і інш.) і ліберальную плыні (П. Лаўроў). У 1880-я гг. частка народнікаў на чале з Г. Пляханавым перайшла на сацыял-дэмакратычныя пазіцыі. Сярод беларускай інтэлігенцыі народніцкія ідэі пачалі распаўсюджвацца з 1860-х гг. У 1880-я гг. з'явіліся народніцкія гурткі, падпарадкаваныя расійскім арганізацыям "Чорны перадзел" і "Народная воля". У 1882 г. ў Вільні была створана "Арганізацыя "Народнай волі" ў Паўночна-Заходнім краі". У пачатку 1880-х гг. у Пецярбурзе І. Грынявіцкі заснаваў "беларускую плынь" народніцкага руху. Яго ідэі паўплывалі на студэнцкую групу "Гоман", якая мела сувязі ў беларускіх гарадах і выдавала на беларускай мове часопіс "Гоман". Многія прадстаўнікі народніцтва на Беларусі шчыра цікавіліся жыццём народа, удзельнічалі ў палітычнай і асветніцкай рабоце. У асноўным яны арыентаваліся на сялянскія масы і бачылі ў сялянскіх абшчынах і арцелях праўобраз будучага сацыялістычнага грамадства. У далейшым ідэі народніцтва моцна паўплывалі на развіццё сацыял-дэмакратычнага руху, у тым ліку на погляды значнай часткі членаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, партыі *эсэраў* і інш.



НАЦДЭМЫ – прыхільнікі нацыянал-дэмакратызму, грамадска-палітычнага вучэння, якое спалучае ідэі дэмакратыі і нацыянальнага вызвалення. На нацыянальна-дэмакратычных пазіцыях стаяла большасць удзельнікаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XX ст. (В. Ластоўскі, В. Іваноўскі, А. і І. Луцкевічы, Я. Лёсік і інш.) У 1920-я гг. ў СССР нацыянал-дэмакратызм быў абвешчаны контррэвалюцыйнай плынню. З канца 1920-х гг. у БССР назіраецца ўзмацненне барацьбы з праявамі "нацдэмаўшчыны", што дазволіла пачаць масавыя арышты і рэпрэсіі вядомых культурных і палітычных дзеячаў, у тым ліку Дз. Прышчэпава, В. Ластоўскага, А. Смоліча, М. Гарэцкага і інш.

НАЦЫЯ (ад лац. *natio* – племя, народ) – устойлівая этнасацыяльная супольнасць людзей, аб'яднаных агульнасцю мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры, этнічнай самасвядомасці, якія займаюць адну тэрыторыю і звязаны агульным сацыяльна-эканамічным і палітычным жыццём. У гісторыі прыходзіць на змену народнасці.

НЕАЛІТ – новы каменны век (V – пачатак II тысячагоддзя да н. э.). Адзначаўся пашырэннем выкарыстання прыладаў працы з шліфаванага каменя, з'яўленнем керамічнага посуду і г. д. У канцы неаліту з'яўляюцца земляробства і жывёлагадоўля.

НЕПАХОЖЫЯ ЛЮДЗІ – феадальна-залежныя сяляне ВКЛ, якія страцілі права пераходу ад аднаго феадала да другога. У некаторых выпадках лічыліся разам з сем'ямі прыватнай маёмасцю феадала. Звычайна з'яўляліся патомкамі сялян, якія па той ці іншай прычыне траплялі ў поўную залежнасць ад феадала. Абавязкі непахожых людзей перадаваліся па спадчыне. Частка непахожымі людзьмі станавіліся і *пахожыя*, калі жылі на зямлі феадала болей тэрміну земскай даўніны (10 гадоў).

НЭФ – прадольная частка базілікі альбо хрысціянскага храма, якая аддзяляецца ад суседніх аб'ёмаў каланадай альбо аркамі.

ОСТ – фашысцкі план каланізацыі і германізацыі Усходняй Еўропы, паводле якога толькі на тэрыторыі Беларусі падлягала знішчэнню 75% насельніцтва.

ПАГАНСТВА (ЯЗЫЧНІЦТВА) – тэрмін, які выкарыстоўваецца для абазначэння рэлігійных абрадаў, святаў і вераванняў, што існавалі да з'яўлення монатэізму (адзінабожжа).

ПАЛЕАЛІТ – старажытнакаменны век. Падзяляецца на ранні (ніжні), сярэдні і позні (верхні). Пачатак палеаліту звязаны з фактам з'яўлення першабытных людзей – архантрапаў (каля 2,2 мільёнаў гадоў таму). На тэрыторыі Беларусі перыяд палеаліту працягваўся да адступлення ледавіка ў 9 тысячагоддзі да н. э. Першыя людзі архаічнага тыпу, відавочна, пранікли на беларускія землі ў сярэднім палеаліце (100–40 тысячагоддзі да н. э.) У познім палеаліце (40–9 тысячагоддзі да н. э.) на поўдні Беларусі з'явіліся стаянкі чалавека сучаснага тыпу (Юравічы і Бердыж). Асноўнымі відамі дзейнасці старажытных людзей былі паляванне, збіральніцтва і рыбная лоўля. З'явіліся такія прылады працы, як праколка, нож, скрэбла, дзіда, болас і г. д.

ПАЛЕМІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА – род твораў, у якіх узнімаліся вострыя праблемы сацыяльна-палітычнага, культурнага і рэлігійнага жыцця грамадства (пераважае ў XVI – XVII стст.); пісаліся ў форме памфлетаў, развагі, апалогій, адозваў, дыскусій.

ПАЛЮДДЗЕ – штогадовы збор даніны (у асноўным у выглядзе прадуктаў лясной гаспадаркі), які практыкаваўся ва ўсходнеславянскім раннефеадальным грамадстве. Упершыню было рэгламентавана кіеўскай княгіняй Вольгай у 945–947 гг. і з'яўлялася асноўнай формай дзяржаўна-феадальнай эксплуатацыі ў X–XII стст. Як правіла, памер даніны вызначаўся князем. Пагосты, месцы збору, служылі таксама гандлёвымі цэнтрамі. У XII–XIII стст. на ўсходзе Беларусі (Смаленскае княства) палюдзе ператвараецца ў збор даніны срэбрам. У ВКЛ так называлася асобная форма падарункаў, якія даваліся чыноўнікам падчас аб'езду валасцей.

ПАНЕГІРЫКІ – вершаваныя творы, складзеныя ў гонар той ці іншай асобы.

ПАНШЧЫНА – эксплуатацыя феадальна-залежнага сялянства ў форме прымусовых адпрацовак з уласнымі прыладамі працы ў гаспадарцы феадала. Першыя пісьмовыя сведчанні пра існаванне паншчыны на землях усходніх славян адносяцца да XI ст. На Беларусі асабліва імкліва распаўсюджваецца ў XV–XVI стст. і ператвараецца ў асноўную форму эксплуатацыі сялян. Канчаткова адменена ў 1864 г.

ПАНЫ-РАДА – вышэйшы орган дзяржаўнай улады ВКЛ, які ўзнік у XV ст. і складаўся з вышэйшых дзяржаўных асоб (канцлера, біскупаў, маршалкаў і г.д.).

ПАРСУНА (скажонае ад лац. *persona* – асоба, твар) – так называліся творы ўсходнеславянскага партрэтнага жывапісу канца XVI–XVII ст., для якіх характэрны пераходныя рысы ад іканапісу да свецкага партрэта.



ПАРТРЭТ ПАХАВАЛЬНЫ – скульптурная альбо жывапісная выява нябожчыка. У беларускім мастацтве XV–XVIII стст. прадстаўлены *трунным* – намаляваным на металічнай блясе алейнымі фарбамі для першапачатковага размяшчэння на тарцовай частцы труны; *эпітафийным* – размяшчаўся на надмагіллі нябожчыка.

ПАРТРЭТ САРМАЦКІ – форма параднага шляхецкага партрэта, характэрная для выяўленчага мастацтва XVI–XVIII стст.; у ім моцны інфармацыйны пачатак, які павінен быў адлюстроўваць ролю феадала-заказчыка ў грамадстве, гісторыі і дзяржаве праз набор атрыбутаў (свецкага ці царкоўнага стану), дэвіз роду, надпіс.

ПАРТЫЗАНСКІЯ ЗОНЫ – тэрыторыі, якія падчас Вялікай Айчыннай вайны кантраляваліся партызанамі (у канцы 1943 г. гэта амаль 60% даваеннай плошчы рэспублікі).

ПАРЦЭЛЯЦЫЯ – састаўная частка аграрнай рэформы, абвешчанай польскім сеймам у 1919 г. Уяўляла сабой продаж часткі памешчыцкіх і "пакінутых" зямель праз банкі у выглядзе дробных участкаў (парцэл) сялянам і *асаднікам*. У Заходняй Беларусі пачала ажыццяўляцца ў 1921 г. Да 1934 г. было парцэлявана каля 20 % буйных памешчыцкіх гаспадарак.

ПАХОЖЫЯ ЛЮДЗІ – буйная група феадальна-залежных сялян, якая лічылася асабіста свабоднай і карысталася правам вольнага пераходу ад аднаго феадала да другога. У XV – першай палове XVI ст. складалі большасць насельніцтва ВКЛ. У XVI ст. у выніку прыняцця новых заканадаўчых актаў становішча пахожых людзей наблізілася да *непахожых*.

ПЕРАБУДОВА – комплексныя рэформы савецкай дзяржавы і грамадства 1985 – 1991 гг. Уключала ў сябе паскарэнне (пашырэнне тэмпаў развіцця эканомікі шляхам інтэнсіфікацыі, у першую чаргу за лік машынабудавання), дзяржразлік (пераход прадпрыемстваў да самастойнага разліку затрат, прыбытку і аб'ёмаў прадукцыі) і галоснасць (адмаўленне ад татальнага кантролю КПСС за ідэалагічнымі працэсамі ў грамадстве). Перабудова была скіравана на рэфармаванне сацыялізму, а не поўны адыход ад яго. У 1987 г., калі стала зразумела, што паскарэнне, нягледзячы на вялікія капіталаўкладанні, праходзіць няўдала, урад ініцыіраваў пераход ад адміністрацыйных метадаў кіраўніцтва да эканамічнага заахвочвання. У 1988 г. ўводзіўся рэспубліканскі гаспадарчы разлік, што павышала эканамічную самастойнасць рэспублік. Дазвалялася абмежаваная прадпрымальніцкая ініцыятыва ў форме кааператываў. У ліпені 1990 г. ўрад СССР фактычна абвясціў курс на пабудову рынкавай эканомікі. Аднак прадпрынімаемыя ім меры прывялі да павышэн-

ня спажывецкіх коштаў і інфляцыі. У 1989–1991 гг. нацыянальны даход знізіўся на 33 працэнты.

ПЕРГАМЕНТ – спецыяльна вырабленая скура маладых жывёл, на якой пісаліся дакументы і кнігі.

ПЛЕМЯ – тып этнічнай і сацыяльнай арганізацыі людзей эпохі першабытнага грамадства, звязаных родавымі адносінамі, агульнай мовай і тэрыторыяй.

ПЛІНФА – плоская і шырокая абпаленая цэгла, найбольш характэрная для мураваных пабудоў XI–XII стст.

ПРЫГОННЫ ТЭАТР – від прыватнага тэатра XVIII–XIX стст., акцёрамі якога пераважна з'яўляліся прыгонныя сяляне.

ПЯЦІГОДКА – пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі. Першы пяцігадовы план БССР быў зацверджаны ў 1928 г. Усяго адбылося 12 пяцігодак. У 1991 г. пяцігадовыя планы былі адменены.

РАДЗІМІЧЫ – аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямёнаў, якія насялялі землі ўздоўж р. Сож, паміж р. Дняпро і Дзясна. Паводле летапіснай традыцыі назва аб'яднання пайшла ад Радзіма, які прывёў плямёны з тэрыторыі Польшчы. Праз землі радзімічаў праходзіў гандлёвы шлях з Каспійскага мора і Паволжа ў Заходнюю Еўропу. У IX ст. знаходзіліся ў залежнасці ад прыкаспійскага народа – хазараў, якім плацілі даніну. У 885 г. былі падпарадкаваны кіеўскім князем Алегам. У 984 г. канчаткова разбіты кіеўскімі войскамі ля Прапойска (Слаўгарада) на р. Пяшчані. На землях радзімічаў былі заснаваны гарады Крычаў, Прапойск, Гомель, Рагачоў, Чачэрск. Апошні раз у пісьмовых крыніцах узгадваюцца ў 1169 г.

РАДОВІЧЫ – катэгорыя залежнага насельніцтва ва ўсходнеславянскіх землях у IX – XIII стст. Заключалі з феадалам дамову (рад), паводле якой выконвалі пэўныя павіннасці.

РАМАНСКІ СТЫЛЬ (ад лац. romanus – рымскі) – накірунак у заходнееўрапейскім мастацтве X – XIII стст.; характэрызуецца цяжкімі масіўнымі формамі, статычнасцю, плоскасным характарам і схематызмам кампазіцыі, умоўнасцю трактоўкі выяваў.

РАМАНТЫЗМ – ідэйны і мастацкі рух, які ўзнік у краінах Еўропы на рубяжы XVIII–XIX стст.; адзначаецца арыентацыяй на голас пачуццяў.

РОКАШ – ўзброенная шляхецкая апазіцыя ў Рэчы Паспалітай (ад назвы поля Рокаш, на якім сеймавала венгерская шляхта).

РЭНЕСАНС (АДРАДЖЭННЕ) – эпоха ў культурным і ідэалагічным развіцці краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы (XIV–XVI стст.), асноўным зместам якой з'яўляецца гуманізм. У выяўленчым мастацтве – стыль, які змяніў гатычны, успрыняўшы элементы антычнага мастацтва.

РЭФАРМАЦЫЯ (ад лац. *reformatio* – пераўтварэнне) – шырокі рэлігійны, грамадска-палітычны і сацыяльна-культурны рух у Заходняй Еўропе XVI ст., накіраваны супраць каталіцкай царквы.

САНАЦЫЯ – дзяржаўна-палітычны рэжым у Польшчы (ад лацінскага *sanatio* – аздараўленне), усталяваны ў выніку майскага дзяржаўнага перавароту 1926 г., на чале якога стаяў Ю. Пілсудскі. Санацыя прадугледжвала стабілізацыю ўнутранай эканамічнай і палітычнай сітуацыі, а таксама карэнныя змены ў знешней палітыцы Польшчы, якая знаходзілася ў варожых адносінах як з СССР, так і з Германіяй. Дзякуючы папулярнасці асобы Ю. Пілсудскага, яго крытычным адносінам да палітыкі папярэдніх урадаў, усталяваны рэжым спачатку атрымаў падтрымку шырокіх мас насельніцтва, у тым ліку ў Заходняй Беларусі. Аднак працяг палітыкі паланізацыі і ўзмацненне рэакцыі вымусіла большасць заходнебеларускіх палітычных дзеячаў выступіць супраць новага курсу.

САСЛОЎЕ – у феадальным грамадстве буйная група насельніцтва, якая паводле законаў або традыцыі мае пэўныя прывілегіі і абавязкі.

СЕКУЛЯРЫЗАЦЫЯ (ад лац. *sekularis* – свецкі) – першапачаткова – ператварэнне царкоўнай маёмасці ў свецкую; зараз – пазбаўленне палітычнага, эканамічнага, культурнага, духоўнага жыцця грамадства ад рэлігійнага ўплыву.

СІЯНІЗМ – яўрэйскі нацыянальны ідэалагічны рух. Узнік у 1880-х гг. у Заходняй Еўропе. Заснавальнік сіянізму аўстрыйскі журналіст Т. Герцль заклікаў лічыць усіх яўрэяў свету адзінай нацыяй, адмовіцца ад сацыяльна-палітычнай барацьбы на карысць стварэння асобнай яўрэйскай дзяржавы. У 1897 г. ў Базэлі (Швейцарыя) адбыўся першы сіяніцкі кангрэс, на якім прысутнічалі і прадстаўнікі беларускіх яўрэйскіх абшчын. У 1902 г. ў Мінску праводзілася другая Усерасійская сіяніцкая канферэнцыя. На Беларусі дзейнічалі шматлікія гурткі, таварыствы і партыі, спавядаўшыя асноўныя прынцыпы сіянізму, у тым ліку Сіяніцка-сацыялістычная партыя і "Паалей Цыон" ("Рабочыя Сіона").

СЛАВЯНЕ – злучнасць індаеўрапейскіх *этнасаў*, якія размаўляюць на славянскіх мовах. Падзяляюцца на ўсходніх (беларусы, рускія, украінцы), заходніх (палякі, чэхі, славакі, лужыцкія сербы) і паўднёвых (балгары, сербы, харваты, македонцы, славенцы, баснійцы, чарнагорцы). Першасныя славянскія плямёны сфарміраваліся, відавочна, на тэрыторыі Паўднёвай Польшчы не пазней за другое тысячагоддзе да

